


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

9 (983)

ВЕРАСЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

# ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Марыя ДЗЮБАК

# «МОЙ ТАЯМНІЧЫ ВОСТРАЎ...»

## ХОДАРАЎКА

Вясновым днём
На холад бярэцца,
Быццам агнём
Апалена сэрца.
Ветру выццё
Каля жудасных ямаў.
Тваё жыццё
Быццам гіне таксама,
Як тых васьмісот
Ахвяраў нявінных.
Сорак чацвёрты год…
Пад свінцовай лавінай
Куляў шалёных
Падалі людзі.
Крыкі і стогны…
Зямля цісне грудзі…
Ваеннапалонныя
Італьянцы
Тут пахаваныя
Ў магілах брацкіх.
Ім не бачыць радзіму —
Сонечную Італію —
Ні мёртвымі, ні жывымі…
Ахвярамі сталі
Тут шэсцьсот беларусаў —
Насельнікаў мірных.
Гналі іх пад прымусам
На месца пагібелі —
Жахлівае месца
Злачынства
Эсэсаўцаў,
Катаў-фашыстаў.
Зямля на тых ямах тады
Цяжка ўздыхала…
Гады ідуць — не сатруць гады
Таго, што памяццю стала —
Помнікі, крыж,
Пліты намошчаны
Ў тое урочышча,
Ў тое урочышча.
Жалобна шумяць
Бярозкі тут белыя
Побач са стэлаю,
Побач са стэлаю.
У веснім раздоллі
Спеў жаўрука
Адклікнецца болем:
— Хо-да-раў-ка…

---

**Дзюбак Марыя Браніславаўна** *нарадзілася 24 лютага 1955 года ў вёсцы Парэчча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працавала настаўніцай, а потым дырэктарам Лісавіцкай базавай школы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце Сітцаўскай сярэдняй школы.*

*Аўтар кнігі вершаў «Светлыя ростані» (2004).*

## ШЧАСЦЕ

Ёсць у звычайным незвычайнае,
У буднях — вечнае.
Вядома, ёсць, і ўсё ж адчайна мы
Шукаем шчасце чалавечае.

А шчасце — гэта кожны дзень,
Імгненне кожнае,
І кожны сонечны прамень,
І жыта роснае,

І гэты дождж, і гэты верш,
І снегу срэбра.
І шчасце ў тым, што ты жывеш,
І — не дарэмна.

* * *

Гукі, фарбы і словы.
Пэндзаль, ноты, аловак.
Затым і першыя спробы.
І нараджэнне асобы.
Не. Перад усім, спярша, —
Вера, натхненне, душа.

* * *

Нам часта не хапае дабрыні,
Спагадлівасці простай не хапае.
У сумятні марнуем нашы дні,
А старасць непрыкметна падступае.

Незразумелы шчыры нам давер.
І ад людскіх праблем аберагае
Надзейны шчыт — высокі стос папер.
І адзінота ўсіх падсцерагае.

Як зберагчы нам непаўторны міг?
Так дзень за днём паспешліва мільгае.
Цаніце шчасце, покуль вы ўдваіх.
Хай добры Бог усіх аберагае.

* * *

І апошнія стануць першымі.
А жыццё маё стане вершамі.
Стануць беды мае далёкімі.

Стануць думы мае высокімі.
Узвышаюся моцнаю вераю,
Паўтараю ўсё: «Госпадзі, верую!»

* * *

Заходзіла сонца
Пасля дня, што мне здаўся бясконцым,
Пасля нуднай, няўдзячнай работы,
Пасля частых хвілінаў маркоты.
А можа, той дзень для кагосьці
Быў поўны жыцця, весялосці
І самых лёгкіх імгненняў
Дабра, і цяпла, і натхнення,
Што, здавалася, будуць бясконца.
Як ні ёсць, а заходзіла сонца.

* * *

Мой таямнічы востраў
Задумлівай цішыні.
Тут адзінока і проста.
Нішто не трывожыць ані.

Зажураны дзень зімовы,
Калядны мой дзень, святы.
І зноў шапчу, як замову:
— Будзь моцным — і вернешся ты.

І зможаш прайсці ты праз вёрсты,
Праз цішыню і снягі.
Няпроста, ой, як няпроста
Здалець свайго лёсу кругі.

Зара ўжо на ўсходзе ірдзее,
Пазначыўшы сонца круг,
Як яркі агеньчык надзеі
Ў бясконцасці завірух.

…Застыласць і нерухомасць
Пакуль тут гаспадары.
Толькі б не страціць прытомнасць,
Каб снег з галавой не накрыў.

Толькі б мяне ты паклікаў
З гэтага зімняга сну.
Стань, востраў, Зямлёю Вялікай,
Дзе разам сустрэнем вясну.

* * *

Ліпа цвіце, адчуваеш?
І смачна так пахнуць клубніцы.
Што, любы, сабе загадаеш?
Час, можа, дадому з’явіцца?

Задоўжылася расстанне.
Каму ад яго палягчэла?
Няўжо не дыктуе каханне:
— Будзь моцным, гарачым і смелым?!

Спяшайся, імкніся, каханы,
Пакуль гарыць наша лета,
Пакуль час спаткання жаданы,
Пакуль светла мару пра гэта,

Пакуль не засмужыла восень
Ранкам імглістым і росным
Неба празрыстую просінь,
Пакуль не сказала я: «Позна…»

* * *

Зачасцілі штось дажджы,
Нават ліўні.
Аб вясёлым мне кажы,
Аб шчаслівым.

За дажджамі прыйдзе зноў
Сонца лета,
Час дзівосных, светлых сноў,
Руж-букетаў.

Час сунічнай смакаты,
Сенакосу.
Мне ўначы даруеш ты
Зорны россып.

* * *

Глыбіня вачэй.
Ранне ўсё зырчэй.
Дотык моцных рук.
Сэрцаў згодны стук.

Толькі ты і я,
Ды бяроз сям’я.
Птушак пераразвон.
Л†юбы твой палон.

І маліны смак
На тваіх губах.
Спелых ягад пах.
І дарог прасцяг.

Свежасць, чысціня
На пачатку дня.
Нас сюды з табой
Прывяла любоў.

## ПАМЯЦІ МУЖА

А смерці няма ў кахання.
Л†юбы, жывы ты, жывы.
Дровы нясеш веснім раннем,
Поўным святла, сінявы.

То на двары, то ў хаце
Бачу цябе, дарагі.
Маё ты нялёгкае шчасце…
Мацней за нас лёсу кругі,

Знакі, вадавароты…
Мой дзень зноўку поўны тугі
Аб светлым, былым, незваротным.
Ніхто не цікавіць другі,

Бо іншыя ўсе — чужыя.
Здзіўляюць іх словы мае.
Не тыя ў іх думкі, не тыя…
Як жа цябе нестае!..

* * *

Не, з табой не развітацца мне
Праз гады.
Ўсё табою любавацца мне,
Як тады.

Тваё мілае, з картавінкай
«Р» чуваць.
Як мне гора непапраўнае
Гараваць?

Пераспелаю ажынаю
Ты, мой боль.
А над нашаю сцяжынаю
Снег і золь.

А над лёсам адзіноты стынь.
Дзе ж цяпло?
Незваротная ты, часу плынь…
Ўсё прайшло.

* * *

А боль мой стаў проста памяццю.
А доўга ж ён быў проста болем.
Ўсё засціла снежнаю замеццю
Зіма, што разлеглася ў полі.

Зіма, што брыльянты развесіла
На гнуткіх галінах бярозы,
Што горкія слёзы прыкмеціла
І замарозіла слёзы.

Вясна палячыла фіялкамі,
Сыпнуўшы іх шчодра на ўзмежак,
А лету хацелася яркасці,
А лету хацелася ўсмешак.

А восень дарыла золата,
Дарыла грыбную неруш.
Баравікоў было сёлета
Столькі, што ў шчасце паверыш.

* * *

О слова! Лепей за ўсе скарбы
Ты ёсць. І будзеш. І было.
І не хачу я змрочных фарбаў —
Пішу святло.

Пішу любоў як ласку Бога,
Жывую іскру мар і сноў.
Яе ў душы яшчэ так многа —
Пішу любоў.

Далёкі напамін аб леце…
Усё мінулася, прайшло,
Але трымае мяне ў свеце
Любві святло.

* * *

Настальгія вядзе, настальгія,
У дзяцінства вядзе за сабой.
Босай выхаджу берагі я,
Ахінёныя ціхай журбой.

Незабудкі ля Сэрвачы любай
Прытулю да сваіх грудзей.
Родных яблынь убор — белы, шлюбны…
Толькі ночы ўсё карацей.

Ды і шлях па зямлі кароткі.
Ды ці нам падуладны лёс?
Настальгія, кінь сумныя ноткі —
Ёсць над намі апека нябёс.

* * *

Усю мяне калісь запоўніў захад,
Што патануў бяздумна у разліве.
А сёння толькі ўспамінаць і плакаць,
Пабачыўшы той водсвет палахлівы
У лужы соннай — дробязным адбітку
Таго святла, магутнага, жывога.
І не змясціць у запаветным сшытку
Дзяцінства, радасці… Адно трывога
Вяртае у паўсонні ў край далёкі,
Дзе захад красавіцкі на паўнеба,
Куды вандруюць важна так аблокі, —
Туды мне трэба.
Там столькі лотаці — маленькіх сонцаў,
І крыж спакой таго кутка вартуе.
Парэцкі край! Ты мараў край бясконцы.
Тваёй высокай існасцю жыву я.
Тут баравым лячуся я паветрам,
Сунічным, незабудкавым, мядовым.
У сілу зёлак вечных тут паверу,
У сілу слова, матчынага слова.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

(раман-дзённік)

## 1974

**2 студзеня.** Пачаўся новы, 1974-ты. Хутка яны імчаць нашы гады-гадочкі, і вокам не міргнеш. Няўжо калі-небудзь прыйдзе старасць, няўжо пастарэю? Не верыцца. Зрэшты, пра гэта не думаю.

Новы год сустрэлі нармальна, па-сямейнаму. На шыбах растуць атожылкі снежных «раслін» — гэта на мароз.

**3 студзеня.** Звычайны рабочы дзень. Парамон прынёс віншаванні, дасланыя мне па месцы працы. Гэта ў асноўным пісьменнікі, паштоўка ад Петруся Броўкі.

**4 студзеня.** У «ЛіМе» артыкул сакратара Мінскага гаркама Т. Дзмітрыевай «Героі побач» пад рубрыкай: «Сучаснік у працы і літаратуры». Вядомая рэч: сучаснік — на першым плане, але атрымліваецца так, што калі не сучаснік, а чалавек мінулага часу, дык ён ужо і не можа прэтэндаваць на паўнавартаснага героя, не мае права. Быццам дыскрымінацыя. Разважаючы так, мы далёка зойдзем! Нехта павінен быў бы паправіць Т. Дзмітрыеву. Герой — не абавязкова наш сучаснік, а той, хто ідзе паперадзе, здольны ахвяраваць сабой дзеля іншых. Хай сабе і чалавек з мінулага часу.

Час — вобраз вечнасці. Так лічыў вялікі Платон. Вечнасць — гэта ідэя, якая знаходзіць увасабленне ў часе. Часы мяняюцца, а вечнасць — не. Вечнасць абавязкова павінна прысутнічаць у вобразе станоўчага героя.

**7 студзеня.** Дачытаў «Замак» Ф. Кафкі. На некаторых старонках адчуваеш жах, хоць нічога незвычайнага быццам і не адбываецца. Поўнае праўдападабенства, рэалізм. Між тым Кафку ўсе лічаць мадэрністам, і самым буйным, стопрацэнтным. Відаць, так яно і ёсць. Дык што такое мадэрнізм і чаму мы яго так афіцыйна не любім? Гэта разрыў з мастацкай традыцыяй (рэалістычнай) ці далейшае яе развіццё?

Уяўленне пра мадэрнізм у шырокага чытача (у тым ліку і ў мяне) такое, што ад мадэрнісцкага твора мы чакаем парушэння звыклых эстэтычных і этычных канвенцый. Ёсць, відаць, гэтыя «парушэнні» і ў Кафкі, які падыходзіць да жыцця, прызнаючы ўласцівую яму ірацыянальнасць і непазнавальнасць, агулам сцвярджаючы прыярытэт асабістага перад грамадскім, незалежнасць мастакага ад грамадства. Узнік гэты мастацкі напрамак у канцы мінулага стагоддзя і прэтэндуе на перадачу самых тонкіх і складаных душэўных рухаў і настрояў чалавека. Мадэрністы не давяраюць рацыяналізму, лічаць, што адна-

[1] Працяг. Пачатак у № 5—8, 2011 г.

го розуму мала, болей пакладаюцца на інтуіцыю. Мадэрнісцкі раман рашуча адмовіўся ад паказу стабільных характараў, ад прычынна-выніковага прынцыпу ў кампазіцыі, ад усяведа-аўтара, ад паэтыкі і вопыту рамана XIX ст. Дыялектыка душы заменена псіхааналізам. Псіхааналіз у мадэрнізме — даследаванне бессвядомай часткі індывідуальнага душэўнага жыцця.

Філасофскім падмуркам мадэрнізму лічацца фрэйдызм і экзістэнцыялізм. Экзістэнцыяліст Сартр даказвае, што чалавек ёсць «істота без сутнасці», што яго свядомасць плынная, не замацаваная на пэўных маральных апорах. Гэта фактычна пацвярджае і Кафка, героі якога пазбаўлены ўнутраных якасцей і ўласцівасцей.

Пішу, бо неадчэпна пра гэта думаю. Цікава, што і ў Заходняй Еўропе, і тым болей у Амерыцы мадэрністаў прызналі далёка не адразу. Праз суд быў забаронены Джойсаў «Уліс», накладзена «табу» на творы Лоўрэнса, Генры Мілера, Селіна і інш. І толькі ў 60-я гады тыя забароны былі перагледжаны і зняты.

Урокі мадэрнізму не прайшлі дарэмна і для беларускай літаратуры. У нашай літаратуры мадэрнізму мала, але ён ёсць. Пачынаючы ад Янкі Купалы і Якуба Коласа да Васіля Быкава ўключна. Савецкая літаратура — гэта, так бы сказаць, процілегласць мадэрнізму, своеасаблівы антымадэрнізм, які, як і мадэрнізм, ужывае паэтыку замоўчвання, пропуску самага важнага. Савецкая літаратура абыходзіць, абмінае цэлыя тэмы, сектары чалавечага жыцця, рэчаіснасці, быццам яны і не існуюць. Процілегласці сыходзяцца. Вядома, гэтае пытанне патрабуе спецыяльнага і незалежнага даследавання. Зрэшты, як і пытанне аб рэалізме. Рэалізм таксама з'ява зусім не аднастайная. Гэта — цэлая тыпалогія мастацкай творчасці. Зварот мастака да густых фарбаў, прыёмаў фантастыкі, гратэску, сімволікі, бурлеску, сатыры, дэфармаванне свету відавочнай рэальнасці ўзбагачае рэалізм, збліжаючы яго з плынню жыцця. Жыццё павінна пранікнуць у твор пісьменніка ўсімі магчымымі спосабамі, пранікнуць праз самога аўтара, яго арганіку, пачуццё крыві, жывёльную эманацыю, пах. Тое, што ідзе ад голага лагізавання, ад абстрактнага, — забівае літаратуру.

**9 студзеня.** Дазнаўся, што ЮНЕСКА выпусціла ў свет каталог самых прадстаўнічых твораў сусветнай літаратуры, які ўключае кнігі, напісаныя не толькі на сучасных мовах, але і на старажытных — латыні, старажытнагрэчаскай, шумерска-акадскай (Вавілон). Каталог змяшчае назвы звыш 70 твораў рускіх, украінскіх і беларускіх пісьменнікаў. Хацелася б ведаць, хто туды трапіў з беларускіх аўтараў.

**12 студзеня.** Добрая справа лазня — праганяе з душы сум. Быў у лазні — усё адно што «быў у чысцы» (гэтак называецца выдатная паэма Ф. Багушэвіча). Парылка на 100 градусаў, бярозавы венік, палок на самай верхатуры, сухая пара — аднаўляюць і амалоджваюць.

**17 студзеня.** Дзень нараджэння, юбілей, Алеся Якімовіча. 70 гадоў чалавеку. Надта шмат напісаў. Казку-паэму «Каваль Вярнідуб» я чытаў у дзяцінстве. Да гэтага часу помню эмацыянальнае ўражанне.

Пашанцавала гэтаму пісьменніку перажыць 1937-мы, але след застаўся. Глядзіць у адну нейкую кропку, маўчун, а што ў галаве — невядома. Калісьці біўся, недарэка, з Лупсяковым. Непрыемна было, калі ён накінуўся з крыкам на «Песняроў», што давалі канцэрт у клубе СП: «Хуліганы! Псуеце фальклор, народнае! Песню перакручваеце!» Але з кім не бывае. У чалавека кансерватыўны густ. «Песняры», узброеныя мікрафоннай тэхнікай, спявалі так, што дрыжэла столь старога будынка Ванькoвіча.

**19 студзеня.** На мінулым тыдні адбыўся творчы вечар драматурга А. Макаёнка. Даклад зрабіў Г. Колас. Даклад — прыстойны, лагічны. Макаёнак і сапраўды надта сучасны паводле праблематыкі драматург.

Прысутнічаў Шамякін. Макаёнак жартам кажа на Шамякіна: «Буржуін!» Гумар і тэатральнасць з Макаёнка так і пруць. Прывёз аднекуль маску: акуляры з носам і вусамі. Мяняе чалавека да непазнавальнасці. Уздзеў гэтую штуковіну на твар і зайшоў у рэдакцыю часопіса «Полымя». Там сядзела некалькі літаратараў: Анатоль Вялюгін, Тарас Хадкевіч, Антон Алешка, Барыс Сачанка, Якаў Герцовіч, нехта яшчэ. Ніхто яго не пазнаў. Прадставіўся, што ён грузінскі пісьменнік Вано Гоміашвілі, прыехаў з Тбілісі. Гаварыў з моцным каўказскім акцэнтам.

— Гамарджоба! Как, скажи, кацо, познакомиться с белорусскими драматургами, если они, конечно, у вас есть?

— Есть! — пацвердзілі прысутныя.

— Кто?

— Ну, Кондрат Крапива, например, Андрей Макаёнок…

— Макаёнок? Немного слышал… Ну и как он пишет? Ошибки у него есть? Недостатки?

Усе прымоўклі: Азваўся Герцовіч:

— Есть.

— И что он себе позволяет?

— Есть у него перекосы…

— Перекосы, говоришь? Ну и что?

— С критикой нужно осторожней, а он перебарщивает. Опять же, злоупотребляет условными формами…

— Да-а-а! Выходит, нарушитель еще тот! С такими надо построже!..

З гэтымі словамі Макаёнак зняў маску. Ад нечаканасці ўсе ажно войкнулі, а потым дружна зарагаталі. Апроч Герцовіча, які пачаў апраўдвацца:

— Я ж не пазнаў вас, Андрэй Ягоравіч. Прабачце! Я не хацеў нічога дрэннага казаць. Гэта дробныя заўвагі. Я хацеў наадварот, звярнуць яго ўвагу…

— Нічога, я не ў крыўдзе, — рагочучы, заспакоіў ён крытыка.

**22 студзеня.** Надзвычай папулярная ў нас паэзія Лоркі. Вечар-канцэрт «Сэрца Гранады» адбыўся ў клубе СП Беларусі. Гучалі пераклады І. Тынянавай, Н. Кісліка, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна. Трэба сказаць, што пераклады Барадуліна віртуозныя. Не адрываючыся ад арыгінала, ён прыдумаў беларускага Лорку, па-іспанску жыццелюбівага, вытанчанага эстэта, закаханага ў нацыянальны фальклор і адначасова пазначанага трагізмам светаадчування.

**25 студзеня.** Новы герой космасу Пётр Клімук сустракаўся са студэнтамі Белдзяржуніверсітэта. Хацелася пабываць на гэтай сустрэчы і мне. Клімук — з Камароўкі, той вёскі, на поўдзень ад Дамачава, дзе я калісьці настаўнічаў. Клімук скончыў Камароўскую сярэднюю школу яшчэ да таго, як я прыехаў туды на працу. Цікава, ці пазнаў бы я ў ім нешта «камароўскае»? У мяне засталіся вельмі добрыя ўспаміны пра Камароўку і пра суседнія Тамашоўку і Прыбарава, пра тамтэйшых людзей. З этналагічнага боку гэта нашчадкі дулебаў.

Я ўспомніў пра мінулагодні візіт М. І. Панасюка, яго скаргу. Ці здолее Пётр Клімук паўплываць на гэтую справу? А хацелася б!

**26 студзеня.** Калегаў-крытыкаў дзівіць мой артыкул пра Б. Сачанку ў «Маладосці». А чаму не сказаць добрае слова пра цікавага пісьменніка? Барыс Іванавіч шмат піша.

**28 студзеня.** Памёр, вельмі нечакана, ноччу, Валерый Сяргеевіч. Шкада. Добры быў чалавек. Светлая яму памяць. Не вытрымала сэрца. Памёр у лечкамісіі. Усім аддзелам сачыняем некралог.

**2 лютага.** Вярнуўся з Масквы, дзе адбылася Усесаюзная нарада крытыкаў у сувязі з пастановай ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». З дакладам па надзённых праблемах сучаснай літаратурнай крытыкі выступіў Л. Навічэнка. Два гады прайшло з часу прыняцця пастановы ЦК КПСС аб крытыцы, але становішча спраў у гэтай галіне нашага літаратурнага жыцця не на шмат палепшылася. Па-ранейшаму існуюць праблемы як тэарэтычнага, так і практычнага характару. Усё часцей чуецца заклік: «Літаратуразнаўства павінна стаць навукай!» Асабліва стаяць за гэта М. Я. Палякоў і М. Б. Храпчанка. Літаратуразнаўства, вядома, бліжэй да навукі (прынцып гістарызму), а крытыка — на аддаленні.

Пётр Выхадцаў (Ленінград) абвінавачвае Ю. Сураўцава і некаторых іншых у «спекулятыўнай крытыцы». Вядома, спекулятыўная крытыка, як і сервільная, навукай быць не можа.

Вандруючы па Маскве, нечакана апынуўся ў Чыстым завулку. Успомніў, як гадоў колькі назад мы тут са Сцёпам Міско шукалі канцы архіва Жыровіцкага манастыра. Гэты багаты архіў у 1915 годзе, пры наступленні немцаў, быў вывезены на ўсход.

Мы наведалі некаторыя службы патрыярхата, рэдакцыю часопіса Маскоўскай патрыярхіі, але канцоў не знайшлі.

**3 лютага.** Артыкул К. Кірэенкі і І. Вейняровіча пра А. Салжаніцына ў «ЛіМе» — «Літаратурны ўласавец». Але ж сярод уласаўцаў былі розныя людзі. Пытанне, мякка кажучы, не простае. Кажуць (чуў у Маскве), бароніць Салжаніцына адзін толькі акадэмік Сахараў, які вынайшаў у свой час савецкую вадародную бомбу.

**4 лютага.** Адбылося пасяджэнне камісіі па нарысе і публіцыстыцы. Хадзіў на гэтае пасяджэнне. Абмяркоўваліся кнігі мінулага года: «Рабочыя людзі» В. Мысліўца, «Дрэва жыцця» П. Місько, «Зялёны трохкутнік» Л. Левановіча.

Тэксты насычаны інфармацыйна, аўтары пішуць пра тое, што добра ведаюць, і чытач павінен быць удзячны ім за гэта. Нарыс, публіцыстыку, эсэістыку трэба развіваць.

**6 лютага.** 60-годдзе Аркадзя Куляшова. Як я сабе ўяўляю, Куляшоў развіваўся на стыку паэтык Маякоўскага і Твардоўскага. Зрэшты, уплывалі на яго многія, і ад гэтага арыгінальны, самабытны талент беларускага паэта толькі мацнейшы.

Урачыстае пасяджэнне адбылося ў тэатры імя Я. Купалы. Вечар адкрыў М. Танк. З прывітальнымі словамі выступілі Я. Хелемскі, М. Дудзін, Р. Гамзатаў, К. Кулieў, Д. Кугульцінаў.

Гучала песня:

Бывай, абуджанная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець...

Алеся — першае каханне Куляшова. Кажуць, што яна яшчэ жыве і што паэт хацеў з ёю сустрэцца. Пра гэта мне расказваў Бечык.

Апублікаваны ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні А. Куляшова ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэты ордэн называюць «трудовик», ён не самы прэстыжны. Паэт відавочна заслугоўвае на большае. Не могуць дараваць дружбы з Твардоўскім?

У часопісе «Маладосць» артыкул М. Лужаніна да 60-годдзя А. Куляшова «Сэрца, дзе ўсёй зямлі трывога...» Напярэдадні юбілею заходзіў да мяне

В. У. Івашын і казаў, што ён прапанаваў А. Куляшову напісаць пра яго творчасць грунтоўны артыкул. Яны з паэтам — радня, «сваты», і артыкул павінен быў быць, зразумела, глыбокім і станоўчым, але Куляшоў адмовіўся: «Прашу вас, не пішыце». Хай бы напісаў!

**8 лютага.** У «ЛіМе» натрапіў на рэцэнзію Уладзіміра Кобрына на зборнік вершаў Э. Скобелева «Капли дождя». У. Кобрын — супрацоўнік маскоўскай «Литературной газеты», тое-сёе крытыкуе, але ў таленце аўтару не адмовіш. Скобелеў, на мой погляд, больш паэт, чым празаік. Жадаю яму яшчэ болей разняволіцца. Апантаны пісаннем, піша ў кожную свабодную хвіліну.

**12 лютага**. Быў на вечары, прысвечаным 60-годдзю з дня нараджэння В. Таўлая. Гэта — рэвалюцыйны рамантык, які страсна хацеў, каб яго песня «калыхала паходы». Як паэт Таўлай мне вельмі сімпатычны. У яго чысты, адкрыты пафас. Выдатную паэму «Таварыш» на рускую мову пераклаў Канстанцін Сіманаў. Яе можна рэкамендаваць юнацтву.

Выступілі Я. Брыль, Р. Бярозкін, Я. Міско, М. Арочка, міністр асветы М. Мінкевіч. З патрыятычнага боку паказаў сябе В. Таўлай і ў Вялікую Айчынную вайну. Атрымаўся цікавы вечар. Чаму не было Пестрака?

**14 лютага.** А. Салжаніцын пазбаўлены грамадзянства і выдвараны за межы Савецкага Саюза. У «ЛГ» пад рубрыкай «Отпор литературному власовцу» надрукаваны асуджальныя матэрыялы, падпісаныя шэрагам асоб з пісьменніцкага асяроддзя. А можа, гэта так, як некалі Валя Лукша надрукаваў у «Чырвонцы» нібыта мой водзыў у адабрэнне чэхаславацкіх падзей. Было гэта летам 1969 г. Я ішоў у інстытут, з раніцы, і ўбачыў на вітрыне Дома друку на першай паласе «Чырвонай змены» заметачку: «Ухваляю...» і г. д. і подпіс: «Уладзімір Гніламёдаў». У інстытуце першым на мяне накінуўся Вячаслаў Зайцаў — старшы навуковы супрацоўнік. Не пажадаў слухаць ніякіх тлумачэнняў. Але хіба гэта правільна? Я ж ніякага дачынення да гэтай заметкі не меў, пастараўся дружбак.

**22 лютага.** У «ЛіМе» ўрывак з новай аповесці В. Быкава «Воўчая зграя». Паэтыка чыста быкаўская, сітуацыя выбрана пагранічная. Падзеі — партызанка падчас Вялікай Айчыннай вайны. Але ёсць і другі план — выхад у сучаснасць: ці вартыя мы, цяперашнія, тых ахвяраў, якія былі прынесены дзеля нас, будучага пакалення, хто жыве сёння.

**23 лютага.** Памерла Паўліна Мядзёлка. Калісьці бачыў яе ў Інстытуце літаратуры. Запомніліся тонкія рысы твару, інтэлігентнасць.

Перажыла і Купалу, і саперніцу сваю Уладзіславу Францаўну, і многіх яшчэ. Добра, што пакінула ўспаміны, але ўсяго, вядома, не апішаш.

**2 сакавіка.** Спыніла мяне выказванне А. Купрына:

«Я глубоко убеждён в том, что Чехов с одинаковым проникновенным любопытством разговаривал с ученым и с разносчиком, с просящим на бедность и с литератором, с крупным земским деятелем и с сомнительным монахом, с приказчиком и с маленьким почтовым чиновником, отсылавшим его корреспонденцию».

Гаворачы пра Чэхава, Купрын меў, вядома, на ўвазе і сябе. А якое дасканалае гэтае выказванне па стылі!

**4 сакавіка.** Заходзіў Лужанін — выбівае збор твораў. Быў у Дубянецкага. Да гэтага туды заходзіў Пімен Панчанка. І ўжо быццам стаяў у плане.

**7 сакавіка.** Заўтра жаночае свята. Галоўная праблема, як заўсёды перад 8-м сакавіка, — кветкі. Дастаў! У выніку чаго ўзвысіўся ў жончыных вачах.

**11—12 сакавіка.** Адбыўся «круглы стол», арганізаваны СП Беларусі і «Литературной газетой». На парадку дня пытанне: «Жыццё рабочага класа

ў люстры літаратуры». З Масквы былі А. Хакімаў, Т. Залатухіна, А. Бачароў. Р. Мустафін — з Казані.

Наша стагоддзе — самае інтэлектуальнае, навуковае, самае тэхналагічнае. Пра гэта казалі многія. На жаль, не прагучала думка, што развіццё тэхнічнага прагрэсу не вырашае праблемы чалавека і грамадства, не паказвае шляху да мэты. Гэтая думка, дарэчы, гучала на мінулагодняй канферэнцыі і ў Берліне. Чалавек заўжды быў прадметам літаратуры, аднак цяпер сфера пісьменніцкай кампетэнцыі ў адносінах да яго пашыраецца, разам з характарам пісьменнікаў цікавіць яго лёс, абароненасць перад сіламі зла, магчымасці, жыццёвая доля.

Госці і беларускія пісьменнікі наведалі завод халадзільнікаў. Сёння, 12 сакавіка, сустрэча з рабочымі адбылася на заводзе ЭВМ. Беларусь — рэспубліка індустрыяльная. Здзейснілася мара Паўлюка Труса — паэта 20-х гадоў: «Беларусь, калі ты станеш краем фабрык дымных і машын?»

**13 сакавіка.** Паведамілі па тэлебачанні, што ў джунглях філіпінскага вострава Лубан быў знойдзены японскі салдат, які хаваўся там амаль 30 гадоў. Увесь гэты час ён верыў, што Другая сусветная вайна яшчэ працягваецца.

**15 сакавіка.** Каля СП сустрэў П. Панчанку. Гнеўны. Можа, не варта было яго і чапаць, але я, павітаўшыся, спытаў пра настрой, і ён загаварыў, пазіраючы кудысці ўбок:

— Ведаеце, такога яшчэ не было, каб такое засілле чыноўнікаў. Надта велізарная колькасць! Росквіт бюракратыі! Закаснеласць і закасцянеласць! Затхласць!

Я маўчаў, думаючы, чаму ўсё гэта ён кажа мне. Можа, нелады з выданнем кнігі? Ці хто пакрыўдзіў? Можа, страціў форму? Творчы крызіс? І кажа пра ўсё мне. Значыць, давярае. Начальству я пра гэтую сустрэчу, вядома, не скажу, але паэту трэба неяк дапамагаць. З такім настроем цяжка.

Успомніў: ці не пра збор твораў тут гаворка ідзе?

**20 сакавіка.** І снег, і сонца. Неба — бледна-блакітнае з невыразнымі белымі аблачынкамі, аднак ноччу яшчэ цісне мароз. Надвор'е няўстойлівае.

**22 сакавіка.** Нанач чытаў Біблію. У Евангеллі ясна сказана: «Несовершенно всё земное и человеческое». Успомніў рэзкі, ажно дрыжэлі вусны, маналог П. Панчанкі. Больш ураўнаважана, але і больш важка ён сказаў пра гэта сваім вершаваным радком:

«Не спакушай нас высокай песняй
Гэтак рана, Галактыка.
Як валуны неачэсаныя —
У нас цяжкія характары.
Ёсць у нас і турмы
З арміяй канвойнай,
Ёсць у нас плямёны
З каменнага веку.
Мы яшчэ ў жорсткасці,
Мы яшчэ ў войнах,
Мы яшчэ ў злосці,
А ты нам — пра Вегу».

Гэта са зборніка «Пры святле маланак» (Мн., 1966, стар. 90).

**25 сакавіка.** Дзень утварэння БНР. Пра падзеі таго часу (1918 год) мне шмат расказваў Алесь Бачыла. Я пра гэта мала ведаў. Выходзіць, што сапраўдны, паўнавартасны нацыянальнай дзяржаўнасці ў нас, беларусаў, няма. Чалавечы лёс драматычны, наш, беларускі, — у асаблівасці. Але слаба мы яго ведаем, ён усё яшчэ ў спецхране.

**27 сакавіка.** Доўжацца Дні культуры Літоўскай ССР на Беларусі. У Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся вечар літоўскай і беларускай паэзіі. Высту-

палі госці: В. Пальчынскайтэ, А. Малдоніс, А. Балтакіс, Ю. Марцінкявічус і нашы паэты М. Лужанін, М. Калачынскі, А. Грачанікаў і інш.

Літоўцы сёння маюць выдатную літаратуру — ва ўсіх жанрах: паэзія, проза, мемуарыстыка. І ўсё замешана на нацыянальнай праблематыцы.

**28 сакавіка.** Прынята пастанова ЦК КПБ «Аб падрыхтоўцы і правядзенні 30-годдзя вызвалення Беларускай ССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

У дакуменце згадана і пра пісьменнікаў, у якіх свой, і не малы, абсяг дзейнасці ў гэтым напрамку. Трэба, каб жыла памяць пра перажытае, каб не забывалася суровая праўда, каб не збядняўся экзістэнцыяльны вопыт чалавека.

Я помню той час — лета 1944-га. Майму Кругелю пашанцавала: вёска ацалела — людзі, дрэвы, пабудовы. Шырокаю, паўнаводнаю ракою рухалася войска. Ішлі з усходу, з Камянца. Гэта былі байцы 218-й стралковай дывізіі генерал-лейтэнанта Уладычанскага Антона Сцяпанавіча. Мае вяскоўцы добра памятаюць гэты дзень: 5 ліпеня 1944 года, серада.

Іх, чырвонаармейцаў-вызваліцеляў ішло шмат. У расшпіленых гімнасцёрках, нагружаныя шынельнымі скаткамі, рэчмяшкамі, сапёрнымі рыдлёўкамі, кацялкамі і іншай амуніцыяй. За спінамі — доўгія вінтоўкі з прывінчанымі рабрыстымі штыкамі. Хто — у ботах-кірзачах, хто — у абмотках. У некаторых на папругах матляліся гранаты. Трактары цягнулі за сабой гаўбіцы. Праехала з пашчапанымі бартамі палутарка, за ёю санітарная машына.

Ліпень звычайна месяц навальніц, а ліпень 1944-га з самага пачатку выдаўся сухім і гарачым. З раніцы ўсё больш прыпякала сонца, а далей, пад поўдзень, устанавілася невыносная гарачыня. Ні хмаркі, ні аблачынкі, ні ветрыку. Ад спёкі і пылу пашарэла трава і лісце дрэў. На выцвілых гімнасцёрках цямнелі пляміны ад поту. Вайскоўцы былі змораныя, недаспаўшыя, але вясёлыя. З усіх бакоў — песні, жарты, досціпы, і зусім не дакучала гарачыня. З хат і схронаў павыходзілі на вуліцу людзі. Замітусіліся жанчыны, падносячы вайскоўцам малако, хлеб, квас...

Можа, калі-небудзь пра гэта напішу.

**30 сакавіка.** Забавілася недзе, запазнілася ў гэтым годзе вясна. Надвор’е, як кажуць у такіх выпадках, няпэўнае, у паветры белыя мухі.

М. Лужанін даў пачытаць дылогію У. Крастоўскага «Кровавый пуф» — пра часы К. Каліноўскага (выданне савецкае, даваеннае). Да мяне яе бралі Караткевіч і Куляшоў.

**1 красавіка.** Заходзіў на работу Коля Заранок. Казаў, што расчараваўся ў навуковай кар’еры і хоча (як і я) перакваліфікавацца ў партыйнага ці савецкага работніка, гэта значыць чыноўніка. Я падумаў, што гэта першакрасавіцкі жарт, ажно не. Падобна, што чалавек усё ўзважыў. Калі так, дык паспрабую дапамагчы.

**2 красавіка.** Распачынаюцца Дні культуры Польскай Народнай Рэспублікі ў СССР. Усё ж такі ў гэтых «днях», і не толькі польскіх, надта шмат казённага фармалізму і штампаў. Але для пісьменнікаў ёсць магчымасць сустрэцца, пагаманіць, бліжэй пазнаёміцца.

**5 красавіка**. Шамякін па сакрэце сказаў мне, што ён прасіў у старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР генерала Пятрова Біблію, але той паціснуў плячыма: «Дзе я табе дастану?» «Дастаць» ён бы мог, але баіцца». А мы з Тамарай купілі румынскі гарнітур — два ложкі і дзве тумбачкі пры іх, запакаваныя ў скрынкі. І ў тых тумбачках былі схаваныя і Біблія, і Евангелле. А ў мяне ўжо ёсць Біблія, падораная Сямёнам Гардзеевічам, маім хросным. Даць адну Шамякіну?

Баімся адзін другога.

**8 красавіка.** Званіў А. Грачанікаў. Паведаміў, што ў канцы месяца ў Тбілісі збіраецца Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў і што ён мае намер уключыць у беларускую дэлегацыю і мяне. Я згодзен, калі дасць дазвол начальства. Шэф быццам і не супраць. Парватаў спытаў: «А хто замест вас?» Як бы няма каму.

Мэта нарады — абмеркаваць праблемы, звязаныя з увасабленнем вобраза камуніста ў сучаснай літаратуры.

**10 красавіка.** Вечар М. Хведаровіча — круглая дата, 70 год. Уступнае слова пачулі ад Е. Лось. Пра творчы шлях паэта расказаў Р. Бярозкін. Расказаў і аб'ектыўна, і цёпла. Віталі Міколу П. Броўка і А. Грачанікаў, а таксама супрацоўнікі беларускіх часопісаў. У пачатку 30-х гадоў Хведаровіч працаваў у апараце ЦК, як я сёння. Можа, таму ён пры сустрэчы пасміхаецца?

З нашага боку юбілей М. Хведаровіча адзначаны ўручэннем яму Ганаровай граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

**11 красавіка.** Сёння скончылася нарада па беларускай драматургіі, скліканай Саветам па беларускай літаратуры СП СССР, СП БССР, Усерасійскім тэатральным аб'яднаннем, Мінкультам БССР і БТА. Адбылася яна ў Мінску, у клубе СП. З дакладам выступіў маскоўскі драматург А. Салынскі. У спрэчках удзельнічалі У. Няфёд, С. Алёшын, Н. Пашкевіч, А. Сабалеўскі і інш. У адзін голас хвалілі А. Макаёнка. Макаёнак на кані. Вечарам некаторых запрасіў у рэстаран. Трапіў у кампанію і я. Паднялі адну чарку, другую, і ўзрушаны Макаёнак сказаў: «Дзякуй, братцы, што ёсць на свеце Масква!» Яго можна зразумець: часцей за ўсё першай ставіла яго п'есы Масква, а потым ужо беларускія тэатры. Баімся.

**15 красавіка.** Вялікдзень. Шмат народу было на ўсяночнай. Многа моладзі. Некаторыя — шчыра, некаторыя з цікавасці. Сабор, што на плошчы Свабоды (пляц Волі), не мог усіх змясціць. Стаялі на цвінтары і навокал.

А нашу царкву (прыгожую, драўляную, сіне-блакітную, што засталася яшчэ ад уніятаў) разбурылі пры Хрушчове. Прыехала машына з вучнямі ГПТВ, і разбурылі.

**16 красавіка.** Атрымаў дасланы ў наш ЦК ліст з Казані, ад нейкага прафесара літаратуры, які прачытаў раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» (выдадзены на рускай мове ў «Советском писателе», у Маскве) і вельмі незадаволены і абражаны тым, што ў якасці адмоўнага персанажа, здрадніка ў ім выведзены татарын. Просіць паведаміць аб прынятых мерах у адносінах да аўтара.

Расказаў Івану Гаўрылавічу. Паціскае плячыма, кажа: «Гэта ён у «Дружбе народаў» прачытаў». «Плач перапёлкі» друкаваўся ў гэтым часопісе.

— Дык што адказаць прафесару? — спытаў я.

— Але ж «Кніга пра разгром Мамая, цара татарскага» таксама паказвае татар не ў лепшым святле, але ніхто аўтара ў гэтым не абвінавачвае. Чаму ж да мяне чапляюцца?

— Мамай — гэта старажытнасць, а вы ж сучасны, савецкі пісьменнік.

Словам, паразмаўлялі.

**18 красавіка.** Церусіцца дробны сняжок, але набліжэнне мая, вясны, гарачай пары адчуваецца. Магчыма, гэта запраграмавана ў нашых генах? Можа, гэта мы самі абнаўляемся? Кажуць, абнаўляйся, як зямля і дрэвы, і будзеш шчаслівы. Усё, аказваецца, проста. Але як абнавіцца? І, па-першае, што такое — абнавіцца? Пачаць раніцай рабіць фіззарадку? Ці прабежкі (бягом ад інфаркту)? Кінуць курыць? Так, і гэта таксама. Для мяне абнавіцца азначае змяніцца самому, памяняць да лепшага адносіны да навакольнага, да людзей, стаць зычлівей і дабрэй. Помню, у дзяцінстве бабуля Фёкла нагадвала ўсім

пра свята «Даравальная нядзеля». Адзначалася гэтае свята вясной. Бабуля прасіла ў нас, сямейнікаў, у суседзяў прабачэння за тое, што, можа, каго калі пакрыўдзіла. І старалася не крыўдзіць нікога.

Аказваецца, рэлігія, якую мы прагналі са свайго жыцця, забылі, мудра клапацілася пра маральнае і фізічнае (пасты) здароўе.

**19 красавіка.** Заўтра — суботнік. Рыхтуюся. Трэба рана ўставаць. Няўжо будзе бетон?

**20 красавіка.** На гэты раз зноў працавалі на Вілейска-мінскай воднай сістэме, у раёне Мінскага вадасховішча — «мора». Дрэвы яшчэ голыя, вецер. Яскравых уражанняў не меў. Запомніліся чайкі. Прыгожыя, серабрыстыя, як самалёты, яны рабілі крутыя віражы над вадою, шумна махаючы моцнымі крыламі.

**21 красавіка.** Нядзеля. Ачухваюся пасля суботніка. Хадзіў з раніцы ў лазню. Пасля лазні піў піва. Няблага.

Збіраюся ў Тбілісі.

**23—28 красавіка.** Пішу гэтыя радкі па вяртанні з Тбілісі, дзе быў на Усесаюзнай нарадзе, на якой абмяркоўваліся пытанні ўвасаблення вобраза камуніста ў сучаснай літаратуры. Ад СП Беларусі прысутнічала цэлая дэлегацыя: А. Адамовіч, А. Грачанікаў, І. Чыгрынаў, Н. Гілевіч, я. Ляцелі самалётам ТУ-154, білеты купілі ўсім разам (купляў работнік апарата СП Сталяроў). Ігралі ў карты, у дурня, паклаўшы паміж сядзеннямі чамаданчык. Выйграваў у асноўным Адамовіч. Гэта было нават дзіўна, асабліва для Чыгрынава, які, відаць, лічыў сябе неблагім гульцом. Адамовіч патлумачыў, што навучыўся ў партызанах.

Гаспадары сустракалі ў аэрапорце, пасялілі ў гасцініцы «Іверыя», на праспекце Руставелі, у цэнтры Тбілісі. Іверыя — старажытная назва Грузіі. Тут ужо «прапісаліся» і асвоіліся тыя, хто прыехаў раней, — пісьменнікі, крытыкі і інш. Няблага сябе пачуваюць.

Работа нарады пачалася ў 10 гадзін раніцы, у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР. У нас, у Беларусі, такога ніколі не было. Але ж гэта Грузія!

Нарада гэтая своеасаблівая, актыўны ўдзел прымаюць у ёй партыйныя і савецкія работнікі, дзеячы прамысловасці, навукі, сельскай гаспадаркі Грузіі. У прэзідыуме сядзяць урад Грузінскай ССР, міністры, сакратары ЦК на чале з Першым сакратаром Шэварнадзе Э. А. Над прэзідыумам, пад столлю, дэвіз нарады: «Ум, честь и совесть нашей эпохи» (В. И. Ленин). Адкрываў канферэнцыю Георгій Макеевіч Маркаў (Старшыня праўлення Канстанцін Федзін ужо надта стары, не прыехаў, сядзіць, кажуць, у сябе на дачы). Пачаліся выступленні. Хто выступаў, адзначалі, што ўсё часцей і часцей у апошнія гады сустракаем у літаратуры героя новага тыпу, героя, народжанага навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй. Гэта — камуніст, перадавы рабочы, інжынер ці кіраўнік вытворчасці, чалавек цікавы, развіты, які ўсё вакол сябе і сябе самога падпарадкуе рабоце. Такі Чашкоў з п’есы І. Дварэцкага «Чалавек з боку». Яго лічаць тыповым для сучаснай літаратуры. Я згодзен: ён дзелавы, але Чашкову, як на мой погляд, бракуе чалавечых якасцей. У гэтым сэнсе ён больш нагадвае інтэлектуальнага робата. Мне болей даспадобы герой аповесці В. Бялова «Звычайная справа» «адсталы» селянін Іван Афрыканавіч. Пачаліся выступленні.

Выступаў між іншым і Валянцін Катаеў, але з яго ўхілістага выступлення нічога не запомнілася.

На наступны дзень удзельнікі нарады раз’ехаліся па гарадах і раёнах рэспублікі. Я трапіў у групу, якую ўзначальваў Л. М. Навічэнка. Групу накіравалі

ў Горы — тыя самыя, дзе нарадзіўся Сталін. Пабывалі на Гарыйскім баваўняным камбінаце — перадавым прадпрыемстве горада. Калектыў камбіната — пяць тысяч чалавек, і кожны чацвёрты — камуніст. Мяне здзівілі цяжкія ўмовы працы. У паветры густа, як снег кружыцца бавоўна, набіваецца ў нос і ў рот, немагчыма дыхаць. Слаба дапамагае абвадненне цэха, мноства фантанчыкаў і распрыскванне вадзяных кропель. Але такая бавaўняная вытворчасць. Тут патрэбна поўная аўтаматызацыя.

Затым ездзілі ў саўгас, аглядалі цяплічную гаспадарку, у якой вырошчваецца гародніна. Умовы працы тут курортныя ў параўнанні з бавaўняным камбінатам.

Вярнуўшыся з саўгаса, групу вадзілі па горадзе, паказвалі хату, у якой нарадзіўся Сталін. Надта ж бедная. Куратнік нейкі. Усе хіталі галовамі, дзівіліся. Каля гаркама партыі, які сваім пакатым рабрыстым дахам нагадвае берлінскі рэйхстаг, велічны, у поўны рост, помнік правадыру. У час антысталінскіх кампаній у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў помнік, каб не разбурыў хто, варатавалі прыхільнікі Сталіна («наследнікі»). Вечарам была сустрэча ў Гарыйскім дзяржаўным драматычным тэатры. Выступалі Л. М. Навічэнка, П. Зейле, А. Шарыпаў, Г. Броўман. Колькі слоў сказаў і я, падзяліўшыся сваімі ўражаннямі, але больш расказваў пра сучасную Беларусь.

26-га зноў усе групы з’ехаліся ў Тбілісі, зноў пачаліся пасяджэнні ў той самай зале Вярхоўнага Савета. Паслухаў многіх выступоўцаў — У. Сангі з Сахаліна, Л. Каюмава з Ташкента, эстонца В. Гроса, абхазца І. Тарба, якута С. Данілава, Б. Алейніка з Кіева, ленінградца А. Чапурова... Ад нас выступіў І. Чыгрынаў. Шмат было дзяжурных выступленняў.

Іван Гаўрылавіч між іншым сказаў: «Свой пасільны ўклад у стварэнне мастацкага летапісу аб партыі і яе байцах я спрабаваў унесці шасцісерыйным тэлевізійным фільмам «Руіны страляюць...»

Куратарам нашай беларускай дэлегацыі быў вядомы паэт Хута Берулава, які пабываў у Беларусі і вынес хвалюючыя ўражанні, напісаў паэму. Ён паказваў нам грузінскія помнікі, Свеці Цхавелі, манастыр, у якім знаходзіўся лермантаўскі герой Мцыры (наведалі мы гэтае месца ноччу), а таксама вадасховішча каля Тбілісі. Па берагах вадасховішча расце, у дзікіх умовах, тархун. Гэтую расліну (з выгляду накшталт нашай лебяды) ядуць з хлебам. Прыемная на смак. «Пакуль будуць хлеб і тархун, грузінскі народ не памрэ», — сказаў Берулава.

Між іншым у Тбілісі я сустрэў сваю знаёмую па аспірантуры (жылі ў адным інтэрнаце) Назі, якая запрасіла мяне на сваё вяселле. Не ў Тбілісі, а ў нейкім дальнім раёне. Берулава адраіў на той аснове, што гэта, мяркуючы па той мясцовасці, дзе яно павінна было адбыцца, будзе не грузінскае вяселле, а армянскае.

Не надта мне спадабалася, што тут няма прывычкі вяртаць на здачу капейкі. Яшчэ рубля можна дачакацца, а пра капейкі трэба напамінаць. Прадаўцам гэта дужа не падабаецца. Аддаюць са злосцю.

Вярталіся самалётам. Не згадзіўся, пабаяўся ляцець самалётам, паехаў цягнікам маскоўскі пісьменнік Юльян Сямёнаў, стваральнік раманаў пра Шцірліца.

**30 красавіка.** Размаўляў па тэлефоне з аўтарам ліста — казанскім прафесарам, які дужа ўкрыўдзіўся на І. Чыгрынава за адмоўны вобраз татарына ў рамане «Плач перапёлкі». Сказаў прафесару, што выклікалі Чыгрынава ў ЦК і мелі з ім гаворку на гэты конт, што ён нічога не мае супраць татар, што такі выпадак сапраўды меў месца ў той вёсцы, адкуль пісьменнік родам.

**2 мая.** Гэтыя дні бавіў з жонкай дома, на дэманстрацыю працоўных не хадзіў, адпачываў пасля камандзіроўкі ў Грузію.

Вечарам заходзіў К. Выйшлі разам на прагулку. К. расказваў, што пазнаёміўся з дзяўчынай з Канатопа. Ужо на другі дзень дамагаўся свайго, парваў трусікі, але нічога не выйшла. Слухаў пра ўсё гэта без цікавасці, мяне заўсёды раздражнялі грубыя словы, грубыя жэсты, вульгарнасць.

**3 мая.** У часопісе «Дружба народов» наткнуўся на радкі крытыка Л. Аннінскага (салідны крытык): «...интимная, моментальная запись для себя, если она принадлежит личности, остаётся как неопровержимый документ эпохи». Трэба мець гэта на ўвазе.

**4 мая.** Заходзіў Юзік, чытаў вершы. Ёсць і моцныя, з глыбокім пачуццём.

Выйшлі прагуляцца. Раслінасць набіраецца хларафілу, зелянее. Зайшла размова пра мову. Гаварылі пра рознае, у тым ліку пра яе. Калі ж набярэцца хларафілу наша мова? У «Вопросах философии» прачытаў цытату з невядомага мне нямецкага філосафа Хайдэгера: «Мова ёсць дом быцця», «мова — самае поўнае адлюстраванне духоўнага жыцця народа, яго характару».

Юзік — паэт, яму гэта вельмі блізка.

**6 мая.** Ускладалі разам з Толем Грачанікавым кветкі да магілы П. Труса (70-годдзе).

О вёска, вёска пры дарозе!
Пад ціхі гоман вербалоз
Яшчэ з гадоў свайго дзяцінства
Я пакахаў цябе да слёз...

Прыводжу гэтыя радкі па памяці. Помніцца многае. Пра апошнія дні Паўлюка расказваў С. Шушкевіч, сябар яго маладосці.

**9 мая.** Быў у Плешчаніцах. Цесць з цешчай гасцінныя да неадчэпнасці. Усе ветэраны ў гэтым гарадку пачапілі ўзнагароды, апроч маіх — цесця і цешчы. Сціплыя! Хадзілі на Чысцік. Як заўсёды, шмат народу. Ужо з раніцы пачалося пагалоўнае п'янства. Гарэлкай, мне здаецца, сунімаецца вастрыня ўспамінаў, драматызм нядаўняга — нядаўняга! — мінулага. Іван Платонавіч і Вера Васільеўна распавядаюць пра жудасныя здарэнні ў часе блакады на Паліку.

Партызаны нярэдка ставілі насельніцтва ў сітуацыю, якая патрабавала ахвярнай самааддачы. Ніхто, вядома, не пытаўся, ці згодзен ён на гэта.

Паднялі чарку, не чокаючыся, і мы з цесцем. Потым пілі запараны Верай Васільеўнай чай. Напарэшту Іван Платонавіч выпіў кварту вады. «Не магу, — кажа, — напіцца чаем».

Палюбіў я гэтых людзей.

На аўтобус праводзілі цесць разам са сваім шваграм Іванам Васільевічам. Адхінуліся на момант кудысьці і прынеслі пляшку віна «Солнцедар». Віно невядомага паходжання. (Кажуць, егіпецкае. Егіпецкія віны — надта церпкія). У цесця ў кішэні аказалася і шклянка. Я вяла запратэставаў, але выпілі, па чарзе. Швагер — весялун, пастаянна смяецца (брат Веры Васільеўны). Цесць сказаў:

— Ты, Валодзя, наступным разам прывязі лімон. Люблю на апахмелку кіслае. Цераблю парэчкі, але яны яшчэ не гатовыя.

Знайсці гэткаю парою ў Мінску лімон няпроста, але праз аддзел гандлю знайду. Раз цесць любіць лімон.

А «Солнцедар» добра хмеліць.

**13 мая.** Майская вясна — гэта нейкі цуд. Хутка зацвітуць каштаны, а за імі бэз і ружы. Салаўі ўжо пяюць.

**16 мая.** Прачытаў у «Полымі» рэцэнзію А. Пысіна на кнігу С. Гаўрусёва «Пераклічка». Хваліць, і не без падставы, за многія якасці. Цытуе:

Маё сэрца прысніцца
Дзесь цяжкому свінцу.
Дзе цвіла медуніца —
Я іду па сіўцу.

Гэта вельмі сугучна самому Пысіну. І чаму гэта яны — пра свінец ды пра свінец? Пысін прайшоў вайну.

Творчасць А. Пысіна — гэта яшчэ адзін беларускі паэт, адораны талентам філасафічнасці, — развівалася, можна сказаць, у межах традыцыйнай паэтыкі, але стымулявалася рухам дапытлівай філасофска-аналітычнай думкі. Сваім аўтарытэтам арыгінальнага і самабытнага мастака ён падтрымліваў «куляшоўскі» напрамак у беларускай паэзіі. Вельмі сугучны часу.

**17 мая.** Дзень нараджэння ў Тамары. Не запрашалі нікога, бо імянінніца цяжарная і ўжо даходжвае тэрмін. Не могуць вызначыць, сын будзе ці дачка.

**20 мая.** Зацвітаюць яблыні. Пахаладала. «Чаромхавыя халады», — як кажа Вялюгін.

**23 мая.** Для Тамары тэрмін радзіць. Кірыла адвезлі ў Плешчаніцы да бабулі.

**25 мая.** Субота. Паехалі з Тамарай на дачу. Зрабілі, мусіць, памылку, але своечасова выправілі, доўга не чакаючы, вярнуліся ў Мінск. І праз гадзіну выклікалі «хуткую». Апоўначы дазваніўся: дачка! Стала лёгка, хваляванні ўтаймаваліся.

**26 мая.** Нядзеля. Ездзіў у трэцюю бальніцу, у радзільнае аддзяленне, праведаць Тамару з дачушкай. Купіў прадукты (улічыўшы той раз), — перадаў запіску.

Зайшлі да мяне на кватэру А. Гардзіцкі і В. Каваленка. Праведаць. Я сказаў, што нарадзілася дачка. Павіншавалі, і я пайшоў па гарэлку. Падзею, такім чынам, адзначылі.

Вось у мяне ўжо двое дзяцей, сын і дачка.

**27 мая.** Бачыў Тамару. Выгляд стомлены, але трымаецца.

**29 мая.** Тамара з дачкой ужо дома, ужо першы раз купалі. Слаба бярэ грудзі. У Кірыла тут недахопаў не было.

**30 мая.** Указ аб узнагароджанні Адама Русака ордэнам Дружбы народаў за вялікія заслугі і ў сувязі з 70-годдзем. Учора ў філармоніі адбыўся яго вечар. Песенны рэпертуар паэта вялікі. Адна «Лясная песня» (на музыку Алоўнікава) чаго вартая!

У аснове песні «Бывайце здаровы», як сцвярджае знаны фалькларыст Іван Цішчанка, дзве яўрэйскія мелодыі, якія выкарыстаў кампазітар Любан. На «Днях беларускай культуры» ў Маскве, у пачатку саракавых, песню спяваў Л. Уцёсаў. Успрымалася яна як чыста беларуская, і я з гэтым згодзен. Гарадскія беларусы этнічна, мне думаецца, даўно парадніліся з яўрэямі.

**4 чэрвеня**. Цыклон аддаляецца. Пачало цяплець. Кіруша нарадзіўся ў канцы лістапада, зазімкам; малая — майская.

**5 чэрвеня.** Уладкаваў Заранка ў Ленінскі райкам КП Беларусі інструктарам аргаддзела. Хай расце!

**7 чэрвеня.** Малой далі імя Оля. Атрымалі пасведчанне аб нараджэнні. Вольга — імя са скандынаўскімі карэннямі, азначае: карысная.

**14 чэрвеня.** У «Атоліне» расце добры агарод — цыбуля, гуркі, памідоры, бульба, трускалкі. Даспявае маліна. Кусты чорных парэчак. Шкада толькі, што на дачныя ўчасткі ўбілася магутная цімафееўка, і якая пагражае паглынуць усё, што пасаджана чалавечай рукой. Аказваецца, насенне цімафееўкі раскідалі разам з угнаеннем, з якім яна была змешана і прызначалася для гарадскіх паркаў.

**17 чэрвеня.** Уразіла і не выходзіць з галавы прачытанае ў Бібліі, у другой, новазапаветнай частцы: натоўп цябе ўзнясе, але народ цябе і распне. Відаць, і сапраўды так. Так было з Ісусам Хрыстом у яго зямным жыцці.

**19 чэрвеня.** Васілю Быкаву 50 гадоў. Віншаванне адбылося ў Доме мастацтваў. Уступнае слова ад Шамякіна, дакладчык — Г. Бураўкін. Шмат віншаванняў ад прыватных асоб. Дакументы пайшлі на ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Быкаў варты большага. Па-новаму ўбачаная ім праўда вайны, «акопная праўда», адкрывае перад чытачом аграмадны пласт чалавечага жыцця. Выклікае павагу інтэлектуальная мужнасць пісьменніка — мужнасць пазіцыі. Гэта даецца цяжэй, чым нейкі імгненны ўчынак.

І яшчэ Быкава можна паважаць за тое, што ён аддадзены літаратуры, верны ёй, апроч літаратуры нічым не займаецца, не дзеліць пісьменніцтва з іншай прафесіяй, іншым родам дзейнасці, як некаторыя.

**20 чэрвеня.** Адбыўся чарговы пленум Саюза пісьменнікаў па пытанні: «Аб выкананні рашэнняў VI з’езда пісьменнікаў Беларусі». Дакладчык — М. Танк. Гаварыў некалькі гадзін без намёку на стомленасць. Публіка прытамілася, той-сёй нават пазяхаў. Пасля перапынку пачаліся выступленні. Хто пра што. Гаварылі і пра раман, і пра апавяданне. Так, адной інфармацыйнасці для сучаснага апавядання мала — яно таксама патрабуе «чалавеказнаўчага» падыходу, канцэптуальнасці, тыповасці герояў і абставін праблемнасці, сувязі з іншымі жанрамі.

На жаль, многія слынныя нашы апавядальнікі — В. Адамчык, А. Асіпенка, В. Быкаў, А. Марціновіч, І. Чыгрынаў і многія, многія іншыя ў апошні час неяк забыліся на гэты жанр, захапіліся буйнафарматнай прозай.

П. Пестрак з трыбуны задаў, невядома каму, пытанне: «Хто забараніў і не хоча, каб быў экранізаваны раман “Сустрэнемся на барыкадах”?» Пытанне прагучала рытарычна. А можа, калі надыдзе чарга?

А. Адамовіч гаварыў пра майстэрства літаратуразнаўца:

— Калі ўзяў у рукі палена (думку), пакруці яго з розных бакоў.

Гэта трэба запомніць.

На жаль, пісьменнікі ўсё яшчэ глядзяць на крытыкаў як на службу сэрвісу, узвялічваюць тых, хто іх абслугоўвае, дагаджае.

**24 чэрвеня.** Ад кагосьці чуў, што ў Югаславіі выйшла кніга літаратарадаследчыка (прозвішча не памятаю), спецыяльна прысвечаная двум радкам Маякоўскага. Вось гэтыя радкі:

Море
уходит
вспять,
Море
уходит
спать.

Што і казаць, радкі вельмі цікавыя ва ўсіх адносінах — і па форме, і па змесце.

Сам чытаў цікавую кнігу акадэміка Аляксеева пра адзін-адзіны верш Пушкіна — «Помнік». Ёсць і другія працы падобнага тыпу. Што гэта дае — пранікненне ў свет аднаго верша? Іншая справа, скажам, цыкл, пэўны перыяд, кніга, збор твораў і г. д. Яны, безумоўна, могуць даць даволі цэласнае ўяўленне пра творчы шлях паэта, яго мастакоўскае станаўленне. А адзін верш? Пра што ён можа расказаць?

Пра многае — і пра своеасаблівасці светаразумення паэта, характар яго мыслення, тэмперамент, паэтыку і інш. Паўней раскрываецца змест твора;

засяроджанае заглыбленне ў адзін верш узбагачае наша ўяўленне аб паэзіі наогул, яе спецыфіцы ў адлюстраванні жыцця. Зразумела, і асобны верш лепш можна зразумець у кантэксце ўсёй творчасці паэта.

Думаю напісаць пра гэта артыкул у альманах «Дзень паэзіі».

**26 чэрвеня.** Мінску прысвоена пачэснае званне «Горад-герой». Усе расцэньваюць гэта як, хай сабе і запознены, акт справядлівасці. Лепш пазней, чым ніколі.

Пад уплывам, відаць, гэтай падзеі заходзіў І. Чыгрынаў. Прынёс даўжэзную скаргу — не ўключылі яго ў спіс прэтэндэнтаў на Дзяржаўную прэмію за тэлефільм «Руіны страляюць...» Нешта не ладзіць ён з Новікавым. У іх розная ацэнка гісторыі і персанажаў Мінскага падполля перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Але ж, што датычыць тэлефільма «Руіны страляюць…», дык над сцэнарыем працаваў і І. Чыгрынаў, які таксама мае падставы прэтэндаваць на прэмію. Ігнаравалі яго дарэмна, несправядліва. Помню выступленне Чыгрынава ў Тбілісі. Справядлівасць трэба аднаўляць.

**28 чэрвеня.** У Саюзе пісьменнікаў Беларусі нядаўна абмяркоўвалі кнігу трох аўтараў «Я з вогненнай вёскі…» Выступаў Я. Брыль, затым М. Танк, С. Селіханаў, Р. Барадулін.

Даводзіцца здзіўляцца, што спатрэбілася больш як трыццаць год, каб спачатку здагадацца, што неабходна такая кніга, а потым — зрабіць тое, што зрабілі А. Адамовіч, Я. Брыль, У. Калеснік. Сама літаратура павінна была дайсці да ўсведамлення таго, што ніводзін пісьменнік не мае права сказаць пра сябе, быццам ён ведае ўсю праўду пра вайну. Усю праўду ведае народ, а абавязак пісьменніка і літаратуры — запісаць гэтую памяць народа і даць магчымасць з'явіцца ёй на старонках кніг.

Аўтары чуйна ўлавілі гэтую патрэбу літаратуры — даць выйсце народнай памяці аб вайне, аб перажытым. Яны аб'ехалі ўсю Беларусь, праявілі сапраўдны мастацкі такт, калі самі, як аўтары, адышлі на задні план, даўшы магчымасць гаварыць сваім героям.

Чалавечыя маналогі хвалююць сваёй праўдзівасцю. У іх адлюстроўваюцца, апроч усяго, і такія аспекты чалавечай асобы, якія раней абміналіся, якія тычацца самага нізу чалавечай свядомасці і падсвядомасці.

Вайна, як вядома, адкрыла чалавеку і тое, пра што ён, магчыма, і ўвогуле не павінен быў бы ведаць, бо яно, гэтае жудаснае пазнанне супярэчыць нармальнай чалавечай прыродзе.

«Я з вогненнай вёскі…» зробіць, безумоўна, адчувальны ўплыў на ўсю літаратуру аб вайне, на сам прынцып падыходу да яе адлюстравання.

Вайна з уласцівым ёй экзістэнцыяльным жахам быцця — дабраліся мы нарэшце і да гэтага ўзроўню праўды.

**7 ліпеня.** Субота. Былі на дачы, ваявалі з цімафееўкай. Магутная расліна! Надта глыбокі корань. Ёсць расліны з коранем куды карацейшым.

**9 ліпеня.** ЦК КПСС зацвердзіў праект будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі. Гэта будзе мець значэнне на перспектыву — як колішняя казахстанская цаліна, да асваення якой прычыніўся і я. Узнагароджаны медалём, які доўгі час чапляў на грудзі бацька. Нядаўна аддаў.

**11 ліпеня.** Задажджыла. Ужо каторы дзень ідзе дождж. Паслалі дакументы ў ЦК КПСС на прысваенне М. Танку звання «Герой Сацыялістычнай Працы». Па іншых рэспубліках такія прысваенні ідуць поўным ходам. А чым Танк горшы? Алесь Барскі кажа, што так, як Танк, у Польшчы пішуць даўно. Відаць, слаба ўчытаўся.

**17 ліпеня.** Мінск наведала дэлегацыя пісьменнікаў ФРГ у складзе Л. Раўнер, В. Фермана, Г. Платэ. У Саюзе пісьменнікаў з імі гутарылі М. Танк, А. Кулакоўскі, Я. Брыль, А. Грачанікаў і інш. Кланяемся, як звычайна, перад усімі прыезджымі. Нейкі правінцыйны комплекс непаўнацэннасці. Але ж трэба іх чым-небудзь і зацікавіць!

Я падумаў, што добра было б кнігу «Я з вогненнай вёскі…» перакласці на нямецкую і іншыя замежныя мовы, каб чыталі ўсюды і болей ведалі пра Беларусь. Глыбінны змест кнігі складае яе псіхалагічная праўда. Яна і абагульняе сабраны ў кнізе матэрыял і прымушае чытача зняць шапку перад памяццю расстраляных, спаленых фашыстамі людзей. Пекла «Боскай камедыі» Дантэ не можа зраўняцца з тым, што апісана ў кнізе «Я з вогненнай вёскі…»

Шкада, што на сустрэчу не быў запрошаны Р. Бярозкін, які ведае нямецкую літаратуру (асабліва міжваеннага дваццацігоддзя) лепш, чым хто. Добра валодае нямецкай мовай.

**19 ліпеня.** Сустрэча з настаўнікам беларускай мовы і літаратуры з Беласточчыны ў Саюзе пісьменнікаў.

Уступным словам сустрэчу адкрыў Аляксей Кулакоўскі. Гаварыў, як заўсёды, запінаючыся, з «паўзачкамі». У часе «паўзачак» узіраецца ў аблічча слухачоў, сочыць, як яны ўспрымаюць тое, што ён гаворыць. Выступалі Р. Барадулін, Г. Бураўкін, У. Караткевіч, А. Махнач, М. Татур, Р. Шкраба, П. Стэфановіч. Апошні прэзентуе сябе ў якасці перакладчыка з польскай і на польскую.

Вельмі ж харошыя людзі — настаўнікі з Беласточчыны.

**20 ліпеня.** Нічога цікавага не адбылося. Спрабаваў слухаць радыё «Свабода», але надта глушаць, не разабраць.

**22 ліпеня.** Гадуем з Тамаркай Кірушку і Волечку. Малыя дзеці спаць не даюць, а вялікія — жыць. Пра першае ведаем, а пра другое не дай Бог уведаць.

Дзеткі харошыя, прыгожыя і разумненькія.

**25 ліпеня.** Ноччу прыходзілі Віктар Лапуць і Сцёпа Міско. У кватэры аднак размаўляць не сталі, выйшлі на вуліцу, у сквер. Расказалі, што іх выклікалі ў КДБ, дзе распытвалі пра размовы ў акадэмічным інтэрнаце. Шыюць арганізацыю. Пыталіся і пра мяне. Між іншым, я заўважыў, што адносіны да мяне з боку некаторых асоб у ЦК памяняліся, сталі нейкімі насцярожанымі. Асабліва з боку супрацоўнікаў аргаддзела. Сустрэўшы мяне, некаторыя з іх апускаюць вочы.

Пачалася чарговая хваля барацьбы з «нацыяналізмам». Цяпер разумею, чаму Машэраў адмовіўся выступаць з прамовай у гонар Я. Купалы на адкрыцці помніка. Следам за ім адмовіўся выступаць і Ц. Я. Кісялёў.

Апроч Лапуця і Міско выклікалі яшчэ шэраг асобаў. У Кіеве — чуткі ёсць — ужо таго-сяго пасадзілі.

**26 ліпеня.** Лета. Цёпла, нават горача. Толькі ў сценах нашай установы — вечны халадок, сухасць, субардынацыя. Асабліва «субардынацыйна» паводзяць сябе калегі з аргаддзела.

**31 ліпеня.** У Мінску колькі дзён знаходзіўся госць з Манголіі — сакратар Саюза пісьменнікаў Манголіі, рэдактар часопіса паэт Далантайн Тарва. У клубе СП адбылася з ім сустрэча. Далантайн чытаў з перакладчыкам вершы. Перакладчык часта збіваўся.

**2 жніўня.** Э. С. пазваніў і сказаў, што фарміруецца група для турпаездкі ў Індыю і ёсць магчымасць з'ездзіць, пакаштаваць экзотыкі. А было б няблага. Індыя ўвайшла ў маё жыццё яшчэ ў дзяцінстве, у школьныя гады, у дзявятым

класе. Выпадкова трапіла мне ў рукі кніга ў прыгожым цвёрдым пераплёце пад назвай «Раджа-йога». Выдавецтва братоў Сабашнікавых. 1909 год. На першай старонцы стаяў эпіграф да ўсёй кнігі: «Каждая душа потенциально божественна». Сэнс гэтых слоў дайшоў да мяне не адразу, але потым я ўсё ж такі ўцяміў іх. Аўтар, як сёння помню, нейкі Свамі Вівекананда. Хто ён, не ведаю да гэтага часу. Магчыма, нейкая містыфікацыя, але кнігу я прачытаў і пільна прыслухаўся да яе парад, захапіўся імі. Адчуваў, што гэта не наша, але тым не менш захапіўся. З раніцы купаўся ў нашай рацэ Лясной, піў праз нос рачную ваду, на беразе рабіў гімнастыку, асвоіў позу лотаса. І гэтак цягнулася доўга, але да медытацый я не дайшоў.

Сёння разумею, што ёга — гэта ірацыянальны падыход да жыцця, што гэта духоўнасць іншага тыпу, не пад нашы абставіны.

Індыя — не Балгарыя і не ГДР. Капкраіна. Для паездкі туды патрэбна не абы-якая праверка ў ідэалагічнай надзейнасці і высокі дазвол.

**9 жніўня.** Адкрыты помнік Ф. Скарыне ў Полацку, так сказаць, на радзіме. На цырымоніі адкрыцця прысутнічалі І. Шамякін, М. Дзялец, І. Навуменка, П. Пацей, В. Бандарчык і інш.

А ў Мінску, на жаль, да гэтага часу няма помнікаў ні Скарыне, ні Каліноўскаму, і невядома, калі пастаяць. Такіх, каго варта ўшанаваць помнікам, у нас шмат.

**18 жніўня.** 40 гадоў з часу склікання Першага Усесаюзнага з’езда савецкіх пісьменнікаў. Пісьменнікі — М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Броўка, М. Хведаровіч і інш. — выступаюць з успамінамі.

З’езд гэты з пазіцый сягонняшняга дня ўяўляецца даволі супярэчлівым і дзіўным. Даклад па паэзіі рабіў чамусьці М. Бухарын, які збэсціў Ясеніна і ўсхваліў паэзію Б. Пастарнака. Апошні аднак застаўся вельмі незадаволены з’ездам, таму што чакаў прамоў шырокага філасофскага зместу, верыў, што з’ездператворыцца ў сход рускіх мысліцелей. Прамова А. М. Горкага здалася яму адзінокай на з’ездзе. Паэт быў расчараваны.

Беларускія пісьменнікі, якія выступалі на гэтым з’ездзе (Лынькоў, Клімковіч і інш.), неслі нейкую лухту: быццам бы галоўнай небяспекай для беларускай літаратуры «астаецца беларускі нацыяналізм» — ? Вульгарызатарскую ацэнку атрымала на гэтым з’ездзе наша дакастрычніцкая літаратура.

Вось табе і Першы з’езд.

Кажуць, што ў кулуарах з’езда распаўсюджвалася антысавецкая лістоўка. Ці праўда гэта? Пытаўся ў Лынькова. Кажа, што не чуў.

**21 жніўня.** Звярнуўся С. Шушкевіч з просьбай дапамагчы выдаць кнігу вершаў. «Мае кнігі на паліцах не стаяць», — піша. Ён і сапраўды шмат выступае перад чытачамі, друкуе біяграфічныя нататкі пра сяброў маладосці. Званіў дырэктару выдавецтва. Абяцаў улічыць.

**29 жніўня.** Замежны радыёголас (чуў па «Спідоле») перадаваў, што прайшло 25 гадоў з дня выпрабавання ў СССР, у 1949 годзе, атамнай бомбы.

Сёння ўсе баяцца атамнай вайны, якая ўсё можа знішчыць, нават само жыццё. На гэту тэму амерыканскі рэжысёр Стэнлі Крамер зняў фільм «На далёкім беразе». Хто бачыў, кажуць, уражвае. Бачыў Алесь Адамовіч недзе ў Маскве на закрытым праглядзе. Кажа, што гэта нешта неверагоднае.

**8 верасня.** Былі на дачы. Грыша Вячорка накапаў цэлы мех бульбы (участак, як і ў мяне, чвэрць соткі), перавязаў яго гічкай і папрасіў мяне дапамагчы ўскінуць яму на плечы. Я дапамог, і мех здаўся не надта цяжкім, але Грыша, ступіўшы колькі крокаў, на жаль, не ўтрымаў і разам з мехам паваліўся на зямлю. Яно і сапраўды: адкуль будзе сіла, калі, апроч аўтаручкі, нічога ў руках

не трымаем. Ды і я не паспеў дапамагчы. Калісьці, у галалёд, ішоў побач з А. Кулакоўскім. Гэта было ў Наваполацку на семінары. Размаўлялі. Кулакоўскі нешта даказваючы, пакаўзнуўся і ўпаў і потым доўга выгаворваў мне, чаму не падтрымаў. Грыша ж толькі сціпла зазначыў:

— Гэта клубні такія цяжкія ўрадзілі, бо зямля добрая.

Ён эканаміст, і думкі скіроўваюцца ў гэтым напрамку. Мех ён усё ж такі данёс! Працавіты незвычайна. За гэта яго і Машэраў паважае.

**17 верасня.** Пазваніў Максіму Танку, хацеў павіншаваць з днём нараджэння. Ён на Нарачы. Відаць, хаваецца ад падобных званкоў. Паляць з Лыньковым вячэрні касцёр. Ці, дакладней сказаць, вечаровае вогнішча. Неяк я быў у яго ў кабінеце. Разгаварыліся. Я сказаў, што ён своеасабліва піша пра каханне. Не стаў удавацца ў падрабязнасці, у тое, што залішне ўмоўна часам выглядае яго гераіня. Баяўся, што пакрыўдзіцца. Ён пасміхнуўся і запярэчыў: «Лепш за ўсіх пра каханне складае частушкі народ»:

Мая жонка Януся
Кросны ткала на брусе.
Ой, на пуні кросны ткала,
Паміж ног чаўнок пускала.

Аднак у досціпе паэту не адмовіш.

**27 верасня.** Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні звання Героя Сацыялістычнай Працы М. Танку. Варты! З усяго нарыфмаванага ў гэтым годзе — у зборніках, перыёдыцы — запомніўся яго верш «Смак віна»:

Чаркай віна
Адзначаецца дзень нараджэння
І дзень развітання.
Розніцы, пэўна, між імі
Ніякай няма,
Калі не лічыць
Розніцы ў смаку віна.

Танкаўскі фірменны стыль. Еўрапейскі ўзровень.

**28—29 верасня.** На «Волзе» (аджалеў В. Гоцман) ездзілі ў Плешчаніцы да цешчы. Прымалі, як заўсёды, гасцінна, ад душы. З Пецем паехалі ў лес па грыбы. У знакамітае, як тут кажуць, Зардзяжжа. Павярнулі ў лясную прасеку (на яго ўазіку), пасунуліся ўглыб, у жаўцізну беразнякоў. Спыніліся. Цішыня. Чутно, як з бяроз і асін з меладычным звонам, чапляючыся за галіны, ападаюць рознакаляровыя лісцікі. У пабляклай траве, на сухіх сцяблінках, вісяць, як дзявочыя завушніцы, спелыя ягады — чарніцы, брусніцы. Паветра здзіўляе сваёй празрыстасцю і свежасцю, настоенай на аскомістых пахах асенняга лесу.

**1 кастрычніка.** Заходзіў у СП. З Каралішчавічаў вярнуўся Прыходзька. Расказвае пра Пестрака і Гаўрусёва, якія там адпачываюць. Яны сябруюць, у Каралішчавічы прыехалі на тыдзень, узялі з сабой колькі пляшак гарэлкі, каб хапіла да канца тыдня, да пятніцы. Папрацаваўшы крыху, селі за стол і пачалі патроху «дзюбаць». Той-сёй далучыўся яшчэ, і гарэлачны НЗ хутка стаў малец.

— За які, Сцяпане, дзень ужо п'ём? — затурбаваўся Пестрак.

— Ды ўжо за чацвер, Піліп Сямёнавіч.

— Як так? А ты куды глядзеў?

— Не заўважыў.

— Ну, калі так, то давай і пятнічную.

Пра сябе Пятро кажа з павагай: «Жыў у сёмым пакоі, дзе звычайна спыняецца Кандрат Крапіва».

**2 кастрычніка.** Атрымаў характарыстыку на паездку ў Індыю. Характарыстыка — станоўчая. У ёй сказана:

«Тов. Гниломёдов В. В. награжден в 1958 году медалью «За освоение целинных и залежных земель», в 1970 году — медалью «За доблестный труд. В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина».

Тов. Гниломёдов В. В. рекомендуется для выезда в Индию-Цейлон в ноябре 1974 г. сроком на 14 дней в составе специализированной туристской группы Всесоюзного общества «Знание».

Секретарь ЦК КП Белоруссии

(А. Кузьмин).

2 октября 1974 г.»

Аказваецца, гэтая двухтыднёвая паездка не толькі ў Індыю, але і на Цэйлон.

**5 кастрычніка.** У «Литературной газете» ўбачыў свой артыкул «Почему летают птицы?» Хацеў сказаць пра асаблівасці сучаснай беларускай паэзіі.

**9 кастрычніка.** Неяк прачытаў у С. Гаўрусёва:

Ноч. Азяблы пенсіянер
Каля вогнішча грэе ўспаміны.

Проста і добра. С. Гаўрусёў вельмі таленавіты і таленавіты па-свойму, ён увасабляе, на маю думку, менталітэт Магілёўшчыны, радзімічаў. Але калі б хто папрасіў мяне даказаць, што гэта менавіта так, мне было б цяжка гэта зрабіць. С. Гаўрусёў — паэт шырокі, кожны знойдзе ў ім нешта сваё і для сябе.

**15 кастрычніка.** Некаторыя, болей з маладых, наведваюць у Зэльве Ларысу Геніюш. Мне гэтага рабіць няможна, але калісьці ў Інстытуце літаратуры я па сваёй тэме пісаў пра яе кнігу вершаў і паэм «Невадам з Немана», не ўяўляючы, што гэта небяспечна.

**16 кастрычніка.** У Беларусі праходзілі Дні музыкі і літаратуры Чувашскай АССР. Пазнаёміўся з цікавым пісьменнікам Мікалаем Дзедушкіным. Ён крытык і літаратуразнавец. Расказваў, што чувашская літаратура запачаткавалася ў другой палове XIX стагоддзя. Да гэтага ў Чувашыі бытаваў толькі фальклор. У чувашскай мове шмат агульнага з даўняй, ужо нежывой, хазарскай.

**19 кастрычніка.** На маёй Берасцейшчыне паводак, разліўся Мухавец. Звычайна сціплая рака паводзіць сябе як грозная стыхія. Можа затапіць прылеглыя тэрыторыі. Будуюць дамбы, насыпаюць берагі. Паехала туды шмат маіх цэкоўскіх калег.

Пазваніў У. А. Калеснік. Ён у Мінску, у гасцініцы «Мінск». Выдае кнігу «Зорны спеў». Працуе з рэдактарам. Кніга разнастайная ў жанравым плане, абяцае быць цікавай.

Вечарам наведаў яго, ён толькі што вярнуўся з бібліятэкі. Жартуючы, я сказаў: «Уладзімір Андрэевіч, як толькі вы пакінулі Брэст, адразу адрэагаваў Мухавец — разліўся». Калеснік смяецца. Значыць, настрой неблагі. Ён чалавек настрою.

**22 кастрычніка.** Ажыло раптам старое слова духоўнасць. Нібы ўваскрэсла, з'явілася з небыцця. Як яго разумець? Па традыцыі, духоўнасць — гэта вера ў нешта вышэйшае, у Бога, бескарыслівасць, неўтылітарнасць. На нарадах і ў прэсе шмат гаворыцца пра духоўнасць. Духоўнасць часцей разумеецца як грамадская псіхалогія, як заклік не надаваць вялікага значэння побыту. Гэтага, мне здаецца, мала. Духоўнасць — гэта патрэба ў бязмерным і бяскон-

цым, у высокім, што над намі, што дыктуе нам думкі і паводзіны. Духоўнае і прыкладное. Без гэтай гармоніі: блізкага і далёкага, верху і нізу, па сутнасці, няма чалавека.

Насалода прыгажосцю — таксама духоўнасць.

**25 кастрычніка.** Заходзіў у госці да мяне Калеснік. Заўтра адпраўляецца ў Брэст. За кампанію я запрасіў Б. Сачанку і А. Гардзіцкага. Стала вядома, што В. Быкаву прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР за аповесці «Абеліск» і «Дажыць да світання».

— Даюць прэмію і па-ранейшаму дакараюць за «памылкі», — сказаў Барыс Іванавіч.

Дакараюць. В. Быкаў ставіць праблемы маральнага выбару і адказнасці, ствараючы сітуацыі, у якіх вядучай з'яўляецца маральная альтэрнатыва, і не тоіць пры гэтым, што ў яго гаворка ідзе пра калізіі, якія праходзяць праз жыццё кожнага сучаснага чалавека.

— Гэта Масква Дзяржпрэмію дала, а Дзяржаўную прэмію БССР Быкаў яшчэ не атрымліваў. Баяцца, відаць, нашы ідэолагі, каб самім не зрабіць «памылкі», — даволі дасціпна ўдакладніў Аляксей.

Усе засмяяліся, а Сачанка перавёў гаворку на іншае, спытаў, чаму Уладзімір Андрэевіч не перабіраецца ў сталічны Мінск.

— Прыжыўся я там, пазнавата мяняць і працу, і побыт, і асяроддзе, — уздыхнуў Калеснік.

**1 лістапада.** Збіраюся ў турыстычную паездку ў Індыю. Трэба абысці ўсіх урачоў, зрабіць неабходныя прывіўкі. Урач-хірург знайшла грыжу. Знайшла і развяла рукамі: «Не магу вас пусціць». Я стаў прасіць, сказаў, што гэтая паездка для мяне вельмі важная. «А калі абвастрэнне? А грыжа мае схільнасць да абвастрэння. Тады патрэбна будзе аперацыя. Аперацыя за мяжой — дорага. Хто будзе плаціць? Дзяржава? Не. Вылічаць з маёй зарплаты, а яна, вы ведаеце, невялікая. Адэскія біндзюжнікі ўжо праз тыдзень пасля такой аперацыі цягаюць мяшкі». — «Але ж няма часу!» — упрошваў я. Ледзь удалося ўгаварыць. «Калі забаліць, — змякчылася ўрач, — пакладзіце на тое месца штонебудзь гарачае і датрывайце да вяртання». Я запэўніў, што менавіта так — у выпадку чаго — і зраблю.

Адкуль у мяне гэтая грыжа, з чаго яна прыключылася? Ці не з суботніка яна, калі рваў шуфляй застываючы бетон?

**2 лістапада.** Маю ўжо білет на цягнік да Масквы. Ад'язджаю заўтра вечарам. Адпраўленне самалётам з Масквы.

Пазваніў Аляксандру Амвросьевічу, павіншаваў з 65-годдзем. Крытыкуе яго радыё «Свабода» за тое, што ўступіў у партыю.

**3—20 лістапада.** Нарэшце вярнуўся. Тыдзень у Шры-Ланцы і тыдзень у Індыі. Але запішу ўсё па парадку. На вакзале ў Мінску праводзіла Тамара і Коля Заранок са сваёй дзяўчынай. На раніцу быў ужо ў Маскве. Група сабралася ў політэхнічным музеі, дзе месціцца праўленне ўсесаюзнага таварыства «Веды», якое і пасылае нашу групу за мяжу. У групе дзесяць чалавек і кіраўніца, якая ведае англійскую мову і ўжо асвоіла гэты маршрут. Пару чалавек з Масквы, адзін з Арэнбурга, адзін з Новасібірска, грузін, эстонец, казах, узбек і інш. У асноўным вучоныя, выкладчыкі. Прайшлі пільны інструктаж: не піць вады з водаправода, часцей мыць рукі, не ездзіць на рыкшы, бо гэта не да твару савецкаму чалавеку, не адлучацца ад групы і да т. п.

Даведаліся мы і пра такія невясёлыя рэчы, што ў Індыі, дзе насельніцтва 600 млн. чалавек, 6 млн. хворых на праказу, 15 млн. венерычных хворых,

5 млн. сляпых. Прырост насельніцтва — 2,5 працэнта ў год, ужываюцца меры па стэрылізацыі.

Вылятали вечарам, з аэрапорта «Шарамецьева». Ляцелі ў сталіцу Шры-Ланкі Каломба (першым у праграме стаяла Шры-Ланка) праз Тэгеран і Карачы. Вялікі ІЛ-62 патрабаваў дазапраўкі. Да Каломба падляталі раніцай, у ілюмінатары білі зыркія промні ўзыходзячага сонца, а знізу шырока разлёгся Індыйскі акіян. Прызямліліся, пачуўшы, як шасі грузна ткнулася аб бетонную паверхню аэрадромнай паласы. Выходзячы з душнага чэрава самалёта, я адразу адчуў пяшчотны, але моцны, духмяны водар цэйлонскага паветра, настоенага на паўднёвай расліннасці, на кветках, травах, чаі, акіянскіх водарасцях. Нешта падобнае адчуваў калісьці ў Гагры, калі адпачываў там разам з Караткевічамі.

З аэрапорта камфортны мікрааўтобус (лепшы за наш уазік) з прадстаўніком турфірмы даставіў у гатэль «Шры-Ланка» ў цэнтры Каломба. Шмат жадаючых было паднесці чамадан. Гэта такія ўвішныя смуглявыя падлеткі, ці, як кажуць беларусы, падлёткі. Падлёткі — больш падыходзіць, бо як схопіць чамадан, ускіне яго на плечы, дык, здаецца, ляціць паперадзе. Ты паднімаешся ліфтам на дзясяты паверх, а ён ужо там, стаіць ля дзвярэй і чакае. Штось трэба даць — цыгарэтку, цукерак ці драбочак цукру.

Па абедзе да мяне падышоў работнік пасольства і адначасова дырэктар Дома савецкай культуры ў Каломба і нечакана для мяне папрасіў прачытаць лекцыю пра А. П. Чэхава. Адзначалася, аказваецца, 84-я гадавіна наведвання гэтым пісьменнікам вострава Цэйлон, дзе ён быў восенню 1890 года. Я не спецыяліст па Чэхаву, але адмаўляцца не выпадала. Быў, па праўдзе, здзіўлены, што яго тут ведаюць і памятаюць. Згадзіўся, тым больш, што да лекцыі яшчэ заставалася пару гадзін і можна было падрыхтавацца, прадумаць. Вечарам за мной заехаў той самы дырэктар і падвёз да Дома савецкай культуры, дзе мелася адбыцца гэтае мерапрыемства. У прасторнай зале сабраўся народ — палітыкі, пісьменнікі, студэнты, маладыя манахі з нагала паголенымі галовамі, апранутыя ці, хутчэй, загорнутыя ў адзенне аранжавага колеру. Першым выступіў сівы мужчына, член Фронту народных пісьменнікаў (у нас толькі некалькі народных, а тут цэлы фронт), доктар Ліль Гунасекара, які нагадаў біяграфічныя звесткі пра жыццё і творчасць А. П. Чэхава, абставіны яго знаходжання на Цэйлоне і водзыў пісьменніка пра гэты востраў (у лісце да знаёмага): «Я был в аду, каким представляется Сахалин, и в раю, т. е. на острове Цейлоне». Затым далі слова мне. Прызнаюся, хваляваўся, не ўпэўнены, што скажу нешта новае для слухачоў, але потым супакоіўся. Мяне перакладалі двайным перакладам: з рускай мовы на англійскую, а з англійскай — на мясцовую, сінегальскую. У паўзах можна было падумаць, як павесці гаворку далей, на чым зрабіць акцэнт. Атрымлівалася няблага. Раптам устае малады чалавек, па-цэйлонску загарэлы, са стогам чорных валасоў на галаве ды кажа:

— Чэхаў устарэў, і мне не зразумела, чаму савецкі прафесар вядзе размову пра яго, а не пра актуальнага сёння Горкага, які стварыў вобразы рэвалюцыянераў.

Я, як умеў, яму адказаў, што, маўляў, не варта супрацьстаўляць гэтых пісьменнікаў, што яны, адзін і другі, пісалі праўду. Аднак малады чалавек застаўся, мяркуючы па яго выглядзе, не згодзен і незадаволены.

Пасля лекцыі ў кабінеце дырэктара выпілі кавы і кока-колы (мне спадабаўся гэты напітак — столькі пра яго чуў, але ніколі не каштаваў), і ён патлумачыў, што мой апанент — адзін з так званай групоўкі «Тамільскія тыгры», якія змагаюцца за сваю самастойнасць. Потым дырэктар на службовым «фор-

дзе» павёз у гатэль. Па дарозе завярнулі на пляж (Каломба стаіць на беразе акіяна). Дырэктар пахваліўся, што ён дапамагае грашыма некаторым палітыкам левага накірунку.

І пачалося наша жыццё на Цэйлоне. Паказалі нам краіну. Шры-Ланка ў перакладзе з сінгальскай азначае «цудоўная краіна», «пэрэдайс», як кажуць цэйлонцы. Гэта значыць «рай», «эдэм». Сапраўды, прырода надзвычай шчодра адарыла гэты куточак нашай планеты. Пальмы, какосавыя арэхі, раскошныя паўднёвыя кветкі. І на схілах пагоркаў, вялікімі тэрасамі, плантацыі чаю. Экзотыка: малпы, чорныя сланы, «райскія птушкі» ў стракатым апярэнні. Падарожнічалі мы ў тым жа невялічкім аўтобусе з гідам, што сустрэў нас у аэрапорце. Дабраліся да Кандзі — старажытнай сталіцы вострава, якая нагадвае жывапісны парк — столькі тут вады, дрэў і зяляніны. Тут, у «Каралеўскім гатэлі», паводле сцвярджэння нашага гіда, начаваў у свой прыезд А. П. Чэхаў, любаваўся з яго акон прыгожым возерам, якое на Цэйлоне лічыцца сакральным. Каля возера адбываюцца нацыянальныя святкаванні, карнавалы са сланамі. Тут расце аграмаднае дрэва — магнолія, пасаджаная калісьці рускім царом Аляксандрам III, яшчэ калі ён быў маладым царэвічам.

У 1815 годзе Кандзі была абрабавана англічанамі, сярэбраных і залатых вырабаў у кандзійскіх храмах захавалася мала.

Нанач нам прызначылі «Каралеўскі гатэль», у якім начаваў А. П. Чэхаў. На кожнага асобны нумар. Ноччу назаляюць маскіты, таму над ложкам вісіць раскошны полаг з густой сеткай. Мэбля — старажытная, з нейкага моцнага, зацвярдзелага дрэва. Засынаў я з думкай, што, можа, у гэтым ложку спаў сам Чэхаў. Цалкам верагодна.

Наведалі многія мясціны — храмы, паркі, музеі, кемпінгі. Досыць цікава. Народ — прыгожы, асабліва дзяўчаты. Стройныя, з персікавым загарам.

Купілі падарункі дадому — цэйлонскія маскі. Яны шырока распаўсюджаны ў гэтай краіне як неад’емная частка народнай драмы і танцаў. Гэта — розныя гратэскныя выявы напаўбоскіх істот і людзей. Маскі тут вельмі папулярныя, асабліва ў вёсках.

Даведаліся аднак, што ў гэтай экзатычнай, крыху ленаватай краіне не ўсё так спакойна, як гэта можа здацца нявопытнаму турысту. Колькі гадоў назад былы студэнт, які скончыў універсітэт імя Лумумбы і вярнуўся на радзіму, узняў мяцеж з мэтай ні больш ні менш як узяць уладу і перабудаваць краіну на марксісцкі лад. Выступленне было бязлітасна падаўлена, пралілася кроў. Паўднёвыя жарсці разгараюцца… Але што да чаго, мы не распытвалі, бо нас папярэдзілі: фірма не любіць, калі турысты займаюцца палітыкай.

Настаў час перабірацца ў Індыю. Тут ужо карысталіся «боінгам». Сцюардэса тлумачыла па-англійску і паказвала, як трэба карыстацца выратавальнай камізэлькай. Адлегласць паміж востравам і мацерыком не вялікая. Пакуль яна тлумачыла, ляцелі ўжо над Індыяй і неўзабаве прызямліліся ў Мадрасе. Сустракалі супрацоўнікі турфірмы, усім нам павесілі на грудзі вянкі з нейкіх жоўтых духмяных кветак. Потым даведаліся: лотас.

Пасяліліся ў гасцініцы, і пачаліся вандроўкі па горадзе. Вось тут, на адной з плошчаў Мадраса, я і ўбачыў вялікую, пазелянелую ад вільготнага паветра з акіяна, скульптуру. Чымсьці паказалася мне незвычайнай, і я, пакінуўшы групу на аўтобусным прыпынку, падышоў да помніка. На цокалі па-англійску было напісана, што перада мной Свамі Вівекананда. Я ажно не паверыў сваім вачам. Той самы, чыю кнігу «Раджа-Йога» я прачытаў у далёкія школьныя гады! Прачытаў і спрабаваў карыстацца яе парадамі. Стаялі даты жыцця: «1863—1902». Сустрэча мяне ўсхвалявала, у такім выпадку паэты адгукаюц-

ца вершамі, але я не паэт. Дарэмна я, выходзіць, сумняваўся, ці ёсць на свеце, ці рэальны ён — Свамі Вівекананда, ці не містыфікацыя гэта. Гід расказаў, што Вівекананда вельмі паважаная ў Індыі асоба. Вядомы, як прапагандыст індуізму. Лічыў, што індуізм — «маці ўсіх рэлігій», што адзіным сродкам выратавання чалавецтва з'яўляецца зварот да духоўна-рэлігійнага досведу. Ідэалам асобы лічыў духоўную незалежнасць, адчужанасць ад усяго.

Выходзіць, што праз маё жыццё прайшоў яшчэ адзін лёс.

У Мадрасе — гэта самая паўднёвая кропка Індыі — я няўдала купаўся ў акіяне. Горш, чым Пячорын Лермантава ў «Тамані». Згодна з праграмай, завезлі нас на пляж адпачыць, размясцілі ў кемпінгу, у сплеценых з лазы хатках. З хатак усе мы рушылі на пляж. Пляж — пусты. Мусіць, ніхто тут не купаецца. У белым пяску там-сям віднеюцца не то конскія, не то кароўі чарапы, абмытыя акіянскай вадой. Я паазіраўся навокал. На ўсім узбярэжжы аніякай выратавальнай службы. А што, калі каму-небудзь яна спатрэбіцца? Разам з іншымі распрануўся і я (плаваю няблага) і смела паплыў ад берага. Насустрач дзьмуў паўднёвы вецер, гнаў да берага хвалі з белымі грабеньчыкамі. Калі так, разважыў я, то лёгка будзе вяртацца назад і прыпусціў тэмп. Радаваўся: купаюся ў Індыйскім акіяне! Калі пра гэта марыў! Такое і ў галаву не прыходзіла. Нарэшце, задыханы, спыніўся, азірнуўся назад. Бераг застаўся ўжо даволі далёка. Калегі на пляжы паменелі ў памерах, здаваліся дробнымі казюркамі. Можна было вяртацца, і я тым жа «кролем» паплыў назад. Праз некаторы час заўважыў, што плыву, працую і рукамі, і нагамі, а бераг не набліжаецца і «казюркі» не павялічваюцца. Больш таго, мяне нібы нават адносіць назад, на поўдзень, да экватара. Утварылася плынь ад берага (пра такое я і не ведаў): вецер дзьмуў у бок берага, а плынь гнала ваду назад, а з вадою і мяне. Адчуў, як ад страху закалацілася сэрца, і вырашыў узяць крыху ўбок, быццам наперарэз плыні, аднак бераг не набліжаўся, і намаганні мае засталіся марнымі. Тады мне прыйшло ў галаву даць нырца і паспрабаваць плыць пад вадой. Замітусіліся, здалося мне, «казюркі» на беразе. Заўважылі, відаць, што таплюся. У галаву палезлі дурныя думкі: «Гэта ж трэба было ажно сюды ехаць, каб утапіцца. Ужо лепш было б утапіцца недзе дома, чым у Індыйскім акіяне. Столькі будзе клопатаў для ўсіх, столькі пытанняў…»

Нырну, падплыву і вынырну. Аддыхаюся і зноў ныраю. Трымаю сябе пад кантролем. Заўважыў, што гэта дало вынік: бераг стаў набліжацца, і ў мяне прыбавіліся сілы. Нарэшце, нырнуўшы, убачыў дно, беднае, з чорнымі пісягамі. Дадаў намаганняў і ўжо паблізу берага паплыў без ныранняў. Урэшце дастаў нагою дна і яшчэ праз некалькі метраў стаў на ногі. Страшэнна змарыўся, змагаючыся з акіянам. І вады наглытаўся. Абяссілены, пастаяў. Потым пакрысе падаўся да берага. Крыху адпачыў, аддыхаўся. Успомніў, дарэчы, што не ў першы раз у сваім жыцці таплюся. Было ўжо такое ў дзяцінстве. Тапіўся ў Лясной, што цячэ каля самага Кругеля. Свая рака. Але плаваць не ўмеў, яшчэ толькі вучыўся. Пасля дажджу Лясная папаўнела, і мяне пацягнула на глыбіню. Выратаваў сябрук — Грыша Ільяшаў, крыху старэйшы за мяне. Выплысці ўжо не спадзяваўся, разгубіўся і ўжо думаў — канец. У галаве праімчалася, пранеслася ўсё пражытае, з поля вернуцца дзед з бабай і не знойдуць ключ ад хаты, які я, ідучы на рэчку, схаваў пад камень. Але, з дапамогай Грышы, выратаваўся. Каму, кажуць, лёс быць павешаным, той не ўтопіцца.

Плыў наўскасяк і значна аддаліўся ад таго месца, дзе знаходзілася група. Ну, думаю, пачнуць на мяне сварыцца, дастанецца мне за маё «плаванне». Яны ж перажывалі. Падышоў да іх і зразумеў, што ніхто нічога не заўважыў. Мне нават крыўдна стала. «Куды гэта вы хадзілі?» — спакойна спытаў стар-

шы. — «Купаўся». — «Бярыце сваю долю!» — і працягнуў мне паўшклянкі каньяку. — «Замерз?» — «Не». Але каньяк быў дарэчы, каб зняць стрэс.

Пасля Мадраса быў Бамбей. Зноў ляцелі самалётам, ужо вінтаматорным, на ўнутранай лініі. І тут супрацоўнікі фірмы сустракалі вянкамі з жывых кветах лотаса. Пасялілі ў пяцізорачным дваццаціпавярховым гатэлі «Прэзідэнт», які, як шмат яшчэ па ўсім свеце, належыць Хітлану, яго фірме. Тут можна жыць, ніколі не выходзячы з памяшкання. У гатэлі ёсць усё — усе службы харчавання і побыту, магазіны, басейн, спартыўныя залы, вялікія залы, якія можна арандаваць для ўрачыстасцей, канферэнцый і ўсяго іншага. Ёсць тэлетайп. Мясцовая кінастудыя здымала тут, у фае, нейкі фільм з музыкай і танцамі. Па ступеньках бегалі, мітусіліся акцёры.

Вечарам мы выйшлі на прагулку. На Бамбей апусцілася паўднёвая ноч, і наш гатэль з зырка асветленымі вокнамі здаваўся фешэнебельным караблём, які кудысьці плыве ў густым цемрыве ночы. Цемра аднак была няпоўная. Вакол гатэля, на пустыры варушыўся цэлы табар з буданамі і дзіравымі палаткамі, гарэлі кастры, снаўдаліся нейкія людзі, гатуючы, мабыць, вячэру. З недарагіх транзістарных прыёмнікаў гучала бадзёрая музыка…

Недалёка ад Бамбея, у акіяне, ёсць востраў Элефант. Туды мы назаўтра і паехалі, дакладней, паплылі на лядашчым, старым, як свет, катары, які больш нагадваў карэту. Агледзелі гэты Элефант (слон — па-англійску). Цікава. Тут знаходзіцца высечаны ў скале храм з вялікімі шматфігурнымі барэльефамі на сценах — выявамі індуісцкіх багоў і багінь. Тут іх цэлы пантэон: Брахма, Крышну, Шыва, Калі і інш., кожны з якіх мае сваю іпастаць, свае рысы і прадвызначэнне. Калі — жонка Шывы, увасабляе грозны, гібельны пачатак, энергію разбурэння. Я нават падумаў, што беларускія словы <u>каляны</u>, <u>каліва</u>, <u>каліць</u> і інш. паходзяць да гэтага кораня і семантыкі — Калі.

Сланоў на востраве мы не бачылі, затое шмат малпаў, і многія вельмі нахабныя, надта любяць ласункі розныя і прысмакі. Цукеркі, цукар.

У Бамбеі жывуць парсы — па веры вогнепаклоннікі. Гэта — рэлігійная абшчына зораастрыйцаў. У храмах у парсаў ніякіх абразоў няма, сцены голыя — толькі ў алтары гарыць агонь. Шлюбам заручаюцца парсы яшчэ ў дзяцінстве. Жаніх мае нявесту, а нявеста жаніха. Прыйдзе час, падрастуць, — жэняцца.

Але самае, пэўна, цікавае у іх — абрад пахавінаў. У зямлю яны, як хрысціяне, не закопваюць, але і не спальваюць, як індусы. У амерыканскіх індзейцаў існаваў звычай хаваць нябожчыкаў на дрэвах. Парсы і гэтага не робяць. Нябожчыкаў кладуць на дахі высокіх вежаў, пад адкрытым небам. Мы бачылі такія вежы ў адным з паркаў Бамбея. На гэтых вежах і на навакольных усохлых дрэвах стаяць магутныя арлы — грыфы, якія і зжыраюць гэтых нябожчыкаў. Косці праз рашотку ападаюць уніз.

Наведалі мы і школу ёгаў, але ніякіх цудаў, прызнацца, не паказвалі. Толькі на адной з фатаграфій убачылі, як дасканалы ёг завіс над зямлёй, а на другой фатаграфіі відаць было, як схуднеламу ёгу настолькі ўцягнула жывот, што відаць былі пазванкі на хрыбетніку.

Спаткалі ў Бамбеі людзей, на маё здзіўленне, абсалютна голых. Яны трымаліся неяк адасоблена, не разумеючы, чаму на іх звяртаюць увагу. Гэта, растлумачыў нам гід, індусы — дзігамберы, «апранутыя паветрам», як іх называюць. Жывуць яны ў гарах, але вырашылі, відаць, наведаць горад. Зрэдчас гэтак робяць.

Што кідаецца ў вочы, дык гэта рэзкія сацыяльныя кантрасты: багацце і галеча, раскоша і лахманы. Шмат народу пабіраецца, просіць, часам нахабна. Асабліва дзеці, падлеткі. Літаральна выцягваюць з кішэняў. Цікава, што да

англічан (якіх сярод турыстаў тут шмат) яны не чапляюцца, а нас, савецкіх, проста за гузікі хапаюць. У мяне выцягнулі з кішэні расчоску.

Супрацоўнікі савецкага консульства ў Бамбеі, даведаўшыся, што я з Беларусі, папрасілі прачытаць лекцыю пра творчасць Івана Мележа, пра яго раманы, за якія ён адзначаны Ленінскай прэміяй. Мележ — лаўрэат Ленінскай прэміі, і гэта ўзвышае пісьменніка ў вачах маіх слухачоў. Лекцыя адбылася ў рэзідэнцыі консула, у садзе, пад адкрытым небам. Раней гэта быў маёнтак нейкага раджы. Цяпер наш кансулят, ахоўваецца непальцамі.

Індыйская кухня такая ж экзатычна-вострая і своеасаблівая, як і на Цэйлоне, дзе нас частавалі пякучым мясным блюдам **кары**. Пасля адпіваліся чаем. Тут таксама пякучасці хапае. Да мясных блюдаў абавязкова падаюць прыправу — **чатні.** Нешта падобнае на кампот, але іншае на смак, бо адначасова і салодкае, і горкае, і кіслае, і палкае (у роце гарыць!). Гід тлумачыў, што тут ёсць усё: і памідоры, і яблыкі, і манга, і цыбуля, і перац, і сельдэрэй, і лімон, і цукар, і соль, і шмат што яшчэ. Чатні ёсць, а хрэну і гарчыцы, вядома, няма. А некаторыя па роднай гарчыцы ўжо і засумавалі.

Пасля Бамбея апынуліся ў Дэлі. Сталіца — на закуску. Як звычайна, уладкаваліся ў гатэлі, і адразу ж нас запрасілі ў савецкае пасольства. Я разлічваў на нейкага высокага чыноўніка, але да нас выйшаў усяго толькі саветнік па сельскай гаспадарцы — паўнаваты мужчына з прымятым тварам. Гаварыў пра сельскую гаспадарку Індыі. Краіна — аграрная, 40 працэнтаў насельніцтва жыве за рысай беднасці. Зямля ў асноўным у руках памешчыкаў і кулакоў. Урад робіць стаўку на кааперацыю. Цікава было пачуць пра «зялёную» рэвалюцыю ў Індыі. Гэта так званая «пшанічная» рэвалюцыя, звязаная з вывядзеннем высокаўраджайнага гатунку пшаніцы з кароткім сцяблом. Дае ўраджай 18 цэнтнераў з гектара (у нас, у Беларусі, 17 ц.). Не хапае хімічных угнаеннняў, не хапае тэхналогій, ёсць перабоі з падачай электраэнергіі. Словам, краіна развіваецца.

— Краіна складаная, — працягваў саветнік, — супярэчлівая. Расшчапляюць атам, рыхтуецца індыйскі спадарожнік, а ў глухамані яшчэ квітнеюць забабоны, здараецца, што прыносяцца чалавечыя ахвяры.

Тут каля дзясятка розных палітычных партый, у тым ліку дзве камуністычныя — прамаскоўская і прапекінская, надта экстрэмісцкая па характары. Але ж дэмакратыя!

Скончыўшы, саветнік нечакана спытаў:

— А ці няма ў вас з сабой сала? Я люблю гэты прадукт, а тут яго не дастаць.

Саветнік аказаўся ўкраінцам. Гарачыня, а яму хочацца сала. У некага знайшоўся кавалак ужо з'ёлклага сала, і яно стала ганарарам яму за інфармацыю.

У мяне ўсталяваліся сяброўскія адносіны з Пацхішвілі — такім жа, як і я, членам групы. Ён мне прызнаўся, што вельмі хацеў бы праехацца на рыкшы, але адзін баіцца ды і грошай няма. У мяне таксама не было грошай, але была прыгожая аўтаручка. Такія рэчы тут у хаду. Вяртаючыся з пасольства, мы адарваліся ад групы і нанялі рыкшу. Ён ажно загарэўся, убачыўшы аўтаручку. Пёр да гасцініцы без перадыху. Спынілі яго недзе за квартал, бо баяліся, каб не ўгледзеў хто з нашых, але ўсё абышлося.

Назаўтра павезлі ў Агру — горад непадалёку ад Дэлі. У далёкім мінулым (XVI—XIX стст.) Агра з'яўлялася рэзідэнцыяй Вялікіх Маголаў. Застаўся палац і многае яшчэ. Але самае галоўнае — выдатны помнік індыйскай архітэктуры, маўзалей султана Шах-Джахана і яго жонкі Мумтаз-Махал. Будынак з пяццю купаламі вышынёй 74 метры. З белага мармуру! З мазаікай з каляро-

вых камянёў. Да Тадж-Махала прымыкаюць чатыры мінарэты і сад. Цяжка, немагчыма перадаць гэтую прыгажосць. Тадж-Махал трэба бачыць.

А якія легенды вакол гэтага мемарыяла! Легенда пра надзвычайнае каханне Шах-Джахана да сваёй жонкі Мумтаз-Махал, якая нарадзіла яму нешта з пятнаццаць дзяцей. Пра тое, як сын Джахана Акбар сапхнуў бацьку з трона і пасадзіў у турму, адкуль аслеплы Джахан праз люстэрка ўзіраўся ў далёкія абрысы Тадж-Махала, дзе знаходзіўся вечны прытулак яго каханай жонкі і дзе ўрэшце пахавалі і яго самога…

З Агры вярталіся ў Дэлі, як з сівой гісторыі ў сучаснасць. Наведалі музеі, паркі, прытуляліся да слупа з невядома якога металу, які быццам зваліўся з неба. Трэба задумаць жаданне, прытуліцца да слупа спінаю і абхапіць рукамі. Калі абхопіш — жаданне збудзецца. Я-такі абхапіў. Былі на тым месцы, дзе адбывалася ўрачыстае пахаванне Джавахарлара Нэру, дзе спальвалі яго астанкі.

І яшчэ пра адно, пра што я ведаю з кніг, а тут, у Індыі, убачыў наяве: па вуліцах бадзяюцца без усялякага нагляду старыя, схуднелыя каровы. Гэтыя жывёліны лічацца свяшчэннымі. Датуль, пакуль карова дае малако, гаспадар трымае яе ў хляве. А далей, пад старасць, калі карова запускаецца, ён выганяе яе «на свой хлеб». Вось яны і ходзяць, непрыкаяныя, у пошуках спажывы. Карова — свяшчэнная. З Эстоніі (гэта расказваў саветнік) была накіраваная партыя мясных кансерваў з эмблемай камбіната на банцы: круг, а ў ім галава каровы. Індзійцы адмовіліся прыняць. Тым болей, што большасць з іх вегетарыянцы. Шмат беспрытульных кароў і ў Дэлі…

Вельмі здзівілі адносіны індусаў да жыцця і смерці. У Рабіндраната Тагора сказана: «Рожденье и смерть — проявленья единой судьбы». Паэт, відаць, адлюстраваў народны погляд на гэтыя рэчы. Бачыў пахаванне, суправаджаемае вясёлай музыкай, а паперадзе нейкі чалавек размахваў рукамі і кружыўся ў танцы. Танцу прыпісваецца магічная роля, ён сімвалізуе абнаўленне свету. Колер смутку тут, як і на Цэйлоне, белы.

Дужа здзівілі мяне адносіны да сферы сексу. Далёка не патаемныя, а наадварот — нейкія бессаромна наіўныя, адкрытыя, у чымсьці сакральныя. Але і досыць зніжаныя. У грамадскіх месцах, у храмах, нярэдка можна сустрэць выявы інтымных момантаў і поз у палавых стасунках паміж мужчынамі і жанчынамі. Адчуваюцца нацыянальны стыль і традыцыі.

Неяк мы з Пацхішвілі ішлі шматлюднай вуліцай і раптам чуем, як нехта зазыўным голасам прамаўляе:

— Woman! Woman![1]

Гэта быў малады мужчына ў джынсах і лёгкай кашулі. На нагах, як і ўва ўсіх тут, сандаліі. Высока падняўшы руку з растапыранымі пальцамі, ён паўтарыў адно і тое ж: «Woman, woman!»

— Зазывала! — першым здагадаўся сябар, тузануўшы мяне пад локаць. — Жанчыну прапаноўвае. Вунь, глядзі, пальцы расставіў. Пяць рупій! Пойдзем?

Вядома, з боку сябра гэта быў напэўна жарт. Прапанова зазывалы была небяспечная ва ўсіх адносінах…

Тэрмін нашай паездкі заканчваўся, і пара было вяртацца дадому. Былі ўжо куплены і падарункі: цэйлонскія маскі і дзясятак-паўтара дробных пакецікаў чаю. Дома чай — дэфіцыт, а тут танны. Захацелася купіць нешта для Тамары. Наткнуўся на пярсцёнак з чырвоным каменьчыкам — александрытам. Не хапала грошай, дык я прадаў сваю электрабрытву і гадзіннік, але пярсцёнак купіў. Сабе хацеў купіць пярсцёнак з агатам, але не было за што. Шкада, агат носяць філосафы.

---

[1] Жанчына! Жанчына! (англ.).

Злавіў сябе на думцы: езджу за мяжу не толькі, каб нешта пабачыць, але і каб штосьці купіць. Чаго ў нас няма.

Назад ляцелі тым жа маршрутам. З Масквы — поездам.

Пабачыў шмат — і ў Індыі, і на Цэйлоне. Індыя, здалося мне, у адрозненне ад Шры-Ланкі, краіна больш жывая, дынамічная. Самае моцнае ўражанне і перажыванне — знаёмства з Індыйскім акіянам, які так крэпка залучыў мяне ў свае абдымкі і не хацеў выпускаць.

**21 лістапада.** Я дома, з сям'ёй. Абняла мяне маленькая наша Волечка. Расказваю, што бачыў і што перажыў «у далёкім краю» (М. Багдановіч), але пра тое, як тапіўся ў Індыйскім акіяне, каб не напалохаць, не кажу.

**22 лістапада.** Выйшаў на работу. Раздаў чай. Пакецікі маленькія, але ўспрынята добра.

**23 лістапада.** Працягваецца семінар творчай моладзі ў Каралішчавічах. Запрошаны маладыя празаікі, паэты, крытыкі з Мінска і іншых гарадоў і раёнаў Беларусі: В. Гігевіч, А. Камароўскі, В. Пак, С. Жахавец, Л. Цыхун, Р. Літвінаў, А. Емяльянаў, Л. Турбіна, У. Марук і інш. Новая прыліўная хваля ў літаратуры.

На заключны дзень разам з іншымі прыехаў і я. Перад абедам абмяркоўвалі творы семінарыстаў, чыталіся вершы.

— Хай голас дасць! — загадным тонам адгукаўся Піліп Пестрак, калі хтосьці з маладых паводзіў сябе залішне сціпла. Амаль як Сакрат, які казаў: «Загавары, каб я цябе ўбачыў!»

Разглядаліся пытанні майстэрства. А. Вялюгін у майстэрстве паэта асабліва цэніць гукапіс. Гукапіс — рэч каштоўная, але не варта зніжацца да таго, каб рабіць сабе з гукапісу куміра, пакланяцца яму.

І яшчэ. У маім становішчы нельга, але калі б было можна, я параіў бы маладым прачытаць Біблію. Там ёсць думкі, адрасаваныя якраз ім, маладым. Напрыклад: «Нічога канчатковага ў свеце яшчэ не адбылося, апошняе слова пра свет яшчэ не сказана, свет адкрыты і свабодны, яшчэ ўсё наперадзе і заўсёды будзе наперадзе».

Засцярога крытыкам: «Не трэба фарсіраваць геніяў!» Засцярога — правільная. Каб не закружылася галава.

У Каралішчавіцкім лесе глыбокая восень. На дрэвах яшчэ вісяць апошнія пацямнелыя лісты. Крычаць і сварацца паміж сабой сойкі. На крылах у іх бела-блакітныя палоскі. Адчуўшы небяспеку, хаваюцца паміж лісця.

На завяршэнне семінара сакратар ЛКСМБ Анціпаў уручаў некаторым удзельнікам граматы. Атрымала грамату і Вольга Іпатава, але, крыху счакаўшы, вярнула назад, спаслаўшыся на тое, што не ўзнагароджаны Алесь Разанаў. Мне гэта не спадабалася.

**26 лістапада.** У клубе СП сустрэў Мележа і сказаў, што чытаў у Бамбеі лекцыю пра яго раманы.

— Дзе? — не дачуў ці не паверыў Іван Паўлавіч. — У Бамбеі? Гэта ж, мабыць, у Індыі!

— У Індыі, — пацвердзіў я.

— Няўжо ажно там пра мяне ведаюць?

— Гэта было ў савецкім консульстве.

— А-а-а, у консульстве. Ну, там павінны ведаць.

Відаць, што ён не абы-якой думкі пра свае дасягненні. Дык яны гэтага і заслугоўваюць. У раманах Мележа і сапраўды ёсць пэўныя адкрыцці. Адно з такіх адкрыццяў — Іван Анісімавіч Апейка. Ён, між іншым, больш, чым іншыя героі, нагадвае мне постаць самога Мележа, яго характар і асобу. Апейка ў значнай ступені — вынік аўтарскага самавыяўлення, сцвярджэння сваіх асабістых гуманістычных ідэалаў.

Мае, безумоўна, рацыю Д. Бугаёў, калі падкрэслівае, што ў асобе Апейкі Іван Мележ паказаў маштабны характар камуніста — ленінца, сфарміраваны складанымі ўмовамі рэвалюцыйнага часу. У гэтым сапраўды народным па сваіх глыбінных вытоках характары знайшла сваё яркае ўвасабленне гуманістычная сутнасць сацыялістычнага грамадства.

А хіба ж не падобны на яго сам Мележ? Нацыянал-камуніст, як і Апейка.

Хваліць кнігу А. Адамовіча «Горизонты белорусской прозы», якая выйшла нядаўна ў Маскве.

**29 лістапада.** М. Лынькоў узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Споўнілася 75 гадоў. Дні два назад у Бабруйску адбыўся прысвечаны яму ўрачысты вечар. Выступалі С. Грахоўскі, Я. Казека, В. Вітка, А. Зарыцкі. Хлопцы з таго краю.

**30 лістапада**. Быў з Тамарай у гасцях у Заранка. Тым часам, пакуль я бадзяўся па Індыі, ён згуляў вяселле. Жонка вельмі прыгожая. Называе жонку каралевай. Яна ўкраінка, частавала палтаўскім баршчом і варэнікамі з капустай.

Дай ім Бог шчасця!

**2 снежня.** Пазванілі з лечкамісіі: падышла чарга класціся на аперацыю — на грыжу, якую я зарабіў на суботніку. Цягнуўся ў працы за Машэравым. (Галоўнае, што тую бетонную пляцоўку пад будучы цэх пасля нас перараблялі).

**17 снежня.** Вярнуўся з Аксакаўшчыны. Перанёс аперацыю на грыжу. Апераваў хірург Ярашэвіч. Спецыяліст — залатыя рукі. Апроч таго, з гумарам. Гаварыў са мной па-беларуску. Злева стаяў, асісціраваў, другі хірург, Іван Фёдаравіч. Таксама майстар.

Знешне на грыжу нішто не паказвала і не балела. Адно пагроза, што можа зашчаміць. Прызнацца, хваляваўся. Успамінаў адэскіх біндзюжнікаў: гераічныя людзі! У палаце чуў размову калег па няшчасці. Адзін гаварыў: «Мне казалі, што я ўжо адсюль не выйду». — «Выйдзеце», — няўпэўнена суцяшаў яго сусед.

Усё абышлося. Дзякуй урачам. Аперацыя прайшла пад мясцовым наркозам. Са стала на каталку пералазіў сам, амаль без дапамогі. Аб гэтым чамусьці наказвала Тамара — каб сам пералазіў. Ведае, што я нялёгкі…

У палаце разам са мной ляжаў мой знаёмы, былы дырэктар Брэсцкага музвучылішча Міхаіл Солапаў. Яму выдалілі жоўцевы пузыр і ўставілі ў рану, як звычайна ў такіх выпадках, гумовую трубку. Лежачы ў ложку, ён няўдала павярнуўся, і трубка правалілася ў жывот. Гэта здарылася ў пятніцу, дык цярпеў да панядзелка. У панядзелак павалаклі на рэнтген, а потым і на аперацыйны стол і тую трубку дасталі. Цяпер крэкча, бо баліць.

Солапаў — цікавы чалавек. Былы франтавік. Родам з Арлоўскай вобласці. З дробных дваран-аднадворцаў. Аднадворцы — нашчадкі старажытных полаўцаў, пра якіх ідзе размова ў «Слове аб палку Ігаравым». Калі я яму пра гэта сказаў, ён быў вельмі здзіўлены. Прыгадаў яму апавяданне Тургенева «Однодворец Овсянников».

На далечванне ў санаторый «Аксакаўшчына» паехалі разам. Па вечарах тут танцы. Солапаў — выдатны танцор, у першы ж вечар, не раздумваючы, кінуўся ў круг ды так стаў выбіваць чачотку, што аніяк бы не паверыў, што толькі што перад гэтым ён перанёс дзве аперацыі запар. Больш таго, без жоўцевага пузыра ён, здаецца, стаў яшчэ больш увішны (успомніліся «палавецкія пляскі» з вядомай оперы). У мяне з танцамі пакуль што горш.

**18 снежня.** Выйшаў нарэшце на работу. Тут усё па-ранейшаму, нічога не памянялася. Згодна з французскай прымаўкай, гэта не так і блага.

**19 снежня.** Рыхтуем даклад Машэраву да чарговага пленума ЦК КПБ. Скалацілі брыгаду, якая мае працаваць у Заслаўі, у саўмінаўскай рэзідэнцыі.

Тут жылі яшчэ нядаўна такія візіцёры, як Л. Брэжнеў і Ж. Пампіду. Камендант (жвавая жанчына) расказвала, што вечарам асабіста кіпяціла ваду, і гарачы чайнік камердынер прыкладаў прэзідэнту да паясніцы. Пампіду скардзіўся на боль у нырках.

У нас свая работа — нацэльваемся на даклад. На пачатку Пётр Міронавіч правёў з намі інструктаж. Гаварыў гадзіны тры, галоўным чынам пра «аграрную сферу», мы запісвалі. Ён, заўважыў я, любіць, калі за ім запісваюць. Зрэшты, гэта ўласціва любому начальству.

— Даклад не простой, — папярэдзіў ён, закурваючы свой «Phillip Morris». — Патрэбны новыя ідэі, нельга трапляць у палон да старых паўтарэнняў. Трэба запрасіць саабражэнія ў Мінкульце, дзяржкамітэтах, аддзелах ЦК.

Кіраўнік групы Юрый Пятровіч спытаў у мяне:

— Ну, а што літаратары?

Калі што — дык адразу пісьменнікі. Але пытанне тут ёсць. У якой ступені наша літаратура судакранаецца з патрэбамі часу? Як яна адчувае сябе ў кантэксце гэтых патрэб? Што гэта за патрэбы?

Я — крыху адцягнена — сказаў, што няблага было б паставіць перад нашым літаратуразнаўствам і крытыкай задачу, каб яны разгледзелі пытанне, як у сённяшнім складаным свеце, ва ўмовах грамадска-гістарычнага жыцця другой паловы XX стагоддзя, беларуская літаратура (проза, паэзія, драматургія, крытычная думка) шукае і сцвярджае свой напрамак развіцця — як частка і з'ява шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Якія працэсы адбываюцца ў нацыянальных літаратурах пад уплывам таго эстэтычнага ўзаемадзеяння і ідэалагічнай палярызацыі розных сіл і з'яў у свеце, што назіраюцца сёння ў савецкай літаратуры? Літаратура імкнецца забяспечыць гармонію старога і новага…

Машэраў аднак павёў гаворку ў іншым кірунку, спыніўся на недахопах пісьменніцкага майстэрства. Ён лічыць, што пісьменнікам нестае майстэрства, багацця і дасканаласці мовы, таму шмат няўдалых твораў. Мне падумалася, што яго думкі пераклікаюцца, а ў нечым і супадаюць з думкамі аўтара «Сказа пра Лысую гару». Мала ўвагі, маўляў, надаём майстэрству… І яшчэ ён сказаў:

— Я даўно над гэтым думаю. У Мінск трэба запрасіць літаратараў з усяго Саюза і пагаварыць пра нашу ваенную літаратуру. Наступны год — юбілейны, 30-годдзе Перамогі. Я мяркую, што ў наступным годзе мы такое мерапрыемства правядзём. Пра вайну напісана шмат, давайце паспрабуем разабрацца…

Завяршыў свой інструктаж Пётр Міронавіч пажаданнем, адрасаваным усім прысутным:

— Поначалу поработайте смело! А потом посмотрим.

Цікава, што там за мудрацы пішуць даклады Брэжневу?

**23 снежня.** У Заслаўі. Працуем над дакладам. У час адпачынку катаемся з Жэнем Бабосавым на лыжах. Праз дзень прыязджае Пётр Міронавіч, праводзіць гутаркі. Агульнавядома, што чым вышэй чалавек узнімаецца па службовай лесвіцы, тым менш у яго спагадлівасці і чалавечнасці. Пра Машэрава такога не скажаш. А службовы воз у яго нялёгкі.

Гартаючы неяк томік Петраркі, я прачытаў: «Калі б людзі разумелі, наколькі цяжкае вышэйшае становішча, яны не дамагаліся, а баяліся б яго». Але ўлада прыцягвае.

Вечарам Пятру Міронавічу напалілі лазню. Пасля яго папарыліся і мы. Потым сядзелі за сталом: закуска, чай і бутэлька гарэлкі. Вася Каленчыц разліў. Усе паглядзелі на налітыя чаркі, пасмяяліся, але ніхто нават не дакрануў-

ся. Баяцца адзін аднаго. А мая рука неяк пацягнулася. Я ўзяў налітую чарку і выпіў. Трэба ж ратаваць гонар кампаніі.

**26 снежня.** Вярнуўся з Заслаўя. Далажыў загадчыку аддзела, як ішла праца над дакладам П. М. Машэрава. Пётр Міронавіч ужо азнаёміўся з тым, што атрымалася. У цэлым матэрыял, на яго думку, пакідае неблагое ўражанне, дае правільны накірунак, ёсць раздзелы і падраздзелы, якія могуць з'яўляцца добрай асновай.

Мяркую, што да Новага года скончым.

Сёння ў мяне дзень нараджэння. Адзначалі сціпла, па-сямейнаму. Начую дома.

**27 снежня.** Стары Гётэ, успамінаючы мінулае, перабіраючы ў памяці падрабязнасці пражытага, прызнаваўся (пра гэта сведчыць яго сакратар Экерман), што за ўсё жыццё толькі 15 мінут быў шчаслівы. Для Гётэ-алімпійца, задаволенага жыццём, які ведаў і ўмеў браць ад яго насалоду, малавата. Але цікава, што гэта былі за мінуты? Якія?

**29 снежня**. І. Чыгрынаў атрымлівае Дзяржаўную прэмію БССР як адзін з аўтараў сцэнарыя тэлефільма «Руіны страляюць…» Значыць, Іван Гаўрылавіч нездарма прыходзіў, нездарма скардзіўся.

Атрымаў прэмію і Новікаў.

**30 снежня.** У Кулакоўскага быў П. Пестрак. Прыходзіў плаціць партузносы. Зноў разводзіў рукамі: «Іду да цябе, Аляксей, і баюся, што па дарозе магу згубіць партбілет». Гэта мне перадаваў Кулакоўскі. Мусіць, старэе Пілip Сямёнавіч. Згубіць партбілет ён у душы баяўся ўсё жыццё, а пад старасць страхі вылазяць напаверх.

**31 снежня.** Сёлета А. Адамовічу прысуджана Літаратурная прэмія Міністэрства абароны СССР за «Хатынскую аповесць». Заслужана.

Варта было б адзначыць і кнігу «Я з вогненнай вёскі…», якую нездарма называюць фактам грамадзянскага подзвігу трох пісьменнікаў. На кожнай старонцы кнігі — чалавечая кроў, горкія слёзы, удушлівы пах палаючага «сінім агнём» чалавечага цела. Ці можна, знаходзячыся адзін на адзін з усім гэтым, ужываць слова «жыццё»? І як назваць кнігу пра гэта? Літаратурай? Не, гэта нешта іншае! Гэта — незагойны боль жыцця, загад людзям змагацца з тым, што пагражае жыццю. Часам здаецца, што аўтараў пакіне мужнасць, што яны, уражаныя адкрытым, застогнуць, закрычаць, выбухнуць градам праклёнаў. Але яны захоўваюць мужнасць. І гэта таксама ўваходзіць важкай часткай у высокае мастацтва, на ўзроўні якога створана кніга.

І крыху пра іншае. У Драздах для кіраўніцтва будуюцца дачы-асабнякі па шаснаццаць пакояў з кіназаламі, бібліятэкамі, басейнамі, саўнамі. І гэта ўсё, і абслуга — за дзяржаўны кошт. Успомніў, як сказаў Коля Заранок: «Камунізм — гэта ўтопія». Ён звязвае гэта з тым, што чалавечая прырода нязменная. Хваліўся, што прачытаў усяго Леніна, і аднекуль ведае, што жаданай ідэяй Маркса было выдаць дачок за багацеяў.

У Акадэміі навук звольнілі з працы Міколу Прашковіча, Сцяпана Міско і некаторых іншых. Прайшлі, чуткі даходзілі, рэпрэсіі на Украіне, пераследы за «нацыяналізм». Пачалі шукаць нацыяналістаў і ў нас, у Беларусі. Мне стала вядома, што шэф у сувязі з гэтай справай прапанаваў Машэраву вярнуць мяне назад у інстытут на пасаду старшага навуковага супрацоўніка. Бралі, маўляў, малодшым, а вяртаем з павышэннем — старшым. Я пра гэта не ведаў. А зусім неблагі варыянт. Машэраў не згадзіўся. З якіх меркаванняў — не ведаю.

***Працяг будзе.***



## Казімір КАМЕЙША

* * *

Вечназялёніцца ойчы наш край.
Ціхі наш звер і лагоднае птаства.
Выстудзіў час цябе на вятрах,
Пушчаў дрымотных вялікае княства.

Думна шуміць наш зялёны сабор,
Нават зімой ён не дрэмле.
Многа цяжару нясе над сабой
Вечназялёнае дрэва.

Час не парваў нашай памяці ніць
На лесасеках шалёных.
Хмарай зялёнай у небе шуміць
Вешчазялёная крона.

Дзе мой цар-дуб?
Яго здзек не мінуў,
Грозна маланкі яго крамсалі.
Божа, цара майго з пушчы шануй,
Хоць і шануецца сам ён.

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч** нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», у альманаху «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Зычу я крэмневай моцы камлю,
Добрага сну і сугрэву.
Моцна трымацца за гэту зямлю
Вучыць радзіннае дрэва.

## ЗНАХОДКА

**1**

Стары акоп, зацягнуты травой,
Ужо і мне, і памяці нязручны.
Пісала не чарнілам, а крывёй
Сама вайна вучнёўскі мне падручнік.

Я адхіну лапатай цёмны ком…
Стары гадзіннік, што іржа не з’ела,
Пацягнецца іржавым ланцужком
У дзень, што смерць закрэсліць захацела.

Стары, даўно аслеплы цыферблат.
І лічбы, што крывёй сцяклі па гліне…
Спыніліся гадзіннік і салдат,
А час пайшоў, а часу ўжо не спыніш.

Што дзень тварыў на гэтым рубяжы,
Як гладзіў ён усё смяротным прасам,
Ты сам, салдат, пра ўсё мне раскажы,
А што не так, — гадзіннік хай паправіць.

Сціралася жывое ў парашок,
Каціліся агнём да небакраю.
Калі такое пекла ты прайшоў,
Цябе спалохаць можна толькі раем.

**2**

Згадаць магчыма,
Нельга паўтарыць.
Праклён не кінеш часу наўздагонку.
Палаюць танкі, і крывёй гарыць
Старая на экране кінаплёнка.

На вышыню, якую ўжо не ўзяць,
У вогненны той дзень, кашмарны самы,
Праз памяці прыцэл цяпер глядзяць
Героя сын
І сынаў сын таксама!..

## АКАРДЭОН

***Памяці Хведара Чэрні***

Не фанабэрысты, не горды,
На ўвесь Валожынскі раён
Такія мілыя акорды
Той выдаваў акардэон.

Як толькі жару мех падкіне,
Тут мёртвы б нават не драмаў.
З філфаку роднага багіню
Ён так пяшчотна абдымаў.

І так абдасць,бывала,кіпнем,
Што ўсё заскача неўпрыкмет,
І дзесь ля Вішнева усхліпне
Слязою бацькавай кларнет.

Ахрыпне, стоміцца за лета
І астывае пакрысе.
І ўсё было ў ім ад паэта —
Душа і выхадкі усе.

Тых нават цешыў,
Што таўкліся
Каля грымлівых радыёл.
Даўно, як спарышы, зрасліся
Паэт і ён, акардэон.

Ці ў даўняй згадцы ці на здымку
Заўсёды бачу, як праз сон:
Ідуць удвух яны ў абдымку —
Паэт і ён, акардэон.

Аж халадком бяруцца футры,
І тут жа цьмее ўваччу,
Гарыць на белым перламутры
Такі вясёла-чорны чуб.

Дзе прызастолены, дзе нашча,
А дзе расхрыстаны, бягом.
Але аднойчы ў пушчы нашай
Мы ўсё ж забылі пра яго.

І ён ірваў свае раменні,
На ўсе басы свае крычаў.
Поўз з плачам сябру на калені
І ціха ўсхліпваў ля пляча.

Ён сёння спачывае недзе
На ўзмежку смерці і жыцця,
А зоркі гузічкамі ў небе,
Нібы пад пальцамі, трымцяць.

Ён тымі зоркамі, як быццам
У дні, у сны мае глядзіць.
І цішыня сама баіцца
Яго знянацку разбудзіць.

## ГОСЦЬ

Ён зляцеў як з успаміну,
Бразнуў дзверцамі аўто.
Шумна падмятаў сцяжыну
Яго доўгі палітон.

Нашадворскі,
Нашаніўскі,
А ўсім іншым, як не наш.
Над парогам нізкім,слізкім,
Бліснуў ваксаю камаш.

Даўні гонар засцянкоўскі
Ёсць і ў поціску рукі.
Мала, мала Навікоўскі,
Госць па пяты гарадскі.

Сцены кружацца, бы ў вальсе,
Цешыць нос вяндліны пах.
Пан,за пана не  хавайся,
Стол сягоння ў хаце — пан.

Цягне з торбы госць гасцінцы,
Не скупое ў торбе дно:
Па кашульцы,
Па хусцінцы,
Па хітрынцы заадно.

Сочаць вочы ліхаманкай
То з-за печы, то з сянец,
Покуль выблісне маланкай
Той, з кішэні, гаманец.

Гэй, цішэй вы, засцянкоўцы!
Годзе госцева лічыць!
Слухай, як чужое слоўца
Нашай моцаю пярчыць.

Хоць і ў чаркі, і ў відэльца
Загранічны спрыт — не наш.
А манера апахмельцу,
Як відаць, паўсюль адна.

І тытунь заморскі паліць
Асавелая радня,
І абдымкаў не хапае,
Каб яе, радню, абняць.

І стала, і хаты мала,
А ўспамінаў дык зашмат.
Госцю ж трэба толькі мама,
А яе даўно няма.

## РАКА

Задумліва ўначы стаяць стагі,
Маўчыць зямля,
І птушка не ўзлятае.
Рака ўсё тая ж,
Тыя ж берагі,
Але вада ў рацэ зусім не тая.

Не той размах даўно ўжо у яе,
Але ўсё тыя ж зноў снуюцца цені,
Калі вярбовы кусцік адтае
У веснавым разбуджаным трымценні.

Калолася іголкамі яна,
Апальвала агнём балючым вочы.
Малітвай калыхалася ў званах,
Змывала сон мой сярод цёмнай ночы.

Была яна і з накіпам бяды,
І са слязой, то горкай, то салёнай,
Але была і ў гневе маладым,
І ў наледзі шумлівай і шалёнай.

Яна за марай бегла наўздагон
І плыт цягнула, колькі мела сілы.
Свой твар ёй улагоджваў плытагон,
Калі яго студзіў сякучы сівер.

Імчаў і сам калісь я ручаём,
Пакліканы здалёк усмешкай мілай,
Калі з вясны далёкай дзеўчанё
Тут ножкі свае беленькія мыла,

Калі тануў мой човен і бяду
Я шапкаю вычэрпваў у адчаі.
Ты пабунтуй.
Я дух перавяду,
Каб да ўспаміну новага прычаліць.

Мне боязна даўно ўжо за цябе,
І за сябе мне боязна таксама.
Спяваеш ты каліне і вярбе,
Хоць чуеш, што яны спяваюць самі.

Час на свой лад парэжа берагі,
Але твайго кірунку не зыначыць.
Стаяць, як здані, берагам стагі.
Маўчаць яны, а ўсё здалёку бачаць.

Ты будзеш човен мой яшчэ гайдаць
І новых нораў ля карчоў нарыеш.
Бяжыць, струменіць новая вада,
А беды ўсе, як і рака, старыя.

## НЯБЕСНЫ ЗАМАК

Замкі ўсе на зямлі нараджаюцца толькі,
А ён вырас з аблокаў, нібы ледзяны.
Без абрысаў зямных, як і неба, высокі,
І душою, і вокнамі скрозь люстраны.

Мо зусім і няма каралеўскае пыхі,
Але пыхі хапае нябеснай, сваёй,
Гэту б цішу ўзарваў толькі крык парадзіхі,
Але спіць тут на мяккіх пярынах спакой.

Ззяе мармур карарскі агнём панямонскім,
І крышталь налібоцкі, як Кромань, гарыць.
Струны ў арфах адсвечваюць воласам конскім,
З бляску ўсё,
як на тым залатым алтары.

Дыванамі персідскімі, шоўкам кітайскім,
Паясамі са Слуцка здзівіў мяне ён.
Нават пудра дыміцца лагодаю майскай,
І вясною маёва шапоча вазон.

Невясёла, здаецца, шыкоўнаму замку,
Калі ў сценах закон гаспадарыць замк†а.
Памяняць бы той бляск на звычайную клямку,
Каб яе не баялася ўнука рука.

Можа, Бог там жыве?
Можа, прывід якісьці?
Вунь ізноў белы цень мільгануў у вакне.
І скрабуцца па шкле нейкіх прывідаў кісці —
Напалохалі зноў аж да смерці мяне.

Недзе ж бачыў такі —
ці ў Парыжы, ці ў Празе.
Дай жа памяці, Божа, —
які то быў год?
Што мне замак,
калі гэты замак без князя?!
Гэта толькі музей – і ўсяго.

Князь адрокся ад замка?
О, так не бывае.
Ён не ў замку — ў легендзе намерыўся жыць.
Ён жыве.
І дружына яго баявая
Цераз сны, цераз вечнасць бяжыць і бяжыць...

* * *

Бераг там, якіх на свеце мала,
І ракі пружыністая ніць.
«Вось бы нам, — ты некалі шаптала, —
Хату на тым беразе купіць».

Час прабег. Вясна даўно мінула.
Зноў цябе на бераг пацягнула?

Як і там, над намі тое ж неба
Асыпае золатам жарству.
Хаты мне на беразе не трэба —
Я і так на беразе жыву.

Досыць толькі крок адзін ступіць —
І парвецца сонечная ніць...

* * *

Дзе клён абдымаўся з ялінай,
У пушчы самой пад крылом,
Жылі сабе Ясь і Яніна,
А нас з табой там не было.

Дажджынкамі таюць хвіліны,
І дзень суцішае ходу.
Зацягнуць і Ясь, і Яніна,
Да вечара песню вядуць.

Узбітыя гурбай пасцелі
У даўняй і звыклай журбе.
Спяваюць сабе, сваім сценам
І слухаюць толькі сябе.

Старэчы парог наш стаптаўся,
І ганак згубіўся ў траве.
А Ясь толькі ў песні застаўся,
І той не з Янінай жыве.

* * *

Няма на цяпло аніякіх прыкмет.
І дровы не хочуць гарэць, бо сырыя.
Ну чым ён пацешыць, стары гэты свет?
Стары ён, і песні яго ўсе старыя.

Ён гэтак задумаў, а ты паўтарыў
Задумку яго, як умееш.
І мама старая,
І дом наш стары,
І чую, як сам я старэю.

Пяе штосьці дах на глінянай дудзе.
Каго гэта з пушчы заве ён?
І месяц над ім аж да ранку прадзе
Старую кудзелю завеі.

І я штосьці ў думках таксама праду
Дымком памяркоўнай цыгаркі.
Падцяла лядком у вядзерцы ваду,
Падмерзлі і стрэлкі ў загарку.

Не думай, не будзе згаворлівым час,
Нідзе ён свайго не саступіць.
Што дзеецца з намі, было і да нас,
Паўторыцца ў веку наступным.

Пігулка растане,
І зорка згарыць,
І печ разгарыцца пад ранне.
Ну вось ён і спраўдзіўся, сон мой стары
Пра новае ў пушчу вяртанне.



Андрэй ФЕДАРЭНКА

# У КРЫМЕ

Апавяданне

## I

Валодзін прыязджаў у гэты пасёлачак на заходнім беразе Крыма трэці год запар, у адзін і той жа час, у верасні, і пасяляўся ў адных і тых жа гаспадароў і нават у адным і тым жа катэджыку.

Залатая пара, аксамітны сезон, курортнікаў з дзецьмі няма, людзей мала, адпаведна, падаюць і кошты, што для эканомнага Валодзіна было ўга як немалаважна.

Ён выбіраў заходні бераг — стэпавы Крым, яшчэ і таму, што тут увогуле пакуль не надта асвойталіся, не зусім нагадзілі ў параўнанні з славутым паўднёвым Крымам.

Яму хацелася проста купацца, піць віно і есці вінаград, гуляць у адзіноце, знаходзячы ў тым пэўную асалоду і ўжо дакладна — душэўны спакой, баючыся ўсяго, што магло б яго парушыць.

Валодзіну было далёка за сорак. Калі дакладна — пяцьдзясят. І яму прыемна было без мэты хадзіць і думаць, які ён за свае паўвека набыў вопыт, як спазнаў жыццё, людзей — ну, не так, каб глыбока, па-філасофску, але дастаткова, каб арыентавацца ў гэтым свеце без компаса.

Потым зімою, у Мінску, ён успамінаў свой утульны пасёлачак, мора, стэп, вецер, сонца, адзіноту... І так цудоўна, спакойна рабілася на душы — як заўсёды бывае, калі памяць падманвае цябе, прымушаючы забыцца на мінулыя непрыемнасці, а ты ў сваю чаргу падманваеш яе, паддаешся, ахвотна забываючы ўсё, што яна хоча.

Валодзін запомніў сваю мінулагоднюю радасць і хацеў усё адзін да аднаго паўтарыць, нават механічна скапіраваць. Вось ён сядзе ў цягнік — ах! — гэтыя вакзальныя аб’явы: Мінск—Сімферопаль, Гродна—Анапа!.. І будзе дарога, знаёмая, доўгая, двое сутак, з рэдкімі кароткімі прыпынкамі, з гандлярамі на перонах — чамусьці ў вочы кідаюцца адны вараныя ракі, чырвоныя, вялікія, як лангусты... Джанкой, Сімферопаль — і крымскі пах пачынае казытаць ноздры і кружыць галаву... Вось маршрутка, і вінаграднікі, і арэхавыя дрэвы

---

***Федарэнка Андрэй Міхайлавіч*** *нарадзіўся 17 студзеня 1964 года ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Скончыў Мазырскі політэхнікум (1983) і Мінскі інстытут культуры (1990). Працаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць». Цяпер — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

*Выдаў кнігі прозы «Гісторыя хваробы» (1990), «Смута» (1994), «Шчарбаты талер» (1999), «Афганская шкатулка» (2002), «Нічые» (2009), «Мяжа» (2011).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1995).*

паўз дарогу, а за імі, дзе толькі больш-менш чыстае поле, сімвал новага Крыма — татарскія будкі самазахопаў. Але ўсё скончыцца, і пад’едзе маршрутка да пасялковай аўтастанцыі, выйдзе ён і няспешна пакрочыць знаёмай вуліцай, дзе ведае кожную выбоіну — дарогі і тратуары тут зусім не рамантуюцца. Дом, клумба каля дома. Радасць гаспадароў пры з’яўленні яго. Катэджык, пакой — той самы, нават, здаецца, тыя самыя — леташнія — скурчаныя ліпучкі ад мух звешваюцца са столі. І гэты нязвыклы беларускаму вуху гук, увесь час — шух, шух... Мора! Нябачнае, але такое блізкае!

Як марыў, так і адбылося.

Заехаў добра, гаспадары радасна сустрэлі яго, як сваяка, ключ далі, і пакойчык з ім павітаўся — той самы, на аднаго разлічаны, і тэраса, і клумба сказалі толькі яму аднаму чутныя, зразумелыя словы, і сабачка Лёва — ані не падрослы за год — пазнаў яго, перакуліўся на спіну і памахаў усімі чатырма лапамі.

Пакуль Валодзін распакоўваў сумку і пераапранаўся, зайшла гаспадыня, хоць і сама маладжавая, але, як санітаркі ў бальніцы, не надта адварочвалася. Давялося выслухаць Валодзіну, што ўночы быў шторм, той самы, які бывае ў пачатку кожнай восені і называецца — бар†а, прыходзіць сюды з бухтаў Новарасійска, крышыць усё на шляху: ламае дрэвы, размывае пляжы, зрывае з якараў караблі і не супакоіцца, пакуль не набярэ сабе ахвяраў; вось і ўчора з высокай прыбярэжнай скалы змыла маладзенькую дзяўчыну, якая здымала стыхію на мабільны тэлефон і не ўтрымалася, паехала, слізгаючы па высокім адхоне, у марскую прорву...

Валодзін не надта слухаў. Ён хутчэй нацягнуў шорты, усунуў ногі ў лёгкія сланцы, схапіў ручнік і пашыбаваў да мора. На моры заціхаў шторм. Падманліва-жалобна плакалі чайкі і альбатросы. Падмыты высокі бераг быў у зігзагах трэшчын. На яго ўсё яшчэ цэліліся, стараліся накінуцца брудныя хвалі з доўгімі палосамі водарасцяў і жоўтай пенай, але ўжо не даставалі, пакідаючы паміж вадой і берагам метраў дзесяць мокрага пляжа.

Тым не менш людзі былі, хто ў адзенні, хто распрануты, сядзелі, хадзілі, шукаючы каменьчыкі, па пляжы. Некалькі разявак пазіралі, і пальцамі і мабільнікамі паказвалі на злашчасную скалу.

Валодзін, на хаду распранаючыся, увайшоў у хвалі, абмёр ад холаду і нечаканасці, абвык, пабоўтаўся, panыраў, хутка аглух ад шуму, наглытаўся гаркава-салёнай вады, пабіў ногі аб камяні, якія перакочвалі хвалі ля берага... Калі, як паранены — рукі матляліся, у вушах звінела, выбрыў на бераг, нейкая дзяўчына папрасіла яго, каб памог умацаваць парасон. І гэта ў такую пагоду, без аніякага сонца! Дзяўчына па ўзросце падыходзіла яму ў дочкі. Па-руску гаварыла яна так, як усе без выключэння беларусы гавораць (а потым здзіўляюцца, чаму іх выкрываюць па адным-двух словах за межамі Беларусі), з тым ледзь улоўным «дэфектам», які не выправіць ніякі лагапед мінумум яшчэ гадоў пяцьдзясят.

— Ну што, зямлячка, закруцім курортны раман? — спытаў Валодзін. Атрымалася не столькі фрывольна, колькі непрыгожа — стары «клеіць» маладую. Але не ён жа першы навязаўся, папрасілі яго, таму ён знарок яшчэ і паўтарыў, укручваючы ў цвёрды, утрамбаваны штормам пляж тоўстую на канцы ножку парасона: — Дык што, зямлячка, будзе ў нас раман?

— А як вы... здагадаліся? — яна крыху спалохана памацала свой кірпаты бульбашскі рабенькі носік, і на пальцы бліснуў заручальны пярсцёнак.

— Ой, — ветліва сказаў Валодзін, усё яшчэ змагаючыся з ветрам і з парасонам, — прашу прабачэння. А як здагадаўся? — у мяне цэлая тэорыя, як землякоў пазнаць, раскажу абавязкова, пляж маленькі, будзем бачыцца...

Дзяўчына была зусім не загарэлая, таму ён падумаў, што яна таксама нядаўна прыехала. Парасон быў умацаваны. На развітанне пазнаёміліся: звалі яе Алеся.

— Такая маладая, а ўжо Алеся, — пажартаваў Валодзін і пайшоў сабе, задаволены знаёмствам, і сваім жарцікам, і самім сабою.

Але зноў вочы яго ўбачылі скалу... Якое ўсё ж, падумаўшы, кашчунства, вось так проста жыць, жартаваць, калі дзесьці ў моры шторм усё яшчэ носіць няшчаснае цела... Валодзін, чалавек кніжны — ён працаваў у аддзеле рэдкай кнігі Музея старадаўніны — успомніў, як чытаў нядаўна: ідзе грамадзянская вайна, адпачываюць людзі на беразе Дняпра, выпіваюць, закусваюць, побач ля берага ціха пагойдваецца ў вадзе, сярод гнілой травы, раздзьмуты труп, і калі набягае хваля, варушыцца вялы белы бурак яго, і жанчыны тады рэзка, з рогатам паказваюць на яго...

Так і тут. Як жа блізка навучылася жыццё суіснаваць са смерцю, якое пакорлівае, цынічнае прымірэнне з гэтым: ну, жыццё, ну, смерць — не псаваць жа сабе адпачынак з-за таго, што нейкую неасцярожную дурніцу сцягнула ў мора!..

І праўда — хутка, хутчэй нават, чым трэба, забыўся эпізод з тапельніцай, і Валодзін пачаў жыць, як хацеў.

А жыць ён хацеў так, каб як мага менш хацець. План яго складаўся з адсутнасці плана, а рэжым быў у тым, што яго не было.

Не варта да гэтага жыцця ўсур'ёз ставіцца, даўно вырашыў Валодзін, — яно таго не заслугоўвае. Усё роўна яно такое кароткае, канчаецца смерцю, засталося яго мала, усё вакол адно зло, жанчыны зло і грошы зло, і дабро — таксама зло, бо патрабуе дзеяння. А таму і пальцам не варушыць — ні дзеля грошай, ні дзеля жанчын, ні дзеля дабра; а толькі ісці ўсляпую за лёсам, разам з тым не адштурхоўваць і сподачка, на якім лёс можа раптам паднесці які-небудзь прыемны сюрпрыз: даюць — бяры, б'юць — уцякай.

Так думаў Валодзін, седзячы на тэрасе, папіваючы белае віно. Адчуваў ён сябе цудоўна. Усё яму надзвычай падабалася: і ўласны пакой, і цяністая тэраса, і смачнае лёгкае віно... Кавалачак Еўропы. Гэтыя столікі перад кожным катэджам... Замкнуты прамакутнік двара, пасярэдзіне — клумба-кветнік, у канцы — вялізнае разлапістае дрэва грэцкага арэха, яшчэ далей персікавы сад і агарод, з якога гаспадыня кожную раніцу, пакуль Валодзін спіць, прыносіць і кладзе яму на столік адзін-два толькі што з куста памідоры — «бычыныя сэрцы», чорныя, памерам ледзь не з дзіцячую галаву, і пару свежых курыных яек. За гэта ў Валодзіна меўся маленькі абавязак: прыносіць гаспадынінай маці, старэнькай бабулі, марскую ваду ў двухлітровай пласцікавай бутэльцы. Валодзін жыва ўяўляў, як ёй, сляпой, стогадовай, без свайго мора хочацца хоць панюхаць тую ваду, паспытаць яе.

Ён браў бутэльку і ішоў на пляж. Было так лёгка ў шортах і ў лёгкай майцы. Белая ад паўднёвага пылу сцежка паўз асфальт мякка клалася пад ногі. Сонца толькі выглядвала з-за беласнежнай шапкі Ай-Петры: маленькі Крым, калі нават адсюль з высокага месца ў добрую пагоду можна ўбачыць ялцінскія горы! Заўсёды раптоўна адкрывалася мора, падзеленае сонцам напалавіну — ля гарызонта блакітнае, а ля берага цёмна-сіняе. На пляжы ён адразу пазнаваў Алесю — па знаёмым парасоне, да таго ж яна любіла адно і тое месца. Вынік заручальнага пярсцёнка, двухгадовая Лізка, вельмі спакойная, моўчкі корпалася побач у пяску, голенькая, у адрозненне ад маці загарэлая да шакаладнага аксаміту, толькі свяціўся белы трохкутнічак ад трусікаў.

— Я здымаю ёй трусікі ў пагоду, а як холадна, надзяваю, — растлумачыла Алеся; сама яна загараць не любіла і была белая, як сыр.

Яны ўжо былі сваімі, на ты, яна пра яго ведала, што даўно разведзены і жыве ў Мінску бабылём, у двухпакаёвай кватэры, хоць і ў спальным раёне, але каля метро, а ён пра яе, акрамя гэтай Лізкі, што яна з правінцыі, што працуе ў «сферы гандлю» і што дабывае тут з дачкою апошнія дні.

— А ты не баішся? — спытаў Валодзін. — Ну, з такой малой? Вунь як спяклася.

— Я ў тым годзе яе вяроўкаю да нагі прывязвала. Сама сплю пад парасонам, а яна калупаецца ля берага, на водмелі.

Валодзін падумаў, пакашляў і сказаў, нібы апраўдваючыся:

— У мяне сын.

— Вялікі?

— Як ты. Тэарэтычна магла б быць такая ж унучка, як Ліза. Толькі я з ім амаль не бачуся, — чамусьці дадаў ён.

— Вы разышліся з жонкаю мірна? — спытала Алеся.

— Мірней не бывае. Яна яшчэ пры мне... з адным з міністэрства... Потым выйшла за яго, а мне купілі кватэру, так што ўсе шчаслівыя.

— Сумна аднаму ў двух пакоях, — заўважыла яна.

— Нічога падобнага. Ды і ёсць у мяне жанчына... Праўда, у яе свае дзеці, свая кватэра...

Расказаў ён і абяцанае — як пазнае беларусаў на чужыне. Гандляр-украінец на базары паставіў ля тавару шыльду: «Цэ сліва, а не гарбуз!», — так і для мяне, расказваў Валодзін, зусім не абавязкова вешаць на лоб чалавеку цэтлік: «Цэ беларус, а не немец». Само сабою, акцэнт, умеюць загараць без сонца, купаюцца ў халодай вадзе, замест цішыні і адзіноты выбіраюць кампаніі... Беларускія мужчыны заўсёды ходзяць у шкарпэтках, няважна, што на нагах — сланцы, сандалі, затое педзікюршы сцвярджаюць, што ў беларускіх мужчын самыя дагледжаныя ступні ў свеце. Гэта Валодзін, чалавек кніжны, таксама вычытаў недзе.

Пасля ранішняга купання вяртаўся ён у катэджык бадзёры, памаладзелы. Падбягаў, махаючы хвастом, сабачка Лёва, якога Валодзін называў за вузкую выгнутую спіну — Шабля, і ён адгукваўся на Шаблю.

З суседзяў па дворыку быў адзін знаёмы, сівенькі дзядок Ісідаравіч з горада Луганска. Валодзін прыязджаў сюды ў трэці раз, а Ісідаравіч — роўна дваццаць гадоў, ніводнага сезона не прапусціўшы, спачатку з жонкаю, потым, калі жонка памерла, сам. Сяліўся ён заўсёды ў мазанцы, маленькай, ахайнай звонку і ўсярэдзіне, нават грубка мелася там на стылыя ночы. Ісідаравіч быў паэт раённага маштабу. Калі-небудзь яму ўдавалася зацягнуць Валодзіна да сябе ў мазанку. Стол ламаўся тады ад крымскіх прысмакаў, розных выпівак-закусак, а Валодзін вымушаны быў слухаць доўгія, бяскрайнія, як луганскі стэп, паэмы на ўкраінскай мове з яўрэйскім акцэнтам: «Ой ты рыдна матухна, ой, Украйна моя!» Канчалася тым, што асалавелы Валодзін бесцырымонна пазяхаў, глядзеў на гадзіннік, на палове радка падымаўся і паціскаў старому паэту-патрыёту руку:

— Ну што ж, жадаю бараніць сваю Украіну, як луганскі слёсар Клім!

Астатніх суседзяў Валодзін нікога не ведаў і сыходзіўся з імі спантанна. Літовец Стась — Станіслававас, аскет, педант, усё ў яго было раскладзена па секундах, па ўсім відаць, што чалавек прыехаў не валяцца на санцапёку, а папраўляць арганізм, рамонт яму даць, як механізм рамантуюць. Валодзін пад-

напружыўся, успомніў некалькі слоў па-літоўску і пры кожнай сустрэчы са Стасем ветліва паведамляў: «Малоні юс матыці» (рады вас бачыць) і «Герос накціес» (добрай ночы). Сімпатычны здаравяк-літовец пасміхаўся і асцярожна паціскаў Валодзіну руку вышэй локця.

Была яшчэ адна мадам з Расіі, з Пецярбурга, якую ніхто ў дворыку не любіў за фанабэрыстасць, і яна нікога не любіла, ні з кім не віталася. Валодзін падыгрываў ёй — ах, вы з культурнай сталіцы, з горада на Няве, і яна адтайвала, ператваралася ў мілую рускую кабецінку і даверліва расказвала, што ў яе праблемы з нявесткаю, сын моцна п'е ў Башкірыі, што сама яна не з Пецярбурга — з прыгарада, і ледзь сабрала за два гады грошы на адпачынак, бо здароўе ўжо ніякае.

Дзве бабулькі-харкаўчанкі — жылі ў Валодзіна за сцяною, прыехалі сюды на тыдзень у складчыну, займаліся тым, што цэлымі днямі варылі на кухні боршч і пасля елі яго на тэрасе, весела і часта пастукваючы лыжкамі. Валодзін ні разу не бачыў іх каля мора, ды яны хутчэй за ўсё ні разу да таго мора і не схадзілі.

І многа было перакаці-поля — на ўласным транспарце, з Украіны, Расіі, Беларусі; гналіся за пагодай-прыродай, а знаходзілі, як правіла, толькі прыгоды: то ў іх лопаліся шыны, то абкрадалі іх, то ўсчыналіся між імі сваркі: «Ты ж абяцаў сонца — і дзе яно?!» Праз пару сутак яны зрываліся з месца і несліся ў пошуках лепшай долі.

Валодзін бачыў і чуў такое, калі хадзіў абедаць у суседні двор, да татаркі — вялізны дом, трохпавярховы, з балконамі, двор нашпігаваны таўстазадымі джыпістымі, нісаністымі, міцубістымі машынамі... Зрэшты, нічым яны не заміналі Валодзіну.

Маленькую сталавальню накрываў цень вінаградніку, на тушаную бараніну зляталіся мухі, але ўсё адно было прыемна, і смачна, і смешна, калі старая татарка пытала: «Вам насыпаць боршч?» — «Насыпайце», — адказваў Валодзін. Пасярод двара выклалі з рознакаляровых каменьчыкаў і напоўнілі вадой басейнік, у якім жыла чарапаха з маленькай дачкою; дачка любіла залазіць маці на спіну і так грэлася. Дзеці кармілі іх каўбасою і кавалачкамі сала, і чарапахі ахвотна гэта глыталі.

Пасля абеду зноў быў пляж, але цяпер пад навесікам, у цяньку — ведаў Валодзін з горкага вопыту, што ў верасні можна згарэць горш, чым летам. І зноў ён бачыў на пляжы знаёмы парасон, і хоць на кароткі час сустракаўся з Алесяю і з Лізкаю, зноў бяскрыўдна жартаваў: «Дык як наконт курортнага рамана, зямлячка?» — на што Алеся толькі пасміхалася, акурат як літовец, якому Валодзін жадаў добрай ночы сонечным ранкам.

Падвечар Валодзін выпраўляўся ў няспешную прагулянку па набярэжнай. За бетоннымі агароджамі, за драцянымі сеткамі хаваліся ў раскошнай зеляніне дамы адпачынку, прафілакторыі, санаторыі са сваімі басейнамі, кінатэатрамі, аддзяленнямі пошты, газетнымі кіёскамі і, канечне, самымі рознымі экзатычнымі кавярнямі. Можна было звярнуць туды і палюбавацца кветкамі і дрэвамі, а можна проста крочыць па набярэжнай, мінаючы адзін за другім гэтыя астраўкі цывілізацыі, і вось яны канчаліся і пачыналіся зараснікі карагачу — крымскай дробнай жоўтай акацыі, якая ўжо асыпаецца і лісце па-восеньску шарахціць пад нагамі. Яшчэ далей — лясок лістоўніц, дзе востра пахне смалой і беларускімі соснамі, і абапал дарогі — у чалавечы рост зараснікі такога падобнага на валошкі блакітна-кветкавага цыкорыя. А яшчэ пасля ўсё канчалася і адкрываўся голы стэп — удалечыні толькі тырчэў напалову раскапаны скіфскі курган.

Стэп... Поўнае бязлюддзе. Голы, як дрот, кавыль звініць на ветры. Вецер налятае парывамі і даволі моцны, трывожны сваёй першабытнай чужой дзікасцю. Адзінокі конь-крымчак з гіканнем, з паднятай грываю носіцца туды-сюды, ловячы гэты вецер, падбрыквае, падкідвае зад... Паспрабуй апыніся ў такога на дарозе!

І калі Валодзін стаяў на высокім абрыве — ззаду стэп, наперадзе —марскі прастор, чырвонае сонца апускаецца ў сіняе мора, калі прагна дыхаў гаркавым ад кавылю і ёду паветрам, яму здавалася, што ён адчувае гэтае паветра фізічна, як бы знаходзіцца ў лёгкай празрыстай вадкасці, і тады яму хацелася пазбавіцца ад адзення, быць цалкам голым, каб убіраць гэтае паветра не толькі лёгкімі, але і кожнай клетачкай цела...

Гэтыя прагулянкі — адаптацыя, адзінота, экзотыка — з аднаго боку прыносілі Валодзіну ціхае, заміранае, проста дзіцячае пачуццё гармоніі, адчуванне, што ты гаспадар свайго цела, сваіх думак і нават свайго настрою (напрыклад, ён мог загадаць сабе светла пасумаваць, а мог пераключыць рычажок на беспрычынную радасць), а з другога — ён пачынаў разумець, наколькі мізэрны чалавек перад маўклівай веліччу прыроды; вось яна, прырода, і ёсць сапраўднае, галоўнае, вечнае, а хвалёны чалавек усяго толькі часовы фон да яе, пераменлівая дэкарацыя, лісце на дрэве жыцця — зялёнае ў маладосці, жоўтае ў старасці... Счэзне і асыплецца, а гэтае сонца, мора, стэп як жылі, так і будуць жыць...

Гармонія знікала познім вечарам, калі Валодзін клаўся спаць. З кожнай другой кавярні з набярэжнай неслася: «Молодос-ц-ц моя, Белорус-с-сыя!», лезла ў вушы, накручвала нервы... І ўспамінаўся Валодзіну лес, грыбнік у навушніках і з мабільным тэлефонам, які шукае грыбы і адначасова паведамляе сябру пра кожны свой крок, або рыбалка — аднойчы раніцаю ў прыцемках, перабіўшы камарыны звон, салаўёў і пеўняў, з адчыненых дзверцаў машыны разанула магнітола.

Валодзін зларадна затыкаў спецыяльнымі штучкамі вушы, сумна сам сабе пасміхаўся. Ён, як, зрэшты, і многія з нас, любіў сваіх землякоў дома і не надта мілаваў на чужыне. Выключэнне было толькі для жаночага полу, тут ён вымушаны быў прызнаць, што беларускі самыя лепшыя ў свеце, прынамсі, знешне; тым больш яму было гэта лёгка рабіць, бо ён і не ведаў іншых жанчын, акрамя беларусак.

## II

Быў цёплы сонечны ранак. Сонна накатвалі на бераг лагодныя хвалі. Алеся сядзела пад утыркнутым наўскасяк парасонам. Валодзін на жываце ляжаў побач. Ён толькі што пакупаўся, заплываў са сваёй бутэлькай далёка, каб набраць чысцейшай вады, і цяпер змочаныя салёнай вадой яго валасы тапырыліся, як у дзікабраза. Непадалёк прысела на кукішкі Лізка і засяроджана стукала каменем аб камень: тут-тук-тук... Гэта быў самы чутны гук на пакуль малалюдным пляжы — маленькае курортнае мястэчка прачыналася позна нават для такога пагоднага вераснёвага ранку.

Заўтра Алеся з малой ад’язджалі, і Валодзін філасофстваваў на гэтую тэму.

— ...Вось так заўсёды: сустрэліся, пазнаёміліся, развітваемся — лёгка, весела, нібы ў нас у запасе вечнасць, — ціха казаў ён, лежачы на жываце, перасыпаючы з далоні ў далонь цёплы залаты пясок. — А між тым лёс, калі

зводзіць людзей, дык напэўна ж дае ім шанс на нешта большае, чым «добры дзень» — «да пабачэння». Зрэшты, усе мы ў гэтым жыцці пасажыры, едзем у цягніку з надпісамі на вагонах: нараджэнне — жыццё — смерць, і ніхто не ведае, у якую хвіліну можа пастукаць праваднік. Не арыгінальна? А што цяпер арыгінальнае? Чалавецтва пачынае паўтарацца, безнадзейна прабуксоўваць, і гэта наводзіць на самыя сумныя перспектывы. Мы ж павінны калі не быць, дык хоць бы старацца быць разумнейшымі за тых, хто жыў да нас. А мы як думаем? — а-а, не мы першыя, не мы апошнія... І па звычцы заўсёды рыхтуемся да горшага. А раптам магчыма лепшае? Мы гэтага не ведаем, і не памыляемся толькі таму, што не шукаем...

Валодзін гаварыў з тым задавальненнем, з якім адзінокія людзі, напаўшы на ўдзячнага слухача, даюць нарэшце волю языку. Ён нёс розную лухту, банальныя прапісныя ісціны, і выдатна ведаў гэта. Але яна слухала так уважліва, сур'ёзна, з адабрэннем кожнага яго слова, і Валодзіну ўсё больш пачынала здавацца, што яна разумее яго і што ён сапраўды гаворыць па тэме.

Мабыць, да сустрэчы з ім добрая каша была ў яе ў галаве, а цяпер яна паступова прымае яго бачанне, яго светапогляд, прычым з падзякай, з гатоўнасцю быць на другой ролі, ахвотна прызнаючы яго верхавенства.

«А добра, што яна замужам, — думаў Валодзін, ідучы з пляжа на сняданак. — А то сапраўды давялося б раман закручваць — во дзе было б!..»

Увечары яны зноў убачыліся. Сядзелі ў кавярні на набярэжнай, запівалі віном гарачыя шашлыкі, любаваліся прыродай. Валодзін трымаў на каленях малую Лізку. Вечаровае сонца, белыя чайкі, зялёныя абрысы скал, спакойная сінеча мора, лірыка пачатку восені, светлы сум адлятаючага лета...

Валодзін размяк ад віна, ад мяса, ад прыгожага краявіду, ад маладой жанчыны побач, і пацягнула яго на ўспаміны.

— Як шкада, што мы нікуды не з'ездзілі. У Судак, Феадосію, у тую ж Ялту...

Ён расказаў, як даўно, яшчэ студэнтам, упершыню патрапіў у Ялту, з грашыма толькі на зваротны білет і на маленькую порцыю пяльменяў у суткі, наіўна думаючы, што пераб'ецца адной экзотыкай і святым духам. Начаваў абыдзе: на лаўках, на пляжы і на асфальце, які ўночы астываў да мінуса, а ўдзень Валодзін бадзяўся каля шашлычных, і кружылася галава ад паху, а музыка іграла, а людзі гулялі і куплялі што хацелі... І ён даў сабе слова прыехаць сюды калі-небудзь іншым чалавекам, не затурканым галодным звярком, а такім, як яны, гаспадаром жыцця...

— Спраўдзілася жаданне, — сказала Алеся.

— Прыехаў. У Ялце пабываў. І ўбачыў не свой ранейшы горад, а цяперашні — раскошны, мільянерскі... Я падрос і Ялта падрасла. І аказалася, нямнога ж я дасягнуў у параўнанні з тым студэнцікам, і лепш бы я хваліўся не тым, што чалавек кніжны, а тым, што пры грашах: беднасць, канечне, не загана, але звычайнае свінства...

Апускалася сонца і ляжала ад яго праз усё мора на спакойнай вадзе шырокая паласа, дрыжэла і пералівалася; колер імпрэсіяністаў — прыкладна як бэзавае накласці на залацістае.

— І я зразумеў: не трэба ні за чым гнацца, усё роўна не здагоніш (казаў Валодзін адваротнае сваім ранішнім словам), і калі і выбірацца ў розныя падарожжы-вандроўкі, дык таму, каб лепш разумець каштоўнасць свайго, яшчэ больш цаніць тое, што маеш, што пад носам...

Тут Валодзін з Алесяю заўважылі, што малая Лізка, ашчаперыўшы яго за шыю, спіць, як кацяня. Так ён яе — жывую, цёплую, і данёс да самага дома, а там асцярожна перадаў маці. Алеся панесла яе ў дом, а ён застаўся чакаць.

Як хутка, раптоўна цямнее на поўдні! З нічога згусцілася ноч, цёмная, шчыльная, працягні руку — памацаць можна. Над галавой на небе буйныя, з кулак, зоркі незвычайнай яркасці, а побач праз плоцік на клумбе такія ж буйныя белыя кветкі дурнап'яну, якія распускаюцца толькі пад ноч. Ад іх паху адразу забалела галава. Вельмі душна было. На вулічных слупах загарэліся ліхтары, і цемра крыху адступіла. Выйшла Алеся.

— Спіць...

Яны няспешна пайшлі назад да мора. Упершыню яны засталіся ўдваіх.

Валодзін бачыў — не так бачыў, як адчуваў, што Алеся таксама хоча пагаварыць, нешта сказаць яму. Але ніяк не мог спыніцца.

— Вось... Значыць, едзеш... Значыць, так мы і не патрапілі ў Ялту... Шкада. Ялта — горад Багдановіча і Чэхава. Памятаеш Чэхава?

— Каго-каго? — яна няўцямна зірнула на яго. — Чэхава?! — і засмяялася.

— Ну, дык і я ж пра тое! Піша — стаяць з малаточкам за дзвярамі кожнага шчаслівага і стукам нагадваць, што ёсць няшчасныя. З малаточкам... Шчаслівых наадварот — трэба аберагаць, раўняцца на іх, зайздросціць ім, а беды іх і без малаточкаў знойдуць! Ці — спяшайцеся рабіць дабро, пакуль маладыя. А якое дабро, што гэта такое — не сказана. Або вазьмі ты «Сабачку з дамаю». Ах ды ох, ён ірве на сабе валасы, яна ламае рукі, бо замужам, а ён жанаты. Калі б гэта пісаў не класік і каб не кідкая назва, — сярдзіта казаў Валодзін, — ніхто гэтага не чытаў бы і фільма не ставіў бы, бо ўвесь сэнс, уся рамантыка тут акурат у незавершанасці. А вазьмі звядзі іх, пажані, ды яшчэ перанясі ў наш час, у цяперашні свет — яны праз гадзіну завыюць... Класікі. Да сарака гадоў ледзь дажывалі... Не — калі ты геній, дык навучы мяне, як спакайней і даўжэй пражыць — тады я паверу ў тваю геніяльнасць!.. Так жа? Ты згодная?

Яны зайшлі на пірс, дайшлі да самага краю. Справа і злева, і спераду жыло, шумела мора, а ззаду, з набярэжнай падала на пірс святло, і калі Алеся папраўляла валасы, бліснуў пярсцёнак.

— Дзякуй табе...

— За што?

— Што ходзіш са мной, расказваеш... Ніколі ў жыцці такіх разумных людзей не бачыла... І добрых.

Яму стала і прыемна, і крыху сорамна. Ён балбатаў ад няма чаго рабіць, для ўласнага задавальнення, а яна, відаць, успрымала ўсё ўсур'ёз. А ён... «Закруцім раман»... Нічога ёй не падараваў, нікуды не звазіў... Нават не паслухаў яе толкам. І яму захацелася неяк выправіцца, хоць бы сказаць ёй прыемнае слова.

— Ведаеш, Алеся, калі б ты не была замужняя...

— Замужняя? — перапытала яна. — Вось цана гэтаму замуству, — сцягнула з пальца пярсцёнак і кінула ў ваду з пірса. Валодзін ахнуў, інстынктыўна памкнуўся ўслед, каб падхапіць, і ледзь не зваліўся. Яна, смеючыся, падтрымала яго.

— Кідаюць манеткі, каб вярнуцца, вось і я нешта кінула. Няма ў мяне ніякага мужа. І не было ніколі...

Дык вось што яна насіла ў сабе ўвесь час, вось у чым парывалася прызнацца яму цэлы вечар! Зрэшты, уся яе гісторыя ўклалася ў некалькі сказаў. Яшчэ ў школе пакахала жанатага, зацяжарыла ад яго. Ён не развёўся, яна нарадзіла Лізку. Можаш уявіць, Валодзін, як жыць у адным мястэчку, хадзіць па адных вуліцах, працаваць у магазіне — заўсёды на чужых вачах, ледзь не штодня бачыць яго, жонку яго... І вырвацца нікуды і ніяк.

Яна расказвала проста, даверліва, як вельмі блізкаму чалавеку. Валодзін разгублена памаўчаў, потым спытаў:

— Пярсцёнак чаго купляла?

— Сама не ведаю... Каб менш чапляліся. Ну, што, хадзем, за малую баюся... Правядзеш мяне? — узяла яго пад руку.

І пакуль яны ішлі, усё імгненна прадумаў і зразумеў Валодзін.

— Слухай, Алеся... Табе трэба ратавацца — гэта ясна! Слухай: вось калі б — ну так, проста дапусцім — калі б знайшоўся чалавек, старэйшы за цябе, у Мінску... Не я, іншы! І прапанаваў табе... Забраў цябе з дачкою ў Мінск. Ён бы атрымаў маладую прыгожую добрую жонку, пэўны аўтарытэт, сямейную ўтульнасць, яна — у сэнсе ты — сталічную рэгістрацыю і выграбанне з пекла... Але галоўнае, у кожнага ў любы час поўная воля разбегчыся! Як бы кантракт. Ніхто ні з кім нічым не звязаны. Само сабой, той чалавек не пара табе, стары, буркатлівы, са сваімі звычкамі... Праўда, не злы. Калі б такі чалавек знайшоўся — пайшла б?

Яна нічога не адказала, толькі мацней сціснула яму пальцы. І Валодзін зразумеў: не проста пайшла — пабегла б.

На доўгай вуліцы толькі на двух слупах гарэлі ліхтары, у пачатку і ў канцы, а пасярэдзіне было цёмна. Валодзін з Алесяю якраз праходзілі цёмны адрэзак.

«Ну, давай! — загадваў сабе Валодзін. — Збярыся! Скажы, што гэты чалавек перад табой, гэта я, яна чакае гэтага!..»

Але Валодзін збіраўся-збіраўся, разяўляў-разяўляў рот, набіраў-набіраў у грудзі паветра — ды так нічога і не сказаў. Хай мо заўтра, яшчэ ж будзе заўтра...

Выйшлі да святла, да Алесінага дома. Развіталіся.

— Прыйдзеш нас правесці? — спытала яна звычайным голасам, у якім не было ні расчаравання, ні крыўды.

— Пытаеш — канечне!..

Нездарма так парыла. Сярэдначы пачаўся лівень і пляжыў да раніцы, з громам, з белымі маланкамі — іх відаць было нават праз заплюшчаныя вочы. Валодзін не спаў і чуў, як зусім блізка стогне, раецца, бухае мора, як гуляе па двары вецер і трашчыць пад акном старое арэхавае дрэва. Страшнавата было яму, кантынентальнаму чалавеку, у чаканні, што вось-вось вецер падыме і панясе гэты катэджык разам з табою ў белы свет...

Раніца сустрэла яго пахмурнай, ветранай няўтульнасцю. На двары стаялі калюжыны, клумбы з кветкамі былі здратаваныя з мокрай зямлёй. Адламалася і ляжала на зямлі вялікая галіна арэха з няспелымі пладамі.

Валодзін прыйшоў акурат да маршруткі, а на прыпынку яму сказалі, што дама з малой паехалі таксоўкай! Ён і не падумаў, што маршруткай на цягнік не паспяваеш. Спачатку таксама быў кінуўся да прыватнікаў-таксістаў... Потым (трус, трус беларус) махнуў рукой і марудна пайшоў да мора.

Як прыкра атрымалася! І разам з тым у душы была невялічкая палёгка, бо за ноч ён так і не вырашыў, што скажа.

На пляжы пасля начнога шторму ўсё было амаль як у першы дзень яго прыезду. Нізкія хмары, крыкі чаек, халоднае агрэсіўнае мора, шумны накат хваляў з жоўтай пенай... Падышоў малады армянін, з дакорам зірнуў на Валодзіна, прамовіў ледзь не са слязьмі ў голасе:

— Абыдно! — і зразумела было, што ён хацеў гэтым сказаць — так чакаў цёплага мора, сонца, так пра гэта марыў, дабіраўся — і вось табе маеш.

Крыўдна было і Валодзіну, толькі з іншай прычыны. І хто яго ўчора цягнуў за язык? Навошта даў чалавеку надзею? Вось ужо сапраўды, чым старэй, тым дурней...

Так — старэй! Так — мала жыцця засталося, і чым бліжэй да канца, тым больш бесталковае яно; дык ці варта так ужо за яго чапляцца, любой цаной падаўжаць яшчэ на якіх пару паршывых гадоў? Гэта ж так проста: ахвяруй хоць астаткамі яго для кагосьці, пасунься, падзяліся — табе ж самому лепш стане, сэнс ва ўсім з'явіцца, вечную шклянку вады будзе каму падаць і паміраць не так страшна будзе.

Мо і праўда? Паехаць у тое мястэчка... Зрабіць добрую справу... Памагчы чалавеку, нават двум... Для цябе гэта ніякая не ахвяра, ці вельмі малая ахвяра, а для Алесі з малой — шчасце, ратунак. Што ён губляе? Сваю гэтак званую свабоду?

Не факт, што пагодзіцца, — чапляўся Валодзін за саломіну, але не ратавала яна. Яшчэ і як пагодзіцца. Не для сябе, дык дзеля малой.

Праз дзесяць гадоў яму стукне шэсцьдзясят, ёй трыццаць. Вясёленькая ж будзе ў іх сямейка! Дык добра, калі дзесяць гадоў — ого! — а хутчэй за ўсё месяцаў дзесяць... І потым — каму ён што павінен? Мала яго жыццё вучыла? Мала ён аддаў здароўя і сілы, каб набыць спакой і душэўную раўнавагу — самыя большыя ў свеце каштоўнасці?

Ну, не! Жывіце, дарагія, як знаеце, без мяне, я са сваёй шкарлупкі ў ваш свет не вылезу, надта добра ён мне знаёмы!..

Так Валодзін думаў. А спакою ўжо не было, штосьці смактала, і ніяк не можна было, як раней, пераключыць у сабе рычажок на ціхую эгаістычную радасць ад простага існавання.

І яшчэ ён заўважыў, што неяк асабліва пільна ўзіраецца ў мокры пясок пад нагамі, спадзеючыся ўбачыць там залаты бляск.

# S



Эдуард ГРАКОВІЧ

## МНЕ СНІЦЦА ДЗЕДАЎСКІ КУТОК

***Светлай памяці дзеда і прадзеда***

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына.
*Я. Купала*

Мне сніцца дзедаўскі куток,
дзе беды ў знак даліся нам.
Старой дарогі ўздоўж кустоў
пясчаная пралысіна.

Рамонкі ў лузе зацвілі.
Каровы, коні пасвяцца.
Гудуць калоды і вуллі
на прадзедавай пасецы…

За ўласны мёд і малако,
за вішні сакавітыя
прызналі дзеда кулаком,
і быў са свету зжыты ён.

Чаго, здавалася, далей
маглі чакаць мы добрага?
Нас не лічылі за людзей —
глядзелі як на ворагаў.

Злавесны здзек не ведаў мер.
Адно бясконца радуе,
што месца пасекі цяпер
завецца імем прадзеда.

---

*__Граковіч Эдуард Браніслававіч__ нарадзіўся 27 мая 1951 года ў Мінску. Скончыў сярэднюю школу № 28. З 1971 года працуе на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній.*

*Аўтар паэтычных кніг «Няхай гарыць свечка ў святліцы» (2006), «Залатая вербачка» (2009).*

* * *

У двары маім вясковым
не відаць нідзе падковы,
а ўсё роўна час ад часу
шчасце стукаецца ў дом.
Іншы раз і з недаверам
у адчыненыя дзверы
праз шырокую тэрасу
прабіраецца крадком.

Часам серп маладзіковы
ззяе срэбнаю падковай.
Марыў я ў дзяцінстве раннім
дакрануцца да яго.
Мне было сапраўдным шчасцем —
ніткі дзіўных мрояў прасці,
пазіраючы на ззяне
пазалочаных рагоў.

## ПАД МЯСЦІНАЮ СПАЛЕНЫ МОСТ

Па-ранейшаму плёскаюць хвалі
пад мясцінаю Спалены Мост.
Колісь тут самагубца хавалі —
апаганьваць не смелі пагост.

Сто гадоў спіць ужо той гаротнік.
У пакутах, казалі, ён жыў.
Без бацькоў гадаваўся, без родных —
гарапашна было між чужых.

Чуў папрокі: «Гультай, недарэка», —
дапякала жыцця крутаверць.
Ад нястачы, бяссілля і здзекаў
ён уздумаў… душой загавець.

Поўны болю, нуды і адчаю
хлопец кінуўся з моста ў раку.
Сіпаватыя покрыкі чаек
прамаўлялі «Бывай!» бедаку.

Адшукалі ягонае цела —
пахавалі ў зацішку між дрэў.
Смутна лісце над ім шапацела,
ну а мост неўзабаве згарэў.

* * *

Паглядзі, паспрабуй распазнаць,
што раней тут было пры дарозе.
Хоць бы след ад жытла, хоць бы знак —
толькі сліўнік здзічэлы разросся.

Што ж было? — хоць бы след, хоць бы знак…
І нагадваць пачаў гэты сліўнік
непралазны балотны хмызняк,
дзе вадзіліся некалі сліўні.

## САМОТНІК ВЕЧНЫ

У гордай адзіноце пры шашы
слупок дарожны з лікам кіламетра —
самотнік вечны, кожнаму чужы, —
задумліва стаіць, здаля прыкметны.

На ўвесь працяг, які яму відзён,
самотна погляд кідае лагодны.
Братоў паўсотню з лішкам мае ён,
але, на жаль, не бачыцца з ніводным.

## БЛІСКАВІЦЫ БЕЗ ГРОМУ

Бліскавіцы мільгаюць без грому —
неблагі гэта быццам бы знак,
і не боязна дубу старому,
што яна выгінае зігзаг.

На бязлістай яго верхавіне
я спыняю спагадны пагляд.
Там язык навальніцы пакінуў
галізну нежывога галля.

Бліскавіцы мільгаюць, мільгаюць —
ды няма навальнічных грымот.
Нібы змеі, што яду не маюць,
з-пад сваіх выпаўзаюць калод.

## МІЖ ЗАДУМЛІВЫХ ЧАРАЦІН

Спевы звонкія ручайковыя
між задумлівых чарацін

пташка нейкая падслухоўвае
і падсвіствае: «Цінь-цінь-цінь».

Гэты свіст мяне падбадзёрвае.
Прыхавалася ў чаратах
хай як быццам бы і будзённая,
ды кранальная мілата.

* * *

Прыемны момант як-ніяк —
пабыць пры тэлефоне,
калі сябрук твой ці сваяк,
здараецца, пазвоніць.

Даўно пакінута сяло —
прыжыўся ты ў сталіцы.
Хапае быццам бы ўсяго,
Аднак былое сніцца.

Чуваць у сне, як шмат гадоў
гучаў бесперастанку
спеў тэлефонных правадоў
абапал брукаванкі.

Загладзіць хочацца віну, —
што роднай вёсцы здрадзіў.
Ды з часам тым, які мінуў,
як сувязь ты наладзіш?



# Генадзь КОЎШ

## НАЧНОЕ СВЯТЛО

Тысячы зорак
Глядзяць на мяне
Морам нябесным
У чорным акне.

Слаба міргаюць
Яны ў вышыні.
Нешта хаваюць
Свяцілаў агні.

Льецца, чаруе
Начное святло.
Лёгка віруе
Яго хараство.

Думкі прыходзяць,
Хвалююць да слёз.
Можа, зыходзіць
З святла і мой лёс?

* * *

Дождж ідзе.
Мы чамусьці сухія.
У гэтай з неба вадзе
Захаваны людскія грахі.

---

*__Коўш Генадзь Вікенцьевіч__ нарадзіўся 10 ліпеня 1962 года ў вёсцы Александрыя Мастоўскага (цяпер Зэльвенскага) раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1984). Працаваў на заводзе «Оптык» у горадзе Ліда. Служыў у Савецкай Арміі. Быў настаўнікам і дырэктарам Ялуцавіцкай базавай школы Зэльвенскага раёна, намеснікам дырэктара Першамайскай сярэдняй школы Шчучынскага раёна. Цяпер жыве і працуе ў вёсцы Дзярэчын, што на Зэльвеншчыне.*

*Аўтар паэтычных кніг «Вершакроплі» (2009), «Крокі ў тумане» (2010).*

Шторм гудзе.
Мы чамусьці глухія.
У гэтай з мора вадзе
Захаваны людскія грахі.

Кроў цячэ.
Мы чамусьці сляпыя.
У гэтай з целаў вадзе
Захаваны людскія грахі.

Дол праб’е.
Мы чамусьці нямыя.
У гэтай з нетраў вадзе
Ўсё хаваем людскія грахі.

* * *

Імя тваё — сонца.
Палаючы вецер.
А вочы — бурштыны,
Чысцейшыя ў свеце.

Імя тваё — рэчка,
Шумлівыя хвалі.
А вусны, як захад,
Дзе промні згаралі.

Імя тваё — песня.
Чароўныя гукі.
Ты постаццю — Муза,
І золата — рукі.

* * *

Мне не хочацца, восень, абдымкаў тваіх.
Не патрэбна, зіма, мне тваё заляцанне.
Ты ж, вясна, я кажу гэта моцна услых,
Падары мне жаданую кветку кахання.

Лета, сэрца маё пачуццём апячы,
Хай баліць яно з ночы да самага рання,
Каб не змог я ад болю нікуды ўцячы, —
Ты шануй дараваную кветку кахання.

Моўчкі, восень, згаджайся з жаданнем маім.
Пралівай ты халодныя слёзы расстання.
Пранясу скрозь апалае лісце і дым,
Зберагу я чароўную кветку кахання.

І, зіма, у абсягах марозна не сцюж,
Супакой, калі ласка, над светам дыханне,

Заірдзейся на шыбах пялёсткамі руж,
Не задзьмі маю дзіўную кветку кахання.

* * *

З трывогай іду па Дзярэчыне —
Дрэвы-стагоддзі пасечаны.
З трывогай іду па Дзярэчыне —
Шлях забыццём скрозь замецены.
З трывогай іду па Дзярэчыне —
Як у стагоддзяў прасвеціне.
З трывогай іду па Дзярэчыне —
Лёс яго моцна скалечаны…
З надзеяй іду па Дзярэчыне —
Ў сэрцах ён увекавечаны.

## ВОЧЫ ЛІЦВІНА

Ты глядзіш на мяне скрозь стагоддзі.
Твой пагляд — абярэг з даўніны.
Гартаваўся ты ў цяжкім паходзе.
Тваю славу вянчалі званы.
Ты пазнаў быў і здраду, і здзекі.
Выжываў, як паранены птах.
Ты цярпеў, апускаючы вейкі,
І душа не была ў кайданах.
Нас з табою яднае Айчына.
Ў маіх венах цячэ твая кроў.
Бачу свет я тваімі вачыма.
Ў нас адна да свабоды любоў.

* * *

Калі запытаюць, чаго я хачу,
Я адкажу —
Я хачу, калі настане мая восень,
Жоўтым лістком упасці
З дрэва майго роду
На зямлю,
З якой жывяцца яго карэнні.
Я хачу, каб вецер часу не аднёс
Мяне-лісток
Далёка ад гэтай святой зямлі.

Калі запытаюць, аб чым я мару,
Я адкажу —
Я мару аб адным: каб заўжды
Шумела сваім зялёным лісцем
Наша Бацькаўшчына.

Камал АБДУЛА

# ДАЛІНА ЧАРАЎНІКОЎ

Раман

## У вечным пошуку

*У сваёй новай кнізе «Даліна Чараўнікоў» вядомы азербайджанскі пісьменнік Камал Абдула прапануе чытачам дакрануцца да пластоў сівой даўніны, ахутанай тайнамі чалавечага быцця і адвечнымі праблемамі жыцця і смерці, высокіх парыванняў і нізкіх інстынктаў, абавязку перад блізкімі людзьмі і непазбежнай здрады каханню, адмаўлення ад яго ў імя ідэі, нават помсты, замешанай на родавым пракляцці.*

*Сюжэт «Даліны Чараўнікоў» захопіць чытача маляўнічым і інтрыгуючым апісаннем падзей, нечаканымі паваротамі дзеяння, глыбокім філасофскім падтэкстам, бязмерным патокам аўтарскіх фантазій на тэмы: што такое душа? Ці існуе яна? Ці знікае пасля нашай смерці? Ці нарадзіўся на свет той, хто ўмее кіраваць ходам часу, падзей і нашымі душамі?*

У кожным з нас сумненняў рой,
Адвечны страх начэй бяссонных...
Няўжо праснілася нам усё?
Мы толькі сны ў начным бяздонні?

*Гэта радкі аднаго з вершаў Камала Абдулы. Яны, як ніякія іншыя, падыходзяць пад агульны настрой твора. Бо, як сказала Людміла Лаўрова ў прадмове да рускамоўнага выдання «Даліны Чараўнікоў»: «Камал Абдула здзейсніў у гэтай кнізе неверагоднае: ён давёў да мяжы рэальнасці фантазіі свайго творчага ўяўлення, матэрыялізуючы іх у слове, і дабіўся таго стану, калі сам становішся ілюзіяй, сном у чужых снах, якія камусьці прысніліся ў незапамятныя часы, і аб гэтых снах напісаны раман».*

*У сваіх творах (вершах, эсэ, апавяданнях, раманах) пісьменнік імкнецца раскрыць бяздонны свет ментальнасці азербайджанскага народа, які нарадзіўся тысячагоддзі таму, жыў, верыў і тварыў, думаючы пра глыбінны сэнс чалавечага быцця.*

*Зыходным пунктам літаратурнай дзейнасці Камала Абдулы стала кніга старажытнага цюркскага эпасу «Кітабі дэдзе Каркут» («Кніга майго дзеда Каркута»), якая адносіцца да X—XI стст. і з'яўляецца вынікам досыць працяглага развіцця вуснай народнай паэзіі. Па сваіх мастацкіх якасцях, ідэйна-тэматычнай накіраванасці гэты старажытны эпас можна паставіць упоравень з народнымі паданнямі, якія здабылі сабе ў часе сусветную славу.*

*Трэба згадаць пра тое, што вядомая кніга складаецца з 12 паданняў (песень), кожная з якіх мае свой закончаны сюжэт і звязана з іншымі агуль-*

*нымі персанажамі. У большасці песень адлюстравана жыццё старажытных качэўнікаў-агузаў, якія насялялі Каўказ, а калі дакладней, тэрыторыю сучаснага Азербайджана ў X—XI стст. (Пра гэта гавораць назвы гарадоў, крэпасцей, рэк і азёраў, што згадваюцца ў тэкстах). Цэнтральнае месца ў кнізе займаюць ідэі патрыятызму, гераізму і самаахвярнасці. Аднак трэба дадаць, што тут знайшлі сваё адлюстраванне і матывы больш ранніх паданняў з элементамі даісламскага эпасу, з характэрнай для таго часу рамантызацыяй жанчыны, сямейных і родавых сувязей. Вобразу маці адведзена асобае месца ў творы. Як і большасць былінна-казачных эпічных помнікаў азербайджанскага народа, кніга напісана рытмізаванай прозай, у якую вельмі ўмела ўведзены вершаваныя фрагменты лірычнага характару. Самабытны гумар, сакавітая вобразная мова, каларытнае апісанне традыцый, этнаграфічных асаблівасцей цюркаў-агузаў даюць падставу лічыць «Кнігу майго дзеда Каркута» непераўзыдзеным шэдэўрам народнай культуры і народнай мудрасці, бо амаль кожная старонка яе насычана прыказкамі, прымаўкамі, мудрымі народнымі павучаннямі.*

*Ідэі любові, дабра, справядлівасці, на якіх трымаецца бясцэнная кніга, сталі мерай светаадчування, сутнасцю жыцця сына азербайджанскага народа Камала Абдулы. Яго творы часцей за ўсё будуюцца на матэрыяле далёкай мінуўшчыны, але сваімі ідэямі яны скіраваны ў будучыню. Калі ўзяць у разлік словы самога пісьменніка: «Я раблю тое, што хочацца рабіць, і раблю тое, да чаго ляжыць душа», — можна пагадзіцца: ён шчаслівы чалавек, які ведае, што робіць і дзеля чаго так шчодра раздае свой талент. Кнігі Камала Абдулы выходзяць у Расіі, Францыі, Турцыі, Японіі, Польшчы, Бразіліі і іншых краінах свету. Дзе б ні выдаваліся яго творы, усюды яны выклікаюць палеміку і жывы чытацкі інтарэс, бо за ўсімі творамі стаіць майстар, у якога свой голас, свой індывідуальны стыль, свая вядучая тэма — гісторыя і чалавечыя лёсы ў кантэксце гісторыі сваёй краіны.*

*Існуе справядлівае сцвярджэнне пра тое, што сапраўды таленавіты пісьменнік умее падарыць чытачу цуда, і прырода гэтага цудадзейства ў душы самога пісьменніка, у яго светаадчуванні, ва ўменні звыклыя з'явы жыцця падаць у нязвыклым ракурсе, несумяшчальнае аб'яднаць і падаць як вынік адной падказанай сэрцам гісторыі:*

Ніхто сябе не ўбярог, не ўратаваў душы...
Не веру, што пакінем след там, дзе ўсе жылі.
Нам невядомы гэты шлях, і мы яму ніхто...
Што ён даруе нам усім: жыццё ці забыццё?

*У сваім новым рамане «Даліна Чараўнікоў» Камалу Абдуле ўдаецца яшчэ глыбей пранікнуць у тайны чалавечага быцця і разам са сваімі героямі парушыць спакой у царстве мёртвых. Усім ходам падзей у рамане пісьменніку важна было данесці думку пра тое, што сіла душы чалавечай, суладная з правільным выбарам у жыцці, здольна даць яму многае. Калі ж чалавек становіцца на шлях помсты, нябёсы адварочваюцца ад яго, і тады ланцуг зла разрастаецца, пагражаючы поўным знішчэннем. Але і ў гэтых нескончоных лабірынтах зла пісьменнік імкнецца даць сваім героям шанц: прыдворнаму кату пасылае каханне, і яно абяцае яму збаўленне ад душэўных пакутаў, загартаванага ў бясконцых вандроўках караваншчыка ён акружае адданымі людзьмі, якія дапамагаюць яму здзейсніць задуманае; выгнанніку-мудрацу ён дае верных і бескарысных вучняў, якія гатовы прадоўжыць яго вучэнне... Але позна. Механізм зла ўжо запушчаны, і пільнае вока Усявышняга бачыць, але не можа стрымаць удзельнікаў гэтай неверагоднай гісторыі ад неабдуманых*

*учынкаў: сын, помсцячы за смерць бацькі, забівае маці, дзядзьку, а затым і жанчыну, якую пакахаў да самазабыцця; яго нашчадак, не дачакаўшыся справядлівага вердыкту, чыніць самасуд над шахам; вучні мудраца замест таго, каб прадоўжыць справу настаўніка, заканчваюць жыццё самагубствам. І толькі чараўнік-медыум, які ўмеў балансаваць на мяжы рэальнасці і царства мёртвых, змог выканаць сваё зямное прызначэнне — надарваць ланцуг зла, вырваць з яго нявінную душу і падарыць ёй надзею на збаўленне.*

*Можна пагадзіцца з тым, што раман «Даліна Чараўнікоў» напісаны і як філасофская прытча аб дарэмнасці зямных пакут, аб каханні і абавязку, але адначасова гэта і чароўная казка, насычаная каларытам Усходу, узвышаная і пранікнёная, нягледзячы на трагічны фінал. Іменна ў легендах і паданнях роднага краю, у філасофіі Усходу чэрпаў Камал Абдула матывы і вобразы для сваіх будучых твораў. Яго героі мужныя і адважныя, яны ўмеюць абараняцца, але калі і нападаюць, то дзеля таго, каб адпомсціць за нанесеную крыўду. Слуга гатовы стаць на абарону годнасці свайго гаспадара, праяўляючы пры гэтым велікадушша і высакароднасць. Сіла герояў, іх адвага не перашкаджаюць захапляцца прыгажосцю жанчыны, купалам зорнага неба, экзотыкай усходняга пейзажу. Бясконцая дарога ў пустыні нібы ажывае пад пяром пісьменніка. Яна нагадвае яму прывабнае цела жанчыны-велікаршы, усыпанае радзімкамі-гарадамі. Нязменныя спадарожнікі вандроўцаў — зоркі, па словах творцы, таксама дарогі. Дарогі для святла, якое, прабіваючыся праз цемру, даходзіць і да нас.*

*У адным са сваіх вершаў Камал Абдула гаворыць так:*

Мой Бог, усё, што ты стварыў,
Ад дасканаласці далёка.

*З гэтымі словамі можна пагадзіцца, а можна і аспрэчыць іх. Адзінае застаецца бясспрэчным: літаратурны талент Камала Абдулы падорыць чытачу шмат незабыўных хвілін ад сутыкнення з незвычайным светам яго прозы, такой узвышанай і такой зразумелай для тых, каго хвалююць вечныя праблемы чалавечай існасці.*

## Раздзел I

Заставалася зусім мала... Яшчэ б хоць трошкі, зусім крышку напружыцца, працягнуўшы рукі ўвысь, і ён бы змог дакрануцца да зорак. Караванбашы не адводзіў здзіўленых вачэй ад гэтых распешчаных незлічанымі поглядамі стомленых свяцілаў, рассыпаных над самай яго галавой саляной карцеччу. Прайшло шмат часу, пакуль ён, нарэшце, адарваў свой заварожаны позірк ад гэтага відовішча і агледзеўся навокал... Коні, мулы, вярблюды — кожны з іх на свой лад рыхтаваў сабе месца для начлегу.

Караван цяжка пераводзіў дух, яго марудна агортвала немата ночы. Толькі часам даносіўся роў аднаго неўгамоннага з вярблюдаў, якія ўжо апусціліся на зямлю і прыцісналіся адзін да аднаго, ці іржанне каня; аднекуль здалёк чуўся брэх сабакі, змешаны з завываннем ваўка, ён усяляў у душу чалавека трывогу, быццам ад сустрэчы з адзінокім вандроўнікам на дарозе. І не было больш нічога, што магло б парушыць гэту злавесную цішыню. Паўсюдна паспелі ўжо раскласці вогнішчы, і яны так старанна гарэлі, што ў некаторых месцах ад іх засталося толькі вуголле, якое было падобна да змарнелага ад працы дня. Вярблюды ляжалі нерухома, нібы камяні, аброслыя лішайнікам, а коні і мулы застылі, бы цені...

* * *

Выбраўшы начлег іменна тут, гэты вялікі караван з усёй сваёй жывёлай, нукерамі, караваншчыкамі, рабамі адалеў доўгі, цяжкі шлях, і ўжо блізка былі межы айчыны. Караванбашы мог адчуць гэта па ўжо марудна зменлівых колерах зямлі, якая з кожным крокам каравана наперад рабілася ўсё больш цвёрдай ад марозу. Дасць Бог, калі ступяць на зямлю айчыны, тады і пакіне страх ад магчымай сустрэчы з разбойнікамі і грабежнікамі. Зараз, хоць і знаходзіліся яны на подступах да дому, страх, нібы смурод гнілой падлы, неадступна гнаўся за ім. Краем вока ён задаволена слізгануў па доўгіх фігурах рухомых ценяў — стражнікі! Усіх трох ведаў добра, безаглядна давяраў ім, яшчэ ў родных мясцінах правёў іх праз мноства іспытаў і толькі пасля ўсяго гэтага дазволіў узяць у свой караван.

Стражнікі прыблізіліся, робячы выгляд, што не пазналі яго, і галоўны з іх, згодна з прынятым рытуалам, спытаў у яго імя ночы. Пра сябе Караванбашы падумаў: «А калі ж не назаву, што зробіш са мной?», але ўслых вымавіў: «Барвова-чырвоны гарызонт». Стражнікі прайшлі міма, растварыліся ў цемры.

Кожная з начэй мела сваю назву, і, прыдумваючы іх, самы блізкі і верны яму чалавек — Хаджа[1] Ібрагім ага — кожную раніцу распаўсюджваў яе сярод сваіх людзей у караване, толькі свае ведалі гэту назву, ніводная жывая душа за межамі каравана не павінна была ведаць імя ночы, так на доўгім і небяспечным шляху караван абараняўся ад чужынцаў. Вельмі важна мець у падарожжы такі шчыт ад разбойнікаў, забойцаў і злодзеяў. Ці гэта не жарт, караван быў падобны да каханай жанчыны, упрыгожанай незлічонымі каштоўнасцямі, а галоўнае заключалася ў тым, што жанчына гэта прызначана, у самую першую чаргу, быць кінутай у ногі Яго Вялікасці, а пасля ўжо нешта пойдзе на кірмаш у крамы, дзе гандлююць дарагімі металамі і камянямі, нешта — да заказчыкаў.

Вось ужо каторы раз ён вядзе такі караван. Быць вечным вандроўнікам — нейкім непадуладным розуму чынам — было суджана яму воляй лёсу. Дамашнія яго — жонка, адзіны сын, слугі, кенізы[2] раслі, сталелі, старэлі, чакаючы яго, ён жа не мяняўся. Быццам затаілася ў ім нешта, нейкая дзіўная сіла, нейкае незразумелае нечалавечае напружанне, што пранізвала наскрозь, трымалі-захоўвалі яго. Ён не мог састарыцца, не мог знясіліцца. Быццам бы была ў яго найвышэйшая мэта, самая запаветная, самая святая тайна, і пад гэтым знакам працякала ўсё яго жыццё, але так гэта ці не, — ён і сам не змог бы больш-менш разумна адказаць.

Не жадаючы больш тлуміць свае мазгі пустымі разважаннямі, Караванбашы прайшоў углыб шатра, які быў распасцёрты спецыяльна для яго. Аднекуль, быццам з магільнага небыцця, з’явіўся Хаджа Ібрагім ага, прашмыгнуў у шацёр услед за ім. Хаджа быў відным мужчынам з чырвонай барадой. Чырвань у яго барадзе быццам бы пачала цьмець, ледзь-ледзь, валасок за валаском... «Мусіць, не менш, чым месяц, яго твар не бачыў вады, — чамусьці падумаў Караванбашы, міжволі глянуўшы на яго, — хутчэй бы дабрацца да нашых мясцін, увайсці ў хату, у сад, у двор, відаць, бедныя мае спадарожнікі канчаткова здалі». Караванбашы сумна ўсміхнуўся, узяў з кута свечку, запаліў яе ад крэсіва і замацаваў канец свечкі на падносе. Прастора шатра азарылася баязлівым святлом, абазначыліся цені. Караванбашы

[1] Хаджа — прыстаўка да імені, што абазначае «еўнух».

[2] Кенізы — служанкі.

дапытліва зірнуў на Хаджы Ібрагіма агу. Быццам хацеў сказаць: «Ты чаго прыйшоў, што табе трэба?»

Хаджа Ібрагім ага страпянуўся:

— Ды прыбуду я тваёй ахвярай, прыйшоў, каб... На сэрцы неяк неспакойна, прайсці засталося зусім няшмат, як толькі пяройдзеш праз сопкі, што перад намі, тут жа адкрыецца даліна...

— Ведаю, хіба ты мне ўказваеш дарогу?

— Не, ды прыбуду ахвярай тваёй, не, сэрца тваё таксама сумуе, ведаю... Дасць Бог, хутка закончым гэту справу... Ты падумай, ці патрэбен я табе?! Можа, добранька расцерці ногі?!..

— Не, Ібрагім ага, ідзі, адпачні трохі. Сёння ўсе моцна стаміліся. — Караванбашы нахмурыўся. — Як ты лічаш, ці можа здарыцца такое, што іх не будзе ў даліне?

— Не, ды прыбуду ахвярай тваёй, не можа... Яны там заўжды, пастаянна, але наконт таго, каго шукаеш, нашага, не зусім перакананы. Вельмі спадзяюся, але... хто яго ведае?.. Звычайна яны выстройваюцца і стаяць уздоўж даліны. Гэта і ёсць іх праца, калі толькі хто-небудзь не возьме іх з сабой, не даручыць справу...

— Нядоўга засталося... Дай Бог, каб наш, той, каго мы шукаем, аказаўся сярод іх.

— Будзе, будзе... Не турбуйся, не мучай сябе. Уся надзея на Усявышняга, хай купал нябесны ўратуе яго...

Хаджа Ібрагім ага, пачціва адступаючы назад, выйшаў з цёплага шатра ў марозную сцюжу. Звонку ўсё свяцілася і ззяла. Усё наваколле было ахутана чароўным святлом, ззянне зорнага россыпу даходзіла і да зямлі. Здавалася, быццам адтуль, з таго ззяння выходзіць тонкі пранізлівы, поўны тугі вісклівы гук. Хаджа Ібрагім ага агледзеўся... Падышоў бліжэй да шатра. Справа, прыціснуўшыся з другога боку, зняўшы з вярблюда нешта падобнае да кіліма з карункамі, рассцяліў, патаптаўся па ім, прылёг. Некалькі разоў перавярнуўся з аднаго боку на другі, каб лацвей размясціцца, але, як ні стараўся, як ні сіліўся, усе яго намаганні заснуць і забыцца не здзейсніліся. І гэтак, утаропіўшыся ў неба і паглядаючы на халодныя стомленыя зоркі, ён акунуўся ў свае думкі.

* * *

Даліна, пра якую згадваў Хаджа Ібрагім у гаворцы з Караванбашы, пачыналася за Змяінай сопкай ад зялёнага падножжа Нябачнай Гары, спускалася цяснінай проста ў нізіну і мела назву Даліны Чараўнікоў.

Цясніну празвалі так таму, што ўсе навокал ведалі, бачылі, паверылі, што з розных канцоў Зямлі ад Магрыба да Машрыга сышліся сюды знакамітыя чараўнікі, чарадзеі і магі, абраўшы гэта месца сваім прыстанішчам. Чаму яны абралі іменна яго — не ведаў ніхто, і самі яны аб гэтым не абмовіліся ні словам. Уздоўж даліны, куды ні глянь, можна было ўбачыць іх — то па адным, то па двое ці, сабраўшыся купкай, чараўнікі праходжваліся туды-сюды, размахваючы рукамі, нешта расказвалі адзін аднаму ці проста стаялі моўчкі. Дарога, што вяла з цясніны ў родныя мясціны, была для іх асноўнай крыніцай пражытку, яны жылі міласцінай і дарункамі прахожых, і на пражыццё ім хапала. Часам хто-небудзь з падарожных, увераваўшы ва ўсемагутнасць магіі, дзеля дасягнення якой-небудзь сваёй мэты, запрашаў да сябе аднаго з чараўнікоў, каб скарыстаць яго цудадзействы. Затым, здзейсніўшы акт вядзьмарства ці прагаварыўшы замовы, той вяртаўся назад у даліну і ўздыхаў на поўныя грудзі

толькі пасля таго, як дабіраўся да паўголай скалы, якая напалову ўвайшла ў зямлю, і вострыя выступы якой былі добра знаёмыя толькі яму. Існавала правіла: ад заробку кожнага перападала ўсім астатнім. Вярнуўшыся, нельга было не падзяліцца з таварышамі, у іх на ўсіх былі агульнымі і сум, і бяда, разам яны елі і пілі, вялі гутаркі і разам маўчалі. Толькі на гадзіну ці на дзве на працягу дня кожны чараўнік, схаваўшыся за скаламі ці за адзіночнымі кустамі, велічынёй з добрае дрэва, заставаўся сам-насам з сабой. Гэты адрэзак часу так і называўся — часам адасаблення і шанаваўся сярод усіх як святы. Ніхто з іншых чараўнікоў не асмельваўся парушыць час адасаблення сабрата. На тое была тайная забарона, ці што... Чым займаўся чараўнік на працягу гэтых гадзін, было вядома толькі яму аднаму. Ён размаўляў сам з сабой, задаваў пытанні і сам на іх адказваў, аднак пры гэтым ніхто не разумеў, што ён гаворыць. І усё ж аднойчы адзін з чараўнікоў па-сяброўску прывязаўся да нейкага набожнага гандляра — раба Божага. Той узяў яго з сабой у горад, каб з дапамогай вядзьмарства пакараць суседа, наслаць на яго галаву розныя напасці. Іменна гэтаму гандляру і адкрыў чараўнік тайну свайго часовага адасаблення. Аказваецца, што ў гэтыя запаветныя гадзіны чараўнікі вызваляліся ад дару чарадзейства, станавіліся безабароннымі і бездапаможнымі, як дзеці. На гэты час яны быццам бы перадавалі свае чары невядомай таямнічай сіле, а выходзячы з часу адасаблення, усё, што адбывалася з імі там, яны начыста забывалі. Неўзабаве той набожны гандляр — раб Божы, што заплаціў золатам і срэбрам за паслугі чараўніку, які раскрыў яму сакрэт часу адасаблення, пасклнарнічаў і вырашыў тайком прасачыць за ім, каб у зданы час па-грабежніцку вярнуць назад свае грошы. І вось гэты час настаў, чараўнік схаваўся за скалой, стаў, прыкрыўшы вочы рукамі, акунуўся ў стан, блізкі да сну, і ўсё для яго стала абыякавым. Тут жа з'явіўся гандляр. Моўчкі пачаў абмацваць яго кішэні, аддзенне. Пазбаўлены волі, знясілены, чараўнік не супраціўляўся яму.

Адным словам, знайшоў гандляр грошы, якія раней заплаціў за вядзьмарства. Убачыўшы золата, загорнутае ў сінюю анучку, пазнаў сваё паднашэнне, усё аказалася на месцы, у спешцы парассоваў манеты па кішэнях. І, пускаючыся на ўцёкі, не ўтрымаўся, азірнуўся, паглядзеў у твар чараўніку, хоць гэтага нельга было рабіць. Але адкуль той мог ведаць? Чараўнік, як і дагэтуль, стаяў з заплюшчанымі вачыма, толькі лёгкі цень крыўды праслізнуў усмешкай на яго вуснах, ён сказаў: «Ідзі, але без майго блаславення...» Не звярнуўшы ўвагі на яго словы, гандляр у спешцы выбраўся з цясніны, выйшаў на дарогу, што вяла ў горад, і, нават не аддыхаўшыся, пакрочыў зваротным шляхам. Дарога была тая ж, і горад стаяў на тым жа месцы. Аднак (ніхто не паверыць!) бедалага да гэтай пары блудзіць па праклятай дарозе, а дарога-пятля яго нікуды не прыводзіць. Так і кружыць ён у ваколіцах Нябачнай гары, і кожны раз невядома адкуль, магчыма, з боку Змяінай сопкі, зноў выходзіць на падступы да Даліны Чараўнікоў. Бывала, сачылі за ім людзі, але ўсё роўна заставалася загадкай, як можна заблукаць у знаёмых месцах? Бачылі: вось ідзе ён па дарозе, ідзе і раптам прападае з відавоку таго, хто крадзецца за ім услед, а затым аказваецца ззаду і даганяе таго, хто за ім сачыў. Чаму так адбываецца, у чым тут таямніца? Безумоўна, таямніца...

Знаходзіліся, праўда, і тыя, хто зусім па-іншаму расказвалі пра гэты выпадак. Сцвярджалі, што той набожны гандляр гэтак жа, як і раней, сціпла жыве-пажывае ў сваім родным горадзе. Маўляў, ніколі не бываў ён у гэтых мясцінах і нікога з чараўнікоў з Невядомай гары не забіраў з сабой, што яго несумленныя суседзі ў поўным парадку, кожны з іх жыве ў дастатку. Ці гэта не тайна, Божа? Безумоўна, тайна!

* * *

На самай справе прычынай, што падганяла Караванбашы і Хаджу Ібрагім агу ў Даліну Чараўнікоў, было жаданне выбраць чараўніка і ўзяць яго з сабой. Гэты чалавек павінен быць незвычайным ведзьмаком. Патрэба заключалася ў тым, каб ён валодаў асаблівым талентам, больш важным, чым здольнасць да магіі і вядзьмарства. Дасць Бог, тады здзейсніцца, у рэшце рэшт, тайны намер Караванбашы, той, што гадамі выношваў ён у душы. Але ж яно было запаветнай марай Хаджы Ібрагім агі, ён прагнуў ажыццяўлення гэтай мары нікольki не менш, чым Караванбашы, да якога меў сардэчную прывязанасць і любіў больш, чым жыццё. Кожны Божы дзень сузіраў Хаджа змучаную душу Караванбашы, сам мучыўся і сваім разбітым сэрцам шчыра прасіў у Бога хуткага збавення ад гэтых пакутаў.

Намер жа Караванбашы заключаўся ў наступным. Ён хацеў выклікаць дух свайго бацькі, ката Мамедкулі, які страціў розум шмат гадоў таму, стаў брадзягай, а затым памёр, сын не ведае нават дзе яго магіла і ніколі не бачыў бацькавага твару. Наладзіць з ім сувязь — вось што патрэбна было ад чараўніка няшчаснаму Караванбашы. І Хаджа Ібрагім ага яму клятвенна абяцаў, што абавязкова адшукае і прывядзе чалавека, які ўмее выклікаць духаў. Павінен прывесці, абавязкова...

Калі гэтага не здарыцца, жыццё яго гаспадара ператворыцца ў сапраўднае пекла, і так будзе працягвацца дзень за днём, і пакуты яго стануць яшчэ больш невыноснымі.

Разважаючы аб усім гэтым Хаджа Ібрагім ага варочаўся з боку на бок і сам не заўважыў, як заснуў.

## Раздзел II

Усё вяршылася за цюлевай фіранкай, калі нешта і адбывалася, то адбывалася іменна там... Адданы шаху нукер, яго пышнавусы першы кат гэтак жа, як і ўсё сваё мінулае жыццё, ні разу не задумваўся пра свае самыя смелыя ўчынкі, дзейнічаў, спадзеючыся толькі на Бога. І зараз ён нікольki не засумняваўся ў тым, што сённяшняе сваё рашэнне зможа здзейсніць з лёгкасцю. Адчуваў, канец яшчэ далёка, а ў мускулах, ва ўсім целе крыецца дастаткова сіл і моцы.

А рашэнне, да якога нечакана для сябе прыйшоў валадар гэтай нястрымнай сілы, нястрымнага руху, што рваліся з кожнай клеткі, павінна было б збянтэжыць яго больш за ўсё. Сам так рашыў, калі ж падмануў сам сябе, як малое дзіця, збіўся з дарогі... — ён прачнуўся аднойчы цудоўным ранкам і, стукнуўшы сабе рукой па калене, тым, што вечна ные, сказаў: «Хопіць». «Стаміўся ўжо». Сказаў, хочацца крышку пажыць разам з табой, правесці свае апошнія гады ў гэтым светлым, прыгожым горадзе на вяршыні гары, адкуль, здаецца, няцяжка дакрануцца да месяца, горадзе, над якім у небе вечна блукае адзінокая аблачынка. Выходзіць, яму іншага і не трэба было, акрамя таго, каб дажыць свой век на гэтай крывой вулачцы, у хацінцы, складзенай з няроўных камянёў. Рашыцца-то ён рашыўся, аднак пры гэтым нейкая тайна, трымценне ці ўвогуле нешта неймавернае ўскалыхнула яго, закалола глыбока ў сэрцы; боль гэты ўзнік зусім нядаўна, і толькі ён пачынаўся — у галаве ўсё мутнела, запаўнялася шэрым туманам, мінулае расплывалася, губляла абрысы, і як ён ні стараўся, што ні рабіў, не мог нікога і нічога прыпомніць; напружыўшыся, удавалася думаць толькі пра тое, што калі б змог прыпомніць хаця б нешта

ці некага, то ціхенька, паступова ўнутраныя дрыжыкі і пахістванне, што пераходзілі ў боль, сціснулі б яго абдымкамі чорнай хмары; усе гэтыя ўяўныя памутненні пройдуць, згінуць самі сабой. Пазбаўленне ад гэтага нясцерпнага болю было яго запаветным жаданнем. Так, шляхі Гасподнія нязведаныя, ці патрэбна было яму якраз цяпер гэта каханне, гэта насланнё, што зляцела з нябёс як пакаранне — ён не мог падабраць свайму стану іншай назвы, канечне ж, пакаранне, хіба такія мукі могуць быць узнагародай? Так, гэта каханне, гэта страсць, што зваліліся на яго з завоблачнай высі, падобныя да птушкі на роднай галінцы, — пакаранне, што няпрошана ўварваліся ў яго лёс, бессэнсоўныя каханне і страсць, ён раней ніколі ў гэта не верыў і нават думаць пра гэта не хацеў і толькі таму, што раней не даводзілася спазнаць іх, толькі чуў пра іх, гэтыя каханне, страсць — няўжо яны бываюць такім салодкімі, Госпадзі?!

Можа, гэта дзяўчына з-за страху прывязалася да яго, бо да гэтай пары ўсе, хто баяўся яго, звычайна кляліся яму ў сваёй безагляднай любові, давалі шмат прыгожых абяцанняў. Але, як толькі ён клаўся з якой з іх у ложак, адразу ж хацелася скінуць з сябе, як коўдру, тую жудасць, што адбівалася ў бяздонных жаночых зрэнках, а, можа, страх ці агіду. Стараючыся зразумець прыроду гэтага страху, ён, у рэшце рэшт, уцяміў для сябе: не, гэта нешта не тое, бо калі каханне бывае такім — яно мне і задарма не патрэбна, хутчэй бы закончыць з гэтым усім, хай сыдзе з вачэй маіх гэта сучае насенне, — і, прадаўжаючы так думаць, ніяк не мог скончыць тое, што рабіў; бывала, плюнуўшы, злазіў з жанчыны, усё цела якой прабіралі дрыжыкі ці то ад угодлівасці, ці то ад жудасці, і, мармычучы сам сабе пад нос, лаючыся, імгненна падымаўся з пасцелі, хутка апранаўся. І гэтак паўтаралася раз за разам, таму што кату Мамедкулі былі ненавісныя тыя, хто баяўся яго.

Цяпер быццам бы ўсё было інакш. На твары гэтай маладой жанчыны няма і пячаткі страху, яна не адводзіла погляду, без сарамлівасці і нават з выклікам глядзела ва ўпор сваімі зялёнымі гуллівымі вачанятамі з-пад доўгіх век. Паміж імі не засталося і ценю адчужанасці, ніякіх межаў і ні кроплі сумнення ў тым, што яны зліліся ў адно. Не толькі сваёй трапяткой плоццю, але і душамі яны прыпалі адно да аднаго.

Яны абое адчувалі: ёсць толькі тое, што адбылося з імі зараз, а ўсё былое выглядала бессэнсоўным і недарэчным. Усё, што ёсць сёння, і ўсё, што павінна было адбыцца, належыць будучыні. Вось да якога дзіўнага для сябе рашэння прыйшоў кат Мамедкулі ў адну з начэй, што правёў з ёй.

Адзін з дзесяці катаў, а, магчыма, і галоўны сярод іх, рослы плячысты здаравяк з пышнымі патырчастымі вусамі Мамедкулі, якога аграмністае войска беражліва, быццам вялікую каштоўнасць, насіла з сабой з краіны ў краіну, з горада ў горад, гэты Мамедкулі, які наводзіў на ўсіх жах, напярэдадні сваіх пяцідзесяці гадоў і ў самым душэўным стане сказаў сабе: «Хто я такі, пакорлівы раб Божы?» і, ні аб чым не думаючы, не па волі розуму, а падпарадкаваўшыся сэрцу, нечакана прыняў рашэнне.

* * *

А рашэнне было такім. Тут, у гэтым горадзе, які размясціўся на вяршыні гары і таму знаходзіўся бліжэй за ўсё смяротнае да нябёсаў, зорак, месяца і адзінага Бога, ён павінен навекі разлучыцца з войскам, з падзішахам, які апекаваў яго, і

візірам Машдалі, якому ён быў да канца жыцця абавязаны. Так, ён прыйдзе, прыпадзе да яго ног, калі гэта будзе патрэбным — заплача наўзрыд, праллье горкія, як чорны дождж, слёзы. «Я нукер твой да смерці, — скажа збянтэжанаму візіру Машдалі, — толькі б той замовіў слоўца яго міласці, просьбу, вымаліў дараванне мне, заблуднаму. Пакідаю свайго адзінага сына пад тваім найвышэйшым апякунствам, — скажа яму, — ты быў мне як бацька, будзь жа і яму бацькам. Дазволь мне супакоіцца тут, няма сіл вярнуцца назад, завяршаю разам сваю службу, памілуй, гасудар, даруй за непаслушэнства, за тое, што іду супраць волі тваёй, мы ж прыбылі разам, а цяпер табе давядзецца вяртацца без мяне, дык ты ці чацвяртуй мяне — нягодніка, ці адпусці, дазволь асесці ў гэтым праклятым горадзе, займець свой ачаг. Я так змарыўся, о, Божа! Нельга стаміцца мацней за мяне».

Вось гэтак ён збіраўся прасіць візіра Машдалі, а затым, схіліўшы да зямлі сваю непакорную галаву, пачціва адступаючы назад, меўся выйсці з палаца і свабодным ступіць на тую маставую, на тую крывую, ціхую вуліцу, якая пачыналася ад самай гары Аладаг і цягнулася ўвысь, у бясконцую даль. Мамедкулі палічыў завершаным сваё далёка нялёгкае ўслужэнне. З гэтага моманту яго службе ў падзішаха, якую ён любіў усёй душой, усёй сваёй істотай, прыходзіў канец. Так ён з нецярпеннем разлічваў, а Бог толькі-толькі пачынаў распараджацца...

## Раздзел III

...Караван ужо быў гатовы прадоўжыць сваё шумнае падарожжа. Разышоўшыся па сваіх месцах, людзі толькі і чакалі загаду рушыць у дарогу. Толькі шацёр Караванбашы моўчкі цямнеў у перадсвітальным змроку. Хаджа Ібрагім ага мімаходзь глянуў на цяжка нагружаных вярблюдаў і мулаў, на нецярплівых коннікаў, што занялі свае месцы ўздоўж усяго каравана, на трох нукераў, якія непадалёку ад шатра, чакаючы яго, тапталіся па гарачым прысаку, імкнучыся патушыць касцёр. Злёгку кашлянуўшы перад уваходам у шацёр, ён, асцярожна нагнуўшыся, ступіў унутр.

— Ды прыбуду я тваёй ахвярай, хай будзе добрай гэта раніца для цябе, мы гатовы.

Караванбашы ў дарожным адзенні, скрыжаваўшы ногі, усё яшчэ сядзеў у цёплай пасцелі, глыбокі роздум чытаўся на яго твары. Ён тут жа падняўся, быццам бы чакаў іменна гэтых слоў ад Хаджы Ібрагім агі, паправіўшы складкі адзення, прывёў сябе ў парадак.

— Цудоўна, цудоўна. Хай асіліць дарогу той, хто ідзе, хай і твая раніца будзе добрай, распарадзіцеся, каб разабралі шацёр.

Караванбашы, а за ім і Хаджа Ібрагім ага выйшлі яшчэ на золку.

Хаджа падаў знак, і нукеры, якія патушылі касцёр, адразу схаваліся ў шатры; сабраўшы пасцель, посуд, розныя рэчы ў цюкі, панеслі іх да мула, што стаяў непадалёку, збіраючыся наўючыць яго. Падвялі наравістага арабскага скакуна Караванбашы, і той адным махам ускочыў у сядло. Хаджа Ібрагім ага таксама сеў на свайго каня. Тут жа падляцеў коннік на гнядым жарабцы, чыё месца ў караване было заўжды з боку вядучага вярблюда. «Што загадаеце, мой гаспадар?» — на скаку звярнуўся ён да Караванбашы, гэта быў яго першы памочнік — сарван Гарасуварлы.

— Адпраўляемся, Гара! — загадным голасам сказаў Караванбашы, паглядваючы праз яго галаву, на ледзь прыкметную ў паўзмроку дарогу.

— Па якой дарозе пойдзем? — удакладніў сарван Гарасуварлы.

— Вядзі караван па той, што праходзіць ля падножжа Нябачнай гары.

— Міма Даліны Чараўнікоў?

— Іменна так.

На твары сарвана Гарасуварлы не страпянуўся ні адзін мускул, толькі нейкія дрыжыкі ўзніклі ў глыбіні зрэнкаў, яны выступілі звонку, каб тут жа растварыцца ў паветры. Ён падумаў: «Хай уратуе нас Бог». І, не сказаўшы больш ні слова, павярнуў свайго гнядога туды, адкуль прыскакаў — да галавы каравана. Абагнуўшы вядучых вярблюдаў, падняў руку — падаў знак. Трубач радасна пратрубіў пачатак шляху. Шум узмацніўся. Караван марудна пачаў рухацца, і, з цяжкасцю наладжваючы звыклы стройны парадак, пусціўся ў дарогу. Хутка на месцы лагера не засталося ні душы, толькі кастры, хоць і на апошнім выдыху, але прадаўжалі тлець.

* * *

Да галоўнага горада краіны заставалася зусім мала, роўна адзін дзень і адна ноч аддзялялі іх ад запаветнай мэты гэтага шляху. Пакручастая дарога, што пралягла ля падножжа таямнічай Нябачнай гары, была не адзінай у гэтых месцах, шматлікія падарожнікі пратапталі тут другую і, паколькі першая ішла праз Даліну Чараўнікоў, па ёй праязджалі толькі ў тым выпадку, калі збіраліся пакарыстацца паслугамі чараўнікоў, а інакш ні адной жывой душы не хацелася ісці па гэтай дарозе, тым больш, калі гэта быў караван... Забабонны страх напаўняў душы людзей і засцерагаў ад таго, каб лішні раз не спакушаць свой лёс.

Вядучы вярблюд Гатазлы, велічна выцягнуўшы доўгую шыю, паважна ішоў побач з канём сарвана Гарасуварлы, вось ён зрабіў яшчэ адзін крок наперад, павярнуў направа і — нечакана знік. Разам з ім знік і сарван Гарасуварлы.

Хаджа Ібрагім ага, які здаля сачыў за вядучым вярблюдам, імгненна прыскакаў да Караванбашы.

— Хай пяройдзе гора тваё да мяне, вось і прыбылі, паглядзі, Гатазлы ўжо не відаць, знік.

Караванбашы прыжмурыў вочы і, як ні дзіўна, таксама не змог разгледзець Гатазлы, наадварот, ён адзначыў, што, ідучы за вярблюдам звілістым доўгім ланцужком, караван таксама пачаў знікаць з поля зроку, быццам губляючы адзін за другім вярблюдаў, коней, мулаў.

— Хвала прамудрасці тваёй, Госпадзі. Якую недаступную тайну захоўвае гэта гара! І самой гары не відаць, не відаць і ўсяго таго, што знаходзіцца па той бок ад яе. — Прашаптаў Хаджа Ібрагім ага, імкнучыся здзіўленнем стрымаць страх, што паступова завалодаў усёй яго істотай. Вярблюды, мулы, коні — усе яны адзін за адным заходзілі за Нябачную гару. Вось ужо хвост гэтай стракатай працэсіі прапоўз туды, і караван поўнасцю знік з поля зроку. Калі паглядзець, дык ніякай гары і не было, але і ўсё, што знаходзілася за ёй велічынёй з гэту гару, ні больш, ні менш, таксама рабілася нябачным. Унізе, з левага боку ад Нябачнай гары, размяшчалася тая самая Даліна Чараўнікоў, якая ў выглядзе аграмністага правалу цягнулася па цясніне. Караванбашы пачуў як стук сэрца аддаецца ў скроні. Ударамі пятак ён ледзь не прабіў бакі свайго каня. Што магла зрабіць бедная жывёліна? Конь хацеў пайсці хутчэй, але чамусьці фыркнуў і зноў бездапаможна апусціў галаву, не мяняючы няўпэўнены рытм сваіх крокаў.

— Хай пяройдзе боль твой да мяне, святло маіх вачэй, пацярпі, зусім блізка ўжо, ты столькі цярпеў, пацярпі яшчэ трошачкі. Усё роўна конь хутчэй не пойдзе. У гэтым тайна тутуэйшых мясцін.

Словы Хаджы Ібрагім агі злёгку супакоілі Караванбашы, і кіпень хвалявання ў у яго грудзях трохі сціх, бо іншага выбару не было, акрамя як быць цярплівым.

* * *

Даліна Чараўнікоў, як і заўсёды, адкрылася знянацку рознакаляровай нішай злева ад Нябачнай гары. Справа ў тым, што цясніна, якая дала прытулак чараўнікам, ва ўсе поры года нагадвала сабой квітнеючую паляну. І на гэты раз ярка-зялёным узорчатым дываном пасцілася тут у абдымках голай падмерзлай зямлі. Паглядзеўшы ўверх ад цясніны, можна было на свае вочы пераканацца ў агромністых памерах Нябачнай гары. Замест яе віднеўся трохвугольны праём на ўсю яе велічыню, увесь пакрыты туманам і акружаны самым звычайным ландшафтам: такі сустракаецца паўсюдна. Гэты гіганцкі праём быў падобны да шэрай фіранкі, што звісала аднекуль з нябёс. Да гэтага часу не знайшліся смельчакі, якія б рызыкнулі падняцца высока па горным схіле, таму што пасля двух-трох крокаў назіральнікам з боку пачынала здавацца, што чалавек, які ўзбіраецца на гару, ступае па паветры, а не па зямлі. Нейк адзін гараджанін усё ж вырашыў выпрабаваць свой лёс і падняцца на гару. Хоць сам ён адчуваў зямлю пад нагамі, назіральнікі бачылі, што ногі яго не дакранаюцца да зямлі, і, як ні прыглядаліся, малюнак заставаўся той жа: чалавек падымаўся па паветры проста ў неба. Аднак і ў гэтага чалавека, як і ў ва ўсіх астатніх, пасля некалькіх крокаў кураж прападаў, і ён палахліва спускаўся назад. Усё ж знайшоўся нейкі дэрвіш, імя якога раб Божы Хіснікерэм, які з-за сваёй упартасці і ліхасці характару неяк падняўся да канца, на самую вяршыню гары, пра гэты ўчынак хадзілі чуткі ў горадзе, старыя ўпаміналі пра яго ледзь не шэптам у сваіх размовах. Узыходжанне Хіснікерэма запомнілася ўсім. Не магло не запомніцца, таму што той дэрвіш быццам бы ўзнёсся на неба, робячы крокі ў паветры, то схіляючыся, то выпрамляючы спіну. Дайшоўшы да вяршыні гары, ён захацеў перавесці дух і крышку адпачыць, раскінуў рукі і прылёг ніцма. А ўнізе людзям здалося, што ён ляжыць пасярод аблокаў, як птушка з распасцёртымі крыламі. Пачуліся гучныя крыкі здзіўлення, і ўсе застылі ў чаканні таго, што ж адбудзецца далей. Чакалі, чакалі, але больш нічога дзіўнага не адбылося. Калі дэрвіш Хіснікерэм спусціўся да падножжа гары, ні адзін чалавек не прыблізіўся да яго — ні ў кога на гэта не хапіла духу. І пазней усе, хто сустракаў перапоўненага смуткам дэрвіша на вуліцах горада, зусім не імкнуўся да яго падысці, пагаварыць з ім, усе ставіліся да яго насцярожана. У сваю чаргу і сам дэрвіш Хіснікерэм пасля таго здарэння не вельмі хацеў кантактаваць з людзьмі, якія пабойваліся яго. А ў апошні час, адчуваючы незразумелую разгубленасць, ён выклікаў непрыязнасць ва ўсіх яшчэ і сваім дзіўным выглядам. Аднойчы ён гэтак жа нечакана, як і з'явіўся ў гэтым горадзе, знік, сышоў некуды і больш ніхто яго не бачыў. Як кажуць, з вачэй далоў, з сэрца прэч. Пагаворвалі, што пасля свайго загадкавага знікнення ён набыў нейкі цудадзейны дар і прабывае ў Даліне разам з іншымі чараўнікамі. Такім яго там быццам бы і ўбачыў адзін праведны чалавек, які хадзіў у Даліну па мага, каб той вырашыў яго патрэбу. А ўвогуле, хто яго ведае.

* * *

Караванбашы і Хаджа Ібрагім ага стрымлівалі коней, якія гатовы былі са страху адхіліцца ад цясніны, і, пагладжваючы конскія бакі, сталі іх супакойваць. Крыху прыгнуўшыся, саграваючы дыханнем напружаныя шыі жывёл,

ездакі часам шапталі ім нешта на вуха, а затым, узняўшы вочы, пільна глядзелі на дарогу, яны асабліва ўважліва сачылі за правым яе бокам, а ў накірунку цясніны, як згаварыўшыся, стараліся не глядзець. Іх погляды скрыжоўваліся на хвасце каравана, які паварочваў за Нябачную гару, знікаў, але яны ведалі, што гэта зрокавы падман, на самай жа справе караван ужо амаль абагнуў Нябачную гару і выйшаў на раўніну Дзюзангах, яшчэ крышку — і Нябачная гара, і Даліна Чараўнікоў застануцца зззаду.

Караванбашы не заўважыў, хутчэй пачуў, што побач яго спадарожніка больш няма, але гэта не здзівіла. Так і павінна было быць. Адзіная сцежка, што змяёй спускалася ўніз, у Даліну Чараўнікоў, павяла Хаджы Ібрагім агу ў самую сярэдзіну цясніны, у самы гушчар яе буйной квецені. Там ён павінен быў знайсці свайго спадарожніка, дамовіцца, а затым разам з ім паехаць услед за Караванбашы тым жа шляхам, па якім рухаўся той, і, калі ўсё атрымаецца так, як было задумана, яны дагоняць караван, які прыпыніцца, каб перадыхнуць у мястэчку Гюнартадж на раўніне Дзюзангах пад велічэзным дрэвам Гаргач у акружэнні бурлівых крыніц. Тут даўно ўжо гаспадарылі адны вятры, а пакрытыя ценем запусцелыя руіны чалавечага жытла раздзіралі душу на кавалкі. Прыгажосць гэтых мясцін — крыштальныя крыніцы, пышныя дрэвы, кветкі, што не вянуць зімой і летам, адзін старажытны  Гарагач чаго варты! — вабілі вандроўнікаў спакоем. Але чаму тут не прыжыліся людзі пасля таго, як апошні мужчына, апошняя жанчына пакінулі гэтае месца? Куды яны пайшлі, куды зніклі — ніхто пра гэта не ведаў. Смак вады ў тутэйшых крыніцах не меў сабе роўных. І калі каму-небудзь з гараджан выпадала праходзіць тут, ён удосталь наталяў смагу крыштальна чыстай крынічнай вадой, што бруілася з-пад каранёў Гарагача, напоўніў свае хурджыны і нёс гэту ваду дадому.

Іменна тут, у Гюнартаджы, Караванбашы нібыта дзеля таго, каб напаіць караван, павінен быў спыніць яго і дачакацца звароту вернага Хаджы Ібрагім агі.

## Раздзел IV

Хаджа Ібрагім ага ціхенька пад’ехаў да сцежкі, што вяла ў цясніну, і спыніўся. Спешыўся. Перадаў вуздэчку свайго каня нукеру Назаралі, які ішоў услед за ім. Назаралі моцна прывязаў двух мулаў да вялікага куста, што рос ля дарогі, ля самай сцежкі. Затым, не сказаўшы ні слова, сеў на каня Хаджы Ібрагім агі і безаглядна паскакаў наўздагон каравану, хвост якога яшчэ віднеўся наперадзе. Хаджа Ібрагім з цяжкасцю зняў напакаваную правіянтам суму са спіны аднаго з мулаў і ўскінуў яе на свае плечы, потым, павярнуўшыся, у апошні раз паглядзеў у бок каравана, што з кожнай хвілінай аддаляўся ўсё больш і больш. Краем вока ён прыкмеціў спіну Назаралі, які скакаў стрымгалоў, затым асцярожна ступіў на звілістую сцежку, што вяла проста ў Даліну Чараўнікоў. Сагнуўшыся пад цяжарам грузу, паўтараючы ў сваім баязлівым сэрцы словы «імем тваім, Божа», Хаджа Ібрагім ага крок за крокам пачаў спускацца ўніз па сцежцы.

Якая тут тайна, што з ім адбывалася — ён не разумеў, але ён ясна чуў у вушах стук свайго сэрца. Пасля наступных двух-трох крокаў Хаджа Ібрагім ага з вялікім здзіўленнем і трымценнем у душы замёр на некалькі хвілін, сузіраючы тую прыгажосць, што раптоўна адкрылася перад ім. Паступова ўсё, што ён убачыў у цясніне — яркая трава, кветкі, мудрагелістае перапляценне маладых і моцных галінак кустоў, свежы пах усёй гэтай зеляніны, што знаходзілася ў непрыкметным руху ад павеву лёгкага ветрыку, — усё гэта

надало яму смеласці, і ён ужо больш упэўнена пакрочыў уніз. Цяпер на яго шляху сталі трапляцца на вочы раней непрыкметныя, маўклівыя людзі. «Вось яны...» — уздыхнуў Хаджа Ібрагім ага. Чараўнікі таксама ўбачылі незнаёмага, але яго з'яўленне не выклікала ў іх здзіўлення. «А раптам ім вядома мэта майго прыходу?» — падумаў Хаджа Ібрагім ага. Але гэта было не так. Пакуль чараўнікі ні аб чым не здагадваліся. Нечакана той, што быў маладзейшым, аддзяліўшыся ад астатніх, наблізіўся да Хаджы Ібрагіма агі, які дабраўся да самай сярэдзіны цясніны. Гэта быў рослы, з крывым шрамам на твары юнак, сумныя вочы яго задуменна агледзелі фігуру чужынца.

— Саламуралейкум, — пачціва звярнуўся да Хаджы Ібрагіма агі малады чараўнік.

Ібрагім ага не асмеліўся прама зазірнуць у строгі твар юнака, адвёў вочы ў бок, адказаў:

— Алейкумсалам.

— Высокапаважаны, што прывяло вас у гэтыя мясціны? — гэтак жа ўрачыста-ветліва працягваў малады чараўнік, і яго меладычны голас кранаў сэрца Хаджы Ібрагім агі.

Хаджа Ібрагім ага зняў з пляча запоўненую правіянтам сумку, паклаў на зямлю і падштурхнуў яе пад куст. Аб тым, што знаходзіцца ў сумцы, усе ведалі, і таму аб гэтым не было сказана ні слова. Між тым ужо і іншыя чараўнікі, якія шукалі здабычу ў розных кутках Даліны, асабліва цікаўныя, сталі паступова збірацца вакол іх. Усе яны былі вельмі рознымі па ўзросце. Але выгляд мелі самы звычайны, іх вочы, адзенне, выраз твараў нічым не вылучаліся... аднак праз гэтую будзённасць праступала нейкая, ледзь улоўная трывога.

Раптам усёй істотай Хаджы Ібрагім агі завалодаў жах. У горле ў яго перасохла, язык анямеў, ён зразумеў, што калі зараз не загаворыць, то страціць прытомнасць, таму крыху заікаючыся, разгублены караваншчык прамармытаў:

— Высокапаважны... я... высокапаважаны... я шукаю вучонага, знаўцу душ, мне трэба з ім пагутарыць, папрасіць у яго дапамогі…

— Знаўцу душ? — Пачуўшы гэта, да Хаджы Ібрагім агі, размахваючы рукамі, падскочыў чараўнік з доўгай, да пояса, барадой, з цікавасцю перапытаў: — Знаўцу душ?

— Так, ён шукае знаўцу душ, — пацвердзіў малады чараўнік, які першым падышоў да Хаджы Ібрагіма агі і пачціва павітаў яго, пры гэтым нават не паглядзеўшы ў бок доўгабародага.

— Не па мне гэта справа... — барадаты чараўнік рэзка адхіснуўся і, як і раней, размахваючы рукамі, вярнуўся на сваё месца. — Прасіць зносінаў з душамі, — на хаду паведаміў ён двум іншым чараўнікам, якія ішлі насустрач, і яны, чамусьці разгубіўшыся, таксама павярнулі назад. Ва ўсякім разе, Хаджы Ібрагіму агу здалося, што яны расхваляваліся.

— Высокапаважаны, я, здаецца, ведаю, хто вам патрэбен. Калі ласка, ідзіце за мной, — з ранейшым сумам у вачах звярнуўся да Хаджы Ібрагіма агі малады чараўнік, яго голас гучаў прыветліва, амаль ласкава.

— Калі ласка, ...сюды.

Малады чараўнік — спераду, а за ім Хаджа Ібрагім ага рушылі ў супрацьлеглы канец Даліны. Астатнія магі стоўпіліся ля сцежкі і доўга глядзелі ім услед.

Застаўшыся ў аддаленні, малады чараўнік ціхенька сказаў: «Вось чалавек, які вам патрэбен». Потым падышоў бліжэй, сеў побач з ім на зялёнай траве, гэтак жа скрыжаваўшы ногі. Хаджа Ібрагім ага не ведаў, як сябе паводзіць, і таму сам для сябе вызначыў заставацца на адлегласці ад іх. Ці многа, ці мала

прайшло часу, чараўнікі гаварылі паміж самой так, што не было ясна, разумеюць яны адзін аднаго ці не, ва ўсякім разе, быў момант, калі Хаджы Ібрагіму агу здалося, быццам малады стараецца ў нечым пераканаць свайго субяседніка: у рэшце рэшт, яны ўсталі і пачалі набліжацца да Хаджы Ібрагіма агі, у якога ад хвалявання моцна білася сэрца.

— Вось чалавек, якога вы шукалі, — з той жа ўрачыстасцю ў голасе паўтарыў малады чараўнік, павярнуўшыся да Хаджы Ібрагіма агі. — Ён згадзіўся ісці з вамі, але ў яго адна ўмова.

— Так, калі ласка, гаварыце, я слухаю, — нясмела вымавіў Хаджа Ібрагім ага.

— Ён жадае, каб, акрамя вас, ніхто не ведаў пра яго з'яўленне ў горадзе, — юнак кіўком галавы паказаў на таго, да каго яны прыйшлі.

— Безумоўна, безумоўна, разумею, дасць Бог, так і будзе. Але справа ў тым, што гэта не мая тайна, гэта тайна і заказ майго гаспадара, ён абавязкова павінен ведаць, — сказаў Хаджа Ібрагім ага.

Таямнічы знаўца душ аказаўся статным прадстаўнічым мужчынам, яго маленькія вочкі ўважліва вывучалі субяседніка. На галаве яго праглядалася шырокая плешына. Было такое ўражанне, што ў яго там увогуле ніколі не раслі валасы. Макушку чараўніка прыкрывала нешта падобнае да чырвонай анучкі. Кінуўшы востры падазроны пагляд на Хаджу Ібрагім агу, ён падняў вочы і праз яго плячо чамусьці дапытліва паглядзеў на Нябачную гару, крыху падумаў і, у рэшце рэшт, вымавіў:

— Хай будзе так, я згодзен.

Упершыню твар маладога мага азарыла ўсмешка, і ён усклікнуў з радасцю, звяртаючыся да Хаджы Ібрагіма агі:

— Вельмі добра, цудоўна. Гэты чалавек на самай справе першы сярод чараўнікоў вучоны — знаўца душ, калі ён згадзіўся, значыць, вы атрымаеце жаданае.

Затым павярнуўся да таварыша і паважана сказаў: — Дзякуй, што ўважыў, не адмовіў у просьбе.

Абое з ведзьмакаў уважліва пагледзелі адзін на аднаго, пры поўным маўчанні кантактуючы толькі вачамі, потым статны чараўнік, не прамовіўшы ні слова, схіліўшы галаву, рушыў уперад.

Усе трое накіраваліся да сцежкі, якая прывяла сюды Хаджу Ібрагіма агу. А той у гэты момант заўважыў, што астатнія жыхары Даліны перасталі цікавіцца імі і нават не глянулі ў яго бок пасля таго, як ён знайшоў патрэбнага для сябе чалавека. «Мусіць, так у іх прынята, тут кожны пакорліва чакае свайго часу», — падумаў ён.

Нарэшце, яны падышлі да знаёмай сцежкі і спыніліся. Малады чараўнік злёгку, але пачціва дакрануўся рукой да грудзей, пакланіўся.

Хаджа Ібрагім ага сказаў:

— Дзякую, што аказалі мне гонар быць сведкам вашых ведаў і добрапрыстойнасці.

— Не трэба, не дзякуйце, мне было вельмі прыемна ўслужыць такой паважанай асобе, як вы, — адказаў малады вядзьмак.

Разышліся яны ля таго ж куста, пад якім Хаджа пакінуў сваю суму. Не азіраючыся, статны чараўнік з чырвонай павязкай на галаве пайшоў па сцежцы паперадзе, а Хаджа Ібрагім ага — за ім, нарэшце, ускараскаліся яны наверх і выйшлі на караванны шлях. Тут ужо наперад прайшоў Хаджа Ібрагім ага, а пляшывы чараўнік рушыў услед за ім, знайшлі прывязаных да кустоў мулаў, якія спакойна чакалі гаспадара, развязалі жывёл, селі на іх. Чамусьці Хаджы

Ібрагіму агу захацелася, хаця б у апошні раз, убачыць маладога ведзьмака. Ён выцягнуў шыю, намагаючыся разглядзець у глыбіні даліны яго фігуру, але намаганні гэтыя засталіся марнымі. Сэрца ж замерла ад трапяткога жадання ўбачыць юнака.

І вось двое коннікаў, старанна паганяючы мулаў пяткамі, ужо рухаліся ў намечаным напрамку, па той пыльнай дарозе, па якой на золку прайшоў караван і якая яшчэ захоўвала пах людзей і жывёлы.

* * *

Дзень браўся на вечар. Падобна дзіцяці, якое знайшло тое, што даўно шукала, Хаджа адчуваў сябе на сёмым небе ад шчасця. Яму здавалася, што ён і паўгадзіны не правёў у Даліне Чараўнікоў, і калі крыху прышпорыць, яны хутка дагоняць караван. Але гэта было падманам. Безумоўна, Хаджа Ібрагім ага знаходзіўся ў цясніне намнога больш часу, чым меркаваў, так што каравана і след прастыў...

Кожны думаючы пра сваё, моўчкі яны адолелі немалы шлях. Паступова Хаджу Ібрагім агу ахапілі сумненні. Страх, які ён перажыў, спускаючыся ў цясніну, а пасля нечаканая радасць адступілі, ён разважаў сам з сабой: «А што, калі гэты чалавек знішчыць усе нашы надзеі, і я, зганьбаваны, стану пасмешышчам? Ну і я малайчына, даверыўся першаму сустрэчнаму, на якога мне паказалі, і тут жа заспяшаўся назад. Апраставалосіўся я, безумоўна. Трэба было толькі паглядзець на іншых магаў і самому выбраць патрэбнага нам. Гэта Даліна — сапраўдны кірмаш, і чаго гэта я спалохаўся? Вось ад такіх неспакойных думак пакутаваў Хаджа Ібрагім агу.

Рэдкім шчаціннем на твары чараўнік быццам адчуў скрытае хваляванне праставатага Хаджы і раптам сам загаварыў:

— У гэтай Даліне ў кожнага з нас свой род заняткаў, а знаўцам духаў з'яўляюся толькі я адзін, ведай гэта. У мой абавязак уваходзіць кантактаваць з духамі. Ты, можа, падумаеш, што мог бы, мусіць, знайсці больш кемнага ведзьмака, чым я, і папракаеш сябе ў тым, што не зрабіў гэтага, а ўзяў першага сустрэчнага. Будзь спакойны, я выканаю ўсе твае пажаданні.

— Ага, у мяне няма сумненняў у тым, што... — прашаптаў ашаломлены Ібрагім ага.

— Мяне Сайяхам завуць. Заві і ты мяне Сайяхам[1].

— Сайях? Гэта мянушка твая ці імя?

— Хочаш, назаву поўнае імя? Поўнае імя маё Хаджы Мір Гасан ага Сайях. Але цяпер не так ужо холадна, так што заві Сайяхам, і дастаткова...

— Прычым тут холад?

— Холад... — На твары чараўніка з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка, якая больш нагадвала агідную грымасу, ён раптоўна змяніўся. — У халады я апранаю сваё поўнае імя, быццам адзенне, і адразу робіцца цяплей.

Хаджа Ібрагім ага хоць і здзівіўся яго словам, але не падаў выгляду:

— А мяне завуць Ібрагім ага. Служу ў Караванбашы, нашага падзішаха. Вось ужо дзесяць гадоў як я ў яго на службе. І нічога, не шкадую.

— Той караван, што да таго, як ты з'явіўся тут, прайшоў ля Нябачнай гары, ваш?

— Так, гэта наш караван. Роўна год таму, як мы ў дарозе. Прайшлі ад Магрыба да Машрыга. Пабывалі ў ста гарадах, бачылі сто кірмашоў, аднак усе

[1] Сайях — арабск.: вандроўнік.

да аднаго пазабываліся ў дарозе, сцёрліся з памяці... Усе яны на адзін капыл... здарожыліся мы вельмі, няма ўжо ніякіх сіл.

— Заўтра да золку будзем дома, Ібрагім ага, дык навошта бурчэць?

— Гэта я бурчу? Што такога я сказаў? Не, ні ў якім разе. Кажу, што... стаміўся вельмі, няма больш ніякіх сіл.

Апошнюю фразу прыгнечаны Хаджа Ібрагім вымавіў такім засмучаным і ціхім голасам, што нават мул, на якім ён ехаў, ледзь пачуў яго, але затое пачуў чараўнік Сайях, які ехаў за ім на даволі вялікай адлегласці:

— Нічога, не перажывай, адпачнём дома як мае быць. Але твая стомленасць, бачу, не ад доўгай дарогі, тут нешта іншае...

Хаджа Ібрагім ага, скурчыўшыся, як чарапаха, затаіўшы дыханне, слухаў яго — «Што ён такое малоціць?» А Сайях працягваў гаварыць, быццам сам сабе, не для чужых вушэй:

— Так стомленась твая не ад таго, аб чым ты думаеш. Нават пасля ночы, пасля адпачынку ты раніцай прачынаешся разбітым. Быццам хто пабіў цябе ў сне. Гэта іншая стомленасць. Стомленасць твая звязана з пажадлівасцю... З каханнем...

— Сайях, апомніся, я еўнух. Пра якое каханне можа ісці гутарка?! — Хаджа Ібрагім ага ледзь стрымліваў смех. «Ну і ну», — падумаў ён з абурэннем, але пастараўся надаць голасу бадзёрую спакойнасць. Чараўнік рашыў, што, мабыць, Хаджа Ібрагім ага казырыцца, хоча паказаць, быццам не саромеецца сваёй заганы, і працягваў.

— Не, што сказаў — то сказаў. Ну і што такога, што ты еўнух? Па вачах відаць, стомленасць твая звязана з каханнем і пажадлівасцю. — Чараўнік Сайях і сам раптам адчуў, як стаміўся. — А дзе мы дагонім караван? — ён рэзка змяніў тэму гутаркі.

— Мястэчка Гюнартадж табе знаёмае?

— Знаёмае.

— Яны будуць чакаць нас у Гюнартаджы.

— Значыць, к вечару дабяромся.

— Так, да вечара паспеем.

Яны зноў замоўклі і так, моўчкі, зноў праехалі даволі вялікую адлегласць. Ужо і Нябачная гара, і Даліна Чараўнікоў засталіся ззаду. І па меры таго, як яны аддаляліся, да Хаджы Ібрагіма агі вярталася смеласць і бадзёрасць.

— Табе, безумоўна, даводзілася ўжо выклікаць духаў, чараўнік Сайях? — парушыў маўчанне Хаджа Ібрагім ага. Яго словы гучалі адначасова і як пытанне, і як сцвярджэнне. Пасля доўгай і хуткай язды Хаджа Ібрагім ага толькі цяпер пашкадаваў свайго мула, аслабіў аброць, Сайях паўтарыў усё тое ж услед за Хаджой. Жывёла запаволіла ход. Сайях параўняўся з Хаджы.

— Духаў, кажаш? Выклікаў. А што? — спытаў ён.

— Ды нічога... А прыходзілі?

— Некаторыя прыходзілі, некаторыя — не...

— Значыць, бывала, не прыходзілі?

— Здаралася, здаралася... Вось, дух вялікага Іскандэра Зулкарнайна не сышоў... Занаравіўся... Але многія прыходзілі. Не турбуйся марна, Хаджа. Дух не з'яўляецца толькі тады, калі мяне прымушаюць яго выклікаць. Быццам адчувае, што выклікаю без ахвоты. Але ж ты не прымушаеш мяне. Значыць, прыйдзе.

Хаджа Ібрагім ага пачуў тое, што хацеў пачуць, і застаўся задаволены, наколькі гэта магчыма. На яго знясіленае смагай сэрца нібы праліліся чорныя ручаі. Ён з важнасцю сказаў:

— Калі так, цябе чакаюць багатыя дары, ведай гэта.

— Чакаюць, чакаюць... Толькі не мітусіся.

* * *

Дарога, увесь час пятляючы, нарэшце вывела коннікаў да межаў айчыны — у Дзюзангах. Дзюзангах быў апошнім прыпынкам паміж караванам і домам. Хаджа Ібрагім ага глыбока ўдыхнуў паветра родных мясцін, затрымаў дыханне і, крыху пачакаўшы, выдыхнуў, адчуваючы вялізную палёгку. Затым ён яшчэ раз спакойна ўздыхнуў: «Воляю Божай усё усталюецца. Хіба можа быць інакш? Дасць Бог, не асарамачуся, і на гэты раз з'явіцца-такі злавесны дух праклятага яго бацькі». Хаджа Ібрагім ага сам не заўважыў, як раптам успомніў ката Мамедкулі, бацькі Караванбашы. «Справа тут няпростая, цяжка будзе, што і казаць». Зразумела, калі дух з'явіцца, сустрэча гэта будзе нялёгкай», — вось такія думкі імгнення мільгацелі ў галаве ў Хаджы Ібрагім агі. — «Так, шмат чуў я пра яго бацьку, быль і праўда пра яго — адно мудрэй за другое. Нідзе і ніколі на зямлі не было, кажуць, чалавека, які б так захапляўся бязлітасным рамяством ката...»

Ад лёгкага дотыку марознага паветра Дзюзангаха па твары і целу Хаджы Ібрагім агі разышлося цяпло, а не холад, як і павінна было быць. У думках яго занесла некуды далёка, і яму ўсё цяжэй і цяжэй было прыпомніць, што ён едзе на муле. Усе балячкі Хаджы адна за адной пакідалі яго змучанае цела, і ён, расслабіўшыся, задрамаў проста на хаду.

## Раздзел V

Доўга і старанна служыў ён свайму ўладару, да якога прыкіпеў сэрцам і нават адчуваў да яго асаблівую любоў. Дастаткова было толькі аднаго слова шаха, які займаў маленькі краёчак вялізнага трона, што стаяў за вытканай з каштоўнай шчыльнай тканіны фіранкай, што слова — паўслова яго хапіла б, каб з рашучасцю рынуцца падпарадкоўвацца яму, бясконца прыпадаць да яго ног і схіляцца ў паклонах да самай зямлі. Але перад гэтым яму патрэбна было імгнення вызначыць, у якім кутку свайго трона ляжаў шах, затым ён поглядам знаходзіў яго твар і вочы. Бліскучыя, зіхатлівыя вочы шаха, якія ледзь не вылазілі з вачніц, гаварылі самі за сябе, і патрэба ў якіх-небудзь словах уладара адпадала. Не было выпадку, каб ён памыліўся ў тым, што загадвалі яму вочы шаха.

Так павялося ўжо, што кожнаму віду пакарання адпавядаў пэўны пагляд шаха. Калі меркавалася адсекчы галаву — зрэнкі шаха сціскаліся, быццам замярзалі, і глядзелі з асаблівай непрыязнасцю. Калі патрэбна было выкалаць вочы віноўнаму — вейкі апускаліся, як начная ігла, марудна і няўмольна засцілаючы святло вачэй Яго вялікасці. Але перад тым святло гэтых вачэй адкрывала сакрэт кожнага чарговага пакарання.

Калі ж узнікала патрэба адрэзаць вуха каму-небудзь — вушы самой Яго вялікасці напружваліся, як бы выцягваліся ўверх. Дзіўныя рухі самога цела шаха, падобныя да рухаў танцораў, яго энергічнае паёрзванне на троне і зморшчаны ад агіды твар азначалі, што патрэбна зняважыць мужчынскі гонар віноўнага.

Да гэтай пары ў Яго вялікасці яшчэ ні разу не было патрэбы ў тым, каб на словах растлумачыць кату Мамедкулі від пакарання. Тайна гэтага пакарання перадавалася паглядам, вочы ў вочы. І толькі гэта завяршалася, кат, які не ведаў

літасці, тут жа хапаў за горла дрыжачую ахвяру і ўздымаў уверх, ды так, што яе ногі адрываліся ад зямлі. Аднак перад тым як пацягнуць за сабой прыгаваронага і пакінуць пакоі шаха, кат зноў глядзеў у вочы Яго вялікасці для таго, каб упэўніцца, перамяніў той раптоўна сваё рашэнне ці не, бо спакваля замяніў адно пакаранне на іншае і нават дараваў віноўнаму? Але такое здарылася толькі аднойчы. За доўгія гады толькі адзін раз пасля таго, як Мамедкулі схапіў за горла распластанага на вачах у шаха беднага старога чалавека, які, здавалася, ад страху спусціў дух, сам шах падаў знак кату прыпыніцца і дадаў: — «Знікні». З пахаладзелых хвіліну таму зрэнак яго міласці нешта бліснула, яны расшырыліся і засвяціліся так, што кату Мамедкулі, які трымаў мёртвай хваткай за горла страціўшага прытомнасць, ужо ўзнятага над падлогай старога, давялося тут жа апусціць на амярцвелыя ногі.

Нізка пакланіўшыся, Мамедкулі ўпаў ніцма, ударыўся ілбом аб падлогу, адчуваючы небывалую разгубленасць.

За ўсе гады ўслужэння ён упершыню не разумеў, што адбываецца. Кемны галоўны кат, што паўжыцця правёў у ценю Шаха ў яго палацы і які кожны погляд уладара адчуваў скурай, цяпер упершыню не ведаў, зікнуць яму адсюль ці застацца. Толькі пасля таго, як шах у глыбокім задуменні вымавіў: «Адпусці яго... адпусці, хай адпачне крыху... гэты неразумны стары... адыдзі ад яго, Мамедкулі, выйдзі пакуль, пачакай за дзвярыма», і кінуў такі цяжкі пагляд у бок ката, што Мамедкулі ўмомант ператварыўся ў ідала са скрыжаванымі на грудзях рукамі і паспешна выйшаў вон. Сэрца ў яго білася, аддавалася ў скронях, і ён сам не памятаў, як пакінуў пакоі шаха.

Яго вялікасць доўга моўчкі і задуменна разглядваў старога з ног да галавы. Затым падаў знак, і слугі, што стаялі на варце, тут жа паднялі з падлогі зусім абмяклае цела. Двое з іх падтрымлівалі яго, каб яно не ўпала. Шах спытаў:

— У апошні раз паўтараю, стары: мне паведамілі, што ты забіў свайго сына, а затым прыбраў да рук яго жонку, праўда гэта ці не?

Голас старога быў ледзь чутны, галава звісала на грудзі, у яго не хапала сіл яе ўзняць:

— Праўду кажуць, ваша... высокасць...

Раптоўна шаха нібы азарыла, і ён сказаў:

— Не, няпраўду кажуць, вось якія думкі прыйшлі мне на памяць. Ты, кажаш, з якой вёскі?

— З Селеме... — збіраючы рэшткі волі, адказаў стары. Галава яго, як і раней, абяссілена матлялася на плячах.

Пачуўшы гэта, падзішах з задаволеным выглядам кіўнуў:

— З Селеме значыць... Так. Цяпер праяснілася ўсё. Праўда ж вось у чым, стары, гэта справа рук вашага сельскага старасты. І ён абавязаў цябе, каб ты ўзяў віну на сябе, калі ж не возьмеш...

Стары з вялікай цяжкасцю ўсё ж-такі ўзняў галаву і поўнымі мальбы вачамі зірнуў у твар шаха. Шах працягваў:

— ...інакш ён прыгразіў забіць і ўнукаў тваіх... унукі ёсць, стары? Ну, вядома, ёсць, ён прыгразіў прыкончыць і іх, калі не возьмеш гэта злачынства на сябе, так? Як завуць гэтага старасту, не Байрамалі?

— Гэта я забіў сына, ваша вялікасць, адзін я павінен у смяротным граху... А таго, аб кім вы пытаецеся... так, так, Байрамалі клічуць яго... О, няшчасная, бедная мая галава... — стары расплакаўся. Твар і барада яго сталі мокрыя ад слёз.

У шаха прыкметна палепшыўся настрой. Ён адчуў палёгку ад таго, што раскрыў злачынства. «Навошта было валаводзіцца з гэтым няшчасным? — падумаў ён і, звярнуўшыся да галоўнага суддзі, загадаў:

— Даставіць да мяне гэтае сучае племя Байрамалі. Паспяшайцеся, прывяжыце яго да конскага хваста, прывалачыце ды адхвастайце так, каб родная матка не пазнала, біце, пакуль не прызнаецца ва ўчыненым беззаконні, але не да смерці. А інакш — навошта мы сядзім на гэтым троне?! Перастань дрыжаць, вазьмі сябе ў рукі, — цяпер шах звярнуўся да старога і, кіўнуўшы, падаў знак стражнікам, а тыя асцярожна падвялі старога да кінутых на падлогу ў баку ад трона падушак і усадзілі Яго на іх. Усё яшчэ знаходзячыся ў бяспамяцтве, стары ніяк не мог усвядоміць таго, што адбылося, з яго заплюшчаных вачэй па твары і барадзе па-ранейшаму каціліся буйныя слёзы.

* * *

Прайшло колькі часу. Даставілі Байрамалі і як поўны нечыстотаў мех кінулі да падножжа трона.

Разгневаны шах закрычаў:

— Падыміце яго!

Слугі паднялі Байрамалі, паставілі на калені.

Тым жа тонам, які наводзіў страх, гасудар спытаў у яго:

— Суччын ты сын, Байрамалі, паглядзі на гэтага чалавека, пазнаеш яго?

Стараста з цяжкасцю павярнуў сваю няўдалую галаву ў бок старога, і, убачыўшы яго, усё зразумеў. Святло ў яго вачах патухла.

У голасе шаха з’явілася падманная мяккасць:

— Ці ведаеш ты, Байрамалі, чаму я западозрыў цябе?

А пасля сам жа адказаў на сваё пытанне:

— Таму, што гэта ўжо другі падобны выпадак у вашай вёсцы. Памятаеш таго старога два гады таму, праклятага? Ты і яго абылгаў, а мне давялося пакараць яго. Цяпер ужо мне зразумела, што і на тым бедным старцы таксама не было ніякай віны. Суччын ты сын, чаму ж у гэтай дзяржаве толькі ў тваёй вёсцы бацькі забіваюць сваіх сыноў, паквапіўшыся на іх жонак? Яны што, усе разам страцілі розум?..

Стараста сцяміў, што яго вывелі на чыстую ваду, што шаху вядомыя ўсе яго брыдкія справы, і, не прамовіўшы ні слова, пачаў безупынку біцца галавой аб падлогу.

— Хіба ў цябе самога, суччынага сына, не было ні бацькі, ні маці? — раз’юшана, са здзіўленнем крыкнуў шах Байрамалі. Крыкнуў так, што кат Мамедкулі замітусіўся, кінуўся ў пакоі шаха і, падобна крылатаму Азраілу, паўстаў за спінай старасты, чакаючы ўжо для сябе канкрэтных распараджэнняў.

Байрамалі ж, не падаючы ні гуку, працягваў біцца галавой аб падолгу. Ад гэтых удараў яго галава, здавалася б, даўно павінна была раскалоцца, як гарбуз, але яна толькі ўсё больш і больш налівалася крывёй.

— Выведзіце нягодніка, — з агідай глянуўшы на Байрамалі, нарэшце, звярнуўся да Мамедкулі шах. Вочы яго заблішчэлі і сталі халоднымі. — Але зрабі так, каб яго сам стары... — гасудар замоўк, устаў і пакінуў тронную залу.

Мамедкулі схапіў за горла Байрамалі з такой лютасцю, што той ледзь не сканаў, чуцен быў толькі хрып. Кат павалок яго за сабой. А двое ахоўнікаў у суправаджэнні візіра Машдалі наблізіліся да старога, каб дапамагчы яму падняцца. Ачомаўшыся крыху, стары адвёў іх рукі, паказваючы, што дапамога яму не патрэбна, падняўся сам і цвёрдым крокам выйшаў з залы.

Стараста ўсяляк супраціўляўся, упіраўся нагамі аб падлогу, ніяк не хацеў ісці за катам, але ўсе яго намаганні былі марнымі. Мамедкулі цягнуў яго, прыгаворваючы: «Ідзі, раб Божы, шавяліся, не ўпірайся. Ідзі, ты павінен дзякаваць

Яго вялікасці за тое, што ён не аддаў загад знішчыць увесь твой род, а душа твая ўсё роўна не сёння дык заўтра пакіне цела, адляціць. Ідзі і не бойся, ні кропелькі не бойся, цяпер ужо няма чага баяцца табе... усё прадвызначана...»

Звычайна такія падманліва ласкавыя словы гавораць баранам перад тым, як іх збіраюцца закалоць.

Нарэшце, кат падцягнуў Байрамалі да плахі, што знаходзілася ва ўнутраным дворыку дыванханы, і звярнуўся да памочнікаў, якія чакалі іх там:

— А ну, трымайце яго за ногі, а то ён брыкаецца, як асёл. Ай, ай, вы толькі паглядзіце. Супакойся ты, Божае стварэнне, не выводзь мяне з сябе. Ах, ён яшчэ і штурхаецца, не брыкайся, асёл, сын асла... не брыкайся, сказаў.

З гэтымі словамі ён адышоў у бок і доўгі, востры нож, што з’явіўся ў яго руках, перайшоў у далонь старога.

«Давай, стары, пачынай», — сказаў кат.

Узрушаны помстай стары тросся ад нянавісці да Байрамалі, вочы яго так і гарэлі. Заціснуты з усіх бакоў жалезнай хваткай памочнікаў ката, Байрамалі, нарэшце, апусціў галаву і не падаваў больш ні гуку, толькі зрэдку ўздрыгваў. Спачатку стары, а пасля Мамедкулі рэзалі яго, рэзалі марудна, з задавальненнем, аддзялілі галаву ад цела, быццам курыцы. Ад крыві, што свістала з яго горла, доўгія вусы Мамедкулі пафарбаваліся ў матава-чырвоны колер. Ну, хіба не любімым катам быў Мамедкулі ў Яго вялікасці?! Вядома ж, любімым, і — не інакш.

## Раздзел VI

Сапраўды, калі Хаджа Ібрагім ага выбраўся на дарогу ў Дзюзангасе, то адчуў сябе на сёмым небе ад шчасця. Ён знайшоў агульную мову з чараўніком Сайяхам, да якога нечакана для сябе адчуў давер, неспакойная душа яго прыйшла да раўнавагі, ён цвёрда паверыў у тое, што цяпер жаданне Караванбашы абавязкова збудзецца, і, завяршыўшы гэтую справу, яны абодва, нарэшце, знойдуць спакой! Дзюзангах напаўняў радасцю яго даўно заклапочанае сэрца. Яму захацелася ўзляцець, як птушцы. Каторы раз ён ужо прыкмячаў: варта толькі дабрацца да дарогі ў Дзюзангах, як нешта быццам сыходзіць на яго з нябёс, ён адчуваў гэта таму, што вельмі прыемна было драмаць на кані ці муле, і ў гэтай дрымоце ён імгненна ўзносіўся пад аблокі, нібы арол. Гэта дарога была амаль родным домам. А яшчэ — яна не выклікала трывогі. Ці ты ідзеш, ці едзеш па гэтай дарозе, насустрач табе абавязкова трапіцца падарожны або купка людзей. Што тут гаварыць, усе дарогі розныя. Ёсць дарогі, дзе людскі паток не канчаецца ў абодва бакі. Але бывае такая дарога, на адным баку якой можна ісці вечнасць і не сустрэць ніводнай душы. Дарога ў Дзюзангасе поўнілася рухам па абодвух яе баках. Там і прыйшла нечакана ў галаву Хаджы Ібрагіма агі дзіўная думка. Не дзе-небудзь, а іменна на гэтай дарозе яму здалося, што ён едзе па жывым целе нейкай жанчыны-веліканшы. Гэта цела ўсыпана рабаціннем, маленькімі і вялікімі радзімкамі, бародаўкамі, скуламі. І яго горад, што клікаў здаля, — адна з гэтых радзімак, а можа, і бародавак, ды не, не бародавак, безумоўна, радзімак. Цяпер, хай караван рухаецца шырокім вярблюдавым крокам, а ён — марудным поступам мула адставаў, ехаў далёка ззаду, усе яны паступова набліжаліся да гэтай радзімкі, і ціснуліся да гэтай радзімкі, і яна з кожным крокам усё павялічвалася і павялічвалася, скрываючы вялікія і маленькія недахопы гэтага агромністага жаночага цела. Радзімка паступова ператваралася ў горад.

Калі яны на сваіх мулах, у асноўным, моўчкі, толькі часам перакідваючыся нязначнымі слоўцамі, нарэшце, дасягнулі таго месца, адкуль можна было пабачыць магутны застылы сілуэт Гарагаджа, які рос пасярод Гюнаргаджа, пакрыху сцямнела.

* * *

Першым заўважыў коннікаў нукер Назаралі. «Вось і мой магарыч...» — пляснуў ён рукамі і паімчаўся ў шацёр Караванбашы.

— Ага, прыбылі, іх двое. Ібрагім ага, а з ім чалавек, відны такі...

Караванбашы шапнуў: «Слава табе, Госпадзі!» і, дастаў з кашалька, даў нукеру, як і абяцаў, дзве срэбныя манеты. Стрымліваючы хваляванне, з прытворнай абыякавасцю даручыў яму, пакуль той не пайшоў, сустрэць падарожнікаў.

— Накарміце іх, напаіце, а потым хай ідуць да мяне. На гэты раз караван застанецца начаваць тут. Гэта будзе наш апошні начлег перад тым, як мы ўвойдзем у горад.

Увесь люд, што суправаджаў караван, не збіраўся адпачываць, людзі занялiся падрыхтоўкай да завяршальнага этапу свайго шляху: нехта насіў ваду з ручая і, нагрэўшы на кастры, змываў з сябе застарэлы бруд, нехта цыраваў шкарпэткі, а нехта прыводзіў адзенне ў належны парадак...

Чысцілі вярблюдаў, мулаў і коней, даставалі яркія ўпрыгожванні для іх... Галоўны горад айчыны чакае, каб караван увайшоў туды як мага ганаровей. Караван Гарасуварлы ўжо адправіў у горад ганца з добрй весткай. Караван будуць сустракаць барабаншчыкі і зурначы. Усе гараджане, ад малога да вялікага, збяруцца вітаць падарожнікаў, што вярнуліся з доўгай вандроўкі. Званочкі вярблюдаў, рознакаляровыя павадкі, уючныя сёдлы коней і мулаў, неймавернае, нябачнае ў гэтых мясцінах адзенне нукераў і сарвана... Ці не свята гэта?! Вядома, свята...

Калі Хаджа Ібрагім ага і чараўнік Сайях увайшлі ў шацёр Караванбашы, той з бесклапотным выразам на твары, скрыжаваўшы ногі, сядзеў на невялікім дыване ў дальнім куце. Локцем адной рукі Караванбашы абапіраўся на мяккую падушачку, мясістымі ж пальцамі другой, не спяшаючыся, перабіраў буйное агністае зерне янтарнага ружанца, пры гэтым чытаючы вірд[1]. Азіраючы вострым паглядам чараўніка Сайяха з ног да галавы, ён знакам рукі прапанаваў абодвум прысесці.

— З добрым прыбыццём, — прывітаў іх. Яны, у сваю чаргу, пачціва павіталіся з ім, і, падышоўшы бліжэй, прыселі перад Караванбашы. Дакладней, гэта чараўнік Саях размясціўся насупраць, а Хаджа Ібрагім прымасціўся збоку, бліжэй да лакця гаспадара, якім той абапіраўся на падушачку, уладкаваўся як бы пад яго рукой.

— Гэты спадар, што завітаў з табой, хто ён, чым займаецца? — з паказным раўнадушшам, лісліва запытаў Караванбашы, імкнучыся суняць хваляванне, якое ахапіла яго, калі ўбачыў незнаёмага чалавека. Караванбашы рыхтаваўся да гэтай сустрэчы і загадзя вырашыў, што пачне размову з такога запытання. «Не ўлагоджваць жа мне адразу невядомага чалавека. Спачатку трэба ўверыцца ў яго выхаванасці і вучонасці. Даверыўшы яму свае тайны, ці не давядзецца потым раскайвацца?» — такая думка, ці хутчэй цень ад думкі прамільгнуў у яго галаве.

---

[1] Вірд — чытанне Карана і малітваў у пэўны час, паўтарэнне цудоўных імёнаў Алаха.

Хаджа Ібрагім ага імгненна ўгадаў намеры гаспадара і таксама ўключыўся ў гэтую «гульню». Паглядаючы на чараўніка краем вока, ён пачаў гаварыць:

— Ды будзе вядома вам, ага, што гэты чалавек — знакаміты Хаджы Мір Гасан ага Сайях. Імя яго праслаўлена ў суполцы вучоных знаўцаў душы. Я пазнаёміўся з ім у Даліне Чараўнікоў. Калі караван праходзіў побач з Нябачнай гарой, мне захацелася спусціцца ў даліну па адной сваёй справе. Я не асмеліўся турбаваць цябе проста так і таму не паведаміў пра гэта, вырашыў — усё роўна даганю вас ў Гюнартаджы. І вось як толькі ўбачыў Сайях агу там, у даліне, падумаў, што трэба было б пазнаёміць гэтага вучонага чалавека з табой. Я расказаў яму аб сваім намеры, выказаў свае думкі па гэтай прычыне. І ён згадзіўся, таму што раней быў папярэджаны аб тым, што ты цікавішся пазнаннем чалавечай душы. Дзякуй яму, не адмовіўся, прыйшоў. Цяпер ён ваш госць. А гэта наш ага, Сайях, пра якога я табе гаварыў, надзея і апора наша...

Караванбашы ляніва перабіў Хаджы Ібрагім агу:

— Даволі, даволі... Можаш не працягваць. Ён наш госць, і гэтым усё сказана. Ці накармілі госця, ці напаілі, Хаджа Ібрагім ага?

— Вядома, ага, не турбуйся пра гэта, — адказаў Хаджа.

— Вельмі ўдзячны вам, пачаставалі мяне, як мае быць, і нават больш таго... — Сайях у сваю чаргу схіліў галаву ў пачцівым удзячным паклоне.

— Не хочаце пакаштаваць чаю ці шарбету?

— Што ж, нядрэнна было б пакаштаваць шарбету, ага, — сказаў Хаджа Ібрагім ага.

— Калі ласка, частуйся, Хаджа ага! — прамовіў Караванбашы, а затым звярнуўся да Сайяха: — Ты, відаць, чалавек у гадах? Табе, мабыць, пяцьдзесят, а то і больш гадоў? Ты ж не заўсёды жыў у той даліне? Раскажы мне, з якіх ты мясцін, якія вятры знеслі цябе з родных краёў, і, пакінуўшы свой дом, куды ты накіраваўся, дзе, у каго вучыўся, набіраўся ведаў сваіх, нарэшце, як аказаўся ў той дзівоснай даліне? Прыбліжаецца доўгая зімовая ноч і нам няма куды спяшацца, твой расказ мог бы быць для нас вельмі павучальным. Вядома, калі тое, пра што я прашу расказаць, не з'яўляецца сакрэтам...

Чараўнік Сайях падумаў: «Ну што ж, яго жаданне правучыць мяне, упэўніцца ў маіх здольнасцях зусім зразумелае», — і з годнасцю адказаў, звярнуўшыся да Караванбашы:

— Бывае, нешта з'яўляецца сакрэтам, а пра нешта ўсе так ці інакш ведаюць... Тут трэба разумець такую рэч: калі нешта становіцца яўным, раскрываецца, скідае з сябе заслону, застаўшыся голым, гэта азначае, што яно і не было сакрэтам з самага пачатку...

Пасля такіх слоў Караванбашы, які сачыў дагэтуль за хаатычным палётам вялікай мухі, што невядома адкуль з'явілася ў шатры, павярнуўся тварам да Сайяха і сканцэнтраваўшыся на тым, што ён гаварыць, стаў уважліва слухаць. А чараўнік перавёў дыханне і тым жа размераным тонам працягваў:

— ...Я з далёкай далечыні, ага, не паверу, што нават табе з тваім караванам даводзілася бываць у тых краях і наўрад ці ты там калі-небудзь будзеш...

Чархі-фелек, кола лёсу — вось як мы называем сваю радзіму. Мае суайчыннікі ўсё сваё жыццё, меркаванні, веру, нават размовы і адносіны паміж сабой будуюць у выглядзе кола лёсу. Ува ўсім бачаць яны абрысы кола, усё прыпадабняюць да акружнасці, іх намаганні і вандроўкі таксама падобныя да кола. На іх думку не толькі хаты і дамы, увесь свет, увесь сусвет — гэта кола, замкнутае крывое кола. Мае землякі ніколі не рухаюцца па прамой, яны робяць колы. Яны і жытло сваё будуюць з абадком, усё, што мае роўныя лініі

і вуглы, там не прымаецца. Калі мы страляем з лука, страла ў нас абавязкова вяртаецца туды, адкуль была выпушчана, вяртаецца нават пасля таго, як пацэліла ў патрэбнае месца, таму што Вялікае Кола мае вялікую прыцягальную сілу. Калі ж страла не вярнулася назад, гэта значыць, што яна знайшла дзірку ў пустэчы, што абступіла свет з усіх бакоў, і паляцела ў іншыя вымярэнні. І пісьмовыя тэксты ў маёй краіне абавязкова скіраваны да свайго пачатку, у выніку, прачытаўшы тэкст з канца да пачатку, ты выносіш тую ж думку, што калі б ты прачытаў яго спачатку і да канца. Выехаць з краіны Чархі-фелек, перабрацца ў іншую краіну немагчыма. Усе намаганні тых, хто хацеў сысці, ні да чаго не прывялі, яны немінуча вярталіся да зыходнага пункту шляху. Хай будзе табе вядома, што з незапамятных часоў да дня сённяшняга толькі аднаму чалавеку ўдалася пакінуць краіну пад назвай Чархі-фелек і адправіцца ў падарожжа па зямлі. Гэты чалавек сядзіць перад табой, высокапаважаны спадар.

Сказаўшы гэта, чараўнік Сайях з нізкага століка ўзяў збан, напоўнены халаднаватым шарбетам, пляснуў крыху напою ў піялу, узяў яе ў далонь, але не стаў піць, быццам бы хацеў сагрэць яе, потым ранейшым тонам прадоўжыў:

— Можаце здзіўляцца, можаце нават не верыць мне, але ведайце, мой аповед праўдзівы. Я той адзіны чалавек, жыхар краіны Чархі-фелек, які знайшоў сабе прытулак зусім у іншым месцы пад далёкай Нябачнай гарой. Але, вядома, я не адразу апынуўся ў той даліне... давялося нямала павандраваць па свеце, бачыць розныя гарады... Як удалося адолець прыцяжэнне Вялікага Круга, як змог дайсці да гэтых мясцін — пра гэта не пытайцеся ў мяне, гэта асобая тэма, тайна, глыбокая тайна, ды і наўрад ці вам будзе цікава даведацца пра яе...

Караванбашы і Хаджа Ібрагім ага з нарастаючай узбуджанасцю, з прагнасцю слухалі чараўніка. Толькі ён скончыў сваю прамову, Караванбашы тут жа міжволі кінуў позірк у бок Хаджы Ібрагім агі і, стараючыся перавесці гаворку на пытанне, якое асабліва хвалявала яго, спытаў: «Набраўся ведаў аб душы? У сябе на радзіме ці ў іншым месцы?»

— У іншы час, у іншым месцы... так, вядома ж, у іншы час, у іншым месцы... Мой настаўнік браў урокі пазнання душы ў Манучахра Ібн Садыка, вы, зразумела, не маглі не чуць аб ім, так, так, так і ёсць, мой настаўнік браў урокі ў самаго Манучахра Ібн Садыка...

— Манучахр Ібн Садык, кажаш? — Караванбашы, разгубіўшыся, стаў ёрзаць на месцы.

А Хаджа Ібрагім ага раптам, нібы зачараваны, загаварыў у надышоўшай цішыні сумным, ціхім голасам, быццам напяваючы, дэкламуючы бейты:

— «І ва ўсіх людзей, якія яшчэ не нарадзіліся, але абавязкова народзяцца, таксама ёсць душы. І думы гэтых яшчэ не народжаных людзей, пэўна ж, блукаюць вакол нас, імкнуцца судакрануцца з думамі тых, што ўжо некалі нарадзіліся на гэтай зямлі...»

На гэтым месцы чараўнік Сайях падхапіў словы, перададзеныя з глыбокай пашанай з вуснаў Хаджы Ібрагіма, і прадаўжаў яму ў тон:

— «...і з дзіцячым захапленнем, з дзіцячай настойлівасцю хочуць пачэрпнуць ад іх як мага больш звестак аб свеце, аб тутэйшых краінах, аб жыцці людзей. Душы памерлых часам з цярпеннем і паважнасцю, а часам — з нецярплівасцю расказваюць ім некаторыя рэчы пра тое, што ведаюць і чаго не ведаюць, аб пачутым і нечуваным. Гаворачы, глядзяць яны са шкадаваннем і горычу на гэтыя неўгамонныя душы, якія слухаюць іх з павагай і цікавасцю, жадаючы даведацца пра невядомае, у чаканні імгнення свайго ўвасаблення ў свеце зямным...»

Сказаўшы гэта, чараўнік Сайях замоўк і, усміхнуўшыся, павярнуў галаву ў бок Хаджы Ібрагім агі. І той завяршыў:

«...Але пасля прыходу ў свет жывых усё, што было на тым баку, усё, што адбывалася там, забываецца як неіснуючае», — затым са шчырым захапленнем дадаў: — бясспрэчна, Манучахр ібн Садык быў вельмі вялікім вучоным, хай паспрыяе Бог душы яго настаўніка.

Караванбашы агарнуў глыбокі роздум, усё, што ён пачуў зараз, здалося яму ў некаторай ступені богазневажаннем, але, падумаўшы, што «ва ўсякім выпадку, пакуль што наша рэлігія не забараняе нам займацца навуковым пазнаннем душы, а калі нават і забараняе, то я нічога пра гэта не ведаю», пастараўся сябе супакоіць гэтым, а затым вярнуўся да расказу госця:

— Словы твае падобны да золата. У каго, кажаш, браў урокі твой настаўнік: — Караванбашы запнуўся, — няўжо ён?

— Так і ёсць. Ад свайго настаўніка я чуў нямала пахвальных слоў пра гэту вялікую асобу і добра іх запомніў.

— Твой настаўнік... — раптам пачаў Хаджа Ібрагім ага, але чамусьці таксама не стаў называць імя, якое, як пучок святла, настойліва праціскалася ў яго свядомасць; цела яго абмякла, і ён сам жа абарваў сябе на паўслове. Таму што на самай справе не імя хацеў назваць ён, а задаць пытанне, адказ на якое яму ўжо быў вядомы.

— Маім настаўнікам, Ібрагім ага, з'яўляецца аль — Зацінэі Ак дэрвіш з Джэзіры. Думаю, што і гэта імя вам добра знаёмае. — Чараўнік Сайях зноў угадаў, што думае Хаджы Ібрагім ага.

— Той самы? — вочы Хаджы Ібрагім агі заблішчэлі, як у галоднага ваўка, які высочвае здабычу.

«Я так і ведаў. Ак дэрвіш быў далёкім ад рэлігіі вандроўнікам. Усё гэта да веры нашай ніякіх адносін не мае, я так і ведаў», — падумаў ушчэнт расхваляваны Караванбашы.

— Але і не супярэчыць веры.

Чараўнік Сайях цяпер угадаў думкі Караванбашы і працягваў:

— Мой настаўнік доўга займаўся тым, што даказваў гэта духавенству ў Дамаску, Хаджабе… Часам толк ад гэтага быў, а часам — не. Страціўшы надзею, ён сышоў у горы, там пабудаваў сабе маленькую хаціну, узяў да сябе толькі тых вучняў, якім давяраў, жыў пустэльнікам і заняўся паглыбленнем навукі аб душы, перадаючы свае бязмежныя пазнанні вучням.

— Так, так, вядома ж, да нас даходзілі чуткі...

— Значыць, тваім настаўнікам быў Ак дэрвіш... — вочы Хаджы Ібрагім агі закаціліся ад скрытага захаплення.

— Вядома ж, Хаджа Ібрагім ага ведаў і тое, што Ак дэрвіш не па сваёй волі ці загадзе сэрца падаўся ў горы. У той апошні раз знакамітыя і ўплывовыя духоўныя лідэры з Вялікага Саюза Духавенства, сабраўшыся разам у Хаджэпе, арганізавалі абмеркаванне пад назвай «Душапазнанне і асновы рэлігіі». Абмеркаванне паступова перарасло ў асуджэнне, што пагражала перарасці ў суд. Так што на гэтым судзе пад назвай «абмеркаванне», які цягнуўся дзевяць дзён, Ак дэрвіша абвінавачвалі як бесталковага, які здрадзіў Божаму промыслу, як ворага рэлігіі, прайдзісвета, у сэрца якога ўсяліліся джыны і шалёныя духі, а ён, гэты прайдзісвет, яшчэ мае смеласць гаварыць ад імя нябёсаў, не маючы ніякага права на гэта. У апошні дзень судзілішча перад самай аб'явай рашэння Ак дэрвіш не сцярпеў і выказаў у твар Сейіду Сары Асрары, вельмі ўплывоваму члену Вялікага Саюза Духавенства, усё, што аб ім думае. Гэта ён, яго адвечны сапернік, хітраспляценнямі інтрыг сумеў-такі ператварыць

вучоную дыскусію ў суд над ім. Але, не задаволіўшыся сказаным, Ак дэрвіш абразіў і астатніх членаў Саюза Духавенства самымі апошнімі словамі, неабдумана нанёс цяжкую крыўду шаноўным рэлігійным дзеячам, а затым самавольна пакінуўшы ўзрушаны сход, адправіўся куды вочы глядзяць. Доўгі час пра яго не было ні слыху ні дыху. Яго месцазнаходжанне ўстанавілі тайныя шпіёны, якім удалося напасці на след аднаго з вучняў Ак дэрвіша: той спускаўся з гары Аладаг у горад на базар, каб затым вярнуцца да свайго настаўніка. Нехта гаварыў, што гэта вучань шпіёнаў на карысць сышчыкаў, а хтосьці — аб яго асабістых сувязях з Сейідам Сары. Аднак былі людзі, якія настойвалі на яго поўнай невінаватасці.

Так ці інакш, але гэты чалавек, ці па сваёй волі ці мімаволі выдаў Ак дэрвіша ворагам. Неўзабаве пасля выяўлення паселішча Ак дэрвіша стража прывяла яго, на гэты раз закаванага ў кайданы па руках і нагах, у суд Вялікага Саюза Духавенства, да ахоўнікаў чысціні рэлігіі. Яму зачыталі смяротны прыгавор, і ў той жа дзень апоўначы спачатку збілі да паўсмерці на плошчы перад будынкам суда, а затым кат з ліку самых знакамітых катаў адсек сівую галаву ад непрытомнага цела старога, не забыўшы перад гэтым распяць высушанага часам дэрвіша. У горадзе тут жа разляцеліся чуткі аб тым, быццам бы верныя вучні Ак дэрвіша пакляліся адпомсціць за смерць свайго настаўніка. Адплата ж павінна была заключацца ў наступным: вучні збіраліся ўсе разам здзейсніць самагубства, дзеля таго, каб канчаткова знішчыць любую магчымасць судакранання паміж людзьмі і духамі, якіх Ак дэрвіш навучыў сваіх падапечных знаходзіць і мець зносіны з імі.

Пасля таго, як яны пакінулі б зямное існаванне, не засталося б нікога, хто змог бы іх замяніць, таму што яны былі адзінымі і апошнімі са смяротных, хто ведаў тайну сувязі з духамі. Тыя, хто не злітаваўся над Ак дэрвішам, цяпер назаўжды застануцца ў няведанні адносна гэтай тайны з тайн. Пагаворвалі, аднак, што дваццаць тры маладыя вучоныя, якія называлі сябе ценем Ак дэрвіша, перад самым актам самагубства ці прагналі, ці па нейкай прычыне выправадзілі аднаго са сваіх радоў, пазбавіўшы яго магчымасці і гонару адысці на той свет разам з астатнімі. Калі дваццаць тры юнакі ў белым адзенні, падобныя да жураўлінай чарады, трымаючыся за рукі, паляцелі з вяршыні гары ў чорную бездань, у баку ад іх на скале стаяў чалавек і з выразам крыўды і смутку на непрыгожым твары сузіраў бяскрайняе неба над іх галовамі і туманную пустэчу, якая іх праглынула назаўжды...

Хаджа Ібрагім ага нечакана адчуў, што ад жудаснай думкі, якая азарыла яго свядомасць, кроў стыне ў жылах. Ён як глядзеў з захапленнем у твар чараўніка Сайяха, так і прадаўжаў глядзець, не маючы сіл адвесці ад яго позірк.

* * *

Караванбашы, не ведаючы аб чым думаў у гэты момант Хаджа Ібрагім ага, быў заняты сваімі думкамі. Маўклівая размова паміж чараўніком Сайяхам і Хаджой Ібрагім агой яго не тычылася. Усе яго думкі былі заняты толькі адным пытаннем. Сумненняў няма, чараўнік — ён і ёсць чараўнік, з выгляду звычайны чалавек, а калі прыгледзецца больш уважліва, увесь ахутаны загадкамі. Караванбашы захацелася, нарэшце, хоць крышку, з асцярогай намякнуць на тое, што ён хацеў ад ведзьмака, і ён сказаў:

— Дасць Бог, да заўтра будзем дома, там адпачнём уволю, а вечарам ці на наступны дзень раніцай, як Бог дасць, Ібрагім ага скажа табе, што я хачу, тады і зоймемся справай, што скажаце?

Апошняе пытанне, вядома ж, было адрасавана толькі госцю, таму ён і адказаў на яго:

— Добра, ага, як скажаш, заўтра ці паслязаўтра, не мае значэння! Толькі б колер неба адпавядаў... — І ціхенька прамармытаў: — Хай толькі неба пафарбуецца ў патрэбны мне колер, астатняе — дробязь...

На гэтым іх гутарка скончылася, а ўражанне ад яе засталося такое, як ад ненасытнай ежы. Глыбокай ноччу Караванбашы прылёг у цёплую пасцель і амаль да світання аддаваўся разважанням, пераварочваючыся знясіленым целам з боку на бок, з цяжкасцю заснуў і ўбачыў, рыдаючы, у сне сваю зеленавокую маці, якая ўжо даўно не снілася яму.

## Раздзел VII

І ў адзін з цудоўнейшых дзён у тым маленькім горадзе, які паграз у самазадавальненні і не ўстаяў нават двух дзён пад ударамі шахскай арміі, горадзе, які сам не ведаў, навошта і з якой нагады ўзбунтаваўся і цяпер бясслаўна просіць літасці, Мамедкулі ўпершыню ўбачыў тую маладую ўдаву. Гэта маладая ўдава, якая жыла разам са старой бабуляй на адной са звілістых вуліц у верхнім квартале, запаланіла думкі Мамедкулі нейкай сумятнёй, збіла яго з панталыку. Яе муж сышоў на той свет у нядаўняй двухдзённай няроўнай бітве. Адзінае акенца на другім паверсе двухпавярховага дома на гэтай крывой вулцы, дома, у якім, прагнаўшы гаспадароў, атабарыўся Мамедкулі, выходзіла проста ў двор таго доміка, дзе жыла маладая ўдава. Божа, колькі святла ўбірала ў сябе гэта акно на ўсходзе сонца зранку!

Тое, што галоўны пышнавусы кат не адыходзіў ад гэтага акна, стала прыцягваць увагу людзей нават з суседніх кварталаў. І без таго кат арміі, якая перамагла, быў галоўнай тэмай бясконцых плётак не толькі ў гэтым квартале, але і ва ўсім горадзе. «Прыйшоў.., не.., бачыў.., не бачыў, у яго дома шабля на шаблі, а колькі сякер...

Ну што тут скажаш? Кат! Калі паглядзець яму ў твар — не знойдзеш і кроплі літасці, твар, нібы тысячагадовы ляднік. Але ж не адводзіць вачэй ад двара прыгажуні Пярнісы, прыліп ён да акна ці што? Хіба дазволена ім жаніцца? Можна. Нельга. А чаму і не, не бачылі хіба, у той дзень...»

Падобныя размовы-чуткі пастаянна хадзілі-снавалі, накульгваючы, па крывых вулках квартала.

Мамедкулі ўсё роўна як сам не разумеў, чаму ў апошні час стаў такім мітуслівым, усё некуды спяшаецца. На самай жа справе не ведаў ён, куды спяшаецца, не дом яго вабіў да сябе, а акно, што выходзіла ў маленькі дворык прыгажуні Пярнісы. Як толькі сядзе сонца, гэтае дзяўчо закрые дзверы і носа больш не пакажа. Не ўбачыць яе больш у той дзень Мамедкулі. Думаючы пра гэта, ён нецярпліва тузануў аброць свайго каня. Сэрца сціснулася і пачало біцца мацней. Здаецца, гэта здарылася на трэція суткі пасля таго, як ён пасяліўся ў гэтым доме. Ён падышоў да адзінага акна ў пакоі і пачаў лянiва разглядаць купал пятнічнай мячэці, які зіхацеў здаля, тут і адчуў на сваім непаголеным твары позірк знізу, з суседняга двара. Гэты агністы позірк, быццам вастрыё кап'я, пакінуў нязгасны след у яго душы.

Дзяўчына была невысокага росту, смуглявая і худая, але прыгажосцю яе Бог не абдзяліў. У той дзень яна збіралася развешваць бялізну на вяроўку, нацягнутую ад плота да памоста на страсе дома. Узяла вымытую адзежу з драўлянай балеі, адным рухам галавы адкінула назад пушыстую пасму вала-

соў, якая ўвесь час спаўзала на вочы, і раптам, угледзеўшы цёмнатварага, з пышнымі вусамі мужчыну, які, прыпаўшы да суседняга акна задуменна глядзеў у бок пятнічнай мячэці, замерла. Не маючы сілы стрымаць сябе, быццам зачараваная, глядзела яна на гэтыя сумныя вочы, на пазначаны пакутамі твар: «О, Божа, памажы і пазбаў, няўжо і ў іх ёсць Бог, няўжо і ў ката на твары можна пабачыць жаль?», — падумала прыгажуня Пярніса, якая зусім нядаўна страціла свайго мужа, і месяца не прайшло з той пары. Муж яе быў адным з абаронцаў горада. Пасля яго паспешлівага адыходу ў той вечар, быццам бы ён спяшаўся насустрач смерці, і яго хуткай пагібелі, маладую жанчыну як падмянілі. Дагэтуль яна была заўсёды вясёлай, усмешка не сыходзіла з яе вуснаў. Цяпер яна ўжо не плакала, слёзы ўсе выплакала, усмешка пакінула яе твар і вочы, адышла ў нябыт...

— Дзяўчынка мая, Пярніса, куды ты прапала, дзе цябе чэрці носяць?! Што ты капаешся, хіба можна так доўга развешваць бялізну?!

Пачуўшы сварлівы, хрыплаваты, як у вядзьмаркі, голас старой, які даносіўся з дома, Пярніса спуджана страпянулася, быццам джайран, што ўчуў пах драпежнага звера, выцерла рукавом мокрыя зялёныя вочы, а можа, збоку так здалася, і, страсаючы па адной, выкручаныя рэчы, пачала паспешліва развешваць іх. Голас старой вывеў з задуменнасці і Мамедкулі, тут ён і ўбачыў упершыню са свайго акна, якое было расчынена проста ў гэты чужы дворык прыгожую, з доўгімі валасамі дзяўчыну. Нейкі час ён уважліва назіраў за ёй. І першая думка, якая прыйшла яму ў галаву, была такой: «Якая ў яе пяшчотная, тонкая шыя, нават аднаго ўдару зашмат...» Але тут жа адагнаў гэту думку, як адганяюць муху ўзмахам рукі. Зноў упіўся паглядам у яе фігурку. Глядзеў, не адрываючыся. Гэта прынесла яму дзіўнае задавальненне. Ён зусім спакойна вывучаў яе паставу, рухі, тое, як яна, размахваючы рукамі, нешта шэпча сабе пад нос, развешвае бялізну, як яна пры гэтым прыўзнімаецца на дыбачкі і выцягваецца ўсім сваім гнуткім целам. «Заўважыць-то яна мяне заўважыла, але, здаецца, ёй ўсё роўна, гэта нездарма...»

А чароўная Пярніса ўнізе, у двары, раптам адчула, што ўсе свае рухі, тое, як яна нагінаецца і выпрамляецца, як выгінаецца, падобна рыбе, пагойдваецца з боку на бок, яна здзяйсняе назло гэтаму з доўгімі вусамі, немаладому мужчыну, які бессаромна разглядае яе са свайго акна. Зрэшты, можа быць, і не назло!? Ад такой думкі твар яе запунсавеў, як ранішняя зара. Раптоўна ні з таго ні з сяго яна павярнула галаву і смела ўпёрлася бессаромным позіркам у арліны пагляд мужчыны. Іх позіркі спляліся так цесна, з такой незразумелай прагай, што, у рэшце рэшт, яны быццам бы загаварылі адно з адным сумнымі сваімі вачыма.

«Усе цябе баяцца, ведаю, але я цябе ніколькі не баюся, ніколечкі, разумееш?..»

«Чаго гэта ты павінна баяцца мяне? Я ж цябе не ведаю, і ты не ведаеш мяне. Не бойся...»

«Сказала — не баюся. І ніколі не буду баяцца...»

«Вось так лепш. Я ж не людаед...»

«Людаед, не падманвай мяне. Колькі ты галоў адсек, колькіх зарэзаў... твае рукі па локаць у крыві вінаватых і бязвінных людзей. Я ведаю...»

«Не, не гавары так. У кожнага свая віна. Бязвінныя — тыя ж вінаватыя, толькі іх віна не на віду...»

«Чаго стаіш там, разінуўшы рот... не бачыш, я справай занятая. Не глядзі на мяне так... вось-вось бабуля прыйдзе...»

Старая, нарэшце, чыкільгаючы, выйшла ў двор, сярдзіта вырвала з рук прыгажуні Пярнісы астаткі мокрай адзежы, адштурхнула яе ўбок і сама з вялікай цяжкасцю, крэкчучы, пачала развешваць вопратку. Пры гэтым, варушачы вуснамі, яна нешта сама сабе шаптала, быццам агідная злая вядзьмарка.

* * *

Дні працякалі марудна, а гадзіны і хвіліны імгненна змянялі адна адну. Пасля таго ракавога дня прыгажуня Пярніса, пакрысе супакоіўшыся, кожны раз, калі выходзіла на задні двор, у суседнім верхнім акне бачыла ўсё тыя ж, быццам прыклееныя да мясістага твару, вусы. Яна ведала, што востры пагляд уладара гэтых вусоў шукае яе, ловіць кожны яе рух, чакае яе. Прыгажуня Пярніса гатова была паклясціся ўсім, што пагляд у яго вельмі сумны, і сам ён імкнуўся схавацца ад яе, але, часам, гэта яму не ўдавалася.

І калі яму гэта ўдавалася, смутак у яго позірку некуды клікаў, вабіў яе, позірк яго пераўтвараўся ў дарогу, што хавалася ў квецені. «Ідзі, падыдзі да мяне, дзяўчынка, за ўсё маё жыццё я ні разу не паспытаў сапраўднага кахання, мне не вядомы яго райская асалода, пакуты расстання і радасць сустрэчы, каму, як і дзеля чаго ахвяраваць сваім жыццём — не разумеў гэтага», — гаварылі гэтыя вочы і, нібы заварожвалі. У такія хвіліны, калі б хто паглядзеў збоку, ніколі б не падумаў, што гэты сумны пагляд належыў кату Мамедкулі, быццам нешта ці нехта іншы пасяліўся ў яго душы і глядзеў адтуль. Нават муж, яе муж, з якім яна пражыла год, ні разу не зірнуў на яе так, каб у яе затрапяталася сэрца, каб яна, як у салодкім сне, ведаючы, што ўсё роўна давядзецца прачнуцца, зрабіла ўсё, чаго толькі ён не пажадае, хоць нават і ў сне... Ты паглядзі на яго, о Божа, ён махае ёй, бессаромны які, ... узяць бы лесвіцу, прысланіць да сцяны, улезці ў гэтае падобнае да вока пугача акно на другім паверсе, схапіць бы яго за пышныя вусы, пацягнуць з усяе сілы... а пасля кінуцца да яго ў абдымкі, каб адчуць ласку гэтых магутных рук... Што ўбачыла прыгажуня Пярніса, калі двор напоўніўся святлом месяца і па ўсім доме чуўся прыкры бабулін храп? Яна ўбачыла сябе, яна паспешліва мерае прыступкі лесвіцы, наверх, на другі паверх, бяжыць па дарозе, якая хаваецца ў квецені. Наверх, наверх, на другі паверх! Вядома ж, на другі паверх, ну, безумоўна, на другі... Гучна стукала сэрца ў яе грудзях, білася ў скронях... Мамедкулі, сам не свой, не памятаў, як працягнуў руку, схапіў яе за талію, падняў, быццам пушынку, і пацягнуў у акно, як адпусціў яе пасярод пакоя...

...Бедны, бедненькі... супакойся... мне таксама трэба супакоіцца... потым — будзь што будзе, будзь што будзе... зараз ці ніколі, зараз, не, зараз нельга, зараз ніяк нельга, можа, іншым часам, не, зараз... О Божа, бабуля заб’е мяне, калі пачуе, даведаецца, ды прыбуду я ахвярай тваёй, адпусці мяне, адпусці, Госпадзі, што ж я тут раблю?! О Госпадзі, ды прыбуду я тваёй ахвярай, павер мне, павер, зараз адпусці, і я заўтра, заўтра прыйду, заўтра яна пойдзе ў вёску, заўтра, добра, а сёння адпусці, Богам заклінаю, адпусці, калі нехта пачуе, закідаюць мяне каменнем, няшчасная я, бедная, бедная мая галава, памаўчы, не гавары нічога, маўчы, дзеля Бога, навошта, чаму ж я... пачакай, пачакай жа ж ты, будзь цярплівы, які ж ты нецярплівы, чаму ты такі нецярплівы, о Госпадзі, Госпадзі, зжалься... Божа, чаму ж у яго цярпення няма... няма... няма... няма ў цябе і сумлення няма... у цябе... ах... Ты глянь на вочы гэтага бессаромніка, глянь, і не вусы зусім, а арэлі...

Сплятаючыся, ператварыўшыся ў адно цэлае, страсны шэпт палюбоўнікаў пачаў пакрыху раставаць у цішы непрагляднай цемры, таму што на словах

«адпусці мяне» аблічча месяца, святлом якога быў заліты ўвесь двор, закрыла невялікая фанабэрыстая хмара, і ўсё акунулася ў цемру, калі гэта хмара вызваліць месяц і сыдзе прэч — было вядома аднаму Богу.

## Раздзел VIII

— ...Ён ніколі не ўмеў хаваць тое, што было ў яго на сэрцы. Калі ж гаварыць пра вас, магчыма, ён чакаў зручнага моманту, каб паведаміць вам пра гэта. Але нам сказаў, што канец ужо быў, і слова ў канцы ўжо сказана. Мы цяпер жывём жыццём пасля надышоўшага канца, ведай гэта.

Як толькі Сейід Сары змоўк, ён заўважыў, што мяне ахінулі глыбокія думы і, памяняўшы тэму гутаркі, аддаў мне апошнія даручэнні:

— Ак дэрвіш з'явіўся на сваёй радзіме, у Даліне Чараўнікоў. Ты павінен яго знайсці, душа твая пазнае яго, і ты, толькі ты станеш перашкодай для ўстанаўлення апошняга звяна ў кола Цемры. Ты ведаеш, што рабіць. Яго... забі яго! Мы раз за разам павінны зноў забіваць яго. Мы будзем забіваць яго кожны раз, як ён народзіцца. А цяпер ідзі. Ідзі! Звярніся да маіх памагатых, яны дадуць табе ўсё, што неабходна. Вялікі Саюз будзе сачыць за табой няспынна. Іншала, і Бог не пакіне цябе ў бядзе.

## Раздзел IX

Каханне, якое запанавала ў закрытым да нядаўняй пары для жанчын сэрцы — у такі час і ў такім месцы! — Мамедкулі ўспрыняў як знак Божай спагадлівасці, што сышоў з нябёс. Быццам сам Бог шапнуў яму на вуха: «Бачыш ты гэту дзяўчыну ці не?! Вазьмі яе да сябе, пазбаў яе ад смутку і бедаў, абарані і не адпускай больш нікуды». Мамедкулі не меў сілы забыцца на гэтыя словы і часам у пасцелі так моцна абдымаў прыгажуню Пярнісу, так моцна прыціскаў яе галаву да сваіх касматых грудзей, што тая спуджана ўздрыгвала і пачынала прычытаць: «Ай, ай, дыхаць цяжка, так і забіць можна... О Божа, што ты робіш, з глузду з'ехаў ці што? Ты звар'яцеў, сапраўды, вар'ят...» Ад гэтых яе слоў Мамедкулі атрымліваў сапраўдную асалоду. Але на самай справе яму прыносіла асалоду не само значэнне сказаных ёю слоў, а голас прыгажуні Пярнісы. Дзіўным было яшчэ і тое, што ў апошні час Мамедкулі і сам пачаў гаварыць такім жа саладжавым голасам, які ішоў ад сэрца, прымушаючы ўсіх здзіўляцца і шаптацца па кутах, што гэта не той шалёны, грозны Мамедкулі, а зусім іншы чалавек. Ён і да сваёй работы пачаў ставіцца не так. Прыгажуня Пярніса пастаянна перад яго вачыма, і, быццам занаравіўшыся, нікуды не сыходзіла, і ён, куды б ні кінуў вокам, бачыў толькі яе. Душа не ляжала да работы, цэлымі днямі ён, толькі праз сілу, прымусіўшы сябе, мог нечым заняцца, стараўся не трапляць нікому на вочы і, нейкім чынам, завяршыўшы справы, пайсці дадому. А дома... ён з трапяткім сэрцам чакаў усходу месяца. Як толькі двор залівала цудоўным святлом — тут жа канец лесвіцы прыгажуні Пярнісы з бессаромным стукам узнікаў ля яго акна, і тады туга нацягнутая цеціва ў сэрцы Мамедкулі, так, іменна цеціва, з трэскам абрывалася. Пакуль яна ўзбіралася наверх, ён несупынна хадзіў па пакоі то ўзад то ўперад, ад хвалявання адчуваў сябе ледзь не на тым свеце. Чаканне здаецца не такім пакутлівым, калі бачыш: вось яна, ідзе. Але ён прагнуў іменна гэтай пакутлівай асалоды ад чакання, салодкай як мёд. Калі б хто раней сказаў яму: прыйдзе час,

і ты, Мамедкулі, будзеш кагосьці чакаць з заміраннем сэрца, і момант гэты будзе настолькі хвалюючым, што ты забудзеш пра ўсё і ўсіх на свеце, — хіба не рассмяяўся б ён гучна ў твар гэтаму чалавеку?! Вядома ж, рассмяяўся б...

— Калі Шах адсюль сыдзе, ты таксама рушыш разам з ім?

— А што я магу зрабіць? Я чалавек маленькі, хто я, бездапаможны раб Божы! Не магу не ехаць за ім.

— З’едзеш, значыць...

— Вядома ж, з’еду.

— А я?

— Што ты?

— Ну, я, я... Ты ж гаварыў, што кахаеш мяне!

— Кахаю?

— Так, ты гаварыў гэта.

— Добра, значыць, кахаю.

— Не, цяпер зразумела: не кахаеш. Зусім не кахаеш.

Прыгажуня Пярніса нават, ледзь прыдрамаўшы, гадзінамі, да першых птушак магла прадаўжаць гэту гутарку, якая складалася з адных толькі слоў «кахаю — не кахаю». Пальцы Мамедкулі без стомы вандравалі па ўзлахмачаных валасах дзяўчыны, а сам ён яшчэ мацней прыціскаўся да яе. На самай жа справе яго душа прыціскалася да яе — так калісь ён, дзіцем, прыціскаўся да маці. Гэта прыносіла яму асаблівае задавальненне. Прыгажуня Пярніса адзін да аднаго, як яго маці. І голас яе быў падобны да мацярынскага голасу. «Хай сыходзіць той, хто хоча. Ды толькі не ты, малюю цябе. Ведай, я ад цябе не адчаплюся. Мне патрэбен муж, і нічога іншага не хачу. Ты не пакінеш мяне, ты не зможаш кінуць мяне, ад мяне ты нікуды не схаваешся, кроку не ступіш... Так, Мамедкулі?..» Але замест імені свайго «Мамедкулі» чулася яму «Забула ага»... Гэтак жа, у далёкія часы, гаварыла яго маці аднавокаму Забуле. Толькі гэтыя словы з усіх слоў, што некалі шапталі, зліўшыся целамі ў пасцелі, яго маці і аднавокі Забула, лежачы ў святле месяца, моцна прыціснуўшыся адно да аднаго, у двары пад цяністым шатром тутавага дрэва, не, здаецца, гаргача, калі не прайшло і месяца пасля смерці яго бацькі, урэзаліся ў памяць Мамедкулі. Так, прыгажуня Пярніса гаварыла адзін да аднаго, як яго маці, больш таго, яна і была яму цяпер як маці.

## Раздзел X

У даліне Чараўнікоў стаяла пара па-вясноваму пышнай зеляніны, кветак, якія распусціліся, і птушынага шчэбету. Малады чараўнік сядзеў на сваім аблюбаваным месцы — прысланіўшыся плячом да амаль голай скалы, што выступала, здавалася, з самых нетраў зямлі. І на гэты раз ён глядзеў задуменным позіркам уверх, у бок Нябачнай гары. Безумоўна, гара была такой жа нябачнай, як і заўсёды, але снег, які сыпаўся ўсю ноч, ухутаў гару цалкам, ператварыўшы яе ў гіганцкую снежную гурбу. І гурба гэта была бачна здалёк. Рэдкія сняжынкі, ледзве даляцеўшы сюды ад Нябачнай гары, знясіленыя, хаатычна лёталі над галавой юнака. Там жа, дзе даліна заканчвалася ля падножжа Нябачнай гары, вецер уздымаў снежную завею, пакрываючы зямлю бліскучым, халодным, белым дыванам. Унізе, у даліне, усё было інакш. Птушыныя спевы і вiраванне ручаёў быццам бы праліваліся з яркага суквецця фарбаў, напаўняючы сабой усё: і зямлю, і паветра. Чараўнікі, па двое, па трое, не звяртаючы ніякай увагі на акаляючы свет, што ляжаў за межамі даліны, ціха гутарылі, зрэдку спрачаліся

паміж сабой, спакойна праходжваліся ўздоўж цясніны туды-сюды. Ім не было ніякай справы да таго, што тварылася навокал. Тут, у гэтай даліне, яны адчувалі сябе, як рыба ў вадзе. Аднак, адшукаўшы паглядам маладога чараўніка, і ўпэўніўшыся ў тым, што ён знаходзіцца на сваім звыклым месцы, яны ўздыхалі з палёгкай. А малады чараўнік, не мяняючы позы, сядзеў нерухома, павярнуўшы поўны смутку твар да Невядомай гары. Быццам там, унутры снягоў і завеі, клубілася нешта такое, што ён шукаў, шукаў і ніяк не мог знайсці. Ім адолела прадчуванне, быццам хутка, зусім хутка адбудзецца нейкая вельмі важная падзея. Але якая? Ён гэта ведаў і... не ведаў.

* * *

З затоеным гонарам у вачах Караванбашы яшчэ раз агледзеў караван з пачатку і да канца, а затым скіраваў каня ў бок да бліжэйшага ўзвышша. Караван увесь, цалкам адкрыўся ў Дзюзангасе, быццам маляўнічы ўзор на дыване, і, нягледзячы на цяжкія грузы, з непрытоенай палёгкай рабіў апошнія крокі ў канцы доўгага шляху. Караванбашы змяшаўся з караванам. Хаджа Ібрагім ага і чараўнік Сайях ужо замянілі мулаў коньмі, і ён прытрымаў свайго жарабца побач з імі.

— Ібрагім ага, ты вядзі Хаджы агу адразу ў наш дом, уладкуй яго ў пакоі для гасцей на верхнім паверсе, ды прасачы, каб акружылі яго ўвагай, — звярнуўся Караванбашы да Хаджы Ібрагім агі.

— Слухаю цябе, ага, не турбуйся, зраблю ўсё як трэба.

— Ты ж ведаеш, мне трэба зрабіць яшчэ шмат спраў. Пайсці ў Караван-сарай, прасачыць за разгрузкай вярблюдаў... А перад гэтым, вядома ж, трэба наведаць Яго вялікасць. Дасць Бог, вечарам пабачымся дома.

Чараўнік Сайях падумаў сам сабе: «Неяк няёмка, трэба і мне таксама нешта сказаць, а то ўсю дарогу я быццам вады ў рот набраў», — і загаварыў:

«Усё будзе так, як ты захочаш. Наконт мяне не хвалюйся. Тое, чаго ад мяне чакаеш, ты атрымаеш. А што адбудзецца пасля — мяне не тычыцца...»

Вымавіўшы гэта, Сайях тут жа пашкадаваў аб сказанным: «Не варта было так гаварыць». Але ён ведаў са свайго ўласнага вопыту: не сказаць нельга было, колькі перабачыў на сваім вяку людзей, якія напачатку рабілі ўсё, каб выклікаць дух сваіх блізкіх ці сваякоў, не шкадавалі ні грошай сваіх, ні намаганняў дзеля гэтай справы, а што было потым? Хіба гэтыя людзі не раскайваліся ў зробленым?.. Раскайваліся, безумоўна... Але...

Хоць Караванбашы і не спадабаліся апошнія словы Сайяха, ён не падаў выгляду. Хаджа Ібрагім ага разгубіўся, коса зірнуўшы на чараўніка, са скрухай пахітаў галавой. Узнікла няёмкая паўза. Даволі-такі доўга яны ехалі моўчкі. Пачалі ўжо трапляцца насустрач паселішчы і дамы па ўскраінах дарогі. Сапраўдныя зімнія маразы не насталі, але, нягледзячы на гэта, першы снег, што выпаў некалькі дзён таму, не паспеў поўнасцю растаць, пакінуўшы белыя меткі на дахах дамоў, пад кустамі ў дварах і на вяршалінах дрэваў. Назіраючы гэтую белізну, стомленыя ад працяглага сузірання зеляніны і пяскоў, вочы адпачывалі. Праз колькі дзён дыханне аслабелай на некаторы час сцюжы прынясе ў гэты край снежнае лютаванне мяцеліцы, якая зараз бушавала ў ваколіцах Нябачнай гары. У падарожных і коней клубіўся пар з ратоў. Падумаўшы: «Ці не парушыць мне гэту недарэчную цішыню?» — Хаджа Ібрагім ага, павярнуўшыся да чараўніка Сайяха, спытаў:

— Сайях ага, ваша даліна, Слава Творцу, райскі куточак, але патлумач мне, як жа так дзееццa, што вакол яе мяняюцца поры года, а тамашніх мясцін

гэта не тычыцца, у даліне пануюць прыемныя імгненні вясны? Гэта вынік вашай вядзьмарскай сілы, ці ёсць нейкае іншае тлумачэнне?

— А ты што думаеш, Хаджа ага, калі мароз пануе паўсюль, калі прырода стогне і снежныя віхуры бушуюць у ваколіцах — Нябачная гара ўжо цалкам замецена снягамі, — уся гэта зеляніна маленькай даліны, кветкі, царскія жыватворныя крыніцы, птушкі, што пяюць на дрэвах, якім чынам яны могуць уцалець пасярод зімы?

— Безумоўна, Сайях ага, я так і растлумачыў для сябе гэты цуд... Несумненна, ён сведчыць пра вялікую моц вашу... Вы перанеслі рай на гэтую зямлю на славу Бога!

— Зараз я тут, з вамі. А там узнікла небяспечная шчыліна, і калі мае сябры не закрыюць яе, то бура-непагадзь прарвуцца ў даліну, увойдуць менавіта праз гэту шчыліну, — задуменна кінуў чараўнік.

* * *

Горад як вялікая чорная радзімка, няспешна прыбліжаўся да іх, і па меры прыбліжэння павялічваўся ў памерах. Спачатку цераспалосіца дамоў перайшла ў вузкія вуліцы, затым вузкія вуліцы пашырыліся, а потым уся дарога запоўнілася людзьмі, што выйшлі сустракаць караван. Але ўсё гэта яшчэ самім горадам не з’яўлялася. Вароты крэпасці ва ўнутраным горадзе былі яшчэ наперадзе. Караван рухаўся ўжо не так спорна, як раней, ён запаволіў крок, быццам захмялеў ад пяшчотнай ласкі ўзрушаных паглядаў. Нарэшце, паказаліся вароты крэпасці, да іх і заспяшаліся коннікі. Караванбашы скіраваў свайго каня да пачатку каравана, дзе велічна ўзвышалася галава вярблюда Гатазлы, які праходзіў з ганаровай гультаяватасцю.

— Прымі мае віншаванні, ага, дайшлі ўсё-такі дадому, — павіншаваў Яго сарван Гарасуварлы.

— І цябе віншую, Гара, віншую ўсіх нас, — паважна адказаў Караванбашы. — Ці надзелі вы наморднікі на сабак?

— Надзелі, ды яшчэ прывязалі іх ланцугамі, не хвалюйся пра гэта.

Узмацніўся гук зурны і барабана, вярблюды на імгненне перасталі пражоўваць жвачку, потым зноў узяліся за сваю звыклую справу і паслухмяна рушылі ўслед за караванамі, якія ўжо спяшыліся.

Перапоўнены прыемнымі пачуццямі ад цырымоніі сустрэчы, Караванбашы, седзячы конна і яшчэ больш ганарліва выпрастаўшы спіну, загадаў, не павярнуўшы галавы, сарвану Гарасуварлы:

— Зрабі так: развярні караван у бок Каравансарая Хаджы Гавара, да ніжняга квартала.

— Будзе зроблена, ага, — сарван Гарасуварлы пагнаў свайго жарабца да Назаралі, які сціснуўшы адной рукой узорчатую аброць вярблюда Гатазлы, крочыў з важным і сур’ёзным выглядам.

Павярнуўшыся назад, Караванбашы пашукаў вачыма Хаджа Ібрагім агу і чараўніка Сайяха, яны павінны былі знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне каравана. Хаджа Ібрагім ага тут жа адчуў гэты погляд і паспешна паскакаў да гаспадара. Гуллівы бедуінскі конь літаральна танцаваў пад Караванбашы, а той, не адрываючы вачэй ад каравана, яшчэ паўтарыў свой апошні загад Хаджы Ібрагім агу:

— Рабі так, як я сказаў. Няма ніякай патрэбы ісці вам ў Каравансарай. Едзьце адразу дадому. Я ж, размясціўшы караван, адпраўляюся ў палац шаха.

Да надыходу ночы ў мяне яшчэ шмат спраў. Хай Назаралі прывязе наш тавар дадому. Прасачы за гэтым. Ідзіце, адпачывайце пакуль, а яму... — панізіўшы голас, Караванбашы галавой паказаў на Сайяха, — яму сам усё раскажаш, я гэтага рабіць не хачу.

Не чакаючы адказу, Караванбашы пагнаў свайго каня да галавы каравана і паехаў паперадзе яго.

Падаўшы позіркам знак чараўніку далучыцца да іх, Хаджа Ібрагім ага ад'ехаў ад каравана крыху ўбок і спыніўся. Цяпер яны абодва глядзелі, як нагружаныя таварамі вярблюды і мулы па-адным, не спяшаючыся, праходзілі перад імі. Вось ужо і апошнія жывёлы разам з паганятымі аддаляюцца ад іх, і тут Сайях заўважыў, што галава гіганцкай змяі-каравана запаўзае ў гарадскія вароты, адкуль адразу пачуўся крыклівы гук зурны і вясёлы гоман тысячагалосага натоўпу.

Хаджа Ібрагім ага разам з чараўніком павярнулі на іншую дарогу, Чэмшэ, якая павінна была вывесці іх да малых варотаў Чэмшэлі, што знаходзіліся на супрацьлеглым канцы горада. Хутка яны дайшлі да гэтых варот, уехалі ў горад і пагналі сваіх коней па бязлюдных пустынных вуліцах — усе гараджане сабраліся сустракаць караван ля галоўных варотаў — у накірунку дома Караванбашы ў верхнім квартале Гырхлар. Калі яны дасягнулі мэты шляху, сонца толькі-толькі перавaліла за поўдзень.

* * *

Караванбашы вярнуўся дадому позна. Верны Ібрагім ага, які ўвесь дзень услухоўваўся ў кожны шоргат на вуліцы, пачуўшы, што прыйшоў гаспадар, стрымгалоў выскачыў на двор. І першае пытанне Караванбашы да Хаджы Ібрагім агі было такім:

— Пагаварылі? Ну што, што ён сказаў?

І пачуў у адказ:

— Пагаварылі, ага, пагаварылі. Ты спачатку прайдзі ў дом, ды пяройдзе гора тваё да мяне, тут холадна стаяць...

Вечарамі ўжо было па-зімняму сцюдзёна. Разам яны прайшлі на жаночую палову. Тут у адным з пакояў, з цяжкасцю хаваючы нецярпенне, сядзела маладая жанчына, прыціснуўшы да сябе дзіця гадоў шасці. Колькі пакутлівых гадзін правяла яна, чакаючы вяртання Караванбашы дадому! Убачыўшы яго, жанчына хутка ўстала. Дзіця вырвалася з рук маці і кінулася ў ласкавыя абдымкі бацькі.

— Паглядзі, як жа ён вырас, маладзец!

— Маладзец, маладзец... — Хаджа Ібрагім ага, задаволены, рэхам паўтараў словы гаспадара.

* * *

Караванбашы моцна абняў дзіця, прыціснуў яго да грудзей, расцалаваў, і яшчэ раз уважліва зазірнуў яму ў твар. «Сапраўды, вырас, позірк стаў вострым», — мільганула думка. Затым спусціў сына на падлогу, хто б мог падумаць, якім цяжкім ён стаў. Хлопчык, прыціснуўся да бацькі, замёр.

Марудна і асцярожна, не адрываючы дзіця ад сябе, Караванбашы наблізіўся да жанчыны і апусціўся ля яе ног на дыван. Узяўшы яе далоні ў свае, пасадзіў побач і, гладзячы тонкія пальцы, доўга і пільна аглядваў яе твар, фігуру, затым ласкава загаварыў:

— Ты ніколькі не змянілася. Засталася такой жа, як і была. Скажы мне, як сябе адчуваеш? Нешта ў вачах тваіх мяне трывожыць... На гэты раз марудна цягнуўся час расстання, так ці не?

Ад сарамлівасці, ці ад нечага яшчэ жанчына прамармытала нешта незразумелае, мякка вызваліла руку з рук Караванбашы і пачырванела. Караванбашы без асобай увагі прыслухоўваўся да яе слоў, стомленасць перашкаджала засярадзіцца на тым, што яна гаворыць. Але ўсё ж перапытаў:

— Што ты сказала?

Жанчына паправіла валасы пад хусткай і зноў прашаптала нешта неразборлівае:

— Есці будзеш, яна пытае. — Засумаваўшы ў час гэтай сцэны, Хаджа Ібрагім ага на свой лад вытлумачыў мармытанне жанчыны.

— Не, не буду. Візір Машдалі пачаставаў мяне палуднем у палацы. — Караванбашы зноў звярнуўся да жанчыны: — Ну, гляджу на вас, здаецца, і ты, і дзіця ў парадку, але выглядаеш крыху стомленай. А падарункі атрымалі?

Ці загаварыла жанчына нечакана гучна? Яшчэ як загаварыла:

— Дзякуй табе, вялікі дзякуй, атрымалі, і зусім не стомленая я, хай бароніць цябе Бог. Проста ўсю мінулую ноч не спала, думала, што прыедзеш ноччу. Чакала. Яго ўлажыла, — паказала на дзіця, — а сама, як ні старалася, не звяла вачэй...

Як толькі жанчына загаварыла — вось што прыпомнілася Караванбашы! Аднойчы ў адзін спякотны дзень нечакана з’явіўся да яго чалавек з палаца з паведамленнем, што гасудар кліча яго да сябе. Нехаця, адчуваючы слабасць у целе, ён прыадзеўся і, ад спякоты з цяжкасцю цягнучы ногі, адправіўся ў палац. Шах тады падарыў яму нявольніцу. А самому Шаху яго пабрацім, эмір Хейірабада прыслаў у падарунак сем прыгажунь, сем адборных, як жэмчуг, дзяўчат.

Калі ён упершыню ўбачыў яе, яна была панурай і маўклівай, худой целам, невысокага росту. Час ад часу раптам ускідвала вейкі і дзёрзка глядзела проста ў вочы. Спрабуючы схаваць вадаспад непакорных валасоў, старанна засоўвала доўгія пасмы пад шаўковую хустку. Часам гэта ўдавалася ёй, часам — не. «На чорта мне патрэбна такая, як жа гэта дзяўчына падобная, о Алах», — падумалася яму, але ён, не падаўшы выгляду, рассыпаўся драбней маку перад Шахам, дзякуючы за ўсё, і, выходзячы з палаца, незадаволена бурчаў сабе пад нос. Вось так — ён наперадзе, а падораная яму нявольніца ззаду, — па запыленай і спякотнай вуліцы ён ляніва паплёўся дадому. Праз год у іх нарадзіўся хлопчык, і Караванбашы па рэлігійным звычаі і па абавязку свайго сэрца ўзяў шлюб з гэтай дзяўчынай.

Ён перарваў паток успамінаў, уздыхнуў і сказаў, звяртаючыся да жонкі:

— Ідзі, ідзі, цяпер адпачні крышку. Я прыйду пазней. — Лёгкая ўсмешка мільганула на вуснах Караванбашы. Пры гэтым ён не глядзеў жанчыне ў твар. Затым, прадаўжаючы разглядаць падлогу, засланую дыванамі, звярнуўся да Хаджы Ібрагім агі:

— Падыдзі ж, прысядзь, Ібрагім ага.

Калі жанчына, паклікаўшы сына, захацела пайсці, Караванбашы яшчэ раз прыцягнуў яе да сябе, абняў і пяшчотна пагладзіў па галаве.

— Удалы хлопец. Заўтра з раніцы, як толькі прачнешся, прыходзь да мяне, ты павінен зрабіць справаздачу за гэты год без мяне. Зможаш?

У вачах хлопчыка мільганула ганарлівая радасць, ён ускінуў галаву, з любоўю паглядзеў на бацьку, пакланіўся і, павярнуўшыся, пабег да маці, узяў яе за руку. Жанчына і дзіця, шчаслівыя, выйшлі з пакоя.

— Ну, што?! Тавары даставілі? — Караванбашы цёплым позіркам праводзіў іх, потым усеўся лацвей і звярнуўся да Хаджы Ібрагім агі:

— Усё ў цэласці, ды прыбуду я тваёй ахвярай. Усё на месцы, як і мае быць. А ці бачыў ты Яго вялікасць, ды пяройдзе боль твой да мяне?

— Бачыў. Ды заслужыў ад яго пахвалу.

— Слава Богу, хвала Тварцу. Хвала на векі вякоў.

— Даволі аб гэтым, гавары хутчэй, як там нашы справы? Ты ведаеш, пра што я...

Хаджа Ібрагім ага напружыўся і бездапаможна адказаў:

— Нічога, нашы справы нядрэнныя... Але... Ёсць адно «але».

— Ну, што там яшчэ, кажы?

— Не ведаю, як сказаць... Сцвярджае, што колер неба не такі, які яму патрэбен.

— Колер неба не такі, які яму патрэбен?! — Караванбашы здзіўлена звузіў вочы.

— Дакладна так, ды прыбуду я тваёй ахвярай. І, па-мойму, ён не збіраўся дурыць нам галовы.

— Вось яно што... Растлумач тады, Ібрагім ага, якое дачыненне мае колер неба да нашай справы?

— Мусіць, мае, ды прыбуду я тваёй ахвярай, відаць, мае. Яму відней...

Караванбашы задумаўся.

У Ібрагім агі на людскія хітрыкі было сваё чуццё, калі ён кажа, што чараўнік не хітруе і не падманвае, значыць, так і ёсць на самай справе. Тады што азначаюць яго словы пра колер нябёсаў? І як цяпер дзейнічаць далей?!

— Што ж нам рабіць? — ціха спытаў Караванбашы.

— Пачакаем, ды пяройдзе боль твой да мяне. А што застаецца? Хіба толькі чакаць, у нас ёсць іншае выйсце? Не.

Караванбашы і Хаджа Ібрагім ага яшчэ крыху пагаварылі пра гэта, і, нарэшце, прыйшлі да агульнага рашэння: варта нейкі час пацярпець і не турбаваць чараўніка Сайяха пытаннямі, да таго часу, пакуль ён сам не загаворыць пра іх справу. Хаджа Ібрагім ага клапатліва кінуў позірк на гаспадара: «Які ж ён змучаны, пара яму адпачываць», — падумаў ён і ўстаў.

Але перад тым, як выйсці з пакоя, запытаў у Караванбашы:

— Візір Машдалі нічога не пытаўся ў цябе пра мяне, ды пяройдзе боль твой да мяне?!

— А чаму ён павінен пытацца пра цябе, Ібрагім ага? — адказаў пытаннем на пытанне Караванбашы.

— Не, нічога. Падумаў, можа, ён памятае мяне. Маю на ўвазе той выпадак...

— Не, не пытаўся, супакойся.

— Дзякуй, да заўтра, ды пяройдзе да мяне твой боль. Дабранач. Табе трэба выспацца.

«Візір Машдалі, ён і ёсць візір Машдалі, амаль рассыпаецца на хаду, настолькі знямоглы і стары, хіба ён можа памятаць цябе, эх, дзівак...» — уздыхнуў Караванбашы пасля таго, як Ібрагім ага пайшоў. І ўвогуле, каго ён памятае, гэты візір? Перад яго вачамі ажыў худы, зморшчаны, з рэдкай белай барадой старэчы твар першага шахскага візіра.

***Прадмова і пераклад з азербайджанскай***
***Людмілы ГЛІНСКАЙ.***

***Працяг будзе.***



Вітаўтас БАРАЎСКАС

*«Закаханы глушэц» — так вобразна, маючы на ўвазе ляснога птаха, назваў літоўскі крытык Альфрэдас Гушчус паэта Вітаўтаса Бараўскаса, рэкамендуючы чытачам яго новы зборнік вершаў «Пасля чатырох маўчанняў».*

*На парозе свайго 80-годдзя аўтар усёй душой радуецца жыццю, любуецца прыгажосцю, пяшчотнасцю і ласкавасцю Жанчыны, не называючы яе імя. «Гэта рэдкі выпадак у нашай сённяшняй літаратуры, — зазначае крытык. — Вітаўтас Бараўскас абагаціўся вольным і глыбокім дыханнем, новым размахам сваёй творчасці».*

*Вітаўтаса Бараўскаса ведаюць на радзіме як паэта-песенніка, былога рэдактара маладзёжнага часопіса, актыўнага грамадскага дзеяча. А ў маім жыцці — ён верны сябар Вітас, а яшчэ — брат. Так атрымалася, што яго родны брат Стасіс загінуў падчас вайны ў Беларусі. І Вітас папрасіў мяне, беларуса, быць яго братам. Нашаму братэрству — сорак гадоў!*

*Хочацца верыць, што чытачы «Полымя» з прыемнасцю адкрыюць для сябе літоўскага аўтара, нястомнага лірыка-філасофскага птаха паэзіі, чалавека-аптыміста, бязмежна ўлюбёнага ў жыццё.*

***Уладзімір ЛІПСКІ***

# ПАД СТРУНАМІ ДАЖДЖУ

## ЯБЛЫК

Думкі
выскачылі
з утульнага гнязда
і пабеглі, пабеглі
ў сад.

Раптам спыніліся…
Паднялі яблык і —
у Рай.

## ПАДАБЕНСТВА

Празрыстае люстра
возера.
А ў ім —
сонца
і ты.

Якія вы
падобныя.

## СВЕЧКІ

Вочы твае —
быццам полымя
дзвюх свечак.
Ад іх —
светла, светла.

І цёпла.

## ДУМКІ

Кожны дзень
спялю свае думкі,
а самыя запаветныя
кладу
на твае вусны.

Як прыемна
слухаць іх —
тваім голасам.

## СОНЦА

Адламаў акрайчык ночы.
Накарміў ім
трывожныя думкі,
і ў грудзях
пасвятлела.

Не трэба мне сонца —
дастаткова цябе.

## КЛЮЧ

Ты — не кветка,
не ручаёк,
не спеў салаўя.
Ты — ключ,
якім адмыкаю
самы прыгожы свет,
калі сабачым клыком
пачынае грызці мяне
адзінота.

## НЕ БУДЗЬ

Можаш быць кім хочаш:
ластаўкай — даганю,
ветрам — злаўлю,
слязой — праглыну,
воблакам — накрыюся…

Не будзь,
не будзь толькі
ценем маім —
я тады не змагу
цябе пацалаваць.

## АДЧУВАЮ Ў ТАБЕ

Калі трымаеш
маю руку,
я заплюшчваю вочы
і, невідушчы,
усё, што свет аздабляе,
адчуваю
ў табе.

## КВЕТКІ

Затаіўшы дыханне,
слухаю цябе.
Кожнае слова,
быццам гэта
росныя кветкі,
збіраю
і нясу —
як падарунак
свайму лёсу.

## ДАР

Макаўкі дрэў
купаюцца
ў сіняве неба.
Зялёны іх колер
падмятае
лятучыя воблакі.

Якое шчасце
глядзець
на нябесную казку —
і слухаць,
як б’ецца
тваё сэрца
ў мае
пасівелыя
скроні.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Неба,
ухутанае
празрыстымі хусткамі
воблакаў,
тоне
ў тваіх вачах.

Прымруж іх,
каб я
неасцярожна
сваімі вейкамі
не пакалечыў
неба.

## СВЯТЛО

Каб мог,
выпіў бы
ўсё месячнае малако,
і яшчэ ярчэй
заззялі б ноччу
твае вочы, —

зямлі вельмі патрэбна
святло
чалавечай душы.

## ПАД СТРУНАМІ ДАЖДЖУ

Нябесны купал
накінуў на свае плечы
вясёлкавы шалік.

Крапілам воблакаў
срэбныя струны
дажджу
ажыўляюць
зялёнае пакрывала зямлі.

Сонейка
ўпотай паглядвае
на нас
і слухае,
як незгасальна
спяваюць
нашы
сэрцы.

## ІНТЫМНАЕ ПРЫЗНАННЕ

Пазбягаю жанчын
з нафарбаванымі вуснамі —
яны
вельмі часта
выклікаюць слёзы
у жонак,
якія мыюць
мужчынскую бялізну.

## ГРУЗ

Дзесяць дзён,
адзінаццаць начэй
і яшчэ пяць гадзін
адштурхоўваю
з грудзей сваіх
глыбу лёду.

І хто мог бы падумаць,
што такім цяжкім
іншы раз
бывае
слова
дарагога чалавека.

## КАЛІ

Калі сыдзеш,
калі болей
не ўбачу
твае сляды —
увекавечу іх
у раме,
пазалочанай сэрцам, —
каб яны
асвячалі
мае сны.

## ПЕВЕНЬ

На двары
цёмна-сіняга неба
белы певень
здзяўбаў
залатыя зярняткі
і,
узмахнуўшы
крыламі раніцы,
схаваўся
за грэбень
лесу.

Як і тады,
у нашу ноч.
Помніш?..

***Пераклад з літоўскай***
***Міколы МАЛЯЎКІ.***



Фетхулах ГЮЛЕН

# ФІЛАСОФСКІЯ ЗАПІСЫ

Мініяцюры

*Выдатны інтэлектуал, вядомы пісьменнік і паэт Фетхулах Гюлен цягам апошніх чатырох дзесяцігоддзяў з'яўляецца таксама вельмі ўплывовым і аўтарытэтным ісламскім навукоўцам і асветнікам, аўтарам шматлікіх канструктыўных ідэй. Яго заклік да цярпімасці і міласэрнасці, карэннага паляпшэння адукацыі, паслядоўнага самаўдасканальвання набыў падтрымку сярод шырокіх колаў турэцкай грамадскасці. Яго дзейнасць, накіраваная на дасягненне гэтай пачэснай і высакароднай мэты, выйшла за межы адной краіны і зараз ахоплівае розныя рэгіёны свету.*

*Асновай яго светапогляду з'яўляецца думка пра аб'яднанне адвечных каштоўнасцей веры і сучаснай навуковай адукацыі з мэтай стварэння лепшага свету, які будзе абапірацца на пазітыўную дзейнасць, альтруізм, міжрэлігійны і міжкультурны дыялог, а таксама жаданне бескарысліва служыць людзям і праз гэта служэнне здабыць прыхільнасць Усявышняга. Фетхулах Гюлен усё сваё жыццё прысвяціў справе тлумачэння людзям таго, што сапраўдная рэлігія вучыць нас любові, цярпенню, шчырасці, спачуванню, працавітасці, згодзе, спрыяе набыццю шмат якіх іншых каштоўнасцей, праз якія дасягае чалавек дабрадзейнасці і дасканаласці. Фетхулах Гюлен — аўтар больш як шасцідзесяці кніг, выдадзеных на 23-х мовах, якія заклікаюць да дыялогу і засваення ўсёй разнастайнасці культур і дасягненняў розных цывілізацый.*

**Надзея**

Надзея — гэта пачуццё, найперш злучанае з верай. Вернік ахоплены надзеяй, і надзея яго прапарцыянальная веры. Таму шмат якія з'явы, што адбываюцца з чалавекам праз яго шчырую веру, успрымаюцца часткай людзей як нейкі цуд. На самай справе, калі надзея, упартасць і рашучасць апануюць сэрца, поўнае веры, дык будзе пераадолена ўсялякая абыдзёншчына і руціннасць. А тыя, хто не ведае духоўнага жыцця на гэтым узроўні, будуць меціь гэта за штосьці звышнатуральнае.

Да таго ж, калі чалавек правільна абраў аб'ект веры і аддачы яму ўсёй душой, тады — з гэткім унутраным настроем — ні пра які адчай ці песімізм не можа быць і гаворкі.

Праз надзею асоба набывае жыццё; дзякуючы гэтаму пачуццю грамадства абнаўляецца і ўваходзіць у фазу развіцця. Такім чынам, асоба, што

страціла надзею, нібыта перастае існаваць, а грамадства, пазбаўленае надзеі, літаральна паралізуецца.

Надзея — гэта калі чалавек можа ўведаць сваю душу і адчуць уласную сілу. Праз гэта адчуванне чалавек выходзіць за межы сусвету, атрымліваючы сувязь з Усёмагутным і такім шляхам набывае моц, якой стае на ўсё. Дзякуючы гэтаму атам робіцца сонцам, кропля — морам, а душа — подыхам сусвету.

Прарок Адам, хай будзе Боская ласка з ім, у той момант, калі навіслі над ім хмары, і рашучасць завагалася, а душа клубком падкацілася да горла, паўстаў з надзеяй, сказаў: «Вінаваты я сам». Сказаў і ажыў. Тым часам д'ябал задыхаўся, апанаваны роспаччу…

Кожны энтузіяст, які вырушыць у дарогу з паходняй надзеі, сутыкаецца з патопамі, супрацьстаіць штормам, змагаецца з хвалямі. У некаторых людзей надзея набывае вобраз горнай грады, у некаторых — саду Семіраміды, а ў некаторых — Ясрыбу, які зрабіўся Медынай, горадам Прарока. У гэтай даліне кожны, хто па-геройску захоўвае надзею, вельмі дарагі для Бога і з'яўляецца сцягам народа.

У тыя ж часы, калі ўсё завяршаецца, народ прыгнечаны, гонар знішчаны, вера і надзея набываюць легендарную ролю; адпаведна ўзроўню сваёй веры той, хто знойдзе надзею, можа кіраваць усім светам; хай пяцьдзясят тысяч разоў парушаецца і нішчыцца парадак, ён упарта будзе ісці наперад; ён з'явіцца быццём як такім і зробіцца жыццём для мёртвых душ.

З надзеяй можна пераадолець доўгія шляхі; з надзеяй можна скарыць горы і моры і толькі з надзеяй можна здабыць жыццё і парадак. Хто страціў надзею, той пацярпеў паразу. Ёсць багата людзей, якія смела і пыхліва выправіліся ў шлях, але страцілі надзею і спыніліся на палавіне дарогі. Слабы землятрус, выпадковы павеў ветру, паток, што імчыцца міма, забралі з сабою іх рашучасць і волю. А тых, хто з надзеяй пайшлі за імі, а пасля ўсе разам трапілі ў багну роспачы і захлынуліся, — тых напаткалі нечувана жахлівыя наступствы.

Па сутнасці, нельга ўявіць іншага канца для тых, хто не здолеў адшукаць ісціну, уведаць яе і звязаць з ёю сваё жыццё. Праўда такая, што тых, хто спадзяваліся мець пасаду і пост, прысвяцілі сябе багаццю і грашам, захапіліся ўяўнымі і часовымі рэчамі, раней ці пазней чакае расчараванне.

Што ж тычыцца душы, злучанай з красой, што не цямнее, са святлом, што не згасае, з сонцам, што ніколі не хаваецца за даляглядам, дык для яе ноч нібы ружовае світанне, а дзень падобны да featзнакаляровых райскіх садоў. Далягляды гэтых людзей ніколі не ведаюць цемры, там заўсёдны світанак і поры года, змяняючы адна адну, ствараюць чароўнае палатно ўсяго таго, што сузіраецца. Ці нібыта гіганцкае дрэва, што распасцерла свае шаты ўгары, а каранямі сягае глыбіняў зямлі — ні снег, ні град, ні злосная віхура не ў стане паўздзейнічаць на іх.

Адданыя вечнасці і поўныя надзеі, гэтыя сэрцы незалежна ад сезона — узімку і ўлетку, увосень і ўвесну — даюць плады і спраўджваюць надзеі, ускладзеныя на вялікіх герояў нашага дня.

Нам усім — як народу і як грамадству — нібыта вада і хлеб надзённы, нібыта паветра патрэбны цярплівыя і разважлівыя, шчырыя і смелыя, настаў-

нікі і правадыры, якія, што асабліва важна, не страчваюць надзею. А што тычыцца тых, хто рызыкоўна вырушылі ў дарогу і не дасягнулі жаданага, а пасля, ахопленыя адчаем, пачалі спрачацца з Творцам, дык яны далёкія ад нас, і мы далёкія ад іх. Разам з тым варта адзначыць, што арбіта, па якой рухаецца планета, ніколі не будзе стварацца згодна з затхлай філасофіяй і нікчэмнай арыфметыкай гэтых няшчасных!..

У час, калі тысячы бутонаў надзеі пасміхаюцца нам, гатовыя параспускацца, і шматлікае насенне пад зямлёй чакае, калі цёплы праменьчык лютаўскага сонца кране снег, я развітваюся з пажаданнямі знайсці надзею тым сэрцам, што пазбаўленыя гэтага вялікага пачуцця…

## Партрэты людзей сэрца

Людзі сэрца — волаты духу і ў той жа час сапраўдныя героі духоўнасці дзякуючы сваёй праніклівасці, а таксама веры і ўчынкам. Глыбіня іх успрымання грунтуецца не на іх ведах ці назапашаным вопыце, але на багацці іх сэрцаў, чысціні іх душ і блізкасці іх да Бога. Яны вераць, што каштоўнасць навукі, якая паўстае перад чалавецтвам у якасці скарбніцы ведаў, абумоўлена сваёй скіраванасцю да ісціны. Таксама яны не бяруць пад увагу інфармацыю, і асабліва абстрактныя веды, якія не маюць практычнага значэння, бо яны не дапамагаюць людзям зразумець рэальнасць тварэння, рэчаў і сутнасці саміх чалавечых істот.

Людзі сэрца — увасабленне сціпласці і ціхмянасці; яны маюць на мэце духоўнае жыццё, скіраванае на аддаленне ад усялякай духоўнай і матэрыяльнай брыдоты, яны заўсёды гатовыя адмовіцца ад цялесных жаданняў і распачаць барацьбу з такімі заганамі і жарсцямі, як нянавісць, варажнеча, хцівасць, зайздрасць, эгаізм, прага матэрыяльных дабротаў, сладастраснасць і юр. Яны заўсёды на варце права і праўды, яны заўсёды маюць палкае жаданне давесці блізкім, што яны адчуваюць у дачыненні да навакольнага матэрыяльнага свету і свету духоўнага, метафізічнага. Яны заўсёды цярплівыя і ўважлівыя. Людзі глыбокай веры і дзеяння, якія жывуць у адпаведнасці са сваёй вераю, а не займаюцца пустымі размовамі, яны з'яўляюцца выключным прыкладам для іншых. Такія людзі ідуць наперад, ніколі не спыняючыся, вучаць тых, хто імкнецца да Бога, як рухацца па гэтым шляху. У іх сэрцах, нібыта ў вялізных пячах, гарыць полымя любові да Бога, да Творцы, але яны, палаючы полымем любові, ні ў якім разе не скардзяцца іншым, не перадаюць свае пакуты людзям. Яны, такім чынам, знутры палаюць полымем любові да Бога і саграваюць, сілкуюць энергіяй усіх тых, хто імкнецца да іх, хто хоча знайсці прытулак у іх атмасферы.

Людзі сэрца звернутыя да свету духоўнага, трансцэндэнтнага. Яны прысвяцілі сябе служэнню Богу і з'яўляюцца людзьмі прагрэсу і барацьбы з нематэрыяльнымі адлегласцямі, якія ім даводзіцца пераадольваць, нібыта чыстакроўным арабскім скакунам, пакуль яны не дасягнуць Любага, не патрабуючы нічога ўзамен.

Людзі сэрца — у такой ступені адданыя паслядоўнікі ісціны, што ўсё, пра што яны мараць — трыумф праўды і справядлівасці на Зямлі, і дзеля гэтага

яны гатовы лёгка адмовіцца ад сваіх жаданняў. Яны адкрываюць свае сэрцы ўсім і кожнаму, адорваюць кожнага ласкаю і з'яўляюцца ў пэўным сэнсе анёламі-ахоўнікамі грамадства. Акрамя Алаха, яны ні ад каго нічога не чакаюць. Ім хочацца быць у згодзе і ў міры з кожным, яны не распачынаюць ні з кім канфліктаў і ні да каго не маюць варожых пачуццяў. Нават калі гэтым людзям час ад часу даводзіцца рабіць выбар на карысць сваіх перакананняў і метадаў, гэта ні ў якім разе не вядзе іх да канкурэнцыі і, яшчэ больш, да канфрантацыі з іншымі людзьмі. Наадварот, яны любяць усіх, хто служыць у імя веры, айчыны і высокіх ідэалаў. Яшчэ больш, яны захапляюцца стваральнай дзейнасцю іншых людзей ды імкнуцца быць гранічна ўважлівымі і тактоўнымі ў дачыненні да іх поглядаў і падыходаў.

Людзі сэрца надаюць надзвычай вялікае значэнне Божай ласцы і дапамозе, а таксама выкананню сваіх абавязкаў. Яны шукаюць шляхоў, каб здабыць Боскую дапамогу ў кожным сваім дзеянні. Яны надаюць першаступеннае значэнне адзінству і салідарнасці, якія называюцца ў Боскім Адкрыцці — Святым Каране — у якасці прычын даравання Боскай дапамогі. Яны гатовыя, бескарысліва выяўляючы шчырую прыязнасць, супрацоўнічаць з усімі, хто ідзе добрым шляхам. Больш за тое, дзеля ўсталявання гэтай еднасці ім, каб застацца на абраным шляху, даводзіцца пераадольваць вялікія цяжкасці. Вера ў тое, што адзінства вядзе да атрымання Боскай дапамогі і літасці, а звады і адасобленасць — да нікчэмнасці, гэтыя людзі прыкладаюць шмат намаганняў для атрымання дапамогі і добрай волі ўсіх і кожнага і робяць усё, каб Зямлю ахінула Боская дапамога.

Людзі сэрца любяць Творцу і паўсюдна, дзе б ні было, шукаюць Яго ласкі. Яны падпарадкоўваюць свае ўчынкі Яго прыхільнасці, нягледзячы на ўмовы. Яны выяўляюць вялізнае жаданне дамагчыся Яго ласкі і з гэтай мэтай могуць выкарыстаць ці аддаць усё, што маюць — як матэрыяльнае, так і нематэрыяльнае. У царстве іх думак ніколі не знойдзецца месца для непрыемных разважанняў кшталту «гэта зрабіў я», «гэта здолеў зрабіць я», «я змог зрабіць гэта», ад якіх патыхае эгаізмам. Гэтыя людзі перажываюць шчасце тады, калі іншыя людзі робяць штосьці пазітыўнае, яны радуюцца, быццам бы зрабілі гэта самі. Яны ўспрымаюць поспехі і дасягненні іншых людзей як уласныя і могуць сціпла ісці за іншымі людзьмі, аддаючы ім лаўры славы і павагі. Больш за тое, яны лічаць іншых больш вартымі і адданымі справе служэння веры і чалавецтву, падрыхтуюць для іх грунт, а самі могуць адысціся ўбок і працягваць свой жыццёвы шлях у якасці «аднаго з усіх». Такім чынам, людзі сэрца цалкам адхіляюцца ад пачуцця зайздрасці і рэўнасці, нават у добрых справах і мэтах.

Людзі сэрца занадта занятыя барацьбой са сваім эга і ўласнымі заганамі, каб цікавіцца памылкамі іншых. Наадварот, яны, скіроўваючы іншых людзей да ўзнёслых мэт, з'яўляюцца прыкладам таго, якой павінна быць узорная асоба. Яны не зважаюць на заганы і памылкі іншых людзей. Людзі сэрца адказваюць усмешкай і спагадлівасцю тым, хто дэманструе кепскае да іх стаўленне, яны адказваюць дабром на злое і не маюць намераў пакрыўдзіць кагосьці, зрабіць балюча каму-небудзь, нягледзячы на тое, што ім робяць балюча шмат разоў.

Для чалавека сэрца, барацьбіта за ісціну, які прысвяціў сябе таму, каб уласнымі пачуццямі, думкамі і ўчынкамі заслужыць ласку Бога, галоўны прыяры-

тэт — пражыць жыццё, напоўненае шчырай верай і заснаванае на сапраўднай чыстасардэчнасці. Таму практычна немагчыма, каб такі чалавек адхіліўся ад сваёй мэты, нават калі б яму прапанавалі рай і ўвесь свет у дадатак.

Людзі сэрца ніколі не спаборнічаюць з тымі, хто падзяляе іх ідэалы, хто ідзе з імі адным шляхам, і не зайздросцяць ім. Зусім наадварот, яны завяршаюць тое, што не было завершана іншымі людзьмі і, супрацоўнічаючы з апошнімі, ставяцца да іх так, нібыта ўсе яны з'яўляюцца часткамі аднаго цэлага ці рознымі органамі адзінага арганізма.

Яны, дзейнічаючы ў строгай адпаведнасці з духам братэрства і самаахвярнасці, вылучаюць сваіх аднадумцаў на першы план ва ўсіх сэнсах — няхай гэта будуць матэрыяльныя ці нематэрыяльныя даброты, уцехі і ўзнагароды. А самі, адасабляючыся на другім плане, з радасцю глядзяць на дасягненні іншых людзей, ад шчырага сэрца захапляюцца імі. Застаючыся ў большасці сваёй вернымі ўласным спосабам і методыкам, і здзяйсняючы ўсе свае ўчынкі ў адпаведнасці са сваёй натурай, схільнасцямі, людзі сэрца, тым не менш, намагаюцца заўсёды выказаць павагу да думак, поглядаў і дзеянняў іншых людзей. Плённа супрацоўнічаючы з людзьмі, якія таксама падзяляюць высокія ідэалы, яны стараюцца ажыццявіць сумесныя праекты. Яны змагаюцца за тое, каб замяніць слова «я», з якога выдзяляецца эгаізм, на слова «мы». Больш за тое, яны гатовыя ахвяраваць сваім шчасцем дзеля шчасця іншых, не чакаючы ў адказ нічога — ні падзякі, ні павагі. Яны нават лічаць, што чаканне гэткага кшталту ёсць форма маральнай сапсаванасці, і таму пазбягаюць з'яўлення ў цэнтры ўвагі, славы і багацця як пазбягаюць ядавітых змей ці скарпіёнаў. Людзі сэрца не толькі не ганарыстыя і не толькі жадаюць, каб іх не расхвальвалі — яны жадаюць, каб пра іх нават забыліся.

Людзі сэрца не парушаюць нічыіх правоў і ніколі не прагнуць помсты. Яны імкнуцца захаваць спакой і разважлівасць нават у самых крытычных сітуацыях, імкнуцца зрабіць тое, чаго самі чакаюць ад дасканалай асобы. Яны заўсёды адказваюць дабром на зло і дрэнныя ўчынкі і, лічачы здзяйсненне зла характэрнай рысай негатыўнай асобы, абыходзяцца з усімі, дзейнічаюць ва ўсіх сітуацыях як узор дабрадзейнасці.

Людзі сэрца жывуць жыццём, азораным святлом Карана і суны, а таксама поўным міласэрнасці, богабаязнасці і праведнасці. Яны заўсёды напагатове ў барацьбе супраць уласнага эгацэнтрызму, ганарлівасці, славалюбства і іншых пачуццяў, якія забіваюць сэрца і душу. Усё тое станоўчае, што прыпісваюць ім і лічаць, што яно ідзе ад іх, людзі сэрца без усялякіх агаворак «аддаюць» Сапраўднаму Валадару — Усявышняму, бо ўсё добрае — толькі ад Яго, толькі з Яго ласкі. Нават калі гаворка ідзе пра катэгорыі і з'явы, якія патрабуюць выкарыстання чалавечай волі, яны не прамаўляюць слова «я», якое выдзяляе эгацэнтрызм, а звяртаюць увагу на грамадства і абшчыну, вымаўляючы «мы».

Людзі сэрца нікога не баяцца. Нішто не прывядзе іх у паніку. «Спадзеючыся на Бога, прыкласці ўсе намаганні для дасягнення мэты, чакаючы рэшту ад Яго дапамогі» — гэты прынцып з'яўляецца трывалым складнікам іх характару, і яны ніколі не адступаюцца, не парушаюць сваіх прынцыпаў.

Людзі сэрца не крыўдзяцца ні на каго, тым больш на тых, чыё сэрца звернута да Усявышняга. Калі яны бачаць, што людзі, якія падзяляюць іх ідэалы, робяць непрыстойныя ўчынкі, яны не пакідаюць іх, яны не ставяць іх у няёмкае становішча, не парушаюць пачцівасці, не раскрываюць зробленых памылак. Наадварот, яны, у выніку таго, што зрабіліся сведкамі гэтых непрыемных рэчаў, пачуваюцца няёмка, нібы самі зрабілі памылку.

Людзі сэрца ўсяляк пазбягаюць негатыўных меркаванняў і тлумачэнняў тых дзеянняў вернікаў, якія могуць быць па-рознаму растлумачаны. Яны пазітыўным чынам тлумачаць тое, што чуюць і бачаць, і ні ў якім разе не заглыбляюцца ў негатыўныя разважанні.

Людзі сэрца здзяйсняюць усе свае ўчынкі, грунтуючыся на ісціне, якая абвяшчае, што гэты свет не месца для ўзнагароджвання, гэта — свет служэння. Такім чынам, яны выконваюць свае абавязкі, захоўваючы найстражэйшую дысцыпліну, лічачы, што клопат пра тое, дасць Усявышні вынік ці не, быў бы непавагай да Бога. Яны лічаць дзеянні, якія робяць у імя Бога і па Яго волі, нармальным праяўленнем веры і натуральным абавязкам на шляху служэння рэлігіі, веры і чалавецтву; незалежна ад таго, наколькі вялікія іх чаканні поспеху ў выніку гэтых дзеянняў, яны прысвячаюць іх Богу, не разважаючы пра сваю долю.

## Талерантнасць

Сёння мы ўсе разам натхняемся працэсам упарадкавання нашага культурнага «Я», перажываем радасць ад таго, што новае нацыянальнае адраджэнне неўзабаве зробіцца наяўным фактам. Калі не будзе нейкага сур’ёзнага супрацьдзеяння, дык, магчыма, ужо найбліжэйшыя гады будуць тым, што пазней назавуць нашым «рэнесансам». І хоць мы маем надзею, наяўнасць такіх фактараў, як адсутнасць кансэнсусу ў пытаннях адраджэння; адсутнасць еднасці ў пошуках адказу на пытанне, што з захаванага ў культуры і светапоглядзе нашага народа за апошнія два стагоддзі трэба адкінуць, а што пакінуць; розніца ў методыках выхавання новага грамадства, нюансы, якія тычацца пераносу нашай спадчыны з усімі жыццёва важнымі складнікамі ў будучыню — усё гэта дае магчымасць дапускаць, што наперадзе апроч цудоўных, напоўненых надзеяй дзён, нас чакаюць яшчэ і цяжкія часы.

У той час, калі мы ўсе разам рухаемся ў будучае, найлепшым сродкам, найлепшай абаронай і самым моцным бастыёнам ад рознага кшталту складаных сітуацый, з якімі мы, магчыма, сутыкнёмся праз размежаванне, адрозненні і нязгоду, будзе талерантнасць.

Талерантнасць дапускае наступнае: не звяртаць увагі на заганы, паважаць чужую думку, дараваць усё, што толькі можна дараваць; нават калі парушаюцца вашы неад’емныя правы, мы павінны прытрымлівацца найвышэйшых чалавечых каштоўнасцей і ўстрымлівацца ад усялякага самасуду ці спроб адпомсціць; не траціць самавалодання нават у тых выпадках, калі супрацьлеглая думка ў такой ступені грубая і вульгарная, што мы ніяк не можам з ёю пагадзіцца (у такіх сітуацыях мы павінны пераймаць прыклад прарокаў, дзеянні якіх у Святым Каране вызначаны як «кауль лаййін» — «мяккае абыходжанне» — і якія з’яўляюцца сродкам заваёвы сэрцаў). Талерантнасць павінна

быць такой, каб мы маглі прымаць у якасці карысных нават супрацьлеглыя погляды, улічваючы, што дзякуючы ім мы ўсведамляем, наноў ацэньваем нашы погляды і наша светаўспрыманне.

Паняцце «талерантнасць», сэнс якога мы разумеем як павагу, літасць, велікадушнасць, памяркоўнасць, у сістэме маральных каштоўнасцей займае галоўную пазіцыю, з'яўляючыся такім чынам якасцю дасканалага чалавека, які прытрымліваецца боскага адкрыцця, і ўнутраны важны фактар духоўнага самакантролю, здатны зрабіцца крыніцай для іншых этычных норм.

Добрыя ўчынкі мусульман пад абаронай спагадлівай ласкі і даравання дасягаюць зусім іншых глыбінь і робяцца амаль бязмежнымі, а заганы і памылкі, сціскаючыся і памяншаючыся, робяца гэткімі маленькімі і нязначнымі, што горы іх ужо не змяшчаюцца ў напарстку. Па сутнасці, сам Усявышні паказвае нам і ўсяму свету бязмежную літасць, дараванне. Праз гэту літасць распусніца, якая напаіла сасмяглага сабаку, нібыта пастукала ў «вароты» «Даравання Боскага», і Усявышні, адказваючы ёй бязмежнай літасцю, накіраваў яе на правільны шлях, на шлях праведнасці, які вядзе ў рай. Дзякуючы бязмежнай літасці Усявышняга п'яніца, з прычыны сваёй вялікай любові да Алаха і Яго прарока, удастоіўся ласкі быць блізка да Прарока ў раю, а крывавы забойца з прычыны свайго нават нязначнага звароту да Усявышняга кінуў быць драпежным зверам і дасягнуў вышынь, якія шматкроць перавышаюць яго патэнцыял.

Усім нам, у выніку, хацелася б талерантнага да сябе стаўлення. Мы чакаем, каб вакол нас была атмасфера літасці і даравання. Мы ад усяго сэрца жадаем, каб наша мінулае і дзень сённяшні ачысціліся ў атмасферы талерантнасці і даравання так, каб мы маглі спакойна і ўпэўнена крочыць у будучыню. Мы не жадаем, каб хтосьці корпаўся ў нашым мінулым, і мы таксама не жадаем, каб наш сённяшні дзень кідаў цень на нашу будучыню. Кожны з нас цягам усяго жыцця чакае ў дачыненні да сябе любові і павагі, марыць пра талерантнасць і спагаду, хоча, каб яго ахіналі літасць і высакароднасць. Такім чынам, мы спадзяёмся на добразычлівасць і жадаем атрымаць дараванне ад сваіх бацькоў у маленстве, у школе — ад настаўнікаў, а таксама ад тых, каго мы незаслужана пакрыўдзілі; у судзе з боку суддзяў і пракурораў, у арміі — з боку камандзіраў, у паліцэйскім пастарунку — з боку паліцэйскіх і, нарэшце, у Дзень Суда — ад «Ахкам аль-хакімін» — «Наймудрэйшага з суддзяў». Разам з усімі гэтымі чаканнямі, справядлівасць таго, што мы чакаем, з'яўляецца вельмі важным фактарам. Хай не спадзяецца на дараванне той, хто сам не даруе… той, хто не паважае іншых, не будзе ведаць павагі да сябе… хто сам не любіць іншых, не заслугоўвае любові да сябе… той, хто не мае цярплівасці і спагады да іншых, не мае права на дараванне і спагаду ў дачыненні да сябе. Гора журналісту, які ў сваіх артыкулах л'е гразь на іншых, яму не варта чакаць увагі і павагі да сябе. Хоць сапраўдныя мусульмане, прытрымліваючыся Боскіх прынцыпаў «…а калі прамінаюць пустаслоўе, дык прамінаюць з годнасцю», «калі ж вы будзеце спагадлівымі і прадэманструеце велікадушнасць і даруеце ім, дык зробіце адзін з найлепшых учынкаў, бо Сам Алах — Міласцівы і Літасцівы», выяўляючы цярпенне і цярплівасць, пойдуць далей, абавязкова з'явяцца тыя, якія прынясуць прадвызначаную Усявышнім справядлівасць.

У некаторых краінах няма месца для талерантнасці і цярплівасці праз тое, што ў гэтых краінах існуе духоўны ды інтэлектуальны дыктат. У выніку мы не назіраем тут такіх з'яў, як свабода думкі, канструктыўная крытыка, абмен

думкамі і дыскусіі з мэтай выяўлення ісціны і, адпаведна, грамадства ў гэтых краінах пазбаўлена тых дабратворных пладоў, якія гэтыя з’явы маглі б даць.

Сапраўды, рознага кшталту амаральнасць і распуста (маё выхаванне не дазваляе мне выказвацца больш шчыра) напоўніцу атрымліваюць сваю частку цярплівасці і талерантнасці ўжо цягам шматлікіх гадоў, у той час як на мусульман усё яшчэ навешваюць незаслужана, з-за пэўных забабонаў, гэткія ярлыкі, як «цемрашал», «рэтраград», «прыхільнік тэакратычнага рэжыму», да якіх пачалі дадаваць новыя, такія, як «фундаменталіст»; а іслам абвешчаны перажыткам мінулага. На вялікі жаль, мы сёння назіраем, як тых, хто імкнецца выконваць рэлігійныя законы, называюць рэакцыянерамі, цемрашаламі і фундаменталістамі, а тых, хто спрабуе абудзіць нацыянальную самасвядомасць і ўспамінае мінулае — тураністамі і фантазёрамі.

## Жыццё і дух

Жыццё — гэта Боская таямніца. І вядома яна толькі тым, каму адкрыты таямніцы Бога.

* * *

У пэўным сэнсе жыццё — гэта фізічнае існаванне. Цяпло і дынаміка арганізма цалкам натуральныя, і ствараюцца яны ў выніку пераўтварэння ежы ў кроў і энергію.

* * *

Дух з’яўляецца ў целе разам з жыццём і пакідае цела пасля таго, як яно пакіне яго. Жыццё згасае і знікае, а дух, якога падтрымлівае Вялікі і Усёмагутны Алах, застаецца жыць вечна.

## Літаратура

Літаратура — гэта тая самая мова, якая найлепшым чынам адлюстроўвае ў сабе характар духоўнай асновы нацыі, яе мысленне і духоўныя веды. Калі індувідуумы не падзяляюць адзін і той жа дух, лад мыслення і духоўныя веды, дык нават калі яны належаць да адной нацыі, яны ўсё роўна не змогуць зразумець адно аднаго.

* * *

Слова з’яўляецца адным з найважнейшых сродкаў перадачы думкі ад аднаго розуму да другога і ад аднаго сэрца да другога сэрца. Мысляры, якія могуць з поспехам карыстацца гэтым сродкам, неўзабаве знаходзяць вакол сябе мноства прыхільнікаў, што прапануюць тую самую думку, на якую натхнілі іх настаўнікі — дзякуючы якім яны здабываюць несмяротнасць. А тыя, якія не ўмеюць карыстацца гэтым сродкам, сыходзяць з гэтага жыцця і не пакідаюць пасля сябе нават і следу, нягледзячы на тое, што ўсё іх жыццё поўнілася інтэлектуальнымі пакутамі і пошукамі.

* * *

З пункту гледжання выкарыстанага матэрыялу і формы дасягнення мэты, кожная разнавіднасць літаратурнага слова з’яўляецца самастойнай формай адлюстравання і самастойнай мовай. І хоць кожны чалавек сёе-тое разумее ў той ці іншай з гэтых формаў, па-сапраўднаму гэтай мовай могуць карыстацца толькі паэты і празаікі.

## Прырода

Прырода, у агульным сэнсе гэтага слова, азначае ўсё натуральна-матэрыяльнае, існае і яго натуральныя асаблівасці. Калі гаворка ідзе пра чалавека, дык прырода вызначае яго натуру і характар. Але які б сэнс мы ні ўкладалі ў гэта слова, прырода ёсць не што іншае, як карункі, звязаныя магутнай далонёй Усявышняга, Яго закон, якім Ён аперыруе як інструментам, і кніга, якая ўхваляе Яго мудрасць. Нібыта сама матэрыя, прырода абыякавая, несвядомая і неразумная. І ў гэтым сэнсе, вуснамі тысяч істот, якія штохвілінна з’яўляюцца з яе нетраў, і стварэнне якіх патрабуе наяўнай свядомасці, волі, розуму, ведаў і планавання, яна сведчыць пра ўласнае бяссілле і слабасць. Такім чынам, яна гучна сведчыць пра ўсёабдымныя веды, бязмежную магутнасць і незвычайную волю Таго, хто за ёю хаваецца.

* * *

Паколькі прырода ёсць не што іншае, як сукупнасць якасцей матэрыі і яе спрадвечных асаблівасцей, яна не можа быць папярэдніцай самой матэрыі, з якой яна паходзіць. І гэта значыць, што лічыць яе асновай усіх асноў і рабіць спробы тлумачыць ёю ўсё існае і наяўнае, ёсць не што іншае, як самападман.

* * *

Сёння нават тыя, хто хоць трохі ведаюць прыродазнаўчыя навукі, вельмі добра разумеюць, што прырода — гэта ўсяго толькі глухая і сляпая сіла, няздольная стварыць штосьці самастойна. А гэта значыць, што пры наяўнасці такіх ведаў, якія спрабуюць паставіць прыроду на месца Валадара стваральнай сілы, яна з’яўляюцца толькі праявай фанатычнага бязвер’я. І хай нават людзі ведаюць пра сапраўдную сутнасць прыроды — яны ўяўляюць яе зусім у іншым святле і пераконваюць моладзь, што менавіта яна — творца ўсяго існага, але гэта ёсць не што іншае, як супярэчнасць навуцы і абраза ўсяго таго невымоўнага хараства, якое існуе і ўпрыгожвае наш свет.

## Прагрэс

Развіццё і прагрэс нацыі залежаць ад таго, наколькі добра развітыя і выхаваныя яе розумы і сэрцы. Не мае сэнсу чакаць развіцця той нацыі, прадстаўнікі якой далёкія ад інтэлектуальных асноў і не набылі святло ў сваёй душы.

* * *

Прагрэс і веліч нацыі ў значнай ступені залежаць ад адзінства мэты яе прадстаўнікоў. У грамадстве, дзе адно і тое ж некаторыя называюць белым, а некаторыя — чорным, заўсёды можна назіраць кіданне з адной крайнасці ў другую, і пакуль грамадства застаецца такім раз'яднаным, не можа быць і гаворкі пра пачатак нейкіх пазітыўных працэсаў.

* * *

Пакаленні, якія не атрымалі раўнацэннага выхавання і гадаваліся ў розных культурах, заўсёды падзяляліся на асобныя і варожыя адно аднаму лагеры. І верыць у магчымасць прагрэсу ў такім грамадстве, якое раздзіраюць супярэчнасці, практычна не мае сэнсу.

## Мастацтва

Мастацтва — гэта дух прагрэсу і адзін з найважнейшых шляхоў, якога павінен прытрымлівацца чалавек, каб развіваць свае пачуцці. Няшчасныя таленты, што прапусцілі магчымасць скарыстаць гэты шлях, нібыта людзі, разбітыя паралюшом, якія ўсё сваё жыццё змарнуюць ледзь не мёртвымі.

* * *

Мастацтва знаходзіцца на чале ўсіх тых фактараў, якія пры захаванні чалавечых пачуццяў паказваюць ім на ўсё новыя і новыя вышыні і перасоўваюць чуллівыя і далікатныя душы з адной глыбіні ў іншую. Калі б не мастацтва, мы не мелі б магчымасці ўбачыць у свеце чалавечых адкрыццяў і вынаходніцтваў тое хараство, якое існуе сёння. А тыя душы, ахопленыя полымем творчасці, так і пражылі б сваё жыццё дарэмна і, выпраўляючыся на могілкі, панеслі б разам з сабой у дол усе свае праекты, планы і меркаванні…

* * *

Ці ж не дзякуючы таму, што мастацтва зрабілася спадарожнікам веры, наш цудоўны свет ператварыўся ў найбагацейшую галерэю мастацтваў, упрыгожаную велічнымі храмамі, накіраванымі — нібыта ўказальныя пальцы — увышыню мінарэтамі, цудоўнымі матывамі і арнаментамі на мармуры, кожны з якіх — гэта яшчэ адна добрая вестка, выдатнымі шэдэўрамі каліграфіі і пазалочвання, інкрустацыямі, непадуладнымі часу, і ўзорамі, такімі ж прыгожымі, вытанчанымі і далікатнымі, як крылы матылька.

## Любоў

Любоў — гэта адзін з самых таемных дарункаў Бясконца Літасцівага Творцы нашага чалавеку. Зерне любові можна адшукаць практычна ў душы кожнага чалавека. У залежнасці ад умоў, гэта зярнятка можа зрабіцца прыгожым разгалістым дрэвам, расквітнець на ягоных галінах і, злучаючы, нібы плады, пачатак з канчаткам, завяршыць кола эвалюцыі.

* * *

Сэрца — гэта найвялікшая вяршыня, адкрытая праявам і водбліскам Боскага Быцця. Самай відавочнай прыкметай адкрытасці сэрцаў гэтым водбліскам — а значыць і іх далучанасці да любові да Усявышняга — з’яўляецца тая любоў і туга па Творцы, якія адчувае ў сваіх грудзях чалавек.

* * *

Найкарацейшым, зразумелым і бяспечным шляхам да даляглядаў чалавечай дасканаласці (Інсан-каміль) з’яўляецца любоў да Творцы. А дасягнуць тых далягладаў іншымі шляхамі, якія не ведаюць ні пра любоў, ні пра тугу па Творцы, незвычайна цяжка. І можна сказаць, што няма другога гэткага шляху, які па сваёй каштоўнасці і эфектыўнасці мог бы параўнацца са шляхам, асновамі якога з’яўляюцца спасціжэнне ўласнай недасканаласці («аджз»), здольнасць задавальняцца мінімумам («факр»), натхненне («шавк») і здольнасць быць удзячным Усявышняму («шукр»).

## Сапраўдная мэта навукі

Паколькі паўнавартасна чалавек можа існаваць толькі пры наяўнасці ў яго як пазітыўных, так і духоўных ведаў, тыя, хто пагарджае іх атрыманнем і распаўсюджваннем, існуюць толькі фармальна. Бо найважнейшай мэтай стварэння чалавека з’яўляецца набыццё ведаў і іх перадача іншым людзям.

* * *

Высокае становішча і імя, набытыя дзякуючы духоўным і навуковым ведам, значна больш важкія і даўгавечныя за тыя, якія былі набыты іншымі шляхамі. Бо ў зямным жыцці веды могуць дапамагчы чалавеку захаваць годнасць і маральнасць, а ў жыцці вечным могуць даць яму гэткае шчасце, з якім не могуць параўнацца ўсе яго ўяўленні пра вечнае, што ён стварыў дзякуючы сваёй веры і духоўным ведам.

* * *

Для чалавека, які мае дакладнае ўяўленне пра тое, навошта яму трэба веды, самі гэтыя веды могуць зрабіцца невычэрпнай скарбніцай і гарантам адвечнага шчасця. І тыя, хто знайшоў гэту скарбніцу, не толькі цягам усяго свайго зямнога жыцця, але і пасля смерці, будуць заставацца блаславёнай і багатай крыніцай, прыпасці да якой будзе найвялікшым шчасцем. Дробныя і бязмэтныя тэорыі, здатныя адно сеяць у людскіх сэрцах зерне сумненняў — гэта толькі груд смецця ці пастка для лоўлі мутных і безнадзейных душ, што круцяцца вакол іх.

***Пераклад з турэцкай***
***Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***



Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ

# ПАРАСКЕВА: КРЫЖ У ПУСТЫНІ*

Раман

## Гаротная хрысціянка з Бялграда

Чорным днём стала для нас дзясятае верасня тысяча пяцьсот дваццаць першага года. Замест песень толькі галашэнні, кожнае слова сербскае гучала наўзрыд, і ўсе нашы жанчыны сталі плакальшчыцамі. Мы заставаліся без мужоў і дзяцей, якіх на чужыну адводзілі. Нашы котлішчы разбуралі. І святыні ў нас адбіралі, каб вывезці ў Турцыю, у Стамбул, які раней называўся Царградам.

І яе, такую дарагую для нас, Пятніцу — нашу маці Параскеву, забралі.

А яе ж яшчэ княгіня Міліца прынесла да нас, у Сербію, каб яна пакуты нашы аблягчала, каб ахоўвала нас. І каб мы ахоўвалі яе.

Усё гэта пра святую і пра княгіню Міліцу я ад айца Макарыя чула. Я тады была дзяўчынкай малой, а ён ужо старэнькім. Расказвалі, што на працягу ўсяго жыцця ён і сярод сваіх братоў-манахаў вылучаўся многімі подзвігамі, духоўнай трываласцю. Таму, напэўна, быў такі прыемны абліччам і заўжды ласкавы ў размовах.

Ён часта склікаў нас, дзяцей з Ніжняга Горада, каб завесці ў царкву Успення Прасвятой Багародзіцы, да мошчаў святой Параскевы. А прыклаўшыся да святыні, мы рассаджваліся каля брамы, якая звязвала ніжнюю і верхнюю часткі Бялграда, і слухалі расказы айца Макарыя. Ведаў ён шмат чаго — нават пра тое, што адбылося да яго нараджэння, бо многа кніг чытаў.

Ведаў і расказваў пра тое, як наша княгіня пасля жахлівай бітвы на Косавым Полі дзеля ўратавання свайго сына Сцяфана аддала дачку Аліверу султану ў гарэм. А калі дачулася, што туркі занялі Відзін і зняважылі мошчы прападобнай Параскевы, то адправілася разам з паважанай Яўфіміяй да свайго зяця і ворага, Баязіта, прасіць міласці.

«Чаму вы заступаецеся не за многія забраныя каштоўнасці, не за іншую маёмасць вялікай цаны, а за гэтыя сухія і нерухомыя даўно косці?» — здзівіўся Баязіт.

Наша мудрая і дабраверная княгіня з высакароднай цярплівасцю ўспрыняла яго здзеклівае пытанне, а пры гэтым яшчэ і прапанавала ўсе свае зямныя багацці за святыя мошчы.

Айцец Макарый нам гэта расказваў, а мы, дзеці, спрабавалі ўявіць сабе, як паўз дарогу ад Відзіна да Крушаўца стаяў на каленях народ, сустракаючы нятленныя мошчы прападобнай: усе з запаленымі свечкамі ў руках, пры-

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 4, 5, 7, 8, 2011 г.

крываюць агеньчыкі і моляцца міласэрнай заступніцы з аднаўленай надзеяй. Радуюцца міласці Бога, Які даў гэтую надзею. Што значыла гэтая міласць, разумелі нават мы, дзеці.

А як жа, бадай, цешылася княгіня! У яе тады з’явіліся спадзяванні, што прападобная Параскева дапаможа ёй захаваць дзяцей і краіну. І народ, гэтак спакутаваны, бо яго абіралі і трушчылі, як вінаграднік, прычым не адзін раз на год.

Я заўжды лічыла, што, напэўна ж, святая ў снах яўлялася княгіні, навучала мудрасці і сваімі парадамі падтрымлівала. Відаць, падтрымлівала не толькі княгіню, але і яе высакародную сяброўку Яўфімію. А чаму ж не? Калі яўляецца мне, простай жанчыне, якая на рынку прадае рыбу з Дуная і Савы, то ім пагатову. Вядома, яны — вялікія пані, але такія ж, як і я, пакутніцы. Яны, як і я, страцілі мужоў у барацьбе з туркамі. Да таго ж мне Бог пакінуў яшчэ больш, чым ім, бо ў майго сына ёсць сыны. А сын вяльможнай Яўфіміі памёр маладым. І княгінін сын нашчадкаў не пакінуў. Што я павінна гадаваць сына і яго сыноў, сказала мне святая Параскева. Але пра гэта потым. Спачатку дакончу пра тое, што ад айца Макарыя чула.

Калі спакутаваная княгіня адышла да Госпада на суд, святое цела прападобнай Параскевы было перанесена з Крушаўца ў новую сталіцу, Бялград. З дварцовай царквы ў Ніжні Горад, дзе заўсёды жыў просты люд. Я думаю, што гэтак святая хацела — быць сярод рыбакоў і ганчароў, краўцоў і шаўцоў, залатароў і гандляроў, сталяроў і лодачнікаў; знаходзіцца каля прыстані і Рыбнага рынку, побач з бальніцаю, прытулкам для падарожнікаў і беднякоў.

А неўзабаве пасля пераносу яе мошчаў, бліз царквы раптам пачала біць крынічка. Людзі зразумелі, што гэта ад Прападобнай, і крынічку прызналі за цудатворную яшчэ да таго, як усё пацвердзілася: вада яе сапраўды ацаляе хворых, сілкуе аслабелых, падмацоўвае гаротных.

Я сама піла гэтую святую вадзіцу ад Прападобнай. І хадзіла да яе ў царкву, каб яе мошчы пацалаваць і каб ёй пра свае бядоты расказаць. Ды і спадзяванні даверыць, радасцю падзяліцца таксама. І сынам і ўнукам сваім пераказвала тое, што засталося ў памяці з пачутага ад айца Макарыя.

А яна, Прападобная маці, прыходзіла да мяне ў снах, каб мяне падтрымаць, даць мне параду альбо выказаць дакор. Заўсёды сур’ёзная, але добрая і тады, калі гневаецца. Вось гэтага я не магла зразумець: гневацца і быць добрай! Ды так, пэўна, толькі святыя могуць. Яны дакараюць, але не кіпяць ад гневу.

Калі ажаніўся мой сын, я адразу ж паслала нявестку, каб піла святую вадзіцу і ачышчала сваё ўлонне, рыхтавала яго, як гняздзечка, для прыплоду. Але марна. Тры гады наша нявестка не магла зацяжарыць. Тры доўгія гады я прасіла ў Прападобнай міласці, клікала яе ў мае сны. Ды яна не яўлялася, быццам бы і не чула нічога. Гэтае маўчанне было для мяне як неспадзеўная рана.

«Чаму ж ты пакінула мяне? Можа, я цябе нечым пакрыўдзіла? А ці саграшыла?» — мучылася я, раздзіраючы душу сваю страхамі. Яна ж і на гэта не адзывалася.

Толькі праз тры гады змілавалася. А я нават цяпер не ведаю, што мяне тады больш узрадавала — ці тое, што зноў убачыла яе, а ці словы, якія ад яе пачула і ў якіх знайшла надзею.

«У нявесткі тваёй мілае аблічча, аднак сэрца было забруджана. Таму я дала ёй такое выпрабаванне: каб яна малілася і плакала, каб адмывалася малітвай і слязьмі. Вось цяпер няхай прыходзіць да крыніцы. Бо толькі для чыстых сэрцам вада мая можа быць лекавай», — сказала Прападобная.

Пасля гэтага нарадзіўся Сцяфан, мая надзея. А Параскева, міласэрная маці, была яго апякункай ва ўсім — у гульнях і ў безразважных дзіцячых свавольствах, у юначых спаборніцтвах і сутычках. А таксама пры нападзеннях туркаў, у тым ліку і падчас апошняга, якое ўсіх нас гэткай жалобаю накрыла.

Але я хачу вярнуцца яшчэ да аднаго аповеда айца Макарыя. Вось як ён запамятаўся.

Сын княгіні, Сцяфан, уладарыў чвэрць стагоддзя. А пасля яго смерці нашу сталіцу захапілі мадзьяры. З той пары нашы людзі, сербы, жылі толькі ў Ніжнім Горадзе, які размяшчаўся на нізінных берагах Савы і Дуная, а мадзьяры засялялі ўзвышша, Верхні Горад. І гэтак было цэлае стагоддзе. Прыязнасці між намі не было, і сумесныя справы мелі мы толькі тады, калі ўзнікала пільная патрэба.

Неаднаразова спрабавалі захапіць Бялград туркі. І тады, калі яшчэ я не вырасла, і калі мой сын быў ва ўзросце дзіцячым, а потым і юначым. Ёсць непамыслоты, з якімі народы, як і асобныя людзі, звыкаюцца. Якраз такая тупая цярпімасць да непазбежнага і мінучага аслабіла нашу перасцярожлівасць, калі аднойчы на досвітку выявілася, што абедзве ракі шчыльна заняты турэцкімі лодкамі, ды і нізкага хмызу на Ратным востраве не відаць з-за шатроў, якіх там наставілі ваяры-туркі.

І калі яны пачалі нас абстрэльваць з гармат, мы яшчэ спадзяваліся, што ўсё абыдзецца. Думалі: ну, пашкодзяць некаторыя ўмацаванні, будуць тут і смерці, і галашэнні, аднак у горад туркі не прарвуцца — не! Спыніць іх святая, наша маці і ахоўніца!

«Аднак жа яны захапілі Царград? І Тырнава таксама? — перажывала я. — Ды і ў Крушавац туркі ўвайшлі, і ў Відзін... Чаму ж не змогуць прарвацца ў Бялград?» — не давалі спакою сумненні, мозг мне выклёўваючы, як назойлівая курыца.

«А дзе ж твая вера? Такое не павінна паўтарыцца! Не можа быць увесь час тое ж самае!» — дакарала я сябе, імкнучыся падбадзёрыцца, адагнаць трывогу, якая нарастала і магла пераўтварыцца ў страх.

Цяпер ведаю, што мае сумненні ўзніклі не ад малавер'я, а страх — не ад маладушнасці. Ва ўсім гэтым была яе міласць, усе думкі ўва мне яна абуджала, такім чынам стараючыся падрыхтаваць мяне да найгоршага і прыдаць сілы. Нездарма ж у старадаўняй малітве гаворыцца: «Ахілі мяне, Божа, ад неспадзяванага!» Ды што зробіш, калі я гэтага слухаць не хацела, не смела.

Гэтак з непадрыхтаваным сэрцам сустрэла я той жахлівы дзень, калі туркі прарвалі ўмацаванні Ніжняга Горада і кінуліся на нас, як ваўкі на чараду авечую.

Пакуль ідзе асада, мэта заваёўнікаў — пераадольваць умацаванні ды знішчаць мужчын. Тады яны атакуюць сцены ды вежы, змагаюцца з абаронцамі. Калі ж захопяць горад, то шукаюць усялякай здабычы і здавальнення. Таму вылоўліваюць жанчын, ачмурэла ганяюцца за імі, падпарадкоўваючыся пажадзям і розным нялюдскім вычварнасцям.

Аднак мы засталіся цудам ахаваныя! За тыя дваццаць дзён, пакуль туркі з разбуранага Ніжняга Горада асаджалі Верхні Горад, ніводная жанчына сілай не была зняслаўлена, ніводная дзяўчына не была згвалтавана. Захопнікі праходзілі міма жанчын, як міма сцен, дрэў, камянёў. Дзіўна абыякавыя, нібыта аслеплыя — быццам бы гэта Прападобная іх сляпымі зрабіла.

«Сталася з намі тое, што і павінна было стацца. Аднак у гэтай непазбежнай бядзе маці наша бараніла нас, колькі магла. Бо нават святыя не могуць нічога зрабіць без волі Божай, насуперак вышэйшаму парадку», — лічыла я.

І нават не задумвалася, адкуль у мяне, простай жанчыны, такая здагадка; бо ведала: ад яе, Прападобнай.

Усвядоміўшы гэта, я толькі расплакалася. Гэтак выказвала сваю ўдзячнасць святой за тое, што яна ахоўвае нас і што мне дапамагае трымацца веры нават калі ўсё рушыцца і ў бездань правальваецца звыклы свет.

У апошні дзень жніўня мадзьярскі начальнік Бялграда, чалавек ганарысты і зласлівы, перадаў ключы ад горада султану Сулейману. А пры гэтым яшчэ, як расказвалі, пацалаваў яму руку і пантофелю.

«Ах, шкада, што мне гэтага не давялося ўбачыць, — гаварылі нашы людзі адзін аднаму, — як гэты ганарлівец пантофлі султану цалуе!» Ды гэтая дробнае і помслівае задавальненне нас нядоўга цешыла. Трэба было пра жыцці свае клапаціцца, бо трапілі мы з агню ў полымя. Начальнікам, якога Сулейман прызначыў над намі ўладарыць ад яго імя, стаў Белі-бег, у турэцкім асяроддзі праслаўлены як «аголеная шабля над шыямі ворагаў Алаха, знішчальнік няверных». А няверныя, у іх разуменні, гэта мы, тыя, хто верує ў Ісуса Хрыста, Сына Божага, і праслаўляе святых Яго.

Страх!

Страх не даваў мне есці і адпачываць. Страх перашкаджаў думаць і маліцца. Страх не пускаў мяне схадзіць да Прападобнай. Нават вада з яе крыніцы як быццам страціла сваю сілу, каб змываць гэты страх ці хоць бы змяншаць яго.

«Маці! — горача прасіла я. — Ратуй нас! Дапамажы нам! Абарані!»

Я малілася, не ведаючы, за каго малюся — за сваіх родных ці за ўсіх сербаў. Відаць, таму, што мы былі адно, і ўсім нам патрэбна была міласць.

Сулейман дазволіў мадзьярам адыходзіць калі хочуць і куды хочуць. А на сербаў у яго былі іншыя планы. Ён загадаў адправіць нашых мужчын з Бялграда ў Царград — усіх разам і пад аховаю. Гэта даніна крывёю. І скласці яе павінны былі не толькі воіны, але таксама і мужчыны, якія валодалі нейкімі ведамі ці рамяством. Таму загадана сабраць лепшых нашых залатароў, аружэйнікаў, будаўнікоў, муляраў, кавалёў, краўцоў і адправіць іх пад прымусам у Турцыю — няхай гэтую чужую краіну адбудоўваюць, талентамі ўпрыгожваць і абараняць.

Майго сына не забіралі. Ён быў рыбаком, як першыя апосталы. Яго ўратоўвала тое, што быццам бы не меў патрэбнага рамяства, а залежаў ад нораву ракі. Святая мне і ўнука зберагла, так што цэлым сэрца маё пакінула. За гэта я ёй вечна ўдзячнай буду. А сабе павінна адказаць на пытанні: Чым жа я гэткую ўвагу, прыхільнасць і міласць яе заслужыла? Чаму яна праявіла такую міласэрнасць да мяне і маіх блізкіх? Як гэта яе міласць размяркоўваецца? Так, як яна захоча, а ці так, як каму суджана? А тады хто гэта вызначае лёсы чалавечыя? Калі гэта Бог, а Ён праведны і справядлівы, то на якіх мерках засноўваецца Яго справядлівасць?

Гэтыя пытанні я сабе задавала неаднойчы, але адказаў на іх не знаходзіла. Што ж тут зробіш, калі, кажуць, нават вучоныя і разумныя не ўсё як след высветлілі.

Так што лепш я вярнуся да Сцяфана.

Сцяфан быў ратнікам. Ён сам хацеў гэтага — абараняць родны горад ад захопнікаў. І калі па ўсім горадзе абвясцілі султанаў загад, ён, шчыра і адкрыта паглядзеўшы ў вочы сваёй маці і мне, здзівіў нас сваімі словамі:

«Вы абедзве для мяне маці. Адна ў святой мяне вымаліла, другая нарадзіла. Але я хачу аддаць сваё жыццё трэцяй маці — Параскеве. Таму, калі ёсць яе воля на тое, каб я адправіўся ў Турцыю, то няхай мяне забяруць з яе месца».

Сказаў гэта Сцяфан рашуча, як чалавек, упэўнены ў тым, што і як трэба зрабіць.

Тройчы пацалаваў ён кожную з нас, тройчы перахрысціўся на парозе дома, памахаў Дунаю, нібыта бацьку, і пайшоў да крынічкі — туды, дзе я яго першы раз пасля нараджэння выкупала, дзе святой вадзіцаю паіла, каб быў здаровы целам, мужны і добры сэрцам, чысты душою.

Цэлы дзень той, дзявятага верасня, цэлую ноч і яшчэ палову наступнага дня сядзеў ён каля крынічкі. Без ежы, падмацоўваючыся толькі святою вадзіцаю. Сядзеў і чакаў сваёй долі спакойна, як чалавек, гатовы прыняць усё, што павінен, што яму наканавана.

А цэлы дзень той, дзявятага верасня, цэлую ноч і яшчэ палову наступнага дня туркі гойсалі па Ніжнім Горадзе. Яны абшуквалі дамы, сутарэнні і ўсе месцы, дзе можна было схавацца. Увесь Ніжні Горад стаў асяродкам болю і страху, месцам пакут і страт, слёз і галашэнняў. І чакання яшчэ горшага.

Сцяфана ж не кранулі нават. Як быццам ніхто яго не бачыў.

Апоўдні дзясятага верасня ўсе мы сабраліся перад царквою Успення Прасвятой Багародзіцы, як некалі ў вялікія святы ці на хрэсныя хады. Толькі гэтым разам сабрала нас неверагодная бяда і скруха. Нашу царкву пераварылі ў мячэць.

Ніколі, ніколі не забудуся роспачы таго дня. Упэўнена, што яе нават воды Савы і Дуная запамяталі назаўжды. Кожны камень у сценах і вежах крэпасці таксама. Бо ўсё тады было прасякнута нашай скрушнасцю так, што яе ніколі немагчыма выдаліць.

Не ведаю, чыё гора было большым — тых, каго адпраўлялі ў Стамбул, ці тых, хто заставаўся ў Бялградзе. Нават калі на чужыну выдаляліся цэлыя сем'і, яны ж усё роўна пакідалі кагосьці сэрцу любага тут. І наадварот, тыя, хто заставаўся, дарагіх сэрцу праводзілі ў дальнюю дарогу. Турэцкія вайскоўцы адрывалі адных ад другіх, як пазногці ад мяса. Раскідвалі нас аголенымі шаблямі, перарывалі нашы апошнія абдымкі, пацалункі. І ўсю калону выгнаннікаў прыспешвалі бічамі, як гэта звычайна чыняць у адносінах да рабоў.

А на чале працэсіі гэтых гаротнікоў, абцяжараных рэшткамі перакроенага жыцця, знаходзіліся нашы святыні: цудатворная ікона Прасвятой Багародзіцы, мошчы царыцы Феафаны і мошчы святой Параскевы — маці нашай, маці маёй.

Тым, хто адыходзіў, гэта прыносіла суцяшэнне, падтрымлівала надзеі. А нам ад гэтага станавілася яшчэ цяжэй і страшней. Яны лічылі, што так справядліва, бо ім суцяшэнне больш патрэбна. Магчыма. Не хачу мудраваць. Ды толькі Бог адзін ведаў, каму будзе горш — тым, якія пад уладу нехрысцяў адпраўляюцца, а ці тым, якія пад уладаю нехрысцяў застаюцца.

Хто вырашыў забраць святыні ад нас, не ведаю. Можа, туркі, дзеля таго, каб нас раздзяліць і ўчыніць між намі зваду пры расстанні. А можа, наш мітрапаліт, які разумеў волю прападобнай Параскевы. Ведаю адно, што душа мая разрывалася ад болю. Куды я цяпер пайду, калі будзе цяжка? Да каго дакрануся рукамі, калі яны зусім апусцеюць?

Што рабіць? Як жыць без святой?

Праўда, Бог заўжды і ўсюды з намі. Значыць, Яго святыя таксама заўжды і ўсюды прысутнічаюць. І я магу ўяўляць, што святая Параскева заўжды побач са мною. Магу, кранаючы сваё сэрца, думаць, што да яе дакранаюся. Толькі ці будзе маё сэрца дастаткова чыстым, каб я асмелілася да яе дакрануцца? І, размаўляючы сама з сабою, каб магла думаць, што размаўляю з ёй?

## Адна богашукальніца, праз тысячу гадоў пасля адыходу святой да Госпада

Кожны аповед можа пачынацца ў безлічы варыянтаў. Я свой аповед пачну з асенняга ранку 1989 года.

Мой муж быў на працы, дачушка наша — у дзіцячым садку. А я, працуючы ў другую змену, да поўдня мела вольны час.

Я любіла такія дні, і як дарунак успрымала магчымасць застацца адна, а разам з тым і не ў адзіноце. Проста гэты час я магла праводзіць так, як мне хочацца: чытаць, разважаць, прыводзіць у парадак ці толькі гартаць фотаальбомы, абуджаючы ў памяці розныя падзеі. Магла слухаць музыку, думаць пра блізкіх і дарагіх мне людзей ці, прыгатаваўшы сабе каву, сесці да телефона і пазваніць сяброўкам. У мяне іх было нямнога, і кожная займала асобнае месца ў маім жыцці. З кожнай у мяне была свая таямніца і свая размова.

Таго ранку я пазваніла Гордане. Яна, выкладчыца гімназіі, адкрывала дзецям значэнне выяўленчага мастацтва, і пісала вершы. Я з ёй абмяркоўвала кнігі, а таксама сны як прадказанні і папярэджанні, як суцяшэнні. Мы закранала і пытанні, якія датычацца Бога, веры, міфалогіі. Як мне здавалася, яна пра ўсё ведала намнога больш за мяне, прычым умела быць са мною цярплівай, як і са сваімі вучнямі.

Не памятаю, каторая з нас у той ранак першай згадала Бога і святую Параскеву. Уся тая размова, уласна, з памяці неяк сцерлася, да таго моманту, калі я сказала:

«Ведаеш, а я іх усё ж такі люблю. І Госпада, і Багародзіцу, і святую Параскеву».

«Любіш? — запыталася Гордана. Яе голас пакуль што не прадвяшчаў таго, якія супярэчнасці мяне чакаюць. — Пэўна, ты і павінна Яго любіць, калі Ён табе ўсё даў. А ці любіла б ты Яго і тады, калі б Ён сказаў: «Тваё жыццё больш тваім не з'яўляецца. Цяпер ты павінна жыць інакш». У такім выпадку ты Яго магла б гэтаксама любіць?»

У Горданы дзіўны голас, і тон таксама. Як быццам гэта гаворыць нехта іншы — той, хто хоча мяне перасцерагчы. І спалохаць. Аднак яна і сама спалохалася. Пачала апраўдвацца: «Не ведаю, што гэта са мной. Я не хацела табе гаварыць гэтага. Ды вось, сказала...»

Гордана жыве адна. Калі вызначаць паводле звыклых традыцыйных мерак, то Гасподзь ёй даў менш, чым мне. Пэўна, з-за гэтага ў яе з'явілася адчуванне сораму з-за таго, што сказала, і боязі, каб я выказанае не ўспрыняла як словы зайздросніцы.

«Ці любіла б я Госпада гэтаксама і ў няшчасці?» — перакладала я пытанне сяброўкі на мову паўсядзённасці.

Аднак ведала, што адказу не дам, бо ёй адказ і не патрэбен. Гэта пытанне, на якое я павінна адказаць самой сабе. І маёй святой.

Што такое для мяне Бог?

Я вырасла ў краіне, дзе атэізм быў не толькі афіцыйнай ідэалогіяй, але і станам духу. «Рэлігія — гэта опіум для народа», — так нас вучылі ў школе. І, памятаю, наша галоўная чытанка змяшчала твор, у якім настаўнік асобна вылучаў вось якія радкі: «Сыне мой родны, Бог — гэта падман, і прыдумалі яго нашы ворагі...» Гэта як ісціну пачалі прымаць ужо нашы бацькі. І нават тыя з іх, якія ў выніку сямейнага выхавання яшчэ захоўвалі звычаі, не ігнаравалі царкоўных свят, рабілі гэта больш з-за пашаны да традыцыі, а не таму, што разумелі іх змест і значэнне. А мы ўжо Бога згадвалі хіба што выказва-

ючы здзіўленне ці божачыся без ніякай патрэбы, калі гэта датычыцца зусім неістотнага, а то і брыдка лаючыся.

Таму, паверце, я і сама не ведаю — сапраўды, не ведаю, — як гэта аднойчы, у сярэдзіне васьмідзясятых гадоў, вымавіла: «Я веру ў Бога». Самую сябе тады здзівіла, і свайго мужа, і ўсю тую кампанію, што пасля завяршэння літаратурнага вечара ў бібліятэцы перайшла, як гэта неаднойчы рабілася, у нашу кватэру, каб пачаставацца вясковымі прысмакамі пад добрае віно з запасаў майго свёкра і, вядома ж, пагаманіць да глыбокай ночы. Сабраліся тады ў нас прыезджыя пісьменнікі і тыя, каго лічылі культурнай элітай нашага невялікага горада — мясцовыя паэты, педагогі, бібліятэкары; а я ў той час вяла культурную праграму на гарадскім радыё. Карацей кажучы, усе тыя, хто любіць чытаць і гучна разважаць, як характарызаваў нас мой муж.

Не памятаю, хто першы ў той вечар згадаў пра тры вечныя пытанні, якімі азначаецца сэнс чалавечага існавання і быцця ўвогуле: Хто мы такія? Адкуль з'явіліся? Куды імкнемся?

«На маё разуменне, усё гэта звязана з Богам», — выказалася я. Хоць сутнасць слоў сваіх самаўсвядоміла толькі тады, калі ўсе пачалі здзіўлена глядзець на мяне.

У тую ноч я зразумела, што за мяне гэта прамовіў нехта, пра існаванне каго я нават не ведала, але згаджалася з ім і прымала яго словы як безумоўную ісціну.

Між тым, глыбінны сэнс гэтых слоў для мяне яшчэ заставаўся недаступным. А я хацела яго знайсці, адкрыць, спасцігнуць.

«Блажэнныя тыя, якія не бачылі, а ўверавалі», — прачытала я словы Госпада і зразумела іх так, што верыць — гэта якраз прымаць Нябачнага. Таму неаднойчы казала: «Дзед Дарвін груба памыліўся. Бог стварыў нас па вобразе Сваім. І толькі Ён ведае, што прызначана кожнаму з нас». Такую вось інтэлектуальную гульню я лічыла верай, не ўсведамляючы, што гэта гульня. А Гасподзь асцярожна, маленькімі крокамі павёў мяне Сваім шляхам.

Пэўна ж, ад Госпада прыйшло да мяне ўсведамленне, што верыць — гэта жыць у адпаведнасці з усімі дзесяццю запаведзямі. І тады я пачала іншымі вачыма глядзець на ўсё вакол сябе, роўна як і на тое, што сама раблю ці не раблю. Пачала сур'ёзна высвятляць, якой я з'яўляюся. Шчыра імкнулася не парушыць ніводнай Божай запаведзі. Часам гэта было вельмі цяжка. Найцяжэй — любіць бліжняга свайго, як самога сябе.

Недзе ў гэты час я зблізілася з Горданай.

Сустрэліся мы ў царкве, хоць я ў царкву хадзіла рэдка. У асноўным, каб паставіць свечку за памін душ нябожчыкаў. А часам і «за здароўе», як казала мая бабуля.

Гордана таксама ставіла свечкі. Няспешна, быццам бы вяла размову з тым, каго памінала. А пасля гэтага мы абедзве, кожная сама па сабе, накіраваліся да выхаду.

Аказалася, паліў дождж, прычым такі, што немагчыма выйсці — нібыта Гасподзь спецыяльна раскрыў бездань нябесную, каб прымусіць нас затрымацца разам у прытворы храма і там пазнаёміцца. Гэта Ён зводзіў нас, каб мы на духоўным шляху адна адну падтрымлівалі.

Здаецца, Гордана мяне прывяла і да яе, да маёй святой. А можа, Прападобная сама да мяне прыйшла.

Аднойчы пад ранак мне прысніліся руіны нейкай крэпасці: пашкоджаныя часам каменныя прыступкі, цэркаўка пры сцяне; і жанчына ў сіне-зялёным уборы, нахаліўшы галаву, гартае кнігу.

«Чаму ты ніколі не прыходзіш да мяне?» — запыталася яна. Але ў яе голасе не было ні дакору, ні жалю.

А я не ведала, хто яна.

З гэтага позняга сну мяне выхапіў званок тэлефона.

«Я штораніцы малюся святой Параскеве», — сказала мне Гордана, пачуўшы мой заспаны голас.

«Святой Параскеве?» — перапытала я збянтэжана, разумеючы, што весткі ад Бога да нас прыходзяць звычайна праз людзей і што нам было б намнога лягчэй, каб мы здольны былі іх як след разумець.

А пад вечар таго самага дня каля будынка, у якім я працавала, невядома адкуль з’явілася дзяўчынка, прадаўшчыца ікон. «Гэта святая Параскева, для цябе», — сказала яна мне, падаючы абразок з выяваю той жанчыны, якая мне прыснілася.

Я дрыжачаю рукою ўзяла іконку і пачала яе разглядаць. У нейкі момант мне здалося, што святая мякка ўсміхнулася. Нібыта радавалася.

Невядомай дзяўчынкі-прадаўшчыцы я больш ніколі не бачыла. Яна пасля таго вечара знікла, як быццам выканаўшы заданне, дзеля якога і з’явілася ў наш горад.

І ўсё гэта была міласць, якой я не надавала асаблівага значэння.

Іконка ж засталася на сцяне майго пакоя проста як карціна. Праўда, шторанку і штовечара, каля яе праходзячы, я хрысцілася. Але, як зразумела пазней, рабіла гэта неяк мімаходзь, без удзелу сэрца і розуму.

Я не малілася. Проста не ўмела, а да таго ж здавалася, што ў малітве я і патрэбы не маю. Уласна, я лічыла, што маліцца — значыць прасіць у Бога і ў святых чагосьці канкрэтнага. А мне ж нічога асаблівага і не трэба.

Цяпер мне цяжка ў гэта паверыць, але тады, у канцы васьмідзясятых гадоў, я нават не задумвалася пра тое, што ў мяне было, што ўжо дадзена. Усё, што мела, успрымала як звычайнае — маўляў, так і павінна быць, ніякай асаблівай міласці тут няма. У гэтым, бадай, выяўлялася нішто іншае, як абмежаванасць чалавечай натуры: хацець таго, чаго няма, і ніколі не думаць пра тое, што ёсць.

Сорамна прызнавацца, але скажу: на той час, які абраны ў якасці зыходнага для аповеда, я лічыла, быццам бы раблю міласць Богу тым, што ў асяроддзі няверуючых вызнаю сябе веруючай, што заходжу калі-нікалі ў царкву, што ма́ю дома некалькі ікон... Мне здавалася, што гэтым я ўжо лепшая за іншых — далей бачу, больш разумею. І я сабой, такой, ганарылася.

А цяпер ведаю, што няможа быць веры без пакорлівасці. Ды гэта яшчэ трэба было спасцігнуць. Праз боль і пакуты.

«Так лёгка было верыць, што Бог існуе і што вера — гэта жыццё ў адпаведнасці з дзесяццю Божымі запаведзямі — думала я сама сабе, пакуль Гордана старалася пакрыць сваё пытанне кучай бяззначных слоў, як кучай апалага лісця. — А калі вера не толькі ў гэтым? Калі верыць — значыць, аддаваць, ахвяраваць? — разважала я, шукаючы ісцінныя словы, якімі змагу адказаць Гордане. — Што з’яўляецца большым спакушэннем для душы: калі маеш ці калі не маеш? Ці мы Госпада любім больш тады, калі нам добра, а ці тады, калі кепска? І ці тая самая гэта любоў?»

Я чакала, раздумвала. Правярала сваё сэрца. Разумела, што нельга хлусіць і нельга памыляцца — нібыта ад майго адказу будзе залежыць мая будучыня. А тады адказала:

«Думаю, што я б Яго любіла гэтаксама. Але была б вельмі няшчаснай».

І задрыжала. Не ад пытання Горданы і не ад сваіх ваганняў. А з-за таго, што прадчувала нядобрае. І гэтае прадчуванне, нібы іржа, пачало раз’ядаць мне сэрца.

Я разумела, што прыйдзе час выпрабавання. Аднак хацелася ведаць, калі ён прыйдзе і якім будзе гэтае выпрабаванне.

Мне было страшна.

Я толькі тады пачала ўсведамляць: усё што ма́ю — не маё. Усё гэта мне Гасподзь даў. Прычым нямала.

Калі скончыла размову з Горданай, я нетаропка падышла да іконы маёй святой і, глядзячы ўжо не так, як раней, інакш яе ўбачыла. Яна для мяне была ўжо не карцінай на сценцы, не ўмоўным адлюстраваннем ідэальнай істоты, а выяваю блізкай мне асобы.

«Дзякуй! — сказала я ёй, як і Госпаду. — Дзякуй табе! І, прашу, не адбірай у мяне жыцця».

Пасля гэтага я ўсё часцей была з ёю. Спрабавала размаўляць, задаваць пытанні. І не раз мне здавалася, што словы надзеі, якія гучалі ў маім сэрцы, гэта яна шаптала. Аднак часам узнікаў страх, што гэта не яе словы, а ўсяго толькі рэха маіх жаданняў.

А потым пачалося ўжо не раз вядомае з той пары, калі Бог стварыў зямлю і даў нам, каб мы жылі на ёй, працуючы ў поце твару свайго.

Усё часцей сталі гучаць, нават перакрываючы ўсё астатняе, галасы асоб, якія намерыліся змяніць гісторыю, выправіць усе яе несправядлівасці. Яны кляліся, што дбаюць толькі пра свой народ, яго слаўную мінуўшчыну і светлую будучыню.

Людзі ім пляскалі ў ладкі — як зачараваныя і з-за гэтага аслеплыя, аглухлыя. Нібыта яны не ведалі, што дэкляраванне справядлівасці для народа азначае многа несправядлівасці і пакут для асобных людзей. Хіба ж ім гэта невядома было? А ці проста кожны з іх, абыякавы да пакут іншых, у глыбіні душы спадзяваўся, што яго пакуты не закрануць? Не ведаю. Нават цяпер, калі ўсё мінула, не ведаю. А думала я пра гэта многа.

«Няцяжка любіць народ наогул, затое цяжка любіць канкрэтнага чалавека», — гаварыла я, калі было з кім гаварыць.

Свет, у якім мы жылі, развальваўся. Знікала ўсё звычнае. І краіна, якую мы лічылі сваёй, таксама.

Тады ўпершыню дайшло да маёй свядомасці, што наш гарадок — населены пункт праваслаўных у каталіцкай краіне. А таксама, што краіна, грамадзянамі якой мы з'яўляемся, носіць імя іншага народа. Што гэта ж і не наша краіна.

«Абаронім тое, што наша!» — заклікалі самазваныя ашчасліўлівацелі народа як нашага, так і таго іншага.

Пачаліся мабалізацыі.

Страх стаў сінонімам нашай паўсядзённасці.

Мы жылі ў страху: каго яшчэ забяруць? а ці адпусцяць тых, каго ўжо забралі? Як быць? Што далей?

Я прадчувала, што ў хуткім часе прыйдуць і па майго мужа.

«Ведаеш, калі яго забяруць, я без яго не змагу жыць. Проста не здолею», — казала я маёй святой.

«Вера заключаецца ў тым, каб прымаць усё, што нам Гасподзь вызначыў міласціва як лепшае, нават калі гэта прыносіць боль», — спрабаваў мяне суцешыць наш святар. — Вера падразумявае, што мы гатовы сказаць тое самае, што сказаў Хрыстос: «Няхай будзе воля Твая!»

Але я так не магла сказаць. Не магла. Таму прасіла, прасіла, упрошвала маю святую, каб яна змілавалася, каб маліла Бога за нас — за майго мужа, за маё дзіцятка, за мяне.

«Я ж не з паслядоўных угоднiц Божых. Я звычайная жанчына, якая любiць свайго мужа, сваё дзiця i сваё жыццё», — прызнавалася ёй.

«Аднак ты ж выйшла на шлях Гасподнi. А Ён, як вядома, сказаў: «Калi хто хоча iсцi за Мною, няхай адрачэцца ад сябе i возьме крыж свой i iдзе ўслед за Мною», — нагадаў мне святар.

А магчыма, гэта i Прападобная нагадала.

Тым не менш, я задавала сабе пытаннi:

«Пэўна, я саграшыла, i Бог мяне перасцерагае? Альбо выпрабоўвае маю веру праз гатоўнасць на ахвяры? А што ж, акрамя любовi да сям’i, я маю, каб магла ахвяраваць у якасцi пацвярджэння сваёй веры? Што ўвогуле чалавек можа прапанаваць Богу — што ён смее прапаноўваць, калi так цi iнакш усё Божае? Можа, я занадта моцна люблю свайго мужа — больш, чым Бога, больш, чым Прападобную? Цi я залiшне шчаслiвая, бо нельга ж так любiць, быць так прывязанай да чалавека i нельга быць так любiмай? Ад чаго я павiнна адмовiцца? Якую ахвяру магу прынесцi, каб пазбегнуць пакут?»

А я пакутавала, шукаючы адказаў. У рэшце рэшт нiбыта знайшла штосьцi, i звярнулася да святой:

«Прападобная мацi! Калi ўжо павiнна быць гэтак, калi я мушу нешта ахвяраваць, то няхай муж закахаецца ў iншую жанчыну i пакiне мяне. Яны могуць разам з’ехаць у свет. Многiя цяпер з’язджаюць адсюль. Вось i Гордана з’ехала, да сястры ў Францыю. Нам разам ехаць няма куды, няма да каго. А так, без мяне, ён жа змог бы, калi б дазволiў Бог, прыняўшы маю ахвяру. Няхай муж едзе ад мяне куды заўгодна. Абы толькi яго не забралi на вайну, дзе могуць забiць i дзе ён сам павiнен забiваць».

«Не! — сказаў муж, калi я паведамiла яму, што згаджаюся на ахвяру. — Калi трэба iсцi ваяваць, я пайду. Можа-такi вярнуся. I мы зноў будзем разам».

Ён плакаў.

Я плакала таксама. I зноў шукала суцяшэння ў маёй святой.

Яна глядзела на мяне спагадлiва. Аднак гэта была спагада ў сувязi з непазбежным, а не з тым, што вядзе да лепшага. Я гэта добра бачыла. I разумела.

Мiж тым i далей не хацела прымаць. Проста не магла. I прыдумала вось што: пастаўлю ў вазу кветку перад яе iконай; гэтая кветка будзе паказчыкам вынiку ад маёй малiтвы — калi кветка не завяне, то майго мужа не забяруць.

На другi ж дзень кветка завяла. Атрымлiвалася, што наблiжаецца час бяды.

Прывiды патрабавалi свежага чалавечага мяса. Таму забiралi мужчын — афiцыйныя ўлады новастворанай краiны i закапёршчыкi вайны.

Я ўжо не магла нi думаць, нi дыхаць, нi спаць. Iдучы ў пасцель, клала iконку святой пад падушку альбо трымала на грудзях, скаваных страхам.

Баялася я кожнай машыны, якая праязджала мiма нашага дома, i святла фар. Палохалася брэху сабак i гуку крокаў.

«Iдуць! Забяруць яго!» — калацiлася я, хапаючы за руку мужа, каб пераканацца, што ён тут, яшчэ тут.

I вось аднаго ранку зазванiў тэлефон. Была нядзеля, мы пiлi ранiшнюю каву — тую самую значную, за якой можна абмяняцца думкамi i адно аднаму выказаць увагу.

Мужа выклiкалi, i ён пайшоў. Мы пацалавалiся як звычайна, калi ён адыходзiў на працу, а не як на развiтанне. Па маўклiвай згодзе, мы абое хацелi выказаць, што чакаем хуткай сустрэчы.

Мне заставалася толькi вярнуцца ў апусцелую кватэру. Да апусцелага жыцця. Я павiнна была сказаць дачушцы, што забралi яе татку, пры гэтым

стараючыся захіліць дзіця ад вялікага болю і падтрымаць яго. Гэта павінна была я, не здольная і сябе захіляць, сама без сілы трымацца.

«Нешта не бачу, каб ты малілася», — сказала мне Прападобная на другі дзень, з лагоднай усмешкай, як быццам звяртаючы ўвагу на маю непаслядоўнасць у веры.

А я сапраўды не малілася. Нават не глядзела на ікону, праходзячы міма яе. Раненая, з акрываўленым сэрцам, я здольна была маліцца толькі за тое, каб вярнуўся мой муж, каб мне стала лягчэй. Ці каб Гасподзь адкрыў мне таямніцу свайго прамыслення. Ды пасля ўсіх маіх маленняў і марна пралітых слёз такія звароты да Яго не мелі сэнсу. Акрамя ўсяго, я адчувала і нейкі своеасаблівы сорам — як у тых выпадках, калі стукаешся ў дзверы, а гаспадар табе не адчыняе, хоць ты ведаеш, што ён дома.

«Гасподзь не хоча слухаць мае просьбы. І святая Параскева таксама. Відаць, я не заслужыла, каб яны мяне слухалі, — вырашыла я. — А тады нашто маліцца? Нашто гуканне, калі яго ніхто не чуе?»

Калі дачушка выходзіла гуляць, уцякаючы ад майго смутку і плачу, я блукала па пустых пакоях як утрапёная. І зноў падышла да маёй святой. Бо ў мяне, акрамя яе, нікога не было.

«Як ты магла такое дазволіць? Як цяпер можаш глядзець на мяне такую — зломленую, звар’яцелую ад болю? І табе не шкада мяне? Гэткая, значыць, твая любоў да нас? Гэткая твая спагада?!...» — галасіла я, распластаўшыся перад яе іконай, грукаючы аб падлогу кулакамі і б’ючыся галавой.

А выгляд святой не мяняўся.

Я ўвесь час думала пра свайго мужа. Хвалявалася, як яму, далікатнаму, мяккаму, уважліваму да мяне і нашай дачушкі, там — сярод людзей, якія ваюць з захапленнем і нават з задавальненнем. Балюча было за яго, няшчаснага. Больш за ўсё гэта даймала, прыносячы мне пакуты.

Не, я не гатова была прымаць любую волю Яго.

І пазней шмат разоў задавала сабе пытанні: а што было б, каб я тады здолела адкрыць сэрца для ўсяго наканаванага, каб прыняла няшчасце так, як шчасце прымала? ці на гэтым бы ўсё скончылася? можа, тады б бура так жорстка не разбурыла маё жыццё?

А гэта была бура, ад якой падалі не лісты і галіны дрэў, а галовы, і пры гэтым не дажджавая вада лілася, а кроў.

За адну ноч, як пры жахлівай буры, мы страцілі ўсё, што лічылі сваім. І павінны былі ўцякаць з роднага котлішча, з уласных дамоў. Вымушаны былі пакінуць сваё ранейшае жыццё, не ўзяўшы з сабою нічога, акрамя ўспамінаў, якія з часам будуць для нас усё даражэйшымі. Уцякалі мы туды, куды ва ўсе часы — у Сербію.

Нас праводзілі нашы вайскоўцы, якія з перадавой лініі прыбылі, каб здзейсніць апошнюю абарону.

А майго мужа не было. І ніхто не мог мне, знямелай ад болю, сказаць, што з ім — мёртвы ён ці жывы, паранены ці ў палоне.

У Бялградзе я пайшла працаваць прыбіральшчыцай. І таму, што такую працу было найлягчэй знайсці, і таму, што калі прыбіраеш, то розум заняты мала, крыху толькі. Так што я атрымлівала магчымасці даваць волю сваім думкам. А яны, вольна паблукаўшы, звычайна вярталіся лепшымі, больш трывалымі.

Знайшла я сабе і пакойчык. Ён быў маленькі, бедна абстаўлены, з адным ложкам на дваіх нас. Але мы яго аздобілі сваімі фатаграфіямі, кніжкамі, засу-

шанымі кветкі. А чамадан я ператварыла ў своеасаблівы алтар, лічачы, што алтар можа быць усюды, дзе ёсць іконы і дзе нехта шчыра моліцца:

«Мая святая зрабіла алтар на камені ў пустыні. І малілася так шчыра, нібыта стоячы непасрэдна перад Госпадам. Яна шчыра ліла слёзы».

Я плакала, калі дачушка засынала. І яна таксама, калі думала, што я ўжо сплю. Мы хавалі слёзы адна ад адной. Абедзве аднолькава няшчасныя.

«Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе і возьме крыж свой і ідзе ўслед за Мною», — казаў Гасподзь.

«Можа, таму мне прызначаны такія пакуты? — задавала я сабе пытанне. — З-за таго, што некалі гаварыла маёй святой: «Павядзі мяне шляхам Госпада. Ачысці маю душу, ачысці сэрца, ачысці розум». Але ж ці несці крыж азначае і быць распятым? Хіба не дастаткова распяць свае жаданні і пажадзі, а каб душа засталася цэлай? Няўжо да Бога абавязкова набліжацца толькі праз боль? Чаму нельга праз любоў? Ці ж няма любові без болю?»

Разважаючы так, я ўсё ж лічыла, што зварочваць з духоўнага, Божага шляху і цяпер нельга. Бо па іншых шляхах і пад іншым правадырствам ісці ўжо не змагу.

Не было нікога, з кім я б магла шчыра пагаварыць. Таму ўсё часцей размаўляла з ёю, маёй святой. Я садзілася на падлогу і глядзела на яе вобраз. Расказвала ёй усё, з упэўненасцю, што яна мяне чуе і разумее. Я таксама старалася пачуць яе адказы ў сваім сэрцы. І тое, што для майго цікаўнага розуму некалі было інтэлектуальным рэбусам, цяпер стала праблемай жыцця і смерці.

Я ўсё страціла, засталася без сілы. І не было нікога, акрамя святой, хто б мяне падтрымаў. Таму я казала ёй:

«Прападобная маці! Ты ведаеш маю душу, маё сэрца, мой розум. Ты ведаеш, якая ў мяне сіла. Таму не давай мне цяжару большага, чым я магу панесці. І дай сілы выцерпець тое, што мне наканавана».

Такім чынам я даручыла ёй сваё жыццё. Якраз тады, сказаўшы: «Няхай будзе воля твая».

А мне было нялёгка гэта сказаць.

Перш чым прамовіць, я павінна была перамагчы страх даверам. А яшчэ і адолець зусім новае, але ўсё часцей прысутнае, адчуванне — быццам бы мяне падманулі, у адносінах да мяне ўчынілі несправядлівасць.

Іншыя ж людзі жылі звычайным жыццём, без гвалту ў пераменах: яны гулялі, смяяліся, кахаліся.

А маё дзіця спала з фотаздымкам таты каля падушкі. Прычым і падушка, і фотаздымак часта былі вільготнымі ад слёз.

І я не жыла, а толькі чакала, калі вернецца мой муж, каб тады пачаць нанова жыць. Без ніякай упэўненасці, што гэта некалі адбудзецца.

Здавалася, за мяне шчаслівейшыя ўсе: тыя жанчыны, чые мужы пазбеглі мабілізацыі; і тыя, чые мужы змаглі пакінуць палі баёў і вярнуцца; нават тыя, што разышліся з мужамі, якія іх недастаткова любілі ці якіх не любілі яны.

Сустракала я і тых, якія некалькі гадоў назад трубілі пра слаўнае мінулае нашага народа, пераконваючы нас, што ў імя той мінуўшчыны трэба змагацца і гінуць за будучыню, а потым самі ж першыя паўцякалі, адмовіўшыся здзяйсняць свае мары. Я адчувала, як у сэрцы маім пакрываецца коканам лічынка горычы і чакае свайго часу, каб ператварыцца ў цёмнага матыля нянавісці — да такіх вось, роўна як і да іншых, якія выклікалі буру.

Пэўна, я разумела, што людзі, шчаслівейшыя за мяне, віны перада мною з-за гэтага не маюць, таксама, як калісьці перад іншымі не мела віны я. Разумела, што яны ў мяне нічога не адбіралі, а тое, што яны маюць, не маё.

Разумела. Але так цяжка было заглушыць зайздрасць, раздражненне, злосць. Разумець — гэта адно, а прымаць сэрцам — іншае.

На шчасце, мая святая была заўжды са мною. І не давала мне патануць у цемры нізкіх, няўгодных Богу думак і пачуццяў.

Гэта яна адправіла мяне ў сваю царкву на Калемегдане.

Шукаючы супакаення ад свайго адчаю, неяк у пятніцу па абедзе я апынулася на беразе ракі пад старадаўнімі сценамі, хоць і не збіралася туды.

Паглядзела на рэшткі крэпасці і накіравалася да іх, не ведаючы, уласна, куды іду. Пайшла наверх па каменных прыступках, якія ўжо патачыў час. І пры сцяне крэпасці ўбачыла цэркаўку. А потым і яе — маю святую! На фасадзе цэркаўкі знаходзілася мазаічная выява: святая ў сіне-зялёным уборы стаіць, пакорліва схіліўшы галаву, і гартае нейкую кнігу.

Так у рэшце рэшт я прыйшла туды, куды некалі даўно яна мяне паклікала.

Я затрымцела. Зразумела, што апынулася тут не выпадкова, што гэты дзень для майго далейшага жыцця важны таксама, як і той, калі я сустрэла Гордану.

Прыклалася да іконы яе над крынічкай, а таксама да іконы святога Анісіма, ахоўніка крынічкі, просячы малітоўна толькі аднаго. Потым пайшла купіць свечкі. А тады звярнула ўвагу на дзвюх жанчын, якія сталі ў чаргу за мною і ўголас падлічвалі, колькі свечак ім трэба.

«Я ў царкве заўжды найперш малюся за сваіх ворагаў, вядомых і невядомых. І заўсёды стаўлю свечку, каб Бог прабачыў тым, хто мне зло ўчыніў», — сказала адна з іх.

Які сорам ахапіў мяне пасля гэтых слоў, прамоўленых спакойна, ураўнаважана! Я ўявіла, якім чыстым павінна быць сэрца гэтай жанчыны, і вельмі захацелася на яе паглядзець.

Калі ж абярнулася, то першае што ўбачыла — у яе на шыйным ланцужку вісіць іконка з лікам святой Параскевы. Прападобная ўсміхалася. І я вырашыла, што гэта яна прамаўляла вуснамі незнаёмай жанчыны.

Мне хацелася паслухацца святой, сапраўды хацелася. Але ж так цяжка было маліцца за прабачэнне тых, хто не прабачаў, хто мне зло прынёс.

Неяк усё ж такі ўдалося мне выцягнуць з сябе словы і скласці іх у сказы. Тым не меней я адчувала, што яны не з майго сэрца. І разумела, што вартасць іх невялікая, што не дайсці ім да Таго, Каму адрасаваны.

Я ведала, што мне толькі Прападобная можа дапамагчы. І звярнулася да яе: «Маці, не магу без цябе нічога. А з табою змагу ўсё, чаго ты хочаш. Прашу цябе, дай мне сілы адолець найгоршае ўва мне і ва ўсіх нас. Прашу цябе, навучы мяне малітве, якая табе даспадобы».

Я стаяла перад ёю і глядзела на яе доўга-доўга. Не зрушыла з месца і тады, калі астатнія вернікі ўжо пакінулі храм, і нават калі святар пайшоў. Я заставалася ў царкоўным двары перад мазаічнай іконай, не перастаючы паўтараць сваю малітву — ад сэрца, якое прагла быць чыстым.

І заставалася там, ажно пакуль не адчула, што сэрца маё напоўнена любоўю, а душа сілай.

«Прападобная! Будзь як маці ўсім. Нашым ворагам таксама», — папрасіла я нарэшце. І заплакала. Слязьмі, якія змывалі маю тугу.

Тады лік святой нібыта перамяніўся. І я, пасля сямі гадоў роспачы, упершыню адчула надзею.

Як некалі прадчувала я змрок і бяду, так цяпер — дабро. І зноў прыдумала вось што: пачала наведваць цэрквы, у якіх не была раней, спрабуючы адшукаць прадзнаменаванні сваёй будучыні па колерах убору святой. Таму калі на

фрэсцы храма ў гонар роўнаапостальных Канстанціна і Елены ўбачыла ружовую накідку, то паверыла, што ў мяне цяпер ёсць усе падставы спадзявацца на лепшае.

І задрыжала ад самой магчымасці такіх надзей.

Я нават асмелілася ў Свяшчэнным Пісанні шукаць тое, што б пацвердзіла гэтыя надзеі. Неаднойчы намервалася зрабіць гэта і раней, але як толькі збіралася ўзяць у рукі Кнігу кніг, мяне спыняў бачны мне жэст Прападобнай, якая, узнятай рукою нібыта забараняла: «Не!»

А цяпер, у новыя для мяне дні, здавалася, ад яе зыходзяць заахвочванне і ўхваленне.

«Ці гэта сапраўды я чую цябе, надзея маёй збалелай душы?» — запыталася я, не будучы ўпэўненай. Заплюшчыла, а затым расплюшчыла вочы... Яе рука не варухнулася.

Ведаю, цяжка паверыць, што адзін і той жа стан рукі на іконе можа перадаваць рознае. Але я верыла, так усё ўспрымала, і не лічыла гэта немагчымым.

Евангелле я раскрыла, што называецца, наўздагад. Зноў жа, не гледзячы, ткнула пальцам у радок, які павінен азначыць змест майго далейшага лёсу. І прачытала Госпадавы словы суцяшэння: «Блажэнныя тыя, што плачуць, бо яны суцешацца».

Падбадзёраная і ўдзячная, заплакала.

А праз некалькі дзён, зноў просячы падмацаваць мае надзеі, як абяцанне ўспрыняла вось што Госпадам сказанае: «Гэты дом — дом радасці». І адважылася падзяліцца раднымі спадзяваннямі з дачушкай.

«Калі татка не вернецца да майго дня нараджэння, я больш не буду верыць у Бога», — прыхінуўшыся да мяне, сказала на гэта яна з сур’ёзнасцю і рашучасцю, якая не адпавядала яе няпоўным дзесяці гадам. Але, напэўна, пакуты абумоўліваюць хутчэйшае ўзрастанне.

«Ты не смееш так гаварыць, — папярэдзіла я малую, пры гэтых словах асыпаючы пацалункамі яе шчочкі, мокрыя ад слёз. — Бог жа не казачная залатая рыбка, якая выконвае адвольныя жаданні. Любіць Бога не азначае быць вызваленым ад пакут і страт. Богу трэба давяраць — ну, так, як ты давяраеш мне, калі я кажу, што неабходна згадзіцца на ўколы, каб ад хваробы паправіцца. Табе можа балець, але ты ведаеш, што ад гэтага будзе лепш. Быць вернікам — гэта, па сутнасці, верыць Богу ва ўсім, цалкам. І ўсё ад Яго прымаць як дар».

Гэтак я пераконвала яе, а ўсведамляла, што гавару не толькі ёй.

«Добра, тады я буду верыць. Няхай толькі мой татка вернецца».

Мы верылі — і адбылося.

Валанцёр «Чырвонага крыжа» прынёс нам позву, каб зайшлі ў іх прадстаўніцтва. Яны валодаюць інфармацыяй пра вайскоўца, які, лічылася, прапаў без вестак. Магчыма, гэта мой муж.

Як я пражыла тую ноч, і цяпер не ведаю.

Гэта была ноч надзеі і чакання! Я правяла яе на каленях, малітоўна размаўляючы з ёю, маёй святой. А яна ўсміхалася-ўсміхалася!

Што я магу сказаць пра тую бязмерную радасць, калі зноў у агульных абдымках апынуліся мы ўсе разам — мой муж, я і наша дзіця! Сказаць, што гэта непараўнальна ні з чым мною зведаным раней? Што я задыхалася ад радасці так, як некалі ад болю? Што я спалохалася, каб не памерці ад такога шчасця? Усё, што б я ні сказала, будзе недастатковым і неадпаведным. Таму лепш цяпер не буду згадваць пра ўсё гэта.

Калі мы ўжо апынуліся разам у нашым маленькім пакойчыку, я пачула ад мужа, праз якія пакуты яму давялося прайсці. Тады, пачуўшы пра набліжэнне буры, ён адправіўся шукаць мяне з дачушкай. І адстаў ад сваіх таварышаў. Блукаў некалькі месяцаў. Вымушаны быў хавацца ад непрыяцеля, а таксама і ад гаротнікаў-выгнаннікаў з іншых краёў, якія пасяліліся ў нашых дамах. І так працягвалася, пакуль ён не трапіў да людзей адзінаверных, якія аднолькава з намі хрысціліся. Аднак і там ішла вайна, і там таксама ненажэрны цмок патрабаваў свежага чалавечага мяса. Яго затрымалі. А вызваліла толькі хвароба — шчасце ў няшчасці.

«Уратавала мяне яна, святая Параскева», — сказаў муж у завяршэнне свайго жахлівага аповеда.

З нагруднай кішэні ён асцярожна, як найкаштоўнейшае з таго, што мае, дастаў дзве фатаграфіі, загорнутыя ў насоўку. На адной былі мы ўтраіх, а на другой — наша святая.

«Я атрымаў гэта ад аднаго салдата, калі прыйшоў да нашых. «Маліся ёй. Яна цябе ўратуе», — сказаў мне той салдат. — І, ведаеш, я ўпэўнены, што гэта яна вярнула мяне дадому».

«І я ўпэўнена», — прашаптала я, бо страціла голас ад перажывання і ад плачу.

«Выява яе пакамечана, бо я ўвесь час трымаў яе на грудзях. Ніяк не мог заснуць, калі не адчуваў іконкі пад рукою. Яна нібыта забяспечвала нейкую сувязь з вамі. Як быццам вы ўтраіх складалі адно».

Я ўзяла ад мужа іконку, а тады яго руку сваёй накіравала пад падушку і выцягнула яе назад, калі муж узяў тое, што я хацела яму паказаць.

Гэта была выява нашай святой. Пакамечаная таксама, але маёй рукой, бо я трымала яе на сваіх грудзях. Прычым гэтая іконка была зусім такой жа, як прынесеная мужам: нават пацёртая і набухлая ў тых самых месцах. І ўтвораныя пазней лініі крыху мянялі вобраз святой — яна, заўсёды так неспасціжна сур’ёзная, усміхалася. І абяцала.

Абяцала надзвычай важнае: што ніколі нас не пакіне.

О, як патрэбна было нам гэтае абяцанне! Як патрэбна была гэтая надзея, любоў яе і вера!

Муж мой быў са мною. Але ён вярнуўся змардаваны, хворы, прыгнечаны мінулым і перспектывамі на будучыню. Таму я ведала, што змаганне за яго яшчэ наперадзе.

Патрэбна было збіраць аскепкі нашага жыцця і складаць іх у новае.

«Надзеяй іх мацую, верай уладкую і любоўю ажыўлю. Так навучыла мяне мая святая», — вырашыла я.

І што б ні здаралася, гэта будзе найлепшае для нас. Галоўнае, што мы разам. І што яна, святая, з намі, як заўжды была дагэтуль. Як і з усімі тымі, хто да яе звяртаецца. Яна ж — маці наша, прападобная маці Параскева.

*Пятніца, 18/31 жніўня*
*2001 лета Гасподняга,*
*у Бялградзе*

***Пераклад з сербскай***
***Івана ЧАРОТЫ.***

Раман ДУБАШЫНСКІ

# ІДЭЙНАЕ ЯДРО І ПАЭТЫКА ПРЫПАВЕСЦЕЙ ЯНКІ СІПАКОВА

Да жанру прыпавесці і прыпавесційнай апавядальнасці з пісьменнікаў старэйшага пакалення звяртаўся не толькі Васіль Быкаў[1], а і Янка Сіпакоў.

Янка Сіпакоў, які пачынаў свой творчы шлях з паэзіі, як вядома, сцвердзіў сябе і як таленавіты празаік, выдаўшы шэраг зборнікаў аповесцей і апавяданняў. Пераход да жанру прыпавесці ў яго атрымаўся даволі арганічны. Пісьменнік з выразна акрэсленым філасофскім складам мыслення натуральна адчуваў патрэбу ў звароце да мастацкай умоўнасці ўніверсальнага характару, што і знайшло адлюстраванне ў яго кнігах «Тыя, што ідуць» (1993) і «Падары нам дрэва» (1997).

Іншасказальна-сімвалічная апавядальная плынь, філасофская глыбіня думкі, шматпланавасць зместу і іншыя складнікі жанру прыпавесці паслядоўна вытрымліваюцца ў ягоных творах. Што тычыцца лаканічнасці, то гэты паказчык не прасочваецца хіба ў прыпавесці «Тыя, што ідуць». Усе астатнія прыпавесці ў межах традыцыі літаратурнага слова з'яўляюцца творамі лаканічнымі. У той жа час прыпавесці Я. Сіпакова характарызуюцца пэўнай запаволенасцю ў разгортванні дзеяння, сюжэтнай лініі. Магчыма, гэта з'яўляецца адбіткам індывідуальнага стылю аўтара, які імкнецца да падрабязнасці, дэталёвасці, дакладнасці пры стварэнні той ці іншай алегарычнай сітуацыі. Таму часам сустракаецца такі стылістычны прыём, як рэтардацыя. Вось прыклад гэтай фігуры ў прыпавесці «Пажар»:

«Усё адкрыў агонь, усе сялянскія сакрэты і клопаты выдаў, паказаў. Вунь валяюцца чыгункі і каструлі, конаўкі і вёдры, тазы і місы. Лыжкі валяюцца, качэргі і чапёлы валяюцца, клямары, прабоі і крукі валяюцца. Лямпа керасінавая — даўняя-даўняя такая — ляжыць на баку. І цуглі, і падковы ляжаць (як усё роўна і коні тут пагарэлі), нават плуг знайшоў агонь у схованцы, — коней, як бачыце, даўно няма, а вось гэтыя спадарожнікі іхнія яшчэ беражэ руплівы двор» [1, с. 3].

Твор адкрываецца прадметна-эмацыйным апісаннем папялішча (дарэчы, вобраз-сімвал папялішча прысутнічае таксама ў прыпавесці Б. Пятровіча «Я быў...»). Аповед мае зваротную кампазіцыю. Апісальная частка (наступствы пажару) з пункту гледжання сюжэтнай паслядоўнасці мусіла б быць апошняй. Пісьменнік, кіруючыся канкрэтнымі мэтамі, парушае логіку развіцця дзеяння, звяртаецца да прыёму кампазіцыйнай інверсіі. Аўтар адразу канцэнтруе ўвагу чытача на ідэйным ядры прыпавесці, якое змешчана ў гэтай уступнай частцы. У наступным кампазіцыйным адрэзку (падзейны план «да пажару») вызначаецца сэнсавая прычынна-выніковая сувязь, канкрэтызуецца ідэйны змест.

Апошнія радкі апісання, якое можна лічыць разгорнутым, выяўляюць асноўны матыў прыпавесці:

«І вось зацягне пераатлелую зямлю трава; завянуць і выродзяцца вяргіні, якія зараз цвітуць у былым гародчыку, нібыта сіляцца пазначыць, паказаць некаму,

---

[1] Р. Дубашынскі. Канцэпты прыпавесцей Васіля Быкава. «Полымя», 2011, № 6.

дзе стаяла хата; разбурацца ад дажджу і ветру, аплывуць грудаю гліны комін, печ, і тады ніхто, калі не быў раней, не пазнае, не здагадаецца, што тут калісьці радавалася сяліба.

Нават дзве катавіны — дзве каляіны ад колаў — зарастуць, зацягнуцца травою, і па іх не праляскочуць ніводныя калёсы...» [1, с. 4—5].

У творы ставіцца праблема вымірання вёскі. «Усе хаты — адны раней, другія пазней — паўміралі, бо нейкія нягоднікі прызналі іхнюю найпрыгажэйшую вёску неперспектыўнай. Бабка Яснея бачыла, як паміралі ці з'язджалі адсюль людзі, як паміралі, абвальваліся стрэхамі хаты...» [1, с. 5]. Імя бабкі кантрастуе з агульнай карцінай трагедыі. Трагедыйнасць дасягае кульмінацыі ў факце знішчэння пажарам апошняй хаты. «Кажуць, што хату забрала з сабою бабка Яснея... Прыйшла аднойчы апоўначы і забрала хату з сабою — згарэла яна дашчэнту...

Але ж падпаліць хату мог нехта і іншы» [1, с. 5].

Пад «іншым», па ўсёй бачнасці, маецца на ўвазе Хатнічак. Зварот пісьменніка да гэтага фальклорнага вобраза невыпадковы. Хатнік у беларускім фальклоры — «дух хаты, цесна звязаны з уяўленнямі аб продках і гаспадарчым (асабістым) дабрабыце той ці іншай сям'і» [2, с. 528]. А хата ў народнай аксіялогіі з'яўляецца «сімвалам найвялікшай каштоўнасці» [3, с. 527]. Хатнічак, згодна з традыцыйнымі ўяўленнямі, «Памагаў карове, лячыў каня, з дзяцей выганяў лякі» [1, с. 6]. А таксама ваяваў з Лазеннікам (паводле вераванняў — дух, які апякуе лазню, «істота помслівая і агрэсіўная» [4, с. 278]) і ўрэшце выгнаў таго з хаты. Дапамагаў бабцы Яснеі, як засталася яна адна. «А памерла бабка Яснея, і памагаць не стала каму...

Вось тады і засуміўся Хатнічак» [1, с. 5].

Сум Хатнічка — гэта сум і боль тых людзей-вяскоўцаў, якія бачаць, як знікаюць, «выгараюць» іх хаты, як адмірае традыцыйны лад жыцця, што жыве ў іх сэрцах. Гэта людзі, якія ніколі не прымуць іншага, новага, таго, што прыходзіць яму на змену, а назаўжды застануцца ў **сваім**.

Паказальна тое, што сама мова прыпавесці патыхае вясковасцю. Падзеі ўспрымаюцца як перажытыя апавядальнікам-вяскоўцам, хоць ён і не з'яўляецца персанажам твора.

На папялішчы ў прыпавесці Б. Пятровіча «ціха, ды не мёртва» [5, с. 138]. Пасля смерці дзеда застаецца яго ўнук Янусь з маці і сястрычкамі. Яны будуць імкнуцца адбудаваць жыццё. У творы Я. Сіпакова на папялішчы не застаецца нікога. Аднаўляць жыццё няма каму.

Кантрасты, якія стварае ў сваёй прыпавесці Я. Сіпакоў, маюць сімвалічны змест. Глыбокае падтэкставае гучанне набывае супрацьпастаўленне зялёнага колеру травы і чорнага папялішча:

«Усё навокал зелена, і толькі тры квадраты сярод гэтай зеляніны чорныя— там, дзе стаяла хата, хлеў і лазня» [1, с. 4].

Можна меркаваць, што колеравы кантраст утрымлівае антыномію «жыццё— смерць». Наступныя ж радкі твора дазваляюць убачыць у гэтай колеравай апазіцыі дадатковы сэнс і змест:

«Буяе, аж рве зямлю трава, нібыта ёй не церпіцца хутчэй схаваць у зяляніне гэтыя чорныя плямы...

І вось зацягнеператлелую зямлю трава... і тады ніхто, калі не быў раней, не пазнае, не здагадаецца, што тут калісьці радавалася сяліба» [1, с. 4].

Няспынны наступ *новага* выціскае *старое*. Праблема памяці — адна з вызначальных у прыпавесці «Пажар». Таму зразумелы зварот да фальклору, да народных скарбаў, да вытокаў, дзе жыве адвечнае.

Тэма *шляху*, якая вызначае ідэйныя напрамкі твора, цэнтральная ў прыпавесці «Дарога». Апынуўшыся на раздарожжы, чалавек спыняецца перад выбарам: «Дзе воля і дзе няволя наша? Дзе радасць, а дзе засмучэнне? Дзе мы будзем шчаслівыя, а дзе — гаротныя? Дзе нас чакае смерць, а дзе жыццё?» [1, с. 53]. Адказ на гэтыя пытанні можна атрымаць толькі пасля зробленага выбару.

Цікавасць да нязведанага, невядомага (праблема, якую ўздымаў Я. Колас у прыпавесці «Крыніца») з'яўляецца для чалавека натуральнай. І праяўляцца яна можа на самых розных узроўнях. Што знаходзіцца **там**? Герой Я. Сіпакова з характэрным імем — Цікаўны, — назіраючы за шчаслівымі тварамі людзей, якія, па-святочнаму ўбраныя, са спевамі, несупынна рушылі **туды**, вырашыў, што «ён абавязкова мусіць *туды* (тут і далей курсіў у цытатах наш. — ***Р. Д.***) трапіць, як бы цяжка і складана гэта ні было» [1, с. 49]. Бо лічыў, што там рай. Адолеўшы няпросты шлях, ён нарэшце падышоў да мяжы, за якой, на яго думку, гэты рай пачынаецца, дзе ўбачыў жахлівую карціну: «Адразу за варотамі кантрольна-прапускнога пункта дарога абрывалася, і з яе, нібы з ленты транспарцёра, сыпаліся ў прадонне людзі, машыны, гармонікі...» [1, с. 52]. Вельмі блізкая алегарычная сітуацыя апісана В. Быкавым у прыпавесці «Музыка». Герою твора прысніўся сон, у якім ён пачуваўся ў ролі правадыра статку валоў ці бізонаў, якія «маруднаю лавай сунуліся і сунуліся за ім… да краю бездані» [6, с. 162]. «Галоўнае, ён ня мог спыніцца, не спыняўся і статак...» [6, с. 162]. Яшчэ адна паралель з творчасцю В. Быкава звязана з вобразам-сімвалам «сцяны». Адной з перашкод, якую мусіў пераадольваць на шляху да «раю» Цікаўны, была менавіта сцяна. У прыпавесці «Сцяна» В. Быкава герой-вязень змагаўся з каменным мурам і ў выніку яго адолеў. Аднак там, *за сцяной*, яго чакала не воля, а новая «турма».

Намаганні Цікаўнага вярнуцца назад марныя. Па той і па гэты бок сцяны ён, як і вязень з твора В. Быкава, трапляў у рукі няволі.

Не зайздросціць іншым («ён стаяў, глядзеў на ўсе вочы і шчыра зайздросціў людзям, што ехалі па шашы... Яму і самому закарцела ехаць разам з гэтымі людзьмі, разам з імі радавацца, весяліцца і спяваць» [1, с. 48—49]), заставацца самім сабою, крочыць уласным шляхам, цікавіцца, але не спяшацца **туды** — вось некаторыя высновы павучальнага характару, якія можна вывесці з прыпавесці Я. Сіпакова «Дарога».

Падобны ідэйны план актуалізаваны і ў прыпавесці «Наперад, наперад», дзе дапаўняецца новымі адценнямі сэнсу і зместу.

«Наперад! Наперад! Наперад!

Думаць не трэба, нічога вырашаць — таксама не трэба: тыя, што ідуць наперадзе, і думаюць, і вырашаюць за сябе, за цябе і за ўсіх.

Ідзі, як усе, еш, як усе, бо там, наперадзе, куды цябе вядуць, самая лепшая ў свеце трава!

<...>

А ён раптам, нечакана для самога сябе, пачаў думаць сам. І спалохаўся гэтага, і задрыжаў ад страху — а што, калі гэтыя яго думкі пачуе — ці хоць бы здагадаецца пра іх — хто-небудзь з суседзяў, якія вакол яго паспешліва, хапатліва працуюць сківіцамі?!

Жах! Ён вырадак, ён ненармальны, ён не такі, як усе, — ён думае!» [1, с. 31—32].

Няпроста быць не такім, як усе, — сведчыць створаны Я. Сіпаковым алегарычны малюнак бясконцага руху наперад чарвякоў. Той, хто вылучаецца з агульнай плыні, «пачынае думаць», становіцца лішнім, непатрэбным і вынішчаецца суродзічамі (формула «свой — свайго» ўваходзіць у праблемнае кола і прыпавесцей В. Быкава, такіх, як «Пахаджане», «Хвастаты», «Вослік» і інш.).

Колеравы кантраст мае месца і ў дадзеным творы. Прычым, як і ў прыпавесці «Пажар», таксама супрацьпастаўляюцца зялёны і чорны колеры, аднак сутнасны змест гэтай апазіцыі ўжо іншы:

«Навокал толькі і чуваць было шастанне сківіц, шамканне ратоў — яны імгненна пераціралі ўсё, што траплялася на шляху: траву, лісце дрэў і нават маладыя, зялёныя яшчэ парасткі на невысокіх кустах.

Пасля іх заставалася роўная паласа голай, выедзенай амаль да чарнаты зямлі, на якой ужо, каб хто і хацеў, не знайшоў бы ніводнай травінкі, ніводнай жывой пупышкі, гатовай хоць калі-небудзь зазелянець і даць новы парастак» [1, с. 31].

У працытаваных радках можна ўбачыць алюзію на сённяшнюю экалагічную сітуацыю. «Greenpeace» ўсяляк спрабуе ўратаваць «зялёны кавалачак», аднак той па-ранейшаму няшчадна нішчыцца, «выядаецца» людзьмі. Да заклікаў абаронцаў прыроды мала хто прыслухоўваецца, чорная паласа працягвае пашырацца, павялічвацца.

«Сказанае слова не памірае» [1, с. 33] — заўважаецца ў прыпавесці, і з гэтым не выпадае спрачацца. Але ж трэба, каб гэтае слова было пачута і адпаведным чынам успрынята, і не адным, а ўсімі ці хаця б большасцю.

«А ці туды мы ідзём?» — гэты кліч чарвяка, які пачаў думаць, «пачулі, і праз нейкі час ужо ў трох новых месцах тры новыя смельчакі падняліся на высокія травіны і што ёсць сілы крыкнулі:

— А ці туды мы ідзём?

Вадары і на гэты раз нічога не пачулі. А вось тыя, што былі побач, спалохаліся: чакайце, чакайце, дык а чаго ж яны хочуць, куды нас заклікаюць?

А што, калі праз нейкі час гэты кліч пачуюць ужо дзесяткі, а затым і тысячы? А што, калі ўсе павернуцца, памяняюць свой рух — яны ж стопчуць нас, падушаць: тыя, што наперадзе, вядома ж, мацнейшыя за тых, хто апошні. Калі мацнейшыя наперадзе — нам спакайней, а калі ззаду — небяспечней: хто вытрымае іх націск?!» [1, с. 33].

Страх — адна з прычын (але, зразумела, далёка не апошніх), якая не дазваляе вылучыцца. У гэтых радках прасочваецца алюзія на словы Ісуса Хрыста пра апошніх і першых. У пісьменніка яны набываюць адмысловую нюансіроўку. Калі зменіцца напрамак і апошнія-слабейшыя стануць першымі, ці змогуць яны выстаяць пад націскам апошніх-мацнейшых — былых правадыроў?

Вобраз правадыра, актуалізаваны ў Я. Сіпакова, звязвае яго з прыпавесцю В. Быкава «Пахаджане». Закладваючы ў канцэптуальны падмурак твора матыў шляху, В. Быкаў стварае іншасказальную сітуацыю пошуку племем сваёй радзімы. На гэтым шляху ў людзей штораз узнікала ўсё тое ж пытанне-зваротак: «А ці туды мы ідзём?» Аднак змяняліся правадыры, апошнія станавіліся першымі, змяняўся напрамак, а жаданая мэта па-ранейшаму заставалася недасягальнай. «З таго часу племя і ходзіць — з канца ў канец. Пайсьці іншым шляхам яно ня можа, бо ня ведае куды. А гэты замацаваўся ў геннай памяці пакаленьняў. Досьвед няўдач ды пакутаў нічога ня значыць, бо кожнае пакаленьне ўсё пачынае спачатку» [6, с. 85].

У сваёй прыпавесці Я. Сіпакоў робіць цікавы ход. Напрыканцы твора ён «змяняе ракурс», каб «тое, што мы бачылі з сярэдзіны, выпукла і ўзбуйнена, вачыма чарвякоў, убачыць вачыма чалавека» [1, с. 33]. За чарвякамі назіраюць два хлопчыкі — «філосаф» і «практык». Тое, што яны бачаць, змушае аднаго з іх распачаць наступны дыялог:

«— Глядзі, глядзі, куды яны паўзуць, гэтыя малечы?

Адзін малы хлапчук паказваў пальцам сабе пад ногі, дзе тоненькім струменьчыкам паўзлі малюпасенькія чарвякі.

— Куды трэба, туды і паўзуць, — мудра, па-даросламу адказваў яму другі — ужо крыху большы хлопчык.

— У іх жа, вядома, ёсць нейкая мэта, драбнюкі некуды спяшаюцца. Цікава, а ці ўмеюць яны думаць?

— Думаюць толькі людзі, а чарвякі проста жывуць, — вяртаў на зямлю філосафа практык.

— А чаму яны вось гэтых затапталі?

— Кінь ты — затапталі! Слабыя былі, самі здохлі» [1, с. 34—35].

Паказальна, што пытанні задае «філосаф», «практык» толькі адказвае. Аднак тут важна іншае: як пытанні «філосафа», так і адказы «практыка» па-свойму мудрыя і змястоўныя. І ўсё ж, нягледзячы на сваю «даросласць», ні той, ні другі не задаўся адным з вызначальных пытанняў: «Ці туды яны ідуць?» Магчыма, таму твор завяршаецца абзацам, у якім два ракурсы (чарвякоў і людзей) перакрыжоўваюцца, зліваюцца:

«*Хлапчукі* глядзелі на *чарвякоў*, якія ўжо крыху адышліся, і нават не здагадваліся, што вось зараз між *іх* хтосьці, пачаўшы думаць — моўленае слова не памірае, — рашаецца, асмельваецца зноў узлезці на самую высокую травіну і крыкнуць: «А ці туды мы ідзём?!», каб адразу ж упасці разам з ёю пад ногі суродзічам, якія бязлітасна ўтопчуць яго, ужо нежывога, у бруд і свае ж экскрэменты» [1, с. 34].

Некалькі сувязных ліній лучаць асобныя прыпавесці В. Быкава і прыпавесць Я. Сіпакова «Клетка». Адну з іх вызначае агульны для твораў пісьменнікаў вобраз вязня і матывы зняволення і змагання за волю. Другая звязана з тэмай кахання. Вязень чапляецца за надзею, усімі сіламі намагаецца вызваліцца, дзеля таго каб хоць на імгненне сустрэцца з каханай. За сваю ўпартасць і настойлівасць ён «узнагароджаны». Той, Хто Усё Бачыць, ператварыў Сінявока ў птушку і дазволіў яму прыляцець да Любчы. Праўда, хоць сустрэча адбываецца, вынік яе для вязня — яшчэ большыя пакуты.

У прыпавесці В. Быкава «Сцяна» сустрэча з каханай мела для вязня таксама важнае значэнне:

«Цяпер яму б толькі сказаць, што ён кахае яе і ён — ня здраднік. Ён — ахвяра, і няхай яна тое ведае. Каб усё папраўдзе. Каб яна ня думала пра яго інакш — інакш ён не заслугоўвае. Каб ён ведаў, як тое можа абярнуцца, ён быў бы тады інакшы. Быў бы ў сто разоў лепшы. Сьмялейшы. Разумнейшы. І кожны дзень, калі яны былі разам, гаварыў бы ёй, што кахае. Як нікога — ніколі. Калі б тое ведаў. Але ж ня ведаў і не сказаў. І яго дужа гняло несказанае слова.

І цяпер гэтая надзея...» [7, с. 286].

У прыпавесці «Вослік» матыў кахання гучыць як святая любоў героя да Бацькаўшчыны — МАДОННЫ, з-за Якой і за Якую ён мусіць пакутаваць [6, с. 183].

Алегарычныя сітуацыі ў абодвух пісьменнікаў вылучаюцца гранічнай псіхалагічнай завостранасцю і глыбокім зместам. Прыпавесць «Клетка» Я. Сіпакоў, напрыклад, завяршае думкамі-развагамі ў філасофскім рэчышчы, якія ўкладвае ў вусны галоўнага героя:

«Пакуты, пакуты... Вечныя пакуты... Жыве чалавек у пакутах і памірае з імі ж.

<...>

Калі ёсць пакуты, трэба, каб было і выйсце з іх.

Калі ёсць тупік, трэба, каб і сцежка ад яго нарадзілася.

Птушка задумалася. Не зважаючы на дождж, які ліў як з вядра, мокрая і натапыраная, бездапаможная і рашучая, яна думала...

Не будзем і мы замінаць ёй — няхай *думае*...» [1, с. 14].

Звяртае на сябе ўвагу вобраз *птушкі, якая думае*. Аўтар не гаворыць, у якую ўсё ж птушку ператварыўся вязень. У «Версіі «А» Б. Пятровіча думае пугач. І ў святле сімволікі пугача (савы) як птушкі ведаў і мудрасці такі стан думання-разважання для яго натуральны. Такім ён павінен быць для чалавека, бо толькі думаючы, разважаючы, рашуча, але не прымаючы паспешлівых рашэнняў, можна знайсці канкрэтны адказ на пэўнае пытанне, вызначыць шлях вырашэння той ці іншай праблемы. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць прыпавесць Я. Сіпакова «Як спакайней?» Прапанову «чалавека ў форме» ўзяць наган дзеля самаабароны доктар разважліва адхіліў, бо ведаў, што такая зброя ў яго працы не дапаможа. «Для яго людзі дзяліліся не на сяброў і ворагаў, бандытаў і небандытаў, а на хворых і здаровых. Ды і асноўным сэнсам яго працы было лячыць, ратаваць ад смерці чалавека, а не забіваць яго» [1, с. 23]. Доктар застаўся верным сваёй «зброі», якая ў рашаючы момант выратавала і яго ўласнае жыццё.

Гэтая ж ідэя вернасці «свайму» дамінуе і ў прыпавесці «Свой усяму». Герой твора — Бусел[1] — не паляцеў разам з жураўлямі ў вырай. Толькі «ўзняўся высока

---

[1] Ён жа — *дзед* Цыпрук Бусел; метамарфоза, такім чынам, гаворыць пра наяўнасць у прыпавесці фальклорнага элемента, на што звяртала ўвагу крытыка [8, с. 119].

ў неба, дагнаў птушак, правёў іх за небакрай, а потым пакрысе адстаў ад выраю, павярнуўся і стомлена паляцеў назад… Да свае хаты.

Апошні Бусел вяртаўся да апошняй хаты» [1, с. 18].

Усім тэкстам прыпавесці і, у прыватнасці, апошнім сказам, які можна лічыць яе квінтэсенцыяй, пісьменнік чарговы раз сведчыць аб вельмі важным і балючым для яго пытанні — праблеме вымірання вёскі.

У прыпавесці «Гумно» антыномія «Сваё — Чужое» высвечваецца і раскрываецца праз ідэю веры. Людзі ў гумне шчыра працуюць, аддадзеныя сваёй спрадвечнай веры, свайму богу — хлебу.[1] Але няпростая гэта справа — служэнне «свайму»: выстаяць пад націскам «чужога» бывае даволі складана. «Ну што ж, можа, так яно павінна быць заўсёды, — заключае пісьменнік, — свайго бога трэба выпакутаваць, не адрачыся ад яго і тады, калі разам з ім давядзецца ісці нават праз той бязлітасны агонь, які халодзіць кроў…» [1, с. 65]. І яшчэ: «Толькі са сваёю, а не з чужою душою чалавек астаецца чалавекам» [1, с. 64].

Адмысловую алегарычную інтэрпрэтацыю набывае ў прыпавесцях «Яшчэ ў статку» і «Партрэт сонца і мора» матыў *душы і цела*. У першым творы ён звязаны з тэмай кахання (выразным матывам кахання пазначаны таксама прыпавесці «Клетка», «Туман», «Катаванне на стайні» і некаторыя іншыя), у другім — з тэмай мастака і мастацтва. Сонцапас «кахаў Добрыцу і бачыў толькі яе душу — тую, якую яна і сама, можа, не адчувала ў сабе, але якая свяцілася, жыла на самым дне вачэй» [1, с. 20]. Але інтымная блізкасць з дзяўчынай усё перавярнула (метамарфозы самага рознага кшталту — характэрная адзнака прыпавесцей Я. Сіпакова), «разбурыла нешта вельмі і вельмі важнае, дарагое яму… Ён ужо бачыў не адны толькі вочы» [1, с. 20—21]. Ды і яны сталі «зусім іншымі. Ён нешта новае займеў, але нешта і страціў. Яму здавалася зараз, што яна для яго памерла — тая, ранейшая.

А ён для яе нарадзіўся…» [1, с. 22].

Мастаку з прыпавесці «Партрэт сонца і мора» таксама дадзена бачыць далей і глыбей. Увогуле, сувязь паміж творамі і на ўзроўні характарыстык герояў. Мастака ў пэўнай ступені таксама можна назваць «сонцапасам»:

«Сонца падымалася з мора — ён глядзеў, і гэта яму ніколі не надакучала.

Сонца заходзіла ў мора — ён глядзеў, і гэта таксама яго заварожвала, нібыта вось-вось павінна была раскрыцца нейкая таямніца» [1, с. 41].

А вось прыпавесць «Яшчэ ў статку»:

«Яго называлі Сонцапасам, бо ён і сустракаў сонца, калі яно ўзыходзіла, і праводзіў яго ўвечары, калі чырвоны, вялікі і крыху страшнаваты ўжо шар стаяў у канцы зямлі…» [1, с. 19].

Таямніца мастаку адкрылася, аднак рэалізаваць сваю даўнюю мару — напісаць партрэт сонца і мора — ён не здолеў:

«І тады ён пачуў нейкі выразны голас — нібыта нехта плыў да яго з боку мора.

— Ты ўбачыў тое, чаго нельга бачыць людзям. Напішы гэта альбо забудзься зусім. Але калі зможаш напісаць адчутае, звар'яцееш ці памрэш. Памрэш геніем.

Аднак чалавек быў проста баязлівы.

Ён нічога не напісаў, а хуценька выкінуў усё, што ўбачыў, з галавы...

І застаўся жыць. І звычайна, як і раней, працаваць.

Вечным няўдачнікам.

Бо ўся звычайная праца чалавека, як сказаў прапаведнік, для рота яго, а душа гэтым не насычаецца...» [1, с. 43].

---

[1] Тут таксама бачыцца сувязь з традыцыйнай народнай культурай, у якой хлеб «як “Дар Божы” з'яўляецца ўвасабленнем чалавечай (калектыўнай і персанальнай) долі, карыстаецца асаблівай пашанай і выклікае амаль рэлігійнае стаўленне» [9, с. 532].

Здзейсніць заўсёдную мару мастаку не дазволіў страх. Пра гэта гаворыць тэкст твора. Падтэкст жа вымушае шукаць іншыя прычыны, якія не ляжаць на паверхні, навідавоку, а схаваны глыбока. У душы.

Кожны чалавек — гэта асобны свет. І кожны ў залежнасці ад сітуацыі можа насіць тую ці іншую маску, пад якой хаваецца яго сапраўднае аблічча (дарэчы, гэтую праблему закранае ў адной са сваіх прыпавесцей Б. Пятровіч). Што чалавек уяўляе сабой насамрэч, можна ў большай ці меншай ступені зразумець, калі station назіраць за ім незаўважна, збоку, без непасрэднага кантакту.

Герой прыпавесці «Адзін з нас» пасля смерці назірае за сваімі былымі сябрамі, таварышамі і бачыць, што ўсе яны пры ягоным жыцці насілі пэўную маску. Адзін з іх часта заходзіў да яго не дзеля гульні ў шахматы, а каб бавіць час з яго жонкаю; другі, які «ўвесь час лізаў яму рукі,... бог ведае што нясе» [1, с. 78] на яго зараз; дзяўчына, якая, як ён меркаваў па яе паводзінах, яго ненавідзела, насамрэч кахала.

Да гэтай праблемы звяртаецца аўтар і ў прыпавесці «Выгнанне дэманаў», насычанай рэмінісцэнцыямі з Бібліі, нават дакладнымі цытатамі з Евангелля. Словы Бездакорнага нагадваюць пропаведзі Ісуса Хрыста. Але толькі нагадваюць. Калі малады чалавек зрывае з яго маску, мы бачым, што ён ніякі не «бездакорны», а звычайны грэшнік.

Тое, чаго чалавек вельмі прагне, жадае, у выніку можа яго засмуціць, глыбока расчараваць, выклікаць абурэнне, пратэст, нязгоду, страх. Закаханыя Перанег і Святлінка з прыпавесці «Двое для дваіх» хацелі з’ехаць як мага далей ад людзей, ад мітусні, каб правесці свой адпачынак сам-насам. Іхняя мара спраўдзілася: яны адны на бязлюдным востраве. «На мацерыку, у мітусні і заклапочанасці прымітыўных будняў, яны зрэдзь калі сустракаліся, хаваючыся ад людзей і якдзённасці, дарылі сабе кароткае свята, і зноў вярталіся ў будні і мітусню. А вось пра такую радасць закаханыя нават і не марылі» [1, с. 67]. Але радасць была нядоўгай. Праз пэўны час ён і яна пачалі сумаваць па **тым** жыцці, асабліва калі «пайшлі праліўныя дажджы, і на райскім востраве стала вельмі мокра, халодна і няўтульна» [1, с. 68]. Яны не былі падрыхтаваны да *незвычайнага*, да жыцця ў «раі», хоць і вельмі хацелі таго.

І «паплылі шукаць звычайнай зямлі.

Той зямлі, дзе сварацца і злуюцца, злараднічаюць і зайздросцяць, пляткараць і плачуць» [1, с. 70].

Так, досыць цяжка чалавеку прывыкнуць да незвычайнага, а тым больш зразумець яго сутнасць. Герой прыпавесці «Гармонік» ехаў па закінутых вёсках і, не спадзеючыся на поспех, марыў сустрэць сярод пустэчы і глушыні хаця б адну жывую душу. Нарэшце мара стала явай: ён напаткаў чалавека, дзеянні якога, аднак, выклікалі ў яго неўразуменне. Той сядзеў каля кароўніка «…і, не зважаючы ні на што, прыклаўшы галаву да гармоніка, засяроджана іграў» [1, с. 58]. І не проста іграў, а карміў такім чынам кароў. Жаданае не прынесла чалавеку палёгку: незвычайнае выклікала ў яго страх.

І ён «…ужо злаваўся на тое, чым яшчэ нядаўна цешыўся, і прагнуў таго, каля чаго раней праходзіў паблажліва.

І радаваўся таму, чым яшчэ толькі што засмучаўся, і засмучаўся тым, што ўчора… радавала і прыносіла асалоду» [1, с. 61].

Кожны чалавек прыходзіць у свет са сваімі амбіцыямі. І абсалютна натуральнае ў ім жаданне вылучыцца, пераўзысці іншых, паказаць, прадэманстраваць, даказаць, што менавіта ён лепшы. Так нараджаюцца зайздрасць, злосць, наогул, увесь негатыў, які адзін індывід імкнецца выліць на іншага. У прыпавесці «Усё, што па пары» Я. Сіпакоў стварае алегарычную карціну сваркі чалавечых органаў — рук, ног, вачэй, вушэй… Усяму цялеснаму аўтар супрацьпастаўляе *энергію жыцця*, якая «не сварыцца ніколі, бо яна адна» [1, с. 124]. Сварыцца ж толькі тое, што мае пару.

Выключным ідэйна-псіхалагічным кантрастам пазначана прыпавесць «Абсурд». Алегарычная сітуацыя, пададзеная пісьменнікам, на першы погляд сапраўды абсурдная: як можна адначасова ладзіць вяселле і спраўляць хаўтуры? Аднак пастаянныя супрацьлегласці, якімі напоўнена жыццё, часам суіснуюць зусім побач. «Які шматмерны чалавек! У ім суседзяцца гора і радасць, плач і весялосць» [1, с. 128], — гэтыя словы Я. Сіпакова прасякнуты архетыповым зместам. Але ж і ў жыцця ёсць свая супрацьлегласць. Праз увесь твор скразным матывам праходзіць, бы супрацьстаянне, кантраст белага і чорнага колераў. Маладыя спачатку смяяліся на вяселлі, потым плакалі на хаўтурах. «Белая вясельная сукенка рабілася чорнаю, жалобнаю, а затым зноў назвоч бялела» [1, с. 129]. З кожным наступным пераўтварэннем мацней адчуваецца блізкасць фіналу: пастаянная змена «масак» не можа быць бясконцай, павінна застацца толькі адна з іх.

«Вядома, на вяселлі звычайна смяюцца, а маладая, вярнуўшыся аднойчы ад брата, не вынесла бесклапотнага, гучнага смеху гасцей і загаласіла гэтак жа, як маці над труною…

Адразу сціхлі смех і песні, замоўклі людзі, спыніўся гармонік, перастала пілікаць скрыпка, супакоіліся шамкі, знямеў бубен. І ў гэтую хвіліну, мусіць, ніхто б не змог разабрацца, што тут спраўляюць — вяселле ці хаўтуры.

А маладая плакала ўсё гучней, усё адчайней.

Што ж, дзе плачуць, там, канечне, не смяюцца, а дзе смяюцца, там можна часам і паплакаць…» [1, с. 129].

Апошняе, рашаючае слова за чорным. Заключныя словы прыпавесці маюць глыбокі сэнс. Колькі б у жыцці чалавека ні было смеху і весялосці, яно ўсё адно раней ці пазней завершыцца хаўтурным плачам.

У аснове прыпавесці «Перавернуты» народныя ўяўленні аб пераварочванні чалавека ў ваўка. Адчуваецца сувязь з прыпавесцю «Ваўкалак» Я. Баршчэўскага. У абодвух творах метамарфоза адбываецца не па волі чалавека. Гэтаксама як і селянін Марка, герой Я. Сіпакова Бяляй намагаецца дапамагаць, служыць свайму. Аднак тут адно карэннае разыходжанне. Бяляй далучаецца да воўчай зграі, якая ідзе на паляванне ў яго вёску і, больш за тое, выбірае акурат ягоны падворак. Напачатку ён і сапраўды спрабуе ўратаваць сваё. «Убачыўшы, што ваўкі вельмі ж ужо шчыра пярэднімі лапамі выграбаюць зямлю з-пад сцяны, ён абабег свае хлявы, прашчаміўся праз згароду і пачаў знарок шумна, за ўсё чапляючыся, каб нарабіць грукату, бегаць па двары, — а раптам прачнецца жонка, выйдзе з хаты і дапаможа яму ратаваць авечак» [1, с. 137]. Але так было толькі да таго моманту, пакуль ваўкам не ўдалося зрабіць пад сцяною пралаз. «І вось тут і ім апанавала звычайнае пачуццё ваўчынай эйфарыі — ён і сам стрымгалоў кінуўся ў нару, каб як найхутчэй улезці ў свой жа хлеў і далучыцца да агульнага — нядаўна яшчэ чужога яму — азарту» [1, с. 138]. Так чужое стала для Бяляя сваім, а сваё — чужым. Стала, аднак, толькі на пэўны час. Калі ж ён зноў перавярнуўся ў чалавека, то думаў ужо аб помсце.

Такім чынам, прыпавесць Я. Сіпакова сведчыць, што чалавек у звычайным паўсядзённым жыцці можа праходзіць праз бясконцую колькасць ператварэнняў, звязаных з пераходам на бок *чужога* (часам не па сваёй волі) і магчымасцю наступнага вяртання да *свайго*.

Герой прыпавесці «Труба» таксама трапляе пад уплыў чужой волі, прычым настолькі моцны, што вызваліцца з-пад яго, вярнуцца ён ужо не можа. Супрацьпастаўленне-размежаванне свайго і чужога і разам з тым матыў гіпнатычнай улады апошняга падкрэсліваецца з першых сказаў прыпавесці:

«У першыя дні гасцявання на гэтай чужой зямлі яго ўвагу прыцягнула доўгая жалезная труба… Труба палохала сваім змрокам, холадам, глядзець у яе было вусцішна, нават жудавата, але той жа час штосьці моцнае, настойлівае і неадольнае насуперак волі змушала яго згінацца ўсё ніжэй і ніжэй, засоўваць галаву ўсё глыбей і глыбей у трубу…» [10, с. 201—202].

Гэты матыў дамінавання чужой волі высвечвае ідэйна-канцэптуальную сувязь з прыпавесцю В. Быкава «Музыка». Неабходна згадаць, безумоўна, і апавяданне В. Быкава, якое мае такую ж самую назву, што і прыпавесць Я. Сіпакова. І ў гэтым творы труба адным з сваіх сімвалічных планаў выступае ўвасабленнем чужога. Герой В. Быкава гіне ў трубе. Герой Я. Сіпакова вызваляецца, але адразу ж трапляе ў новую «трубу», пад чарговы ўплыў чужога.

Шматзмястоўны вобразны кантраст *цяпла* і *холаду*, які падсвечваецца і ўзмацняецца дыхатаміяй «Вялікае — Малое», з'яўляецца адным са складнікаў алегарычнасці ў прыпавесці «Ледавік і Джунгляня». З героямі, імёны якіх вынесены ў назву твора, адбываецца дзіўнае пераўвасабленне. Выразны сюжэтны і ідэйны падзел на **спачатку** і **потым** выступае характэрнай адзнакай і гэтай прыпавесці. Спачатку вялікі Ледавік, выконваючы дзяржаўнае заданне, вылоўлівае аднаго з маленькіх пігмеяў і вязе таго на караблі з родных цёплых джунгляў у халодную краіну Лядовію. «У звярынцы іхняй Лядовіі, а правільней — у людзінцы… не хапала якраз вось гэтага тыпу пігмеяў — дужа рэдкай, амаль зніклай папуляцыі» [10, с. 190]. Пасля ж, калі, дзякуючы празмернай даверлівасці і чуллівасці веліканна, пігмею ўдаецца перахітрыць яго і вызваліцца, сітуацыя цалкам адваротная. Адбываецца нібы змена роляў. Цяпер ужо Ледавік нявольнік, а маленькае Джунгляня ператвараецца ва ўладара і цягне ахвяру разам з караблём ужо да сябе на радзіму. Бо «ў джунглях таксама вырашылі стварыць свой звярынец-людзінец веліканаў, там абсталёўвалі клеткі і вальеры, а пігмей, які толькі што вызваліўся, цягнуў туды першы экспанат» [10, с. 194].

Праблема адноснасці, ілюзорнасці, няпэўнасці выступае адной з вызначальных у прыпавесці. Далёка не заўсёды вялікае з'яўляецца сапраўды вялікім, а малое — малым. Яшчэ адзін ідэйна-змястоўны ўзровень прыпавесці заключаецца ў перавазе інтэлектуальнай сілы над сілай фізічнай.

Канцэпт «Моцны — Слабы», матыў адноснасці звязваюць гэты твор і з прыпавесцю, якая мае такую ж канцэптуальна-антынамічную назву — «Слабыя і моцныя», а таксама з асобнымі прыпавесцямі В. Быкава («Кошка і мышка», «Пагібель зайца» і некаторымі іншымі).

Прыпавесць «Тыя, што ідуць» завяршае аднайменную кнігу Я. Сіпакова, з'яўляючыся яе пэўным ідэйным падагульненнем. Цэлы шэраг матываў (шляху, руху, пошуку, кахання, вяртання і інш.) акумулюецца ў гэтым творы. Заўважаецца пэўная сувязь прыпавесці са славутым вершам Я. Купалы «А хто там ідзе?» Нельга не адзначыць і падабенства паэтыкі гэтага аповеда і прыпавесці «Пахаджане» В. Быкава. І ў Я. Сіпакова, і ў В. Быкава ідэя руху дамінантная. Агульным для двух твораў выступае і матыў вяртання (з розным сэнсавым акцэнтаваннем). Сімваламі шляху «тых, што ідуць» з'яўляюцца Мудрасць і Прыгажосць. Аднак казаць так у дачыненні да «пахаджан» не выпадае. Для племені з прыпавесці В. Быкава не ўласцівыя тыя яднанне, згода, зладжанасць дзеянняў, якія вызначаюць хаду людзей у творы Я. Сіпакова.

У прыпавесці звяртае на сябе ўвагу вобраз чалавека, які імкнецца далучыцца да руху народа. Аўтар дае яму цэлы шэраг імён-характарыстык: Чужы, Незнаёмы, Выпадковы, Вандроўнік, Падарожнік і інш. Яго сапраўды напачатку не прымаюць за свайго, і гэтаму ёсць пэўнае тлумачэнне: чалавек быў відушчы, ён мог гаварыць і чуць, людзі ж з грамады былі сляпыя, глухія і нямыя. За свайго яго прызналі толькі тады, калі яны пераканаліся, што прыйшоў ён да іх са шчырымі і добрымі намерамі, з непадробным жаданнем спасцігнуць «вялікую ідэю» [1, с. 174].

Паэтычныя асаблівасці — наяўнасць у творы двух вымярэнняў[1], двух паралельных светаў. У сваім жыцці, сведчыць прыпавесць, людзі заклапочаны звы-

---

[1] Суаднесенасць-супрацьпастаўленне двух вымярэнняў — зямнога жыцця і жыцця пасля смерці, чалавечай прыроды і існасці Боскай — характэрна і для прыпавесці «Адзін з нас».

чайнымі, будзённымі справамі, якія для іх з'яўляюцца звыклымі, але насамрэч маюць дробязнае значэнне ў параўнанні з іншым, велічным і значным, з тым, што можна назваць Ісцінай. Таму герой твора, знаходзячыся ў *гэтым* свеце, адчуваючы, «што *там* неўзабаве яму дадуць нешта вельмі важнае і сур'ёзнае» [1, с. 174], намагаецца вырвацца з ланцугоў звыклага, паўсядзённага і хутчэй патрапіць у свет незвычайнага.

Гаворачы пра іншыя адзнакі паэтыкі прыпавесці, звернем увагу на тое, што перспектыва з'яўляецца як знешняй, так і ўнутранай. З аднаго боку, гісторыю апавядае назіральнік, які не ўключаны ў сюжэтнае дзеянне твора. З другога, у асобных момантах заўважаецца адлюстраванне падзей вачыма галоўнага героя, прычым унутраны пункт гледжання ў многім звязаны з частым ужываннем пісьменнікам няўласна-простай мовы (выключна ўнутранай перспектывай пазначана прыпавесць «Гармонік»).

Сярод кампазіцыйных форм маўлення ў асобных прыпавесцях Я. Сіпакова вылучаюцца апісанні і характарыстыкі, якія з'яўляюцца элементамі як знешняй, так і ўнутранай кампазіцыі, бо неабходныя для спасціжэння чытачом ідэйнага зместу твораў. Часам пісьменніку дастаткова некалькіх штрыхоў, каб стварыць адпаведную прыпавесційную атмасферу (прыпавесці «Клетка», «Труба», «Кат», «Заложнік», «Гумно» і інш.), іншым разам ён звяртаецца да больш разгорнутых, падрабязных апісанняў і характарыстык («Пажар», «Дарога», «Заміра», «Тыя, што ідуць» і інш.).

У прыпавесці «Як спакайней?» галоўны персанаж характарызуецца ў асноўным праз дыялог, праз уласныя думкі і паводзіны. Часам словы героя не выяўляюць яго сапраўднае аблічча. Выказванні, прамовы, дзеянні Бездакорнага ў прыпавесці «Выгнанне дэманаў» ствараюць зманлівае ўражанне пра яго як пра сапраўды бездакорнага, беззаганнага, у той час як канцоўка твора сведчыць пра адваротнае. Наогул, характарыстыка героя (герояў) той ці іншай прыпавесці адбываецца на працягу ўсяго аповеда, яна ўдакладняецца, пашыраецца, ускладняецца. У сувязі з гэтым трапным падаецца выказванне Д. Благога, які адзначаў, што «элементы, якія абмалёўваюць характар героя альбо герояў… твора, звычайна рассеяны па ўсім гэтым творы ці, прынамсі, змешчаны ў некалькіх яго месцах [11, слп. 1061].

Прыпавесці Я. Сіпакова кампазіцыйна ў многім падобныя адна да адной. Амаль кожная з іх пачынаецца ўступам-зачынам, які можа складацца як са сказа (некалькіх сказаў), так і з аднаго слова. Часам ён нясе значную сэнсава-змястоўную нагрузку. Напрыклад, ужо самой фразай-зачынам «Усе яны — ахвяры, і толькі адзін застанецца жыць» [1, с. 90] («Перад гільяцінай») пісьменнік стварае напружанне сітуацыі і пэўным чынам рыхтуе чытача да фіналу. Па сутнасці, у кожным творы прысутнічаюць такія складнікі кампазіцыі сюжэта, як развіццё дзеяння, кульмінацыя, развязка. Заканчвае Я. Сіпакоў свае прыпавесці звычайна высновамі філасофскага парадку.

Канфлікт амаль заўсёды з'яўляецца завостраным. У асноўным гэта барацьба двух супрацьлеглых пачаткаў, прычым з выразна акрэсленай псіхалагічнай дамінантай. У асобных творах канфлікт правідэнцыйны, калі герой супрацьстаіць вышэйшай сіле, лёсу, напрыклад, у прыпавесці «Клетка».

Вобразамі-персанажамі часцей за ўсё выступаюць людзі. Часам аўтар не дае імёнаў, а абмяжоўваецца займеннікамі і агульнымі словамі. Часта фігуруюць імёны-характарыстыкі (Сонцапас, Любча, Белабог, Ледавік, Ірвідуб і інш.), а таксама спалучэнне «той, хто (што)» і вытворныя ад яго словаформы.

Сярод тропаў найбольшае прадстаўніцтва мае <u>параўнанне</u>: *«Белыя пушыстыя валасы… свяціліся і праменілі, нібы німб»* («Тыя, што ідуць»); *«Вялікае, нібы хмары, маўчанне»* («Тыя, што ідуць»); *«Самалёты, як куры, моклі на зямлі»* («На Маналы»); *«Спакойная, як шкло, паверхня»* («Ледавік і Джунгляня»); *«Пругкія, быццам рыбіны, хвалі»* («Партрэт сонца і мора»). Даволі часта сустракаюцца

эпітэты: *раніца ядраная* («Свой усяму»); *пяшчотная-пяшчотная хваля* («Клетка»); *паліняла-жоўты і той жа час сакавіты, зялёна-магнолісты поўдзень* («Партрэт сонца і мора»); *нямыя, мёртвыя вёскі* («Гармонік»); *ціхая надзея* («На Маналы») і інш. Прысутнічаюць таксама ўласна метафары і метафарычныя выразы: *«Даўжэй за ўсё іх трывожыла вялікае, жоўтае і, здавалася, злавеснае вока… — сонца»* («Двое для дваіх»); *каменны мяшок [яма]* (прыпавесць «Яма»); *людскі мурашнік* («Адзін з нас»); *прастрэленая навылёт свядомасць* («Як спакайней?») і інш. Знаходзім у творах цікавыя прыклады аксюмарану: *бязлітасны агонь, які халодзіць кроў* («Гумно»); *«Труба здавалася дужа вузкай, але ў ёй было чамусьці прасторна і вельмі ўтульна»* («Адзін з нас»). Калі-нікалі аўтар уключае ў тэкст прыпавесцей такія тропы, як гіпербала, літота, іронія, перыфраза. Спалучэнне ў адным сказе гіпербалы і літоты (прыпавесць «Адзін з нас») дазволіла Я. Сіпакову стварыць адмысловае супрацьпастаўленне: *«Які ж вялікі і неабдымны стаў ён і які маленькі зрабіўся свет…»*. У асобных творах дзеля большай выразнасці і ўзмацнення той ці іншай характарыстыкі ўжыты ідыёмы: *дождж ліў як з вядра* («Клетка»); *пакрывіць душою* («Лета з мятлушкай»); *вадою не разліць* («Гумно»); *несці свой крыж* («Зона») і інш.

Што тычыцца сінтаксічных фігур, прыпавесці багатыя на антытэзы, паралелізмы, рэтардацыі, ампліфікацыі, паўторы. Маюць месца ў іх асноўныя віды рытарычных фігур — рытарычны вокліч, рытарычнае пытанне і рытарычны зваротак.

Прыпавесці Я. Сіпакова — адметная з'ява ў беларускай літаратуры. Захоўваючы асноўныя адзнакі жанру, пісьменнік дадае ў іх свежыя фарбы, якія арганічна ўплецены ў тэкст і не парушаюць структурна-марфалагічнае адзінства твораў. Прыпавесці аўтара вылучаюцца выразнымі колеравымі, ідэйна-псіхалагічнымі кантрастамі. Параўнальны аналіз прыпавесцей Я. Сіпакова паміж сабой і з творамі іншых пісьменнікаў дазваляе гаварыць пра ключавыя пазіцыі канцэптаў «Свой — Чужы», «Старое — Новае», «Тут — Там» у ідэйным ядры твораў, а таксама пра іх актуальнасць для жанру прыпавесці наогул. Наяўнасць у асобных прыпавесцях фальклорных элементаў чарговы раз сведчыць пра непарыўную сувязь і пераемнасць традыцый вуснага і пісьмовага слова.

**Літаратура**

1. Сіпакоў, Я. Тыя, што ідуць: кніга прытчаў / Я. Сіпакоў. — Мінск: Маст. літ., 1993. — 175 с.

2. Лобач, У. Хатнік / У. Лобач // Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. — Мінск: Беларусь, 2004. — С. 528—530.

3. Валодзіна, Т. Хата / Т. Валодзіна // Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. — Мінск: Беларусь, 2004. — С. 527—528.

4. Лобач, У. Лазнік / У. Лобач // Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. — Мінск : Беларусь, 2004. — С. 277.

5. Пятровіч, Б. Сон між пачвар: апавяданні / Б. Пятровіч; прадм. У. Рубанава. — Мінск : Маст. літ., 1994. — 222 с.

6. Быкаў, В. Пахаджане: прыпавесьці / В. Быкаў. — Вільня : Наша Ніва, 1999—2000. — 192 с.

7. Быкаў, В. Поўны збор твораў: у 14 т. / В. Быкаў; прадм. А. Пашкевіча. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменьнікаў; М.: ТАА «Выдавецтва «Время», 2005. — Т. 1.: Аповесьці, апавяданьні і прыпавесьці 90-х і 2000-х гадоў. — 656 с.

8. Страшэўская, Н. Свой усяму / Н. Страшэўская // Першацвет. — 1994. — № 1. — С. 116—120.

9. Лобач, У. Хлеб / У. Лобач // Беларуская міфалогія : энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. — Мінск: Беларусь, 2004. — С. 532—533.

10. Сіпакоў, Я. Падары нам дрэва: Аповесць. Прытчы і метафары / Я. Сіпакоў. — Мінск : Юнацтва, 1997. — 239 с.

11. Благой, Д. Характеристика / Д. Благой // Литературная энциклопедия. Словарь литературных терминов: в 2 т. / под ред. Н. Бродского, А. Лаврецкого, Э. Лукина [и др.]. — М.; Л.: «Френкель», 1925. — Т. 2. — 1925. — Стлб. 1059—1064.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 лістапада 2010 г.

**Раман Дубашынскі**

**Ідэйнае ядро і паэтыка прыпавесцей Янкі Сіпакова**

**Рэзюмэ**

Аўтар артыкула звяртаецца да аналізу прыпавесцей Янкі Сіпакова. У цэнтры ўвагі даследчыка знаходзяцца як асаблівасці паэтыкі твораў, так і іх сэнсавазмястоўнае напаўненне. Прасочваецца сувязь прыпавесцей Я. Сіпакова з творамі іншых пісьменнікаў.

**Roman Dubashynski**

**Idea core and poetics of Yanka Sipakou’s parables**

**The Summary**

The author of this article turns to the analysis of Yanka Sipakou’s parables. Both peculiarities of works poetics and their sense-substantial fill are at the centre of the researcher’s attention. The connection of Y. Sipakou’s parables with ones of other writers has been traced.

T

Тамара НУЖДЗІНА

# «ШЧАСЛІВЫ ЛЁС ПЛАЦІЦЬ ЛЮБОЎЮ...»

Даўно прайшоў-прамільгнуў той час, калі я ўпершыню ўбачыла, пачула Ніла Сымонавіча Гілевіча. І, вядома, найперш успрыняла яго як выкладчыка. Высокі, прыгожы, з нейкай па асобаму далікатна-прытоенай усмешкай, з вельмі характэрным голасам і ўменнем па-мастацку, таленавіта чытаць на памяць. Знаёмства з яго паэзіяй адбылося пазней. І тады, на пачатку студэнцкага быцця, і гадоў праз пяць пасля заканчэння БДУ (сама набыла такі-сякі выкладчыцкі вопыт), калі стала аспіранткай Д. Бугаёва і даводзілася сустракацца на кафедры беларускай літаратуры, ніколі не думалася пра тое, што наступіць некалі такая часіна, калі ў арбіту быцця Педагога, Паэта, Вучонага нейкім чынам уключыцца і мая досыць сціплая асоба. Нават і блізка не было таго адчування, што можна будзе набраць хатні нумар Ніла Сымонавіча, пачуць яго крыху перарывістае «слухаю», а пасля гаварыць пра літаратуру, час, пра творы і творцаў. І хоць даўно была падаравана ім візітоўка, але наўрад ці адважылася б пазваніць. Напэўна, сам лёс распарадзіўся, каб пісьменнік пачуў маё выступленне на радыё са словамі ўдзячнасці выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры, і Н. Гілевічу ў тым ліку. Вось тады і прыйшоў на рабочы адрас той ліст, які даў магчымасць званіць, пытацца, дзяліцца ўражаннямі, думкамі.

Так ужо здарылася, што ў сучаснай культурна-творчай, навуковай прасторы краіны многія літаратурна-мастацкія з'явы не знаходзяць свайго належнага асэнсавання. Нагадаем, што не сталі аб'ектам сапраўднай увагі і крытыкаў, і навукоўцаў і многія творчыя набыткі Н. Гілевіча, сярод якіх раман у вершах «Родныя дзеці» (1984), лірычны раман «І плямы на табе няма» (2003), паэтычныя зборнікі «Паланез Агінскага» (2002), «На флейце самоты» (2004) «Сказ пра залатое пёрка» (2005), «У ноч на Пакровы» (2008) і інш. А яшчэ — такія ўнікальныя рэчы, як «Перажыўшы вайну» (1988) і «Між роспаччу і надзеяй» (2008). У першым выпадку — гэта, па аўтарскім вызначэнні жанравай прыроды, аповесць у абразках памяці, у другім — абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары. У абодвух выданнях пісьменнікам абазначана як дамінантна-сутнасная ў яго жыццёвым і творчым лёсе з'ява далучанасці да народна-песеннай культуры з часоў далёкага маленства. Зрэшты, у аповесці «Перажыўшы вайну» аўтар прызнаецца, што яго знаёмства з несмяротнай народнай паэзіяй «*пачалося, у поўным сэнсе слова, з калыскі*», паколькі ён, як і многія з яго пакалення літаратараў, «*нарадзіўся і вырастаў у атачэнні магутнай стыхіі народна-паэтычнай творчасці, на ўлонні паэзіі старажытных свят і абрадаў, у чароўным свеце народных песень і казак, легенд і паданняў, прымхліц і бываліц, замоў і загадак, прыказак і прыгаворак, прыкмет і павер'яў*».

Згадаем, што 1 лютага 1960 года Н. Гілевіч стаў выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры БДУ. Выпадак паспрыяў, ці «*лёс пайшоў насустрач*», але маладому выкладчыку выпала чытаць курс вусна-паэтычнай народнай творчасці. І гэта пры тым, што нядаўні аспірант да такога павароту, вядома, не быў гатовы. І тэма дысертацыі, і лекцыі па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры,


*Ніл Гілевіч.*

якія, па просьбе свайго навуковага кіраўніка М. Ларчанкі, чытаў студэнтам-завочнікам аддзялення журналістыкі, — ніштo тады не прадказвала, што менавіта фальклор так істотна паўплывае на яго выкладчыцка-педагагічную, навуковую і культурна-мастацкую дзейнасць. Вяртаючыся душой і памяццю ў тыя шчасліва памятныя гады, цяпер, з вышыні пройдзенага і набытага, прыгадае, што тады, паўстагоддзя назад, Гасподзь Бог быў «*у тую часіну надта ласкавы, калі гэткую зрабіў у маім лёсе карэктыроўку — на 25 гадоў прывязаў мяне як выкладчыка і даследчыка-навукоўца да фальклору. <...>. Гэта быў шчаслівы выбар лёсу, ці, скажу інакш, — жыццядайны падарунак Усявышняга, яго неацэнная ўзнагарода авансам, у прадбачанні (на тое і Бог!), што гэты аванс я пастараюся, колькі хопіць сілы, адрабіць*».

Мастацка-біяграфічная проза Н. Гілевіча («Перажыўшы вайну», «Разумная дзевачка»), яго дакументальна-дзённікавыя набыткі («Між роспаччу і надзеяй», «Запісы. З дзённікаў розных гадоў») наводзяць на роздум аб тым, якой загадцы прыроды, геаграфіі мясцовасці, генетычнай спадчыне, волі Усявышняга або яшчэ якому гаранту надзвычайных здольнасцей абавязаны чалавек, душа якога аказалася запраграмаванай на пажыццёвае служэнне фальклору. І найперш народнай песні, яе хараству. У тым , што з вялікай сям'і Гілевічаў (з дзесяці народжаных дзяцей выжылі-выраслі восем), выпаў лёс быць абаронцам роднай песні, яе захопленым вучнем, руплівым збіральнікам і асвечаным вялікімі ведамі вучоным-фалькларыстам, бачыцца асобы знак.

Нават само з'яўленне на свет, здаецца, нясе пячатку прадвызначанасці: «*Нарадзіўся я 30 верасня 1931 года, дажджлівым вечарам, у дарозе, побліз вёскі Лагаза — кіламетраў за шэсць ад роднай Слабады і за столькі ж ад Лагойска, куды вёз маму на падводзе яе дваюрадны брат Ліксандр Давідовіч*». Пакуль прыйшла дапамога, маці сама прыняла ў сябе роды, а Усявышні ахрысціў сцюдзёным асеннім дажджом немаўля на доўгую дарогу жыцця і творчасці, радасці і выпрабавання. Магчыма, праявы той боскай наканаванасці азваліся ў назве і змесце першага паэтычнага зборніка Н. Гілевіча «Песня ў дарогу» (1957). Паказальна і тое, што з дзевяці рэцэнзій, водгукаў на кнігу іх аўтары ў шасці назвах выкарысталі слова «песня», абазначыўшы такім чынам яго ключавое значэнне.

Многае ў лёсе пісьменніка і навукоўца Н. Гілевіча ўбачыцца па-новаму, убачыцца ярка, выяўна, калі кіравацца пэўнымі філасофскімі высновамі. Сапраўды, нічога ў свеце не знікае бясследна. Многае, да канца не праяўленае ў сваім часе, не здзейсненае ў справах, не замацаванае ў друкаваным слове, нагадае калі-небудзь пра сябе. Абавязкова нагадае. На новым вітку чалавечага быцця.

Іначай, як абранасцю, не вытлумачым той факт, што менавіта ён атрымаў у спадчыну ўнікальны прыродны дар дзеда (з боку маці) Мікалая Давыдавіча Рулькевіча, «*знакамітага на ўсю ваколіцу музыкі*». Адзін з раздзелаў аповесці «Перажыўшы вайну» («Шчаслівы абдзіртус») якраз і расказвае пра неймаверную «*хэнць да музыкі*» падлетка Н. Гілевіча, якому ў страшэнна галодныя і халодныя

першыя пасляваенныя гады нічога «*так не хацелася, як навучыцца граць на гармоніку і набыць гэты музычны інструмент сабе ва ўласнасць, каб мог у любую хвіліну ўзяць у рукі і «адвесці душу», як-то кажуць*». Пісьменніку ўдалося перадаць трымклівае адчуванне вялікага шчасця, калі «*разы са два*» патрымаў у руках нямецкі губны гармонік, калі адшукаў спосабы задобрыць вясковага музыку-інваліда дзядзьку Матвеіча, каб атрымаць дазвол пайграць на яго старэнькай «хромцы» з дзіравымі мяхамі. А калі ж надарылася магчымасць на грошы, што нейк «наскрэбла» маці, каб сын прыдбаў такое-сякое адзенне ды абутак, 15-гадовы падлетак купляе акардэон, ведаючы, што дома будзе скандал, што сапраўды, як дакляравала маці, «*абдзіртус будзе свяціць голым задам цэлы год. І ў школе і на вуліцы*». Вось так у асабістым выказаў аўтар сваё бачанне і разуменне агульназначнага: абкрадзенае вайной дзяцінства імкнулася такім чынам узняцца над побытавай будзённасцю. І ў гэтым немалую ролю адыграў талент дзеда Мікалая знаходзіць прыгожае ў свеце, талент тварыць хараство. Ён быў выдатным садоўнікам, агароднікам, пчаляром, кветкаводам, галубятнікам. У акупацыйны час запатрабаваным аказаўся яго дар варажбіта. Складна «вязаўся» дзедам у час «сеанса» чыйсьці невядомы лёс, давалася надзея, за што ад мужчын-вяскоўцаў і «тытул» адпаведны займеў — «*выдумляка і манюка*». І толькі праз гады зразумее значэнне тых дзедаўскіх «казак» для вясковых кабет яго абазнаны ў навуцы і творчасці ўнук: «*Зразумеў і падумаў: ну, а яго ўнук у сваіх лірычна-рамантычных мроях — хіба не такі ж самы «выдумляка і манюка»?*».

Чуйнасць паэта і навукоўца, фалькларыста, празаіка, публіцыста і драматурга Н. Гілевіча да народнага слова, да стыхіі гутарковай мовы таксама перадалася ад таго «*несусветнага выдумлякі*». Паслухаеш наступнае, скажам, выказванне пісьменніка і зразумееш, адкуль жа прыйшоў той смак народнага слова, а за ім — і неардынарнасць паэтычнага вобраза: «*Я ніколі, напрыклад, не чуў, каб ён сказаў «ідзе» або «пайшоў». У залежнасці ад таго, хто канкрэтна ідзе або пайшоў, дзед гаварыў: «Некуды Цыцуіш дыбае...» — «Куды ж гэта Кіндзё пачыкільгаў?..» — «Вунь ужо і Мырса шкандыбае на аселіцу...» — «Шаптуха пасунулася некуды — ці не да Гэраца?..» Дарэчы, і Цыцуіш, і Кіндзё, і Мырса, і Гэрац, і Шаптуха — гэта не прозвішчы, гэта мянушкі, якія ён жа гэтым людзям і прышпіліў, і карыстацца якімі яму было прыдатней, чым сапраўднымі імёнамі. Але ж і ўся вёска падхоплівала іх і перадавала наступным пакаленням*».

Мабыць, зусім невыпадкова на пачатку XXI стагоддзя (2002) у апавяданні «Насцін суд» вясковаму конюху, адзінаму на ўсю пасляваенную вёску нестараму мужчыну, пісьменнік «удружыў» прыдуманую дзедам мянушку Мырса. Настроены на мелодыю народнага слоўца, на яго глыбінную сутнасць, змястоўнасць, Н. Гілевіч замацаваў назаўсёды ў літаратурным вобразе той моўны шэдэўр, які стаўся вельмі прыдатным для ўвасаблення чагосьці таемнага, брыдкага (з дарослага жыцця), што вынесла на паверхню вайна і з чым упершыню сутыкнулася чыстая душа дзяўчынкі-падлетка.

Нельга не паверыць пісьменніку, калі ён, расказваючы пра свае першыя лекцыі па фальклоры, зноў перажывае хвіліны высокай эмацыянальнай узрушанасці, абумоўленыя непасрэдным асэнсаваннем вобразна-эстэтычнага зместу і філасофскай глыбіні народных скарбаў: «*Колькі адкрываў для сябе паэтычных цудаў <...>! А якія ўзоры дасціпнасці, іранічнай і саркастычнай з'едлівасці, якія фантастычныя гратэскі і неверагодныя гіпербалы, якія асляпляльныя феерверкі мудраслоўя!*» У гэтай шчасліва ўзрыўной стыхіі пачуццяў маладога выкладчыка праявілася не толькі яго філалагічная дасведчанасць (закончана аспірантура, чакалася абарона дысертацыі), але і даўняя — дзіцячая — зачараванасць народнай песняй, улюбёнасць у дасціпнае, жывое слова. У працэсе работы з фальклорнымі крыніцамі і тэарэтычнай літаратурай выкладчык Н. Гілевіч адкрые для сябе «*сусветна-маштабныя і ў той жа час нацыянальна самабытныя формулы народнай філасофіі і маралі*».

Якраз у тую пару і пачало нараджацца разуменне лёсавызначальнай сутнасці справы, якой наканавана было заняцца на пачатку педагагічнага шляху. Першыя лекцыі па вуснай народнай творчасці прымусілі задумацца і над выбарам адпаведных адукацыйна-педагагічных методык. Пераканаўся, што найбольш выніковым з'яўляецца не столькі навукова-інфармацыйны, колькі эмацыйна-размоўны стыль падачы матэрыялу. Выснова аб тым, што «*інфармацыі — мора-акіян, усю яе, як ні старайся, не падасі, студэнты будуць здабываць яе самі, калі іх запаліць, захапіць і прывабіць радасцю пазнання Вялікай Паэзіі, Красы і Сілы Роднага Слова*», не страціла сваёй слушнасці і ў наш час. За чвэрць веку выкладчыцкай дзейнасці Н. Гілевіч пераканаўся ў абсалютнай перспектыўнасці абранай ім, як бы сёння сказалі, адукацыйнай тэхналогіі.

І як выкладчык, і як даследчык фальклору Н. Гілевіч і зараз па-ранейшаму перакананы, што толькі жывая, нязмушаная размова (без залішняй апеляцыі да навуковай тэрміналогіі і акадэмічнага стылю выкладання матэрыялу) садзейнічае абуджэнню цікавасці аўдыторыі да прадмета размовы. Нездарма ж першая частка 20-га тома Збору твораў пісьменніка, прысвечанага фалькларыстыцы, мае назву «Гутаркі пра апавядальныя і мудраслоўныя жанры беларускага фальклору». Чытаюцца гэтыя гутаркі (усяго іх шэсць) на адным дыханні — бо цікава, змястоўна, часам займальна, з выдатным пачуццём гумару і густоўна падабранымі тэкстуальнымі прыкладамі, а таксама дасціпнымі каментарыямі, як тое зроблена, напрыклад, у дачыненні да беларускіх народных анекдотаў, у якіх *«сабраны беларускі народны смех»*. Дадасць пры гэтым, што смех у народзе вечны і незнішчальны, хоць камусьці зусім не пад густ непераможны смех беларуса: *«Ёсць, праўда, людзі, якія хацелі б ссыпаць увесь чыста смех у адзін мяшок (смех у мех) і спаліць або скінуць у мора — так яны яго не любяць і баяцца. Толькі дзе ж ты смех ліквідуеш? Каб знішчыць смех, трэба знішчыць жыццё на зямлі, а гэта нікому не пад сілу»*.

Студэнтам, вядома, імпанавала атмасфера нязмушанасці і асобай далучанасці да святла народнага слова, народнай паэзіі, што панавала на лекцыйных і практычных занятках выкладчыка. Выкладчыка, які даваў неймаверную на той час магчымасць пачуць голас вядомага ў Еўропе спевака беларускіх народных песень М. Забэйды-Суміцкага. Выкладчыка, які і сам мог нечакана для студэнтаў хораша заспяваць, а потым і нам прапанаваць наспяваць што-небудзь з народных здабыткаў сваёй мясцовасці.

Пэўны штрых у аблічча Гілевіча-выкладчыка дадае і тая нечаканая для нас, першакурснікаў, сітуацыя, што ўзнікла ў далёкую вераснёўскую раніцу, калі чакалі першую ў сваім студэнцкім жыцці лекцыю. Лекцыю па фальклоры. Яшчэ не паспеў замоўкнуць званок, як у аўдыторыю імкліва ўвайшоў высокі малады чалавек. Чамусьці ў плашчы. Для большай імпазантнасці? З папкай і капелюшом у руках. Дружна падняліся студэнты, вітаючы таго, хто шпарка падаўся за кафедру, раскладваючы там нейкія паперы. Якое ж было здзіўленне, калі праз хвіліну паявіўся яшчэ адзін лектар, што прымусіла маладога чалавека вызваліць месца сапраўднаму выкладчыку, які па-добраму, мякка ўсміхнуўшыся, сказаў: «Ну што, купіліся на жарт?» Жартаўнік, як выявілася, быў Жора-другакурснік. І гэта было асабліва крыўдна: няхай бы хто з «дарослых курсаў», а то — сам учарашні першакурснік! Потым даведаліся, што падобная з'ява-розыгрыш рабілася толькі на лекцыі Н. Гілевіча і паспела стаць філфакаўскай традыцыяй. Думаецца, было ў гэтым выяўленне павагі і асобай прыязнасці да выкладчыка тых, хто з яго дапамогай дакрануўся душой да вялікай духоўнай спадчыны, адчуў яе значнасць, яе хараство.

Далучэнне да духоўна-культурнай спадчыны народа на ўзроўні навукова-тэарэтычнага асэнсавання стала для Н. Гілевіча «*незаменнай школай*», дзе развіваўся, гартаваўся яго талент даследчыка вуснай народнай творчасці і паэта,

які прыпаў і прырос да яе душой, думамі і памкненнямі. Цікавасць, захапленне фальклорнай спадчынай, прафесійны занятак выкладчыка — усё стала адной сутнасцю, імя якой — лёс.

Сапраўды, відаць, знаў Усявышні, каго абраць надзейным і дбайным рупліўцам-працаўніком на ніве беларускай народнай паэзіі. Прынамсі, паэтычны свет народнай лірыкі прымусіў пісьменніка ўсур'ёз і надоўга заняцца фалькларыстыкай. Возьмем, напрыклад, 60-я гады: на рахунку творцы восем паэтычных зборнікаў, манаграфія «Акрыленая рэвалюцыяй», абарона кандыдацкай дысертацыі і дзве работы па фальклоры — «Наша родная песня» (1968) і «З клопатам пра песні народа» (1970). У 1975 годзе выйдзе з друку і знойдзе свайго чытача новая кніга Н. Гілевіча — «Паэтыка беларускай народнай лірыкі». Асабістыя паэтычныя набыткі, выкладчыцкі і даследчыцкі вопыт самым грунтоўным чынам праявіліся ў кнізе. Увага аўтара засяроджана на выяўленні мастацкай непаўторнасці, эстэтычнай змястоўнасці вобразнай стылістыкі народнай песні, яе філасофскай глыбіні, досціпу, мудрасці.

Без сур'ёзнага вывучэння такіх работ Н. Гілевіча, як «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Паэтыка беларускіх загадак» і інш. наўрад ці магчыма спасцігнуць маштабнасць, мастацкую прастату і дасканаласць вобразнай карціны свету ў лірычных творах паэта, а разам убачыць працяг народнай традыцыі вобразатворчасці. Аб тым, які рэзананс у навуковым, чытацкім асяроддзі мелі тады і наколькі запатрабаваныя сёння работы па фальклоры Н. Гілевіча, вось што сказала пісьменніца і літаратуразнаўца В. Коўтун: «*Бадай і на дзень сённяшні <...> навуковыя даробкі Гілевіча з'яўляюцца актуальнымі, запатрабаванымі шырокім колам чытачоў, непераўзыдзенымі. Прызнаюся: менавіта тады адной з чытачак знакамітых Гілевічавых даследаванняў фальклору сталася і я, параўноўваючы высокі ўзровень творчай і навуковай думкі беларускага вучонага хіба з набыткам слыннага ўкраінскага вучонага Аляксея Дэя*».

Да ўсяго трэба дадаць яшчэ адзін штрых у біяграфію Гілевіча-паэта, Гілевіча-выкладчыка, Гілевіча-навукоўца. Шмат часу ён аддаваў арганізацыі студэнцкай аўдыторыі на збор і сістэматызацыю фальклорных матэрыялаў. З розных куткоў Беларусі прывозілі студэнты-філолагі запісаныя імі творы народна-песеннай культуры сваёй мясцовасці. Былі, відаць, і асабістыя, і сумесна са студэнтамі фальклорныя экспедыцыі ў пэўныя рэгіёны. Пра тое, якія сустрэчы-нечаканкі здараліся ў час такіх вандровак, на высокай ноце пражытых шчаслівых хвілін раскажа лірычны герой — выкладчык-фалькларыст — у паэме «А дзе ж тая крынічанька?» Здаецца, слова «раскажа» не зусім тут да месца: хутчэй — праспявае. На сюжэтна-эпічную плынь твора таленавіта накладваецца лірычная падсветка. Не аднойчы будзе сніцца герою-апавядальніку «*той далёкі дзень*», што «*ўзнік шчымлівай марай*».

Паэту ўдалося арганічна злучыць у непадзельна-тугі і такі зграбны ў сваёй прастаце і дасканаласці вузел чалавечых адносін. Тут і прыгожая сваёй дзявочай чысцінёй выпадковая спадарожніца Зося-сарамяжка, і прыязны голас гаспадыні хаты-леснічоўкі, што так вабна выглядае ў засені бяроз, і шчырая гасціннасць беларускай жанчыны, яе непрыхаваная цікавасць да гарадскога госця:

— Ці вы ў Мурожніцу па службе з горада,
Ці, можа, з іншае якой прычыны?
— Іду па песні. Чуў, што надта здорава
Старыя песні там пяюць жанчыны.

У гэтым дыялогу пачуем не толькі адвечную сялянска-беларускую сціпласць, але і балючую для аўтара паэмы і яе лірычнага героя праблему быцця духоўна-культурнай спадчыны нацыі ва ўмовах пашырэння новай эстрадна-мадэрновай песні:

— Старыя песні? Нашыя даўнейшыя?
— Ну, так, старыя. — А нашто яны вам?
Ці хіба новыя не прыгажэйшыя?
Ад тых, даўнейшых, толькі сэрца ные…

І далей, у працяг дыялога, — таленавітая і прынцыпова шчырая прамова і словам, і песняй у абарону той унікальнай гістарычнай спадчыны, якую мае наш народ. Калі ж на дарогу госцю дачка і маці «*ўзычылі*» песню пра тое, «*як дзеўка ў казака пыталася*?», эмацыянальнае напружанне лірычнага героя дасягнула той крытычнай адзнакі, за якой — абавязкова адкрыццё:

І стаўся цуд: такога падгалосачка —
Зямлю прайдзі — пачуць не давядзецца!
«Ах, людзі родныя! Ах, Зося-Зосечка!
Хай сто гадоў табе вось так пяецца!»

Паэма «А дзе ж тая крынічанька?» напісана ў 1970 годзе. Гэта быў той час, калі штосьці падобнае ці блізкае да таго перажываў кожны, хто трапляў на канцэрты хору Г. Цітовіча, выступленні капэлы Р. Шырмы або на сустрэчу, скажам, са спевакамі палескай вёскі Тонеж. Адзначым, што ўсё ў паэме Н. Гілевіча сапраўднае, прыгожае, жыццёвае. Нават назва вёскі — Мурожніца — узята з рэальнасці: там прайшло дзяцінства Ніны Кавалёвай, жонкі Н. Гілевіча.

Жывое дыханне народнай песні ў творчасці Н. Гілевіча адчуваецца на працягу ўсёй творчай дарогі. Песенна-спадчынны пачатак будзе праяўляцца на розных этапах творчага самавыяўлення па-рознаму. У плённыя шасцідзясятыя — на хвалі ўзнёсла-рамантычнага ўслаўлення жыцця — «Край мой, беларускі край!..», «Вы шуміце, шуміце», «А дзе ж тая крынічанька?» і інш.

Мой край, мой рай бульбяна-жытны!
Зеленадолы, залаты!
Як спеў матулі — старажытны,
Як песня любай — малады!

Як вучоны-фалькларыст, як выкладчык, педагог, паэт, Н.Гілевіч мае адзіны клопат: зберагчы, перадаць у спадчыну нашчадкам духоўны скарб народа — песні, легенды, паданні, казкі. Якраз гэты клопат абумовіў не толькі кірунак яго навуковых даследаванняў, але і характар мастацка-эстэтычных і жанравых пошукаў у сферы паэзіі.

Разуменне значнасці народнага песенна-паэтычнага вопыту садзейнічала таму, што паэт узводзіў на лірычны Алімп беларускую песню як эталон дасканаласці, на які свядома арыентаваўся ў сваёй творчасці. У гэтым, дарэчы, бачыцца працяг купалаўскай захопленасці народнай песняй. Нават пры самым павярхоўным знаёмстве з паэзіяй Я. Купалы заўважаем, як вельмі часта ён называе свой верш песняй або ўключае ў назву твора гэтае слова. «З песень бедака», «Песня жней», «Родныя песні», «З песень аб няволі», «Першыя песні», «З песень беларускага мужыка», «Каму вас, песні...», «З маіх песень», «Песня аб песнях» — калі працягваць далей, то лік пераваліць за добрую паўсотню. Гэтак жа не хавае сваёй залежнасці ад дзівосных фарбаў народнай песні і Н. Гілевіч. «Песню бярыце з сабою», «Лесам песня ішла», «Песня ў аўтобусе», «Вечаровая песня самотніцы», «Песня балгаркі», «Балгарская песня» і інш. У паэзіі Н. Гілевіча песня не толькі і не столькі змест, форма, мелодыя, колькі і непасрэдная дзейная асоба, вобраз. Найчасцей песняй у паэтычным свеце Н. Гілевіча называецца тое, што пазначана самай высокай мерай гармоніі, дасканаласці, прыгажосці, прыроднай вытанчанасці. Цікава, што найбольш моцна з традыцыямі беларускай народнай песні, яе чыстай шчымлівай мелодыяй звязаны абодва паэты ў пару станаўлення

(«Жалейка», «Гусляр» у Я. Купалы) ці ў час душэўнай і творчай прыўзнятасці, лірычнай улюбёнасці ў жыццё, людзей, творчасць («Лісце трыпутніку», «А дзе ж тая крынічанька?», «Родныя дзеці» ў Н. Гілевіча). У сваім імкненні «з цэлым народам гутарку весці» Я. Купала звяртаўся да песні як своеасаблівай формы выяўлення жыцця. Аднак форма народнай песні, памножаная на купалаўскі талент, адметнасць яго светабачання, значнасць і страснасць ідэі, надавала творам мастака асаблівую думнасць, тугу і смутак. Даўно, яшчэ ў 1913 годзе Я. Купала даў адказ, чаму беларуская песня, чаму маладая беларуская паэзія прасякнута тужлівым напевам.

Паэзія Н. Гілевіча ўзрастала праз яго трапяткую ўлюбёнасць у маладосць, хараство краю, непаўторную шчырасць беларускага слова. Ёсць у творчым набытку мастака нямала доказаў таго, як у хвіліны найвялікшага ўзрушэння хараством свету, дзявочай красой паэт звяртаецца да параўнання пэўнай з’явы з песняй. Разам з героем Н. Гілевіча захапляемся юнай прыгажуняй, такой *«маладой-маладзенькай»,* што лесам ішла. Вобраз дзяўчыны атаясамліваецца з вобразам песні.

І — на падступах ночы —
Добра бачна было,
Што спяшацца не хоча
Гэта песня ў сяло.

Наогул, верш «Лесам песня ішла» ўспрымаецца як захоплена-чыстая лірычная песня, у якой — вітанне маладосці, дзявочай абаяльнасці і непаўторнай красы. У лепшых традыцыях народнай лірыкі падаецца воблік дзяўчыны. Нічога эфектна-кідкага. Сціпла, прыгожа і мудра: і вянок на галоўцы, і каса на спіне... Колькі пяшчоты ў адным толькі слове «галоўка». Неяк сама па сабе паяўляецца за гэтым словам-вобразам думка аб дасканаласці ліній, гармоніі аблічча. Дадае завершанасці абліччу і каса на спіне як сімвал — у народных песнях — яшчэ бясклапотнай у сваім дзявочым світанні маладосці. У стылі народнага ўспрымання і разумення пададзена па-добраму зайздросна-захопленая ацэнка жаночай прыгажосці: маладой-маладзенькай здалася яна лірычнаму герою. У другім выпадку сустракаем адкрытае захапленне героя Н. Гілевіча здольнасцю дзяўчыны лёгка, грацыёзна несці сябе па жыцці ў свае няпоўныя шаснаццаць, весела і шчыра радавацца нечакана адкрытаму хараству навакольнага свету:

Лёгкая, як воблачка,
Як прыпеўка ў песеньцы,
У бліскучых лодачках
Збегла ўніз па лесвіцы.

Усё працуе ў вершы на вобраз: і сістэма параўнанняў, і насычанасць тэксту словамі з памяншальна-ласкальным значэннем (воблачка, песенька, лодачкі), і, як у народнай песні, класічная завершанасць кампазіцыі. Заключная страфа амаль цалкам паўтарае першую. І толькі апошні, заключны радок — *«не мая равесніца»* — нясе іншую мелодыю. Пазбаўлены руху, дынамікі, напоўнены распеўным галосным «а» замест звонкіх зычных, ён гучыць як прытоены ўздых, сум героя па сваёй маладосці, што схавалася за часам.

Падобныя назіранні і роздум над творамі Н. Гілевіча дазваляюць убачыць, што, як і ў творчасці вялікага Купалы, тут у адзін рад каштоўнасцей пастаўлены такія паняцці, як песня, маці, край, народ, гісторыя. У Купалы духоўная спадчына — гэта найкаштоўнейшы скарб. Песні матчыны — спадчына продкаў — у разуменні і мастацкай інтэрпрэтацыі Н. Гілевіча ўвабралі не толькі дух народа, але і увесь яго гістарычны шлях. Відаць, таму яны такія розныя і непаўторныя па сваёй танальнасці: вясёлыя, сумныя, слёзныя, грозныя, задуменныя, працягла

шчымлівыя... А якія ж багатыя па змесце!.. Нездарма, калі паэт шукае для верша ці паэмы патрэбны эмацыянальны ключ, на дапамогу прыходзіць народная песня. Н. Гілевіч вельмі ўмела, тонка ўключае ў кантэкст наспяваную народам песню. Так было ў паэмах «Сто вузлоў памяці», «А дзе ж тая крынічанька?», рамане «Родныя дзеці».

Заўважаеш цікавую акалічнасць, калі ўгледзішся і зразумееш унутраную логіку, прыроду паэтычнага мыслення мастака: наскрозь працінае тканіну твора арганічная еднасць, суладнасць, знітаванасць думкі і пачуцця. І дапамагае гэтаму тонкая, неназойлівая акцэнтацыя пэўнай мастацкай залежнасці, якая існуе паміж назвай, эпіграфам і зместам твора. Так, тужліва-самотны настрой верша Н. Гілевіча «Апошні аўтарскі вечар Івана Мележа» ўзмацняецца эпіграфам, у якасці якога ўзяты словы з любімай Мележам палескай песні пра шумлівыя вербы: «*Каля грэблі шумяць вербы, // Што я пасадзіла...*».

Верш напісаны ў 1987 годзе. З адлегласці болей за дзесяць гадоў зноў загучала самотна-шчымлівая мелодыя таго вечара. І тая мележаўская скрушлівая тужлівасць убачылася паэтам цяпер асабліва выразна і зразумела. І не толькі праз незагойны боль і гаркоту незваротнай страты, праз жахлівую рэальнасць чарнобыльскай бяды на палескай зямлі, але і праз сваё. Толькі цяпер, калі сам паэт усё часцей стаў адчуваць непазбежнасць набліжэння трагічнага фіналу, ён на поўную моц адчуў, што перажыў у тыя хвіліны развітання з жыццём Іван Мележ.

О, сябры! Калі нешта значыць
Мой усім вам паклон зямны —
Хай і цень мой з пагорка бачыць
Жыта, сосны і валуны.

Гэта пра сваё. Асабістае. І такое важнае, вечнае. І такое дасканала прыгожае. А праз сваё найбліжэй зразумеў і чужое. Тое далёкае, што аддзяляла ўжо Мележа ад іншых, бо вялікі майстар жыў ужо па зусім інакшых законах, адчуваючы, што той вечар — апошні ў яго жыцці. Гілевіч адчуў гэта значна пазней, а зразумеўшы — свядома акцэнтуе нашу ўвагу на гэтым нават самой назвай твора. Вобраз вярбы, як сімвал роднага краю, з якім назаўсёды развітваўся мастак, становіцца вызначальным у паэтычным змесце верша, а шчымлівая мелодыя працінае да слёз.

Здараецца і такое, калі эпіграф і назва твора па танальнасці і пафасе з'яўляюцца кантраснымі ў дачыненні да зместу. Так, у вершы «Зрабіце дождж!» аўтар выкарыстоўвае дзіцячую песеньку-замову «Дожджык, дожджык, сыпані, я паеду на кані...» Аднак крышку гулліва-загадкавая, па-дзіцячы капрызна-патрабавальная інтанацыя і вясёлы, гарэзліва-свавольны тон амаль зусім не стасуюцца з жорстка-трагічнымі прыроднымі ўмовамі: *«усохся і патрэскаўся з вясны не поены ні разу дол»*. Дзякуючы такой неадпаведнасці перадаецца спаконвечная залежнасць хлебасея ад прыродных з'яў. Асабліва моцную сэнсава-эмацыянальную і псіхалагічную нагрузку нясуць словы народных песень, уключаныя ў сюжэт рамана «Родныя дзеці». Наогул праз усю творчасць Н. Гілевіча праходзіць своеасаблівая тэма лёсу народнай песні, яе бессмяротнай красы і велічы.

Важным момантам у спасціжэнні праблемы функцыянавання народнай плыні ў вобразна-паэтычным свеце Н. Гілевіча з'яўляецца разуменне таго, на якой аснове ўключаюцца вобразы, матыў песні ці канкрэтныя радкі ў аўтарскі паэтычны тэкст. Найчасцей гэта адбываецца тады, калі творца імкнецца сцвердзіць сваю канцэпцыю дачыненняў чалавека з жыццём, духоўнай культурай і гістарычнай спадчынай мінулых пакаленняў. Вось тут і варта падкрэсліць, што і Янка Купала, і Ніл Гілевіч — мастакі, у творчасці якіх вызначальнай з'яўляецца патрыятычная ідэя. Вобраз роднага краю якраз і паўставаў праз лёс народнай песні, народнага слова. Абуджэнне самасвядомасці беларуса, усведамленне ім сваёй нацыянальнай

годнасці прымушае абодвух паэтаў шырока ўводзіць у мастацкі кантэкст твораў адпаведныя вобразы. Так, нацыянальнае адраджэнне немагчыма, на думку Я. Купалы, без разумення таго, што называецца гістарычнай памяццю. На працягу сваёй літаратурнай дарогі вялікі пясняр імкнуўся давесці свайму чытачу, колькі цікавага, велічнага і бязмежна трагічнага хавае ў сабе старажытная спадчына беларусаў. Таямніца зямлі, вякоў, людзей... І вобразам-сімвалам гэтай таямніцы, якую не шкодзіць разгадаць кожнаму, хто меў гонар нарадзіцца на гэтай зямлі, з'яўляецца ў паэзіі Я.Купалы курган. Мастацкая змястоўнасць гэтага вобраза шматстайная. Гэта і як адзнака беларускіх краявідаў — скажам, верш «Мой край».

Разам з тым гэта рэальна засведчаная памяць сям'і, роду: у тым альбо гэтым грудку на могілках прах тваіх продкаў, пачатак самога сябе. Вобраз курганоў з іх загадкавай і таямнічай славай паўстае і ў вершы «Курганы». Па сутнасці, гэты вобраз можа заняць сваё месца побач з паэтычным вобразам песні па значнасці і змястоўнасці. Толькі песня была зразумелым і натуральным станам душы паэта, а вобраз курганоў будзіў яго фантазію, думку, гістарычную памяць. Так, цэлую паэтычную праграму спасціжэння гістарычнай даўніны выкладае Купала ў паэме «Курган». Калі ўчытацца ў твор, прыгледзецца да яго вобразнага зместу, то зразумееш, чаму так настойліва акцэнтуе ўвагу чытача на вобразе кургана мастак, хоць, на першы погляд, здаецца, што асноўная дзейная фігура ў паэме Гусляр. Аднак і першы раздзел, і заключны прымушаюць належным чынам паставіцца да аўтарскай прапановы вучыцца душой слухаць і спасцігаць гісторыю сваёй зямлі. Той «удзірванелы курган векавечны», тая «памятка дзён», што ў нябыт уцяклі, павінны стаць — спадзяваўся паэт — часткаю духоўнага і душэўнага скарбу нашага сучасніка.

Нельга не сказаць і пра тое, што вобраз курганоў у паэтычнай сістэме Я. Купалы заняў асобае месца з таго моманту, як пісьменнік пачаў усведамляць сваю адказнасць за гістарычны лёс Бацькаўшчыны. Мастацкі змест вобраза істотна паглыбляецца. Часта побач са словам курган паэт ужывае сінанімічныя замены — «насып», «курганішча», пашыраючы змястоўнае і эмацыйнае гучанне вобраза. Больш таго, увага акцэнтуецца на рукатворным, а не прыродным узнікненні самой з'явы. Курган-насып — гэта лагічнае завяршэнне зямнога жыцця чалавека. Ён лучыць жывое з тым, што стала належаць вечнасці. Адсюль і пашыранасць такіх купалаўскіх азначэнняў да слова «курган», як «бацькаўскі», «прадзедаў», «векавечны», «адвечны» і інш. Трывожыцца паэт, што доўга яшчэ маўчаць курганам, калі памяць нашчадкаў чыстая, як той нарог, што спакойна — пры поўным бяспамяцтве тутэйшага люду — руйнуе знакі вечнасці: *«Араты ўсход нясе адлогам...»*. Лірычны герой Купалы — прыклад таго, як трэба слухаць і разумець свой народ, яго мінуўшчыну, каб будаваць сваю *«цяперашчыну»*. Купалаўскія курганы не толькі будзяць фантазію, выклікаюць цікавасць да гісторыі, яны выхоўваюць чуйнасць душы, абуджаюць слых. Кожны курган у мастацкай інтэрпрэтацыі паэта разбурае адчуванне канчатковасці, анямеласці, нерухомасці. Насып-магілка, курган ці курганочак — гэта выяўленая мастаком трагедыя чужой душы, неўтаймаванасць духу. Дух, парыў не знае тлену, не падуладны немаце. Вось і чуецца то ў адным вершы, то ў другім *«кургана ўздыханне»*. Бывае, што *«курганны голас»* — голас паданняў — зліваецца з роспачным шкадаваннем самога героя: новы заўчасны курган. Так, трагічная смерць С. Палуяна, такога маладога і таленавітага, выклікала і адпаведнае вобразна-эмацыянальнае рашэнне: «курган прыбыў, курган напрасны».

Паэтычны вобраз, народжаны сілай купалаўскага таленту, трывала ўвайшоў і ў мастацкі свет Н. Гілевіча. Як, калі б ні пісаў пра сваю Беларусь паэт, адным з апазнавальных знакаў-вобразаў яго мілай зямлі будуць курганы-пагоркі. Погляд яго лірычнага героя абавязкова выхапіць з шэрагу іншых праяў беларускага

краявіду менавіта той, дзе «пагоркі ды лагчыны, ды касагоры, ды равы», дзе *«між гэтых пагоркаў, у гэтых барах і дубровах... узышла і ўзрасла наша родная мова»*. Пагорак, курган, капец, магільныя старыя насыпы — вобразы, што сустракаем у паэзіі Н. Гілевіча яшчэ з 60-х гг. Сённяшні паэт вершам «Жыта, сосны і валуны» (дарэчы, такая і назва зборніка) вызначыў найбольш істотныя вобразы-сімвалы нашага краю. Сапраўды, жыта, сосны і валуны — гэта якраз тое, што засталося з сівой даўніны, як пастаянная адзнака нашых краявідаў, як прыкмета іх індывідуальнага аблічча. Поруч з гэтым сталаму мудраму паэту абавязкова бачыцца і той апошні пагорак, што ёсць у жыцці кожнага: *«хай і цень мой з пагорка бачыць жыта, сосны і валуны»*. Вобраз-курган становіцца адным са стрыжнявых і ў рамане «Родныя дзеці», што дазваляе мастаку свабодна і лёгка пераключаць размову з агульнага на прыватнае, з асабістага на грамадскае, пашыраць межы мастацкага часу ў творы, арганічна ўключаць у эпічную плынь рамана лірычныя адступленні. Заслугоўвае выключнай увагі думка мастака аб неабходнасці *«ў мінуласць Беларусі // Прасекчы добрае акно»*. Адчуваецца, як бачым, відавочная пераклічка з паэмай Купалы «Курган»: толькі той народ мае будучыню, які ўсведамляе і шануе сваё мінулае.

Такім чынам, далучэнне творцы да глыбінна чыстага, незамутнёнага, крынічнага струменьчыка народнай паэзіі давала сілы тварыць, стварыць сваю песню-цуд, шануючы, зберагаючы і перадаючы наступнікам рупна сабранае і ўвасобленае ў такіх кнігах фальклорных запісаў, як «Песні сямі вёсак: Традыцыйная народная лірыка» (1973), «Песні народных свят і абрадаў» (1974).

Падводзячы рысу, адзначым, што столькі зрабіць па ажыццяўленні ідэі служэння народнай культуры і роднаму слову сапраўды мог толькі той, хто нёс і нясе ў сваёй душы высокае наканаванне служыць адной ідэі. Ідэі адкрываць беларусу высокае, прыгожае, вечнае, спадчыннае, без чаго не мысліцца існаванне народа, існаванне краіны.

# Т

Міхась КУЗЬМІЧ

# ПАВАРОТАК ЛЁСУ І ЖЫЦЦЯ

Пад'язджаючы да Глыбокага, заўсёды пільна ўглядаюся ў дарогу, каб не прапусціць указальнік на Абруб, бо далей за ім, пацясніўшы кустоўе, балоціну і хмызнякі, вынырне вёска Мацясы — радзіма празаіка і драматурга Уладзіміра Сауліча.

Сам ён запомніўся мне з першага знаёмства: чубата-віхрасты, хударлява-жвавы, з пружыністай паходкай, нагадваючы спартсмена-лёгкаатлета, і прыязна-таварыскі, акрылены і ўлюбёны ў жыццё і свае глыбоцкія прасторы, чалавечны і чуйны да чужой бяды, заўсёды з нязменнай усмешкай на твары — усё гэта кінулася ў вочы і выдавала ў ім шчырага беларуса. Час мала што памяняў у маіх уражаннях, хіба што дадаў майму сябру сівізны ў скроні.

Тады ж ён, сямнаццацігадовы юнак, вельмі ўразіў, калі адразу пасля традыцыйнай студэнцкай бульбы газета «Літаратура і мастацтва» (4 кастрычніка 1968 года) надрукавала ягоную прафесійна напісаную рэцэнзію «На жыццёвых дарогах» на зборнік апавяданняў І. Чыгрынава «Самы шчаслівы чалавек».

Чакалася, што ўслед з'явяцца новыя публікацыі, але надзея не спраўдзілася: літаратуразнаўства і крытыка не сталі яго заняткам, бо недзе ў закутку душы, хутчэй пакуль інтуітыўна, сваім жыццём жыў іншы творчы тэмперамент і аднача-сова спакваля выношваўся той матэрыял, які толькі праз гады даў іншыя творчыя здабыткі.

Універсітэцкія гады былі сапраўдным студэнцкім братэрствам, узброілі будучага літаратара шматграннымі ведамі і, галоўнае, навучылі думаць і разумець супярэчнасць часу і людзей, пераадольваць сябе, цяжкасці і перашкоды, надалі сілы і ўпэўненасці, адправіўшы ў самастойны жыццёвы вырай.

Яшчэ да размеркавання, насуперак прапановам «прыбіцца» да горада, ім было прынята адзінае рашэнне: пасля часовага расстання з «малой» радзімай назаўсёды вярнуцца дадому, да бацькоў. То быў вельмі адказны, але выверны жыццёвы крок, свайго роду душэўны паваротак. І вось ужо У. Сауліч, выпускнік філалагічнага факультэта БДУ, настаўнічае ў Азярэцкай сярэдняй школе (1973—1975 гг.), неўзабаве прымае прапанову, працуе карэспандэнтам-арганізатарам раённага радыё (1976—1980). Так пачалася ягоная сталая журналісцкая дзейнасць, і цяпер за плячыма яшчэ больш як трыццаць гадоў працы ўласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы».

Ён — лаўрэат творчага конкурсу «Литературной газеты», часопіса «Беларуская думка», «Залатое пяро» Беларускага Саюза журналістаў у галіне мастацкай публіцыстыкі, Вицебскай абласной прэміі імя Ф. Скарыны, розных друкаваных сродкаў масавай інфармацыі.

Кажуць, што ногі не толькі ваўка кормяць, а і журналіста. У тыя часы ён пехатою і на матацыкле «абскакаў» родную Глыбоччыну, пабываў ва ўсіх куточках заходняй Віцебшчыны і добра ведае праблемы рэгіёна, сітуацыю ў канкрэтных працоўных калектывах і вельмі многіх людзей, якія і сталі героямі публікацый: інтэрв'ю, замалёвак, апавяданняў і гумарэсак, што літаральна рассыпаны-раскіданы на старонках розных выданняў і з іх магла б атрымацца, акрамя выдадзеных зборніка п'ес «Халімон камандуе парадам» (1994 г.), сацыяльнага нарыса

Чашніцкага раёна «Чароўная чаша» (2006 разам з В. Шырко), томіка публіцыстыкі «Антэі Прыдзвіння (2010), яшчэ не адна самастойная кніга. Аўтар літаральна «купаецца» ў багатай жыццёвай фактуры, якая ў аснове яго журналісцкай і літаратурнай практыкі.


*Уладзімір Сауліч.*

Перш за ўсё гаворка пра нарысы, якія прайшлі своеасаблівую абкатку ў «Віцебскім рабочым» і часопісе «Беларуская думка». У іх аўтар адкрывае рэальны ўнутраны свет герояў, нябачанае звычайным паглядам, тое, што не на паверхні, малюе жывога чалавека з яго думкамі-сумненнямі, трывожнымі снамі і роздумам і ўздымае высока чалавечую і прафесійную планку персанажаў.

У кожным з іх жыве філосаф. Іх мудрасць і годнасць можна адчуць адразу ў развагах-рэфлексіях, па адносінах да чалавека, да справы і, галоўнае, да зямлі, гатоўнасці да новых зменаў у жыцці і пераадолення цяжкасцей і праблем.

Спашлюся на І. Васільева, патрыярха савецкай публіцыстыкі, аўтара шырокавядомых «перабудовачных кніжак» «Допуск на ініцыятыву», «Арыенціры», з якім мне выпала шчасце некалі сустракацца ў час яго паездкі па Віцебшчыне. Тады ён, памятаю, папраўляючы прывычным узмахам рукі свае раскошныя вусы, прыдаў думцы больш канкрэтна-прагматычны сэнс: «Мудрэц той, хто працуе на зямлі, бо яна — сама мудрасць і сілкуе тых, хто звязаў з ёю свой лёс». Нарысы з кнігі «Антэі Прыдзвіння» ўступаюць у дыялог-перагукванне з выказваннем мэтра і яго пацвярджаюць.

Адразу ўзнікае пытанне: «Чаму Антэі і якое дачынне яны маюць да зямлі?» Адказ просты. Паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, Антэй — непераможны герой-волат, якому дотык да зямлі даваў сілы. У назве-метафары ёсць абагульненне, бо размова ідзе якраз пра такіх віцебскіх людзей — старшынёўскі корпус, для якіх, з аднаго боку, зямелька-карміцелька — крыніца дадатковай моцы, а з другога, — жыццёва-прафесійны крыж. Яны — на роднай зямлі, і яна іх трымае.

Людзі розных узростаў, вопыту і жыццёвага гарту: Алег Валадзько, Альфрэд Малец (Паставы), Анатоль Пачопка, Эдуард Цінкевіч, Алена Дзягель, Пятро Мяжэнін (Глыбокае), Павел Пальчэх (Шаркоўшчына), Марыя Сцяпанава (Міёры), Уладзімір Новікаў, Мікалай Шульгат (Докшыцы), Раман Шукель, Віктар Раловіч, Station Станіслаў Сайкоўскі, Уладзімір Ракель (Браслаў), Уладзімір Корсун (Верхнядзвінск) — усяго каля 20 чалавек, яркія асобы, сапраўдныя земляробы, якія шмат гадоў служылі і служаць хлебаробскай справе. Адны з іх — цяпер на пенсіі, другія пайшлі на павышэнне (як Анфім Міхалевіч, Уладзімір Булай), астатнія — паранейшаму ў страі. Фактычна цэлае сузор'е легендарных людзей, з самабытнымі біяграфіямі, неардынарнымі, нярэдка бязлітаснымі і пакручастымі лёсамі. Гісторыя ў чалавечых лёсах — можа, лепшая магчымасць і форма, вядома, умоўна, запыніць і паказаць бег часу. Дадамо: гэта і ёсць тыя людзі, якіх практычна няма ў сённяшняй літаратуры і мастацтве. Аўтар сумесна з героямі падсумоўвае здабыткі, абагульняе станоўчае, варушыць балючыя скрыжаванні рэчаіснасці на фоне рэалізацыі дзяржаўнай праграмы Адраджэння вёскі і стварэння аграгарадкоў — новых асяродкаў вытворчасці і пераапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, духоўнасці і сацыяльна-культурнага жыцця.

Відавочна, што задума кнігі выношвалася доўга, а змест нарысаў афармляўся на працягу дзясятка гадоў, на якія выпала шмат трывог, сумных падзей, няўдалых пачынаў і эксперыментаў, дыяпазон якіх — ад развалу СССР да сучасных часоў, ужо ў XXI стагоддзі. Для нарысіста важна агаліць вузлы балючых праблем, раскрыць іх прычыны, прапанаваць шляхі вырашэння, абагуліць станоўчы вопыт.

Кожны раз сустракаючыся са сваімі героямі, публіцыст, шукаючы сітуацыі, раскручвае іх на дадатковы матэрыял, адкрытую размову, прадвызначае тэму. Але ж «раскрутка» атрымоўваецца толькі тады, калі ёсць што сказаць. І гэта, відаць, галоўнае, бо кожны — асоба.

Нарыс «Філасофія АлегаВаладзько» пра былога старшыню калгаса імя Суворава, Героя Сацыялістычнай Працы раскрывае творчыя прынцыпы і шырокія жыццёвыя кругі героя. Самавітасць А. Валадзько не толькі ў тым, што ён ходзіць босы і знешне нагадвае грэчаскага мысліцеля Сакрата, аб чым сведчыць і фотаздымак, і, вядома, не ў тым, што ён, як алхімік сярэднявечча, нешта чаруе ў ложцы, а ў прадуманай стратэгіі гаспадарання.

З трох маналогаў і каментарыяў вынікае, што Валадзько мае вышэйшую мудрасць — быць гатовым да любых перамен у лёсе. Пагартаем старонкі ягоных размоў, якія хутчэй нагадваюць дыялогі з самім жыццём, дзе ён паўстае як практык, эканаміст і ідэолаг-выхавацель.

Філасофія простая: ва ўсім павінен быць дакладны разлік, эканамічныя выкладкі: ці купляецца новая тэхніка і ўкараняецца страусагадоўля, ці арганізуецца сэрвісная служба і з рапсу вырабляецца біяпаліва, або адносіны да зямлі, будаўніцтва жылля. Не быць «пешкай» на шахматнай дошцы жыцця, кіраўніцкіх абавязкаў. «Пешка» павінна працаваць удумліва, творча і рабіць правільныя хады», «адзін шчаслівы не будеш», «прачынаемся — шукаць! кладзёмся спаць — шукаць!» — вось сэнс ягоных штодзённых старшынёўскіх будняў, бо сельская гаспадарка — сапраўды не станок, які можна выключыць пасля змены.

На жаль, у АПК і раней, і цяпер хапала і хапае безгаспадарчасці, марнатраўства, абыякавасці, ёсць іншыя паразітарныя нарасты, што больш за ўсё непакоіць героя. Валадзько выказвае сітуацыйнае, сваё і, відаць, не раз думанае-перадуманае, разважае пра тое, што баліць, што не ўдалося рэалізаваць, а час страчаны. Галоўныя прынцыпы яго, з аднаго боку, рабіць усё прадумана, грунтоўна, так, каб не перарабляць, не наступаць у рабоце на адны і тыя ж граблі, і з другога, — ідэі, не падмацаваныя інтарэсам чалавека, застаюцца пустышкамі. Значыць, патрэбны ўмовы, каб выгадна было працаваць на зямлі.

Чытаеш нарысы і бачыш, што іх героі, у адрозненне ад звычайных людзей, здольныя ўспрымаць з'явы з асобага пункту гледжання, які цікавы чытачу, прымаць аптымальна-разумныя рашэнні.

Багатая на жыццёвыя старонкі біяграфія У. Новікава, вядомага докшыцкага гаспадарніка, часам нязручнага ў рабоце з начальствам («Незаконны шлюб у Таргунах»). Адносна яго пісьменнік адмятае будзённа-прывычнае і выхоплівае старонкі ягонай чарговай адысеі, звязанай з далучэннем да СПК эканамічна слабага саўгаса «Камунар» з мільярднымі даўгамі. Вобразна кажучы, спачатку выйшла сватаўство і жаніцьба багатага з бедным, а потым скасаванне «шлюбу», бо аб'яднанне аказалася незаконным з-за таго, што «Таргуны» — калгас, а «Камунар» — саўгас: дзве розныя формы ўласнасці. Але пры ўсіх складанасцях Уладзімір Мяфодзьевіч быў неадступны і змог паступова пераадолець праблемы: не ў яго характары спыняцца на паўдарозе. Тут ён сапраўдны дзяржаўнік-гаспадарнік.

Або ўзяць Віктара Раловіча (калгас «Наперад» Браслаўскага раёна, нарыс «Чатыры кіты Раловіча»), які, прымяняючы калектывы інтэнсіўнай працы, што

амаль нідзе не выкарыстоўваюцца, фарміруе сапраўднага земляроба. Прынцып яго просты: калгас — вам, вы — калгасу, і не інакш. Галоўнае, памнажаць, рабіць так, каб чалавеку было выгадна працаваць на зямлі, аб чым сведчыць і праца Анфіма Міхалевіча («Там, дзе гаспадар ходзіць»). «Мы — гаспадары! Мы — працуем на сябе», — так абагуліў сітуацыю адзін з маладых механізатараў.

Тое ж можна сказаць і пра Паўла Пальчэха («Як Пальчэх цвікі лічыў»). Сам факт, вынесены ў назву, — вядома, далёка не дзівацтва, хутчэй урок гаспадарання, калі на ўліку павінна быць кожная капейка, а беражлівасць у сучасных умовах стала законам жыцця.

Творы вылучаюцца сваёй сацыяльна-псіхалагічнай нагрузкай, дзякуючы чаму ўтрымліваецца і чытацкая ўвага. У іх няма так званых лішкаў-разбавак — празмернага апісання прыродных з'яў, захадаў і ўсходаў сонца, спеваў птушыных, цячэння рачулак, блакітных азёр. Багацце канкрэтных жыццёвых эпізодаў, сацыяльных і вытворчых калізій у іх становіцца асноўным, бо вёска — гэта штодзённая праца, аснова вясковага ладу жыцця.

Кнігу «Антэі Прыдзвіння» можна паставіць у адзін шэраг з мастацкімі здабыткамі знакамітых публіцыстаў: В. Авечкін, І. Васільеў, Г. Радаў, А. Стрэляны, І. Дубоўскі, А. Казловіч, В. Шырко. Яны сказалі сваё важкае слова, і шкада, што ўслед за імі цяпер амаль нікога няма, а мастацкая публіцыстыка зараз кепска запатрабуецца.

Нарысы пераконваюць: на любой зямлі, нават у неспрыяльных, як часта гавораць, умовах можна мець важкія набыткі. Віцебскі клімат нагадвае па многіх параметрах клімат некаторых скандынаўскіх краін, а вось плён працы адрозніваецца. Значыць, не ўсё залежыць ад прыродных умоў. Неаднолькавыя вынікі — у адносінах да справы, у новых тэхналогіях, спрактыкаванасці кіраўнікоў, іх уменні і навыках людзей па-сучаснаму працаваць і быць гаспадарамі на зямлі. А яна, што талерка: колькі ў яе пакладзеш, столькі і атрымаеш.

Прычына многіх праблем на сяле ў недасканаласці вытворчых адносін, нярэдка разбалансаванасці інтарэсаў у звязцы дзяржава — наймальнік. Патрэбны іх сугучча, здаровая матывацыя ў працы.

Варта звярнуць увагу на некаторыя мастацкія асаблівасці кнігі.

Па-першае, аўтар любіць ёмкую і трапную метафару, гістарычную паралель, маналогі, успаміны, сустрэчы — тое, што вымагае публіцыстыка, каб пазбегнуць сухасці і шэрасці.

Па-другое, у назвах нарысаў і падзагалоўках да іх — у пашане лічба (не сучаснае штосьці ў эннай ступені), а традыцыйная (2, 3, 4), узятая з казак, легенд і міфаў розных народаў, літаратурных помнікаў, што прыдае творам элементы пэўнай інтрыгі і таямніцы.

Па-трэцяе, У. Сауліч у аснову нарысаў кладзе сітуацыю, умела выкарыстоўвае парадаксальную думку, нечаканыя падзеі і абставіны, каб прыдаць тэксту завостранасць, агаліць праблему, заінтрыгаваць увагу перш за ўсё тыповымі праявамі, перадаць тупіковае становішча, з якога трэба шукаць выйсце («Іншапланецяне ў Сакалоўшчыне», «У Лаўрукі — як у Луўр», «Докшыцы — Гановер», «Разумных шмат — смелых мала»).

Ствараецца ўражанне, што некаторыя нарысы, у прыватнасці, пра Валадзько, Новікава і інш., пры іх дапрацоўцы маглі б вырасці ў грунтоўныя дакументальныя рэчы, накшталт тых, што выходзяць у серыі «ЖЗЛБ», і папоўніць іх мастацкую галерэю.

І зноў звяртаюся да нарыса пра Валадзько, які завяршаецца павучальнымі развагамі. Іх апорны тэзіс — фарміраваць чалавека, каб ён глыбока ўрастаў каранямі ў зямлю і стаў на ёй улюбёным гаспадаром-стваральнікам.

Тут, як мне здаецца, аўтар выходзіць на застарэлую, але надзённую праблему адчужанасці чалавека ад дома, ад сям'і, ад зямлі, ад работы і яе вынікаў і патрабуе, магчыма, спецыяльнага даследавання, у чым вытворчыя і духоўныя карані ўсяго багацця праблематыкі, аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары.

У герояў нарысаў У. Сауліча ёсць многа агульнага: яны яшчэ ў маладыя гады знайшлі і абралі свой паваротак жыцця, і ніхто з іх не пашкадаваў, бо выбар быў зроблены раз і назаўсёды, а жыццё складвалася як лёс — дзякуючы працавітасці, адказнасці за вынікі работы і людзей, у творчым гарэнні («новыя звіліны ў чалавека»), лідарскіх якасцях і спробе зазірнуць за той гарызонт, за якім новыя прывабныя вышыні і далячыні, якіх без думак-крылаў не дасягнуць.

Да размовы пра драматургічныя творы У. Сауліча вельмі стасуецца небеспадстаўная згадка вядомага шэкспіраўскага героя пра тое, што жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры. Па вялікім рахунку, у рэальнасці гэтак, відаць, і ёсць, бо мала хто, блытаючыся ў быційных лабірынтах, адразу трапляе на сваю «паліцу жыцця». Яно ж, асабліва цяпер, — гульня па правілах і без іх.

Прынамсі, аналогія ў пэўнай ступені перагукваецца з п'есамі У. Сауліча «Халімон камандуе парадам», «Адзін Гаўрыла ў Полацку» і «Сабака з залатым зубам».

Ужо назвы вылучаюць таемны падвох, утрымліваюць супярэчнасць, правакуючы канфлікт. Сапраўды, пры патрэбе звычайна ўжываецца ідыёма «не адзін Гаўрыла ў Полацку», тут жа насуперак усяму — адзін. Далей… Можа, яшчэ з часоў В. Дуніна-Марцінкевіча (быліца «Халімон на каранацыі») нагадаў пра сябе Халімон. Ну і, бясспрэчна, адмысловы іранічна-смехавы эфект прыхаваны ў назве «Сабака з залатым зубам». Знешнія прыкметы аказаліся невыпадковымі і не ашукалі. У п'есах — арыгінальны драматургічны матэрыял, пададзены ў абсурдна-жартаўлівым, іранічна-сатырычным стылі, а на паказ выстаўляецца шэраг «камедыянтаў», якія запатрабаваны з жыцця глыбінкі.

Зразумела, у жыццёвага абсурду, стваральнікам якога з'яўляецца чалавек, у параўнанні з мастацкім абсурдам, куды больш складаная матэматычна-псіхалагічная формула. Аўтар жа прыкмеціў і «б'е» на галоўнае: асабліва ў перыяд вялікіх грамадскіх зрухаў, калі вакол неразбярыха і бязладдзе, навідавоку ўсё часцей ці то па злой іроніі, ці то па волі лёсу дурасліўцы, сумленне якіх разбэрсана; прайдзісветы, гарлапаны, штукары, а то і паганцы з нядобрымі намерамі. Бывае, але радзей, наадварот — у цэнтр падзей і людской увагі трапляюць людзі някепскія, бяскрыўдныя, рахманыя і працавітыя, але, як звычайна кажуць, са сваім царом у галаве, такія, як Халімон Капытка («Халімон камандуе парадам»). Яму, памяркоўнаму і прыземленаму, вечна занятаму побытавымі клопатамі, нярэдка на падпітку, са сваім адвечным «ядронь корань», наканавана ўзарваць вясковую ідылію.

П'еса мае сваю перадгісторыю: пісалася яна, як кажуць, не адным махам, а складвалася своеасаблівымі «квантамі». Яе кавалкі-фрагменты час ад часу друкаваліся ў раённай і абласной газетах пад агульнай назвай «Прыгоды Халімона Кляпальскага», які ўмеў толькі кляпаць — значыць, рабіць абыякава, абы збыць з рук. І толькі тады, калі набралася дастаткова сюжэтных ліній, склаўся самастойны твор.

Шматлікімі падрабязнасцямі, што тычацца галоўнага героя, даведзенымі да абсурду, «сшыта» яго арганічная камедыйная тканіна, дзе перапляліся і рэальныя, і ігравыя элементы. Сапраўды, што ні вазьмі: фарбаванне хлеўчука, пастрыжка-ачалавечанне парсюка да тэлездымкаў, пошукі Халімонам капелюша, ягоныя маналогі пра тое, які ён значны чалавек і мала хто яму роўня, апавяшчэнне суседзяў і начальства, запіс і сама тэлеперадача — ва ўсім гэтым імкненне перайграць

рэальнае жыццё. Зразумела, тут больш за ўсё іроніі, сатырычна-гумарыстычных фарбаў, праз якія схліставюцца сацыяльна-маральнае і індывідуальна-чалавечае, звязанае ў адзіны тугі вузел праблем.

Але не адзін Халімон — смехатворца і грэшнік у камедыі, а і старшыня калгаса Мітрафан Пятровіч, суседка героя, «дэмакратка» Марфа, телевізійшчык Іван Сідаравіч і яго памочнік, зух Вася, бо і яны пашыраюць камедыйную матывацыю. Па логіцы твора кожны з іх «вядзе» сваю партыю, утвараючы багатую плынь чалавечых узаемадачыненняў: калгасны кіраўнік дыпламатычна «гуляе» ў «нязнайку», Марфа «лупцуе» бюракратаў і бюракратызм, тэлежурналісты, абы перадача атрымалася, выйшлі ў апратцы прасцякоў і г. д.

Калі ў «Халімоне…» персанажы жывуць весела, лёгка, а сам твор мае нямала фарс-вадэвільных элементаў, то атмасфера ў камедыі «Адзін Гаўрыла ў Полацку» — цяжкая, насупленая, на мяжы вялікага канфузу, сацыяльна-бытавога скандалу, а «спадвіжніцтва» галоўнага героя Гаўрылы Патапавіча Грамыхальскага, сталічнага чыноўніка, нагадвае слана ў посуднай краме. Тут і смех іншы, быццам бы напалову, нейкі няпоўны, іншыя сарказм і танальнасць. Зрэшты, у творы раскрываецца тып пэўнага часу, а, дакладней, — параджэнне гарбачоўшчыны з яе магутным пустазвонствам і татальнай дэмагогіяй і адначасова водгук на новую сацыяльную сітуацыю, хаця па сутнасці выходзіць за межы згаданага часавага кантэксту.

Як алхімікі ў сярэднявеччы марна шукалі «філасофскі камень», які быццам бы даруе вечную маладосць, так і Гаўрыла Патапавіч, эксперыментуючы, талдычыць пра магчымасць, неабходнасць і карысць безразводнага шлюбу — выратавання ўсяго Чалавецтва.

Зразумела, што гэта так званае мудраванне на мелкаводдзі. Больш таго, нармальны чалавек ад такога філасофствавання з’ехаў бы з глузду, а Грамыхальскі ўласныя вышукі выдае за меру разумнага і вечнага, як геніяльную ідэю.

Аўтар абыгрывае дзве асноўныя думкі, супрацьлеглыя сваёй скіраванасцю: вечны шлюб і развод. Яны заўсёды побач і ў філасофскім, і ў сацыяльна-бытавым сэнсе.

У жыцці складваецца так: у дылетантаў і пражэкцёраў сур’ёзныя праблемы заўсёды прымітывізуюцца. Не выключэнне і Грамыхальскі. Праблема безразводнага шлюбу, паводле меркавання тэарэтыка, вырашаецца вельмі проста: для аматараў чужых жонак зрабіць партыю ложкаў з замацавальнікамі, а ў транспарце павесіць шыльды, накшталт: «У грамадскім месцы не кахаць».

Разумовыя здольнасці Грамыхальскага-«ўсёзнамуса», ягоная постаць як «вялікага рэфарматара» і «першаадкрывальніка, ідэязнаўцы новай эры ў сямейных адносінах», раскрываюцца праз парадаксальныя эпізоды і сітуацыі, шматлікія бытавыя дэталі і рэмаркі-заўвагі. Робіцца гэта нязмушана-акрэслена. Дастаткова нагадаць эпізод з чытаннем дакумента надзвычайнай важнасці, роўных якому няма, каб праявіць сёе-тое. «Я Гаў... Гаў…Гаў…Гаў… рыла. Я — Гаў…», — нудзіць Грамыхальскі. А між тым паміж радкоў прачытваецца не ўсхваляванасць Гаўрылы Патапавіча, а хутчэй — яго сацыяльна-псіхалагічная характарыстыка. Дзякуючы метафарычнаму кантэксту ўражанне такое, быццам бы герой варты не больш, чым на моцнае і раскацістае сабачае браханне, рэха ад якога, праўда, усё ж запаўняе пэўныя сацыяльныя абшары. Здаецца, непрыкметная дэталь, але ігравая і вельмі важная сваім сэнсам.

І ў «Халімоне…» і ў «Гаўрыле…» нямала і рацыянальных момантаў, а парадокс — напэўна, адзін з самых ёмкіх прыёмаў увасаблення. Зрэшты, яго можна разглядаць як сэнсавую канфліктагему, дзякуючы якой многае ў камедыі ставіцца з ног на галаву. Толькі, праўда, не ў тым вытанчана-зацемненым, абстрагаваным сэнсе, як у некаторых драматургаў замежжа.

Абсурд пранізвае быт, асабістыя і службовыя ўзаемадачыненні персанажаў і ў трагікамедыі «Сабака з залатым зубам», у якой, як і ў папярэдніх творах, ёсць, безумоўна, гіпербалічныя гратэскныя моманты, умоўнасць, спалучаныя з натуральнымі жыццёвымі малюнкамі. Аўтар умела разводзіць персанажаў на супрацьлеглыя жыццёвыя пазіцыі: адну з іх прадстаўляе начальнік раённага выцвярэзніка Каранат Козлікаў, яго жонка Фяўронне, іх дачка Лада, міліцыянер Дзюба, старшыня калгаса Абцугайла, другую выражаюць маці Козлікава Кацярына Карпаўна і яе былы сусед па вёсцы дзед Язэп.

Асаблівасць трагікамедыі ў тым, што драматургічная прастора абмежавана своеасаблівым пляцам — домам і сям'ёй Козлікавых, інакш кажучы, мікрамадэллю грамадства, дзе, як у люстэрку, адбіліся шматлікія сацыяльна-маральныя праблемы і, бадай, асноўная, на якую нанізваюцца астатнія, — духоўнае ачмурэнне, маральна-этычны разлад паміж пакаленнямі.

Козлікаў — тыповы местачковы самадур, духоўны перараджэнец, які трапіў «з гразі ў князі». «Ушыўся ў сабаччу шкуру» — так характарызуе яго маці. Карыстаючыся метафарай, можна сказаць, што ён — амаральны тып, які душыць святое, зневажае чалавечую годнасць, думае адно, гаворыць другое, а робіць трэцяе. Каму толькі ад яго ні дастаецца: прайдоху Дзюбе, работнікам загса, пахавальнага бюро і г. д.

Драматург «упільнаваў» нейкі, можа, нават заканамерны для ўчарашніх і сённяшніх будняў, але ў той жа час «ненармальны» і адначасова жывучы, парадокс: начальнік выцвярэзніка — заўзяты самагоншчык і самы горкі п'янтос, ён жа — душагуб роднай маці.

Да пары гаспадару дома — і яго жонка Фяўронне з яе мяшчанска-зайздросніцкай псіхалогіяй і фарысейска-падманлівай філасофіяй жыцця. Абмежаваная, як і муж, капрызная, наравістая, без унутраных тармазоў, яна жыве для асабістай уцехі. Захацелася сабаку ў кватэру, каб не горш як у іншых, трэба сабаку залаты зуб, бо цяпер у алігархаў ёсць залатыя туалетныя прылады, унітазы, неабходна свякроў са свету зжыць — нідзе для яе няма перашкод, усюды яна бярэ верх.

Арганічна дапаўняе сямейную атмасферу і псіхалогію дачка Лада: хаця і разумее амаральнасць паводзін бацькоў і быццам бы і не заўсёды іх падтрымлівае, але фактычна дзейнічае заадно. Яна — разбэшчаная і эгаістычная натура, жорсткая і бязлітасная.

Такім чынам Козлікаў, яго жонка і дачка жывуць у перавернутым свеце, са сваімі меркамі дабра і зла, якія разыходзяцца з традыцыйнай народнай мараллю, але тым не менш выдаюць яго за нармальны, у вышэйшай ступені зладжаны і разумны, а па ацэнцы Козлікава — «абсалютная гармонія».

Некрыклíва, але даволі выразна, па-філасофску мудра, стрымана і зладжана намаляваны вобразы Кацярыны Карпаўны і дзеда Язэпа, вуснамі якіх гаворыць сама мудрасць, чысціня і ўнутраная зграбнасць. Пасуе ім мякка-далікатная манера паводзін, чуццё на чужыя боль і бяду. Таму невыпадкова праз напластаванні сітуацый гучыць лейтматыў, выказаны па-шукшынску маці Козлікава: «Што з людзьмі парабілася?»

Па тыпажы, бытавых дэталях, індывідуалізацыі мовы, каларытных сімвалах, якімі ўяўляюцца «залаты зуб» і «чорны колер хаўтур», умелым згортванні матэрыялу ў цэласнасць трыгакамедыю «Сабака з залатым зубам» не без падстаў можна аднесці да сур'ёзных набыткаў нацыянальнай драматургіі апошняга часу.

Што можна было б сказаць пра п'есы У. Сауліча і іх герояў наогул? І Халімон Капытка, і Гаўрыла Патапавіч, і Каранат Каранатавіч, і іншыя персанажы — вельмі характарныя, з выразным псіхалагічным малюнкам, кожны з «ізюмінкай».

Першы з іх «Халімон Свінаравіч» — так нібыта памылкова ахрысцілі яго ў тэлеперадачы — абагульненне шэрагу рысаў ідыятызму, вымушанага і натуральнага вясковага існавання, цельпукаватасці; другі — метафара чыноўніцкай бяздушнасці, пражэкцёрства і ўяўнай глыбакадумнасці на мяжы з дурасцю; трэці — не проста ілюстрацыя святатацтва, а ўвасабленне перараджэння чыноўніцтва сярэдняй рукі да страты нармальных чалавечых пачуццяў, сораму і сумлення, чым падкрэсліваецца ўвесь маральны жах шматлікіх сучасных працэсаў і з'яў. Грамыхальскія, козлікавы, капыткі, на жаль, плодзяцца не толькі ў крызісных абставінах. З-за іх ствараецца адпаведнае асяроддзе, і ў сваю чаргу жывуць прыстасаванцы шмонькі, дзюбы, самазвоны і г. д. Яны — іх сацыяльнае апірышча. І першыя і другія заўжды разам, бо, па сутнасці, уяўляюць сабой сіямскіх блізнят. «На каго вы мяне кінулі? Што ж я буду без вас рабіць?» — адчайна выгуквае міліцыянер Дзюба, выражаючы думку такіх, як сам, убачыўшы маёра Козлікава ў труне.

П'есы са зборніка «Халімон камандуе парадам» «укладаюцца» побач з творамі шэрагу драматургаў розных пакаленняў. І гэта не перабольшванне. Праз пэўныя супастаўленні (мастацкія сродкі, стылістыка, сімволіка, некаторыя сэнсавыя і сацыяльныя прыкметы) можна заўважыць, што У. Сауліч працягвае традыцыі нацыянальнай драматургічнай школы: у форме падачы матэрыялу ёсць блізкасць да Дуніна-Марцінкевіча («Пінская шляхта»), у дэталях пазнаецца ўплыў К. Крапівы («Хто смяецца апошнім», «Брама неўміручасці»), а ва ўменні ладзіць дыялогі, ствараць камедыйныя калізіі бачыцца творчая вучоба ў А. Макаёнка («Таблетку пад язык», «Святая прастата») і іншых аўтараў розных кірункаў. Арыентацыя на сур'ёзную драматургію, апора на традыцыі не кідае ценю на творы У. Сауліча. Самае, бадай, галоўнае, што яны ўжо аказаліся прыдатнымі як для аматарскіх, так і некаторых прафесійных тэатраў, і гэта найлепшая ім ацэнка. Невыпадкова п'еса «Сабака з залатым зубам» (1992) пастаўлена калектывам тэатра імя Янкі Купалы на Малой сцэне, дзе галоўныя ролі выконвалі народныя артысты Беларусі Стэфанія Станюта і Генадзь Аўсяннікаў.

Набыткі У. Сауліча — значныя. Ёсць за што моцна паціснуць драматургу руку і выказаць пажаданне, каб яшчэ доўга і добра працавалася пад шум пасаджанага ім маладога саду, які набірае сілу.

# Т

Вячаслаў РАГОЙША

# ТВОРЧАСЦЬ, НАДЫХАНАЯ ПАФАСАМ ПАБРАЦІМСТВА

Калі я згадваю імя вядомага ўкраінскага пісьменніка і грамадскага дзеяча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі Рамана Лубкіўскага, то нязменна ўсплывае ў свядомасці і праблема ролі асобы ў жыцці грамадства. У прыватнасці — роля творчай асобы ў развіцці літаратурных сувязей. Сувязі паміж народамі і іх культурамі, як вядома, наладжваюць не безыменныя калектывы, а асобныя найбольш таленавітыя, кантактабельныя прадстаўнікі. Роля творчай асобы ў развіцці літаратурных сувязей, у тым ліку міжславянскіх, надзвычай важная, без перабольшання — незаменная. Сувязіст — без гэтай прафесіі нельга абысціся пры звычайных чалавечых кантактах, як бы такі сувязіст ні называўся: тэлефаніст, тэлеграфіст, аператар мабільнай сувязі… Без сувязіста-літаратара, гэтага, умоўна кажучы, спецыяліста мабільнай сувязі паміж народамі, не могуць як след функцыянаваць міжнародныя «масты дружбы», па якіх, услед за літаратурай і культурай у цэлым, лягчэй «пераязджаюць» стасункі эканамічныя, гандлёвыя, палітычныя і інш.

Калі гаварыць толькі пра міжславянскія літаратурныя кантакты, то тут «сувязістаў» увогуле нямала. Праўда, адны з іх выпадкова падключаліся да такога занятку, займаліся ім часова. Другія ўсё жыццё падтрымліваюць сувязь, але арыентуюцца толькі на адзін яе «канал»: прапагандуюць адну літаратуру або творчасць аднаго нейкага пісьменніка. А вось трэція… Трэція хочуць і — галоўнае — могуць падключаць да роднай культуры лепшыя дасягненні многіх славянскіх пісьменнікаў і літаратур у цэлым. Зразумела, нават у нашым шматмільённым славянскім свеце такіх працаўнікоў налічваецца літаральна адзінкі. З беларусаў ім быў, у прыватнасці, Максім Багдановіч, які зацікаўлена і метадычна знаёміў сваіх чытачоў з літаратурай, культурай, гісторыяй беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, чэхаў, сербаў, балгар… Што да сучаснай Украіны, то ім, несумненна, з'яўляецца Р. Лубкіўскі.

Нагадаем некалькі звестак з яго біяграфіі, паколькі яны паказваюць на асноўныя вытокі гэтай дзейнасці. Нарадзіўся Р. Лубкіўскі 10 жніўня 1941 г. у сяле Астрывец Тэрабаўлянскага раёна на Тарнопальшчыне ў бікультурнай сям'і: маці — ўкраінка, бацька — паляк. Як падкрэсліў у прадмове да кнігі яго літаратурна-крытычных нарысаў «Многосвіточ» (1978) адзін з буйнейшых сучасных украінскіх пісьменнікаў, Герой Украіны Дмытро Паўлычка, улюбёнасць пісьменніка ў славянскі свет «ідзе з глыбіні сэрца, з народжанай еднасці ўкраінскай і польскай крыві, якая віруе ў ім. Менавіта гэта еднасць у яго сэрцы ўзмацняе ўкраінскі патрыятызм, завастрае пачуццё справядлівасці, праз якое незаконна прыніжаная і патаптаная чужынцамі і «сваімі» пігмеямі Украіна і ўкраінская мова становяцца ідэаламі ягонага жыцця, творчасці, няспыннай грамадскай і палітычнай дзейнасці». Належнае веданне моў і культур славянскіх Р. Лубкіўскі першапачаткова здабываў на славянскім аддзяленні філфака Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франко. Паступова ўдасканальваліся і рэалізаваліся гэтыя веды ў часе яго працы намеснікам рэдактара львоўскага літаратурна-мастацкага часопіса «Жовтень» (вёў там, у прыватнасці, раздзел перакладаў «Славянскія

рэкі»), старшынёй Львоўскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Украіны і грамадска-культурнага аб’яднання «Просвіта», кіраўніком Львоўскага абласнога ўпраўлення культуры, дэпутатам Вярхоўнай Рады Украіны, урэшце — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Чэхіі і Славакіі…

Пісьменніцкі набытак Р. Лубкіўскага вызначаецца найперш, зразумела, уласнымі творчымі дасягненнямі. Сёння ён — адзін з самых вядомых украінскіх літаратараў, аўтар звыш двух дзясяткаў арыгінальных паэтычных кніг, паэт са сваім адметным голасам («Зачудовані олені», 1965; «Звіздар», 1977, прэмія імя П. Тычыны «Чуття єдиної родини»; «Погляд вічності», 1990, Дзяржаўная прэмія Украіны імя Т. Шаўчэнкі; «Квітень у серпні», 2003; «Янгол у снігах», 2005; «Forum Romanum», 2009 і інш.). Асобныя кнігі яго выходзілі ў розных краінах, у тым ліку і ў Беларусі. У прыватнасці, у 1990 г. у Мінску ў перакладзе на беларускую мову ў прэстыжнай калісьці серыі «Паэзія народаў СССР» выйшаў яго зборнік вершаў «Пялёсткі святла», цёпла ўспрыняты чытачамі і крытыкай. Але цяпер гаворка, надыханая пафасам пабрацімства, не пра гэта.

Ідучы следам за сваім вялікімі настаўнікамі Іванам Франко і Максімам Рыльскім, працуючы поруч і падзараджаючыся энергіяй актыўнейшага міжкультурнага «сувязіста» Дмытра Паўлычкі, наследуючы іх энцыклапедызм, шчыры патрыятызм і шырокі ўніверсалізм, паэт, перакладчык, славяназнавец Р. Лубкіўскі паказвае датычнасць украінцаў і іхняй працы ў фармаванні цывілізацыі славянскай Еўропы, ці, калі хочаце, еўрапейскай Славяншчыны. Яго перакладчыцкае сціло ажывіла ў стыхіі ўкраінскага вобразнага слова *сотні* твораў *дзясяткаў* паэтаў літаральна *ўсіх* сучасных славянскіх народаў. Да гэтага, яго пяру належаць глыбокія артыкулы-даследаванні пра расіяніна Аляксандра Пушкіна («Крыштальная крыніца натхнення») і славака Павала Орсага (Гвездаслава) («Зара Гвездаслава»), балгарына Хрыста Боцева («Свабоды палымяны геній») і чэха Іржы Волькера («Сэрца Волькера»), сербку Дэсанку Максімавіч («Валадарка паэзіі — Дэсанка») і паляка Марэка Ваўжкевіча («Адчуванне мяжы… Але не апошняй!»), пра беларусаў Цётку («На струнах буры»), Максіма Багдановіча («Святло чыстае, незмяркальнае»), Янку Купалу («Гэта жывое і вечнае слова»)… Названыя, як і іншыя, артыкулы друкаваліся ва ўкраінскай перыёдыцы, уваходзілі ў якасці прадмоў да ўкладзеных і перакладзеных Р. Лубкіўскім асобных зборнікаў вершаў Дэсанкі Максімавіч, Лаца Навамескага, Францэ Прэшэрна, Марэка Ваўжкевіча, Цёткі, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, склалі разам з іншымі публікацыямі ўжо згаданую кнігу яго літаратурна-крытычных нарысаў «Многосвіточ». Аднак, бадай, самае адметнае, чым вызначыўся Р. Лубкіўскі як славяналюб і славяназнаўца, — і не толькі ва Украіне, але і ва ўсім славянскім свеце — стварэнне дзвюх унікальных анталогій: «Слов’янське небо» і «Слов’янська ліра».

На тытуле «Славянскага неба», што выйшла ў Львове яшчэ ў 1972 г., — даволі вымоўны падзагаловак: «Вершы рускіх, беларускіх, польскіх, чэшскіх, славацкіх, серба-лужыцкіх, югаслаўскіх, балгарскіх паэтаў у перакладзе Рамана Лубкіўскага». Такім чынам, гэта неардынарнае выданне працягнула справу (толькі, зразумела, на больш высокім, сучасным узроўні), пачатую сто гадоў перад тым хрэстаматыяй рускага перакладчыка і бібліёграфа М. Гербеля «Поэзия славян» (Пецярбург, 1871). Канечне, за стагоддзе ўсе славянскія літаратуры выраслі колькасна і якасна, і цяпер нават самая аб’ёмістая анталогія не здолее ўмясціць у сябе адны толькі выдатныя творы славянскага прыгожага пісьменства. І ўсё ж ідэя звесці ўсе славянскія паэтычныя рэкі ў адно літаратурнае мора, змясціць асобныя творы славянскай паэзіі ў адной мікраанталогіі аказалася надзвычай плённай і арыгінальнай. Ва ўсялякім разе, падобнага выдання ў пасляваенны час ні ў адной іншай славянскай краіне, апрача Украіны, не з’явілася.

У кнізе змешчаны кароткія нататкі перакладчыка пра ўсіх славянскіх паэтаў, прадстаўленых у ёй. У невялікай прадмове «Ад перакладчыка» Р. Лубкіўскі прызнаваўся: «З багацейшага гучання паэзіі славянскага свету выбіраліся, як на мой погляд, важныя, хоць далёка не ўсе тоны. Тыранаборчы дух класічнай рускай

паэзіі, яе вечнае, рэвалюцыянізуючае абнаўленне, задушэўнасць паэзіі беларускай, шчырая чалавечнасць паэзіі чэшскай, славацкай, традыцыйнасць і разам з тым незаспакоенасць польскай, пачуццёвасць серба-лужыцкай, парывістасць і шматфарбнасць балгарскай, разнастайнасць паэзіі народаў Югаславіі — і паводле гэтых адзнак (зразумела, досыць умоўных) фарміравалася кніжка».

Крыху больш чым праз дзесяць гадоў, у 1983 годзе, на аснове «Славянскага неба» Р. Лубкіўскі, ужо ў Кіеве, выдаў зборнік «Славянская ліра». І ў першую, і ў другую кнігу ўвайшлі творы ажно 136 (!) славянскіх паэтаў. Праўда, калі ў першай з іх кожны быў прадстаўлены адным, рэдка — двума-трыма, вершамі, то ў другой — некалькімі, прычым звычайна новымі, перакладамі. Крыху зменена (колькасна і якасна) і нацыянальнае прадстаўніцтва асобных славянскіх паэзій. Аднак у абедзвюх кнігах самыя розныя вершы — грамадзянскія, філасофскія, інтымныя, пейзажныя — аб'ядноўвае адзін выразны матыў: адвечнае пабрацімства славянскіх народаў. Ён, гэты матыў, часам гучыць пэўна, выяўляецца непасрэдна. Як, скажам, у вершах рускага паэта Аляксандра Адоеўскага «Славянскія дзевы» ці харвата Петара Прэрадавіча «Прызначэнне славянства». Аднак у цэлым ідэя дружбы братніх народаў прарастае ў «Славянскай ліры» спакваля, увасабляецца не просталінейна, а хутчэй апасродкавана. Пра гэта сведчаць перш за ўсё ўключаныя ў анталогію творы розных славянскіх паэтаў пра Украіну, украінскі народ, яго гісторыю, культуру, мову. Назавём хаця б вершы рускіх Мікалая Някрасава «На смерць Шаўчэнкі» і Мікалая Ціханава «Анна Яраслаўна», беларуса Максіма Танка «На Украіне», палякаў Уладзімежа Слабодніка «Да Міколы Бажана» і Мечыслава Яструна «Песня Яраслаўны», чэха Рудальфа Майера «Україна», балгарына Захарыя Іванова «Украіне»… Разам з тым укладальнік і перакладчык увёў у анталогію творы, якія тэматычна пацвярджаюць міжславянскія кантакты. Я маю на ўвазе такія вершы, як «Шапэну» расіяніна Афанасія Фета, «Боль Сербіі» беларуса Пімена Панчанкі, «Балгарскаму брату» беларуса Ніла Гілевіча, «З падарожжа ў Беларусь 1965 года» лужычаніна Кіта Лорэнца, «Беларускі снег» балгарына Андрэя Германава і г. д. Урэшце, няўжо не сцвярджаецца, хоць і апасродкавана, пабрацімства славянскіх народаў ужо тым, што вершы *ўсіх* славян, як добрыя сябры, сышліся ў *адной* кнізе, выдадзенай у перакладзе на *адну* са славянскіх моў, у *адной* з суверэнных славянскіх краін!

Кніга «Славянская ліра» (як, дарэчы, і «Славянскае неба») спалучыла ў сябе якасці двух самастойных выданняў. Па-першае, гэта арыгінальная анталогія *агульнаславянскай* (за выключэннем, зразумела, украінскай) паэзіі. Па-другое, гэта выбранае *аднаго* перакладчыка, Р. Лубкіўскага. Апошняя акалічнасць дазваляе даволі выразна ўбачыць творчы почырк, стыль перакладчыка. У слова «стыль» мы ўкладаем яго літаратуразнаўчы змест, што ўключае ў сябе два традыцыйныя моманты, акрэсленыя займеннікамі «што» і «як»: што (каго канкрэтна, якія творы) і як (ступень адэкватнасці мастацкага перакладу) узнаўляе перакладчык. Пра тое, каго пераклаў Р. Лубкіўскі, у цэлым відаць ужо са зробленага пераліку асобных імёнаў славянскіх паэтаў.

Што датычыць перакладчыцкага майстэрства, то параўнанне рознаславянскіх арыгіналаў і іх украінамоўных узнаўленняў сведчыць пра ўважлівае стаўленне Р. Лубкіўскага да першакрыніц, імкненне дакладна перадаваць не толькі інфармацыю сэнсавую, але і кананатыўную, вобразна-выяўленчую, экспрэсіўную. Перакладчык па магчымасці ўзнаўляе арыгінал у еднасці яго зместу і формы, захоўвае дамінантныя дэталі яго зместу і асаблівасці паэтыкі. Галоўнае ж — імкнецца да таго, каб твор і ў перакладзе аказваў на чытача прыблізна такое ж уздзеянне, як і ў арыгінале, выклікаў падобныя эмоцыі. Адным словам, імкнецца паэзію перадаваць паэзіяй. Зразумела, не заўсёды гэта ўдаецца. Тым больш, што пераклад з роднасных моў, у параўнанні з перакладам з моў няроднасных, мае свае «падводныя камяні»: «пасткі» міжмоўнай аманіміі, інтэрферэнцыі блізкіх моў, асаблівы кантроль чытачоў, у якіх арыгінал нярэдка «на слыху», і інш. Часам з перакладчыкам можна спрачацца, не згаджацца з узнаўленнем таго ці іншага вобраза, вобраз-

най дэталі, лексемы. Але, як правіла, наяўнасць спецыфічнага перакладчыцкага таленту, вялікі творчы вопыт, валоданне славянскімі мовамі, добрае веданне творчасці славянскіх паэтаў, славянскіх рэалій, выручаюць перакладчыка.

Дзякуючы Р. Лубкіўскаму ў адзінае рэчышча славянскіх літаратур уліваецца і рака беларускай паэзіі. У «Славянскім небе» яна была напоўнена вершамі 20 паэтаў, у «Славянскай ліры» — 15. Не стала твораў Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Міхася Чарота, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Машары, Піліпа Пестрака, Ларысы Геніюш, Васіля Зуёнка, Мар'яна Дуксы. Затое з'явіліся прозвішчы Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, Пімена Панчанкі. У цэлым у дзвюх анталогіях знайшлося месца для знакавых вершаў 24 беларускіх паэтаў (для параўнання: для стольк жа — польскіх і 37 — рускіх). Калі ж улічыць і пераклады, што не ўвайшлі ў дзве анталогіі, а таксама артыкулы пра беларускіх майстроў мастацкага слова, то, несумненна, Р. Лубкіўскі — на сёння самы плённы і адказны паўнамоцны прадстаўнік беларускай літаратуры на братняй украінскай зямлі. І ў першую чаргу — духоўны паўпрэд нашага Максіма Багдановіча.

Увага і павага ўкраінцаў да асобы і творчасці аўтара «Вянка» пачалася, па сутнасці, у аднячассе з першымі публікацыямі твораў беларускага паэта ў «Нашай Ніве» і не канчаецца да нашага часу. На Украіне пераклады твораў М. Багдановіча і артыкулы пра яго друкаваліся (і друкуюцца дагэтуль) даволі часта. У той жа час можна вызначыць тры этапныя моманты ва ўкраінамоўным успрыманні ягонай творчай спадчыны. Першы, які ўмоўна назавём «драй-хмараўскім», звязаны з выданнем у 1929 г. у Кіеве зборніка «Вінок», куды ўвайшлі перакладзеныя Міхайлам Драй-Хмарам (1889—1939) 42 вершы беларускага паэта і ягоная грунтоўная прадмова да кнігі. Другі — «дэнысюкоўскі» — прадвызначаны з'яўленнем кнігі М. Багдановіча «Лірика» ў знакамітай серыі «Перлини світової лірики» кіеўскага выдавецтва «Дніпро». Арганізатарам і натхняльнікам гэтага выдання, яе укладальнікам, аўтарам знакавай прадмовы «Речник білоруського відродження» стаў прафесар (тады яшчэ дацэнт) Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко Іван Дэнысюк (1925—2009). Пакуль у Беларусі яшчэ нясмела прыстасоўваліся да наймення «класік» у дачыненні да М. Багдановіча, украінцы безапеляцыйна паставілі яго ў адзін шэраг з такімі тытанамі паэтычнага слова, як англічанін Шэкспір і шатландзец Бёрнс, немец Шылер і рускі Лермантаў, бельгіец Верхарн і таджык Амар Хаям, кнігі якіх некалькі раней пабачылі свет у той жа серыі. Трэці этапны момант прэзентацыі творчасці М. Багдановіча ўкраінскаму чытачу непасрэдна суадносіцца з асобай Р. Лубкіўскага. Неаспрэчным сведчаннем гэтага з'яўляецца ўкладзеная, забяспечаная грунтоўнай прадмовай, каментарам і ў значнай ступені перакладзеная ім кніга М. Багдановіча «Стратим-Лебідь: зібрання творів: поезія, проза, публіцистика, критика, листи» (2002). Гэта, па сутнасці, першы Поўны збор твораў класіка беларускай літаратуры за межамі Беларусі. Такога замежнага выдання пакуль што няма нідзе.

Да творчасці і постаці М. Багдановіча Р. Лубкіўскі падступаўся настойліва і даўно. Яшчэ ў канцы 1966 г. у часопісе «Дніпро» (№ 12) ён надрукаваў арыгінальны артыкул да 75-годдзя беларускага паэта з красамоўнай назвай «Речник приречених» і пераклады вершаў «Пагоня», «Санет», твораў з цыкла «Старая спадчына». У львоўскай газеце «Вільна Україна» за 9 снежня таго ж года змясціў пераклады яшчэ двух санетаў — «Що з того, що у серці вірш кипить?..» («Что из того, что стих в душе кипит?..») і «Серед боліт, під сонячним промінням…» («На цёмнай гладзі сонных луж балота…»). А ў кнізе «Лірика», што выйшла праз год, апублікаваў пераклады ўжо звыш двух дзясяткаў твораў М. Багдановіча, сярод якіх такія вядомыя, як вершаванае апавяданне «Вераніка», балада «Страцім-лебедзь», вершы «Пагоня», «Касцёл св. Анны ў Вільні», «Народ, Беларускі Народ!..», «Раманс», «Актава», «Тэрцыны», «Пентаметры», санеты «У Вільні», «Прынадна вочы ззяюць да мяне…» і інш. Пазней друкаваў і іншыя пераклады з М. Багдановіча. Некаторыя з ранейшых і пазнейшых перакладаў уключыў у анталогіі «Слов'янське небо» («Народе, відколи твій рід…», «Романс», «Білорусь»)

і «Слов'янська ліра» («Погоня», «Стратим-лебідь», «Переписувач», «Не блищать в змеркання пору…»). І ўсё ж галоўная, неацэнная заслуга Р. Лубкіўскага і перад багдановічазнаўствам, і ўвогуле перад беларускай культурай — выданне «Стратим-лебідя»…

У кнігу ўвайшлі літаральна ўсе паэтычныя, празаічныя, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя творы аўтара «Вянка» і яго эпісталярый у лепшых украінскіх перакладах. Творы паэзіі прадстаўлены перакладамі Міхайла Драй-Хмары, Міколы Зэрава, Рыгора Кочура, Яраслава Яра-Славутыча, Дмытра Паўлычкі, Ігара Калынца, Сцяпана Літвіна, Уладзіміра Лучука, Аксаны Сенатовіч, Віктара Чабаненкі і інш. Таццяна Кабржыцкая пераклала для выдання шэраг літаратурна-крытычных артыкулаў («Глыбы і слаі», «За сто год», «Кароткая гісторыя беларускага пісьменства да XVI сталецця», «Беларускае Адраджэнне», «Санет», «Забыты шлях», «Грыцько Чупрынка», «Уладзімір Віннічэнка» і інш.).

Асноўны ж цяжар па выданні «Стратим-лебідя» вынес на сваіх плячах сам Р. Лубкіўскі. І гэта не толькі клопаты, звязаныя з укладаннем кнігі, выбарам гатовых і заказам новых перакладаў, рэдагаваннем тэкстаў, напісаннем вялікай прадмовы да кнігі «Білоруський Ікар» (па сутнасці — асобнага літаратуразнаўчага даследавання), неабходных каментароў і г. д. Можна толькі ўявіць, колькі часу і творчай энергіі ўзялі ў Р. Лубкіўскага тыя шматлікія яго паэтычныя і празаічныя пераклады, без якіх выданне Збору твораў М. Багдановіча было б далёка не поўным.

Вось асобныя факты. Толькі з прозы Лубкіўскі ўзнавіў сродкамі роднай мовы апавяданні, нарысы, публіцыстыку, лісты, украіназнаўчыя працы і інш. Што ж да твораў паэзіі, то іх ва ўзнаўленні Р. Лубкіўскага налічваецца ажно 166 пазіцый (!). Ён адзін цалкам ці амаль цалкам пераклаў такія багдановічаўскія паэтычныя цыклы, як «Згукі Бацькаўшчыня», «Места», «Думы», «Каханне і смерць», «Вершы беларускага складу», «З чарнавых накідаў» і інш. Усё гэта дазваляе лічыць кнігу М. Багдановіча «Стратим-лебідь» аўтарскім выданнем Р. Лубкіўскага.

Дарэчы, багата і прыгожа выдадзеная кніга адкрыла новую прэстыжную серыю львоўскага выдавецтва «Світ» — «Ad fontes» («Да крыніц»). У задуме Р. Лубкіўскага — выданне ў гэтай серыі класічных твораў Янкі Купалы, вядомых і невядомых да гэтага часу. На творчым варштаце — дапрацоўка новай персанальнай перакладчыцкай анталогіі «Сто беларускіх паэтаў», выданне двухмоўнага (украінска-беларускага) зборніка выбраных вершаў класіка ўкраінскай паэзіі Багдана Ігара Антоныча…

Заслужаны дзеяч культуры Польшчы, лаўрэат чэшскай літаратурнай прэміі імя В. Незвала, славацкай — імя П. Гвездаслава, Р Лубкіўскі ўносіць агромністы ўклад у папулярызацыю і беларускай літаратуры на Украіне, у мацаванне спрадвечных кантактаў двух братніх народаў — украінскага і баларускага. Несумненна, заслужыў ён за гэта і нашай глыбокай павагі і падзякі.

# Т

Васіль СТАРЫЧОНАК

# ДРУГАСНЫЯ ІМЕННЫЯ НАМІНАЦЫІ
## (на матэрыяле твораў беларускай літаратуры)

Сістэма намінатыўных сродкаў мовы характарызуецца двухузроўневай арганізацыяй, якая складаецца з першасных і другасных намінацый. Сучасны этап лінгвістычнай навукі характарызуецца павышанай цікавасцю да праблем другасных намінацый, якія разглядаюцца з самых розных пазіцый.

У гэтым артыкуле другасныя намінацыі асэнсоўваюцца з семасіялагічнага пункту гледжання. Пад другаснымі разумеюцца лексіка-семантычныя варыянты (у далейшым — ЛСВ), утвораныя ў сваёй большасці на базе зыходнага значэння слова, якое пэўным чынам трансфармуецца. Пры гэтым выкарыстоўваецца гукавое афармленне (фанетычны воблік) ужо існуючай у мове лексічнай адзінкі. Другасныя ЛСВ не проста называюць пэўны фрагмент рэчаіснасці, а фармулююць пра яго ўяўленне, канцэптуалізуюць яго ў чалавечай свядомасці. Гэта новае бачанне прадмета, актуалізацыя яго асобных якасцей і ўласцівасцей, відазмяненне ўражанняў аб прадмеце.

Даволі шырокае разуменне другасных намінацый і звязаных з імі другаснымі тэкстамі прыводзіцца ў літаратуразнаўчых і некаторых мовазнаўчых працах. Так, да другасных адносяцца не толькі словы і спалучэнні слоў з другаснымі значэннямі, але і тэксты, якія характарызуюцца дваякай скіраванасцю (на прадмет маўлення і на чужое маўленне) і падражаннем, капіраваннем зыходнага тэксту. Гэта пародыі, стылізацыі, бурлескі, а таксама тэксты, якія выводзяцца з зыходных тэкстаў, пераносяцца ў новае камунікатыўнае асяроддзе і ўтрымліваюць звесткі ў выглядзе інтэрпрэтацый, аналітыка-сінтэтычных перабудоў, трансфармацый і інш. (анонсы, рэзюмэ, анатацыі, аўтарэфераты, рэцэнзіі, рэкламныя тэксты, літаратурныя агляды, крытычныя артыкулы, канспекты лекцый, перакладныя тэксты і інш.).

Узнікненне другасных намінацый абумоўлена прыродай і асаблівасцямі чалавечага мыслення, яго абстрагаваным і абагульненым характарам, здольным адлюстроўваць акаляючую рэчаіснасць ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці ўсіх яе элементаў. Практычна ўсе віды другасных намінацый з’яўляюцца вынікам асацыятыўнасці чалавечага мыслення, пры якім выбар прыметы ў працэсе ўтварэння новага ЛСВ дыктуецца не толькі характарам аб’екта абазначэння, але і адносінамі да яго суб’екта, узроўнем ведання гэтага аб’екта, вопытам узаемадзеяння з ім.

У аснове другаснасці — дыспрапорцыя, асіметрыя моўнага знака, сутнасць якой заключаецца ў адсутнасці ізамарфізму паміж планам выражэння і планам зместу, у выкарыстанні абмежаванай колькасці слоў (ці іншых знакаў) для абазначэння неабмежаванай колькасці прадметаў і з’яў навакольнага свету, невычарпальнага канцэптуальнага зместу.

Другасныя намінацыі выконваюць не дапаможную, дадатковую, а даволі важную ролю ў працэсе моўнай канцэптуалізацыі і катэгарызацыі рэчаіснасці. Яны лічацца вынікам аднаго з фундаментальных моўных працэсаў, які рэалізуецца ў тэндэнцыі да эканоміі моўных сродкаў. Менавіта ў другасных намінацыях выяўляецца галоўны закон развіцця мовы і мыслення, які прадугледжвае філіяцыю — развіццё моўных з’яў у паслядоўнасці і пераемнай сувязі, у непасрэднай залежнасці ад папярэдніх фактаў, накапленне ведаў і атрыманне на іх аснове новай інфармацыі.

Па характары рэпрэзентацыі рэчаіснасці адрозніваюць два тыпы другасных намінацый: аўтаномную (матывавана апасродкаваную) і неаўтаномную (ускосную). Пры аўтаномнай намінацыі новае значэнне фарміруецца на базе тых ці іншых прымет зыходнага значэння, якія часткова трансфармуюцца і пераходзяць у новы ЛСВ. Аўтаномная намінацыя ажыццяўляецца на базе аднаго слова. Вынікам аўтаномнай намінацыі з'яўляецца ўтварэнне другасных ЛСВ, якія выконваюць больш-менш самастойную намінатыўную функцыю і называюць пэўны фрагмент аб'ектыўнай рэчаіснасці, прымету ці дзеянне аўтаномна, на базе аднаго імені (часам у спалучэнні з кантэкставым акружэннем): *Гэтаму **казлу** ніяк не дакажаш, стаіць на сваім, хоць ты яго рэж* (І. Капыловіч); *Ну, гэтыя **казкі** вы расказвайце сваёй бабулі. Ніхто ім не паверыць* (К. Крапіва); *Дарэмна пяеш **калыханку**, зіма* (А. Вялюгін).

Неаўтаномныя намінацыі характарызуюцца сінсемантычнасцю, г. зн. рэалізуецца толькі ў спалучэнні з іншымі словамі, адно з якіх з'яўляюцца апорным (яно выражае асноўны змест), а другое — падпарадкавальным: ***серп** месяца, **кола** пошукаў, **вір** жыцця, **атары** тумапоў, людская **рака**, дзявочы **шчэбет**, **цвёрды** характар, **круты** нораў.* У тлумачальных слоўніках такія намінацыі часцей за ўсё прыводзяцца з паметамі «пераноснае», «вобразнае»: *кіслы* «маркотны, панылы» (***кіслы** настрой*), *зялёны* «юны, нявопытны» (*наш новы начальнік зусім **зялёны***), *зара* «пачатак, зараджэнне чаго-небудзь новага» (***зара** цывілізацыі*). Найбольш ярка працэс неаўтаномнай другаснай намінацыі выражаецца ў фразеалагічных адзінках.

Другасныя намінацыі ў залежнасці ад характару іх сэнсавай сувязі з зыходным ЛСВ могуць уключацца ў розныя тыпы полісеміі:

1. Пры **радыяльнай** полісеміі другасныя намінацыі знаходзяцца ў непасрэднай залежнасці ад першаснага ЛСВ і могуць засноўвацца на адных і тых жа ці розных прыметах. Аднародныя (гамагенныя) вытворныя ЛСВ характарызуюцца аднолькавай сэнсавай скіраванасцю. Так, другасныя ЛСВ полісеманта *парасон* аб'ядноўваюцца агульнай прыметай «тое, што нагадвае парасон» *(чырвоны парасон ясеня, парасоны соснаў, зорны парасон, нябёс блакітных парасон, неба — чорны парасон).* Неаднародныя (гетэрагенныя) другасныя намінацыі ўтвараюцца шляхам актуалізацыі розных сем зыходнага ЛСВ. Напрыклад, другасныя ЛСВ прыметніка *залаты* актуалізуюць такія семы, як «бліскуча-жоўты» (*залатыя промні, залатыя лісты дрэў*), «добры, цудоўны» (*залаты характар, залатыя словы*), «шчаслівы, радасны» (*залатое дзяцінства, залаты час*), «дарагі, любімы» (*залатыя дзеці*). Шматлікія ЛСВ полісеманта *воблака* групуюцца вакол 4 метафарычных цэнтраў, аб'яднаных наступнымі прыметамі: «вонкавае падабенства» (*воблакі чорнага дыму, белае воблака снежнага пылу),* «колькасць» (*воблака кусліваых аваднёў, аблокі галубоў),* «пышнасць, суквецістасць» (*воблакі садоў, бэзавыя аблокі),* «унутраны стан чалавека» (*аблокі мар, воблакі ўспамінаў).*

2. Пры **ланцужковай** полісеміі разгортванне семантыкі ажыццяўляецца па ланцужку: на аснове першаснага ЛСВ утвараецца другі вытворны ЛСВ, трэці ЛСВ падпарадкоўваецца другому, чацвёрты — трэцяму і г. д. Кожны наступны ЛСВ засноўваецца на папярэднім. Па тыпу ланцужковай полісеміі аб'яднаны чатыры ЛСВ полісеманта *хмель*: «павойная расліна»; суквецце гэтай расліны, яе насенне (выкарыстоўваецца ў піваварэнні); «хмельны напітак»; «стан ап'янення, узбуджанасці».

3. Пры **паралельнай** сувязі (яна часцей за ўсё назіраецца ў вытворных суфіксальных дэрыватах) ЛСВ аб'ядноўваюцца агульнай прыметай (па колеры, якасці, ліку, характары дзеяння і інш.) зыходнай адзінкі і суіснуюць у сэнсавай структуры незалежна і раўнапраўна. Параўн.: *начнік* (ад *начны*) «няяркая лямпачка, якая запальваецца нанач»; «чалавек, які працуе ноччу або доўга не кладзецца спаць»; *скакун* (ад *скакаць*) «конь з высокімі бегавымі якасцямі»; «той, хто скача»; «спартсмен, які займаецца скачкамі»; «пра таго, хто не сядзіць на месцы, любіць бегаць»; «танцор».

У залежнасці ад ступені сэнсавай аддаленасці зыходнага і вытворнага ЛСВ другасныя намінацыі могуць уключацца ва ўнутраную і знешнюю полісеміі. Другасныя ЛСВ, якія развіваюцца ў межах адной і той жа тэматычнай групы (семантычнага поля) і мінімальна аддалены ад першасных ЛСВ, уключаюцца ў разрад унутранай полісеміі найбольш тыповым праяўленнем такой полісеміі з'яўляюцца гіпанімічныя і сінекдахічныя структуры, ЛСВ якіх заўсёды маюць агульную тэматычную замацаванасць і адрозніваюцца толькі па сэнсавым аб'ёме (па родзе і відзе, частцы і цэлым). Параўн.: *чалавек* «найбольш развітая жывая істота, якая валодае дарам мыслення і маўлення» → «мужчына», «муж», «слуга ў тракціры, рэстаране»; *мужык* «селянін» → «муж», «грубы, нявыхаваны чалавек»; *баба* «жанчына» → «замужняя жанчына», «матчына або бацькава маці», «жонка», «жанчына, якая прымае дзяцей у час родаў», «нерашучы чалавек».

Унутраная полісемія яскрава выяўляецца ў рэалемных (інварыянтных) структурах, дзе эпідыгматычнасць (вытворнасць) практычна адсутнічае. Адбываецца частковая мадыфікацыя інварыянта, яго дэталізацыя (спецыялізацыя), актуалізацыя розных прымет (як рэлевантных, так і нерэлевантных). Так, за кошт унутраных рэзерваў семантычнага поля «асоба» ўзніклі другасныя персаніфікаваныя ЛСВ. Пры іх утварэнні практычна не адбываецца трансфармацыі дэнататыўнай суаднесенасці, пераходу ў іншыя тэматычныя групы, назіраецца толькі замена канататыўных сутнасцей. Менавіта таму многія персаніфікаваныя ЛСВ нясуць на сабе адбітак суб'ектыўнага пачатку і гіпатэтычнага домыслу: *дыпламат* «чалавек са здольнасцю дзейнічаць тонка, умела», *фокуснік «*хітрун, махляр, спрытнюга», *клоўн* «чалавек-камедыянт», *прытворшчык* «найміт «прадажнік, прыслужнік», *філосаф* «чалавек, які ўдумліва, сур'ёзна ставіцца да жыцця, ведае яго таямніцы», *ведзьма* «злая, сварлівая жанчына». У якасці сферы-крыніцы могуць выступаць кампаненты шматлікіх тэматычных груп, якія актуалізуюць самыя розныя характарыстыкі чалавека: прыгажосць, выдатныя разумовыя і прафесійныя здольнасці, самаадданасць, высакароднасць, безразважлівасць, жорсткасць і інш.*: Скончаць змену яны, Важна пройдуцца — **Каралевы** палескай зямлі* (С. Фамін); *Дзед быў вясковым кавалём, кавальскай справы **каралём*** (М. Рудкоўскі); *Верны **рыцар** Беларусі, Мікола Ермаловіч пры жыцці быў легендай нашага нацыянальнага адраджэння* (Я. Лецка); *Меднастволы сасоннік, Белакоры бярэзнік, Я ваш вечны **палоннік** І нявечны **равеснік*** (А. Пісьмянкоў); *Паэт — крыху **вар'ят**. Абавязкова. Без гэтага паэзіі няма* (Н. Гілевіч).

Другасныя намінацыі, якія ўтвараюцца на базе сродкаў другога семантычнага поля, уключаюцца ў склад знешняй полісеміі. Такія ЛСВ больш аддалены ад зыходных значэнняў, аб'ядноўваюць намінацыі розных тэматычных груп і, як правіла, з'яўляюцца метафарычнымі ці метанімічнымі. Параўн.: *нос чалавека, нос лодкі, самалёта; крыло птушкі, крыло самалёта, крылы ветрака, крыло машыны, левае крыло будынка, правае крыло дэсантнікаў; сівы дзед, сівы туман, сівая даўніна; чорная коўдра, чорныя думкі, чорная падзяка, чорная нядзеля; чаромхавая завея, жыццёвыя завеі, завея вайны.*

## Другасныя назоўнікавыя намінацыі: метафарычныя пераасэнсаванні

Назоўнікі займаюць асобае становішча сярод лексіка-граматычных разрадаў слоў. У колькасным плане яны пераважаюць над астатнімі часцінамі мовы, уступаючы дзеяслову і прыметніку па сэнсавым аб'ёме і рухомасці межаў семантычнага вар'іравання. Назоўнікі, як пра гэта неаднаразова сцвярджалася ў навуковай літаратуры, характарызуюцца больш выразнай семантычнай структурай, вялікай колькасцю пераносных ЛСВ, наяўнасцю разнастайных відаў падпарадкавальнай сувязі, пэўнай іерархіяй ЛСВ, іх субардынацыяй, асаблівасцямі канататыўнага

зместу, арыентацыяй часткі свайго сэнсавага зместу на вытворныя і аднакарэнныя словы.

Асноўным сродкам фарміравання сэнсу другасных субстантыўных намінацый з'яўляецца метафара, якая выконвае важную ролю ў пабудове моўнай карціны свету, інтэграцыі вербальна-моўнай і пачуццёва-вобразнай сістэм чалавека, актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні асобаснай мадэлі свету. Яна паспяхова выконвае ролю своеасаблівай прызмы (лінзы), праз якую чалавек успрымае, інтэрпрэтуе і катэгарызуе навакольную рэчаіснасць. Чалавек не толькі выражае свае думкі пры дапамозе метафар, але і мысліць метафарамі. Менавіта ў метафары і яе падсістэмах утрымліваецца імліцытнае проціпастаўленне звычайнага бачання свету (яно адапавядае навуковым класіфікацыям і лагічнай карціне свету) і незвычайнага бачання свету, якое выяўляе індывідуальную сутнасць прадмета, яго спецыфіку.

Метафара адлюстроўвае аб'ектыўную рэчаіснасць ва ўсіх яе праяўленнях, у цеснай сувязі і абумоўленасці ўсіх яе інгрэдыентаў і грунтуецца на падабенстве зрокавых і слыхавых успрыняццяў, эмацыянальна-псіхалагічных і смакавых уяўленняў, унутраных біялагічных асаблівасцей, колькасных і метрычных уласцівасцей (памераў, працягласці), на падабенстве вонкавага выгляду, формы, размяшчэння ў прасторы, функцыі і інш. Пры метафарычным пераасэнсаванні ўзмацняюцца галоўным чынам якасныя прыметы, у выніку чаго метафарычны дэрыват, выражаючы семантычную двухпланавасць, ускладняецца канататыўна-сацыялагічнымі і суб'ектыўна-мадальнымі характарыстыкамі. Пры гэтым на першы план могуць выступаць імпліцытныя, не зусім вядомыя асацыяцыі, аналогіі і падабенствы, якія нараджаюць адну з характэрнейшых асаблівасцей метафары — яе трансгрэсіўнасць, няпоўную завершанасць і гіпатэтычнасць. Менавіта таму метафара дапамагае знайсці невядомае ў, здавалася б, вядомым, падобнае ў, здавалася б, непадобным, рознае ў, здавалася б, агульным. Метафара — спосаб пранікнення ў глыбіню семантыкі слова. Калі для выражэння думкі, для дакладнай характарыстыкі прадмета не хапае слоў, на дапамогу прыходзіць метафара. Яна можа наблізіць далёкае мінулае, прадказаць будучае, узвысіць звычайнае і штодзённае, прызямліць узвышанае. Гэта імпульс пазнання, унутраны рухавік развіцця мовы, шлях паказу таго, што ўсе мы, і прырода, і людзі, звязаны паміж сабой бачнымі і нябачнымі ніцямі, жывём у межах адзінага і вечна зменлівага Сусвету.

Сучасны этап у развіцці тэорыі метафары звязаны не столькі з прызнаннем яе навуковай легітымнасці і разглядам як кагерэнтнай структуры, колькі з інтэрпрэтацыяй метафары як выніку ўзаемадзеяння семантычных форм, уключаных у дынамічную сістэму мовы. У метафары знаходзіць непасрэднае выражэнне прынцып трансгрэсіі, які, дапускаючы падабенствы модуса «як бы», дазваляе атаясамліваць разнародныя вобразы і значэнні, уключаць невядомыя веды ў структуру ўжо вядомых і прывычных паняццяў і, нарэшце, утвараць новыя сэнсавыя цэнтры. Спектр магчымых падыходаў да аналізу метафары ў межах навуковых парадыгм XX ст. шырока адлюстроўваецца ў зборніку «Тэорыя метафары» пад рэдакцыяй Н. Д. Аруцюнавай (працы М. Блэка, Н. Гудмэна, Э. Ортані, П. Рыкёра, Дж. Сэрля, Д. Дэвідсана), манаграфіях Г. С. Баранава, В. Д. Старычонка, аналітычным артыкуле А. А. Апарынай[1].

З улікам семантычнай двухпланавасці метафар іх семантычныя тыпы могуць вызначацца па двух асноўных крытэрыях: а) тэматычнай прыналежнасці зыход-

---

[1] Теория метафоры. — М.:Прогресс, 1990. — 512 с.; Баранов, Г. С. Научная метафора: модельно-семиотический подход. Ч. 1. Современные лингвофилософские концепции метафоры / Г. С. Баранов. — Кемерово: Кузбассвузиздат, 1992. — 112 с. ; Старычонак, В. Д. Метафара ў беларускай мове: на матэрыяле субстантываў / В. Д. Старычонак. — Мінск: БДПУ, 2007. — 190 с.; Опарина, Е. О. Исследования метафоры в последней трети XX века / Е. О. Опарина // Лингвистические исследования в конце XX века: Сборник обзоров. — М.: ИНИОН РАН, 2000. — С. 186—204.

ных ЛСВ (крыніцы эксапансіі); б) тэматычнай прыналежнасці вытворных (рэцыпіентных) ЛСВ (выніку экспансіі). І першая, і другая класіфікацыі дэталёва апісаны ў тэарэтычнай літаратуры, выкарыстоўваюцца ў лексікаграфічнай практыцы. У артыкуле семантычныя тыпы метафар вызначаюцца ў адпаведнасці з прыналежнасцю вытворных ЛСВ да пэўных тэматычных груп і агульнай сэнсавай скіраванасці зыходных і рэцыпіентных ЛСВ. Пры акрэсліванні тыпу метафары ўлічвалася структура метафарычнай мадэлі (тып семантычнай дэрывацыі), якая ўключае наступныя кампаненты: а) зыходная паняційная сфера (крыніца матывацыі, ментальная сфера-крыніца, сфера-донар, крыніца метафарычнай экспансіі); б) выніковая паняційная сфера (новая паняційная вобласць, сфера-рэцыпіент, вынік метафарычнай экспансіі); в) актуалізаваная сема (кампанент, які звязвае зыходны і вытворны ЛСВ); г) агульная аксіялагічная арыентацыя метафарычнага зместу, аднолькавая семантычная скіраванасць (звычайна характарызуецца прадуктыўнасцю і рэгулярнасцю).

З улікам прыналежнасці зыходнага і выніковага ЛСВ да той ці іншай семантычнай сферы, а таксама напрамку метафарызацыі вылучаюцца некалькі семантычных тыпаў субстантыўных метафар:

**Вонкавападабенчы тып.** Сферай-крыніцай такіх метафар з’яўляецца практычна бясконцы свет ва ўсіх яго выявах і праяўленнях, дзе носьбіты мовы знаходзяць пэўныя асацыяцыі і падабенствы з практычна неабмежаванай колькасцю прадметаў і з’яў рэчаіснасці. Метафары гэтага тыпу характарызуюцца нагляднасцю, яны апелююць не да інтуіцыі, а да зрокавага ўспрымання. Даволі часта выяўленае падабенства выразна прасочваецца ў дэфініцыях слоўнікавых артыкулаў, якія адсылаюць вытворны метафарычны ЛСВ да зыходнага ў выглядзе ўказанняў тыпу *«нешта падобнае да...», «што-небудзь падобнае да…», «усё тое, што нагадвае...», «прадмет у выглядзе... », «усё тое, што мае форму...».* ***каса*** «тое, што нагадвае касу» *(зялёныя косы бяроз, косы ніцай вярбы, жытнія косы, косы нівы, косы сцюдзёнай мяцеліцы, іскры сонечных кос);* ***гузік*** «тое, што нагадвае форму гузіка» *(гузік гармоніка, гузікі каштанаў, гузік ранішняй расы, гузікі вачэй, гузік носа);* ***крышталь*** «тое празрыста-чыстае, светлае, што нагадвае крышталь» *(крышталь снегу, крышталі зорак, буйныя крышталі слёз).*

Накіраванасць метафарычнай асацыятыўнасці па вонкавым падабентве не носіць строгай рэгламентацыі, з’яўляецца даволі неаднастайнай, шматбаковай, бо адлюстроўвае вельмі шырокі і мнагастайны спектр падабенстваў прадметаў і з’яў аб’ектыўнай рэчаіснасці. У гэтым шырокім спектры вылучаецца некалькі сэнсавых цэнтраў, якія актуалізуюцца ў працэсе метафарызацыі: акругласць, выпукласць, узгорыстасць, дугападобнасць кручкаватасць, загнутасць, звілістасць, пятлістасць, вышыня, высачыня, даўжыня, прадаўгаватасць, выцягнутасць, востраканцовасць, спічастасць, клінападобнасць і мн інш.: *І коціцца за пушчы і за моры Па небе звонкі* ***сонечны абруч*** (С. Грахоўскі); *Чырвонае* ***кола сонца*** *выкацілася ўжо высакавата на небасхіл* (Р. Сабаленка); *Стаяць на балоце стагі з аснежанымі вярхамі — тутэйшыя* ***горы*** (А. Разанаў); *Пад* ***дугой маладзіка*** *Пяюць скрыпучыя палоззі* (М. Танк); *Ён зварочвае ў лес па вузкім, абвешаным* ***снегавым серпанцінам*** *праходзе, які застаўся на месцы летняй дарогі* (М. Зарэцкі); *Зялёныя бярозавыя сцены, над імі* ***вежы*** *— волаты-дубы* (У. Дубоўка); *Жыта* ***шнур*** *каля хаты выспеў* (Р. Барадулін); *На аблозе —* ***шпілі*** *соснаў, Моцна спіць дзядуля-бор* (Ю. Лявонны); *Густа чарнеў* ***клін*** *лесу* (В. Адамчык); ***Лысіны*** *гор пачарнелі, Толькі лагчыны ў снягу* (М. Чарот); *Парвалася зорак* ***мярэжа****, Купаецца ноч каля пліт* (Ю. Свірка).

**Лакатыўны тып.** Асновай для лакатыўных метафар (лац. *locativus* «мясцовасць») служыць размяшчэнне элементаў аб’ектыўнай рэчаіснасці як у пэўных напрамках свету (поўначы, поўдня, захаду, усходу), так і ў канкрэтных прасторавых фрагментах. Лакатыўныя метафары рэпрэзентуюць даволі абмежаванае семантычнае поле, нешырокі дыяпазон якога ўтвараюць цэнтры «зверху», «знізу», «спераду», «ззаду» і іх прамежавыя стадыі «размяшчэння»: *макаўка*

*дрэва (царквы), столь неба, шлейф дыму (пылу), нос чайніка*. Самую вялікую па колькасці групу складаюць лакатыўныя метафары з рэцыпіентным значэннем «покрыва; тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-небудзь». Уключэнне такіх метафар у лакатыўны тып даволі ўмоўнае, бо прыметы «размяшчэнне зверху», «ахутванне», «ахінанне», «агортванне» актуалізуюцца не ў чыстым выглядзе, а ў спалучэнні з семамі «вонкавае падабенства», «падабенства па колеры» і інш.: *Усю зямлю навокал засцілаў густы* ***дыван*** *невысокай мяккай травы* (У. Шахавец); *Дубы зялёны* ***плашч*** *адзелі* (Я. Колас); *Апрануты ў белыя* ***буркі*** *ўсе дрэвы, і кружыцца снег* (Р. Баравікова); *Учора зіма пачалася, І белыя* ***вопраткі*** *дрэвы надзелі* (Т. Сапач); *І лес задумаўся, Як пасівелы пробашч,* ***Сукном*** *змяняе лёгкую* ***парчу*** (Г. Бураўкін); ***Коўдра*** *канюшыны сцелецца ля ног* (П. Броўка); *Уяўляю Бабчын жывым. Вось — укрыты* ***футрам*** *снегавым* (М. Мятліцкі); *Сцелюць туманы сівы* ***абрус*** (П. Пранузa); *Сонца ахутвала пурпуровай* ***мантыяй*** *вежы і дахі дамоў* (У. Клімовіч).

**Квалітатыўны тып.** Квалітатыўныя (лац. *qualitas* «якасць») метафары выяўляюць істотную пэўнасць, адметнасць прадмета, указваюць на характэрныя адзнакі, найбольш значныя прыметы, якімі адрозніваецца адзін прадмет (асоба) ад другога. Сярод бясконцай колькасці галоўных і негалоўных, неабходных і выпадковых, знешніх і ўнутраных, візуальных і невізуальных прымет часцей за ўсё сумяшчаюцца ў структуры мнагазначнага слова колер (*золата асенняга лісця, серабро інею, медзь клёнаў, бронза восеньскай травы, рубіны журавін, брыльянты сняжынак),* каштоўнасць, вартасць *(дыяменты роднай мовы, золата сустрэчы, самацветы самабытнай паэзіі),* кансістэнцыя (*густая бетонная каша, балотны кісель, суцэльнае месіва льдзінак і пылінак)*, шаўкавітасць, мяккасць (*шоўк валасоў, шоўк імхоў, духмяны аксаміт лугоў, паркаль палыноў),* гладкасць вады *(люстра свіслацкай вады, шкло празрыстае ракі).*

**Экзістэнцыяльны тып.** Экзістэнцыяльныя (лац. *exsistentia* «існаванне») метафары арыентаваны на выяўленне разнастайных аспектаў быцця чалавека, яго дзейнасці, асаблівасцей успрымання, разумення і ацэньвання асобай жыцця і навакольнай рэчаіснасці. Асноўны змест такіх метафар — духоўныя асновы быцця, месца чалавека ў светабудове, яго непарыўныя сувязі з навакольным светам. На фоне ўсіх экзістэнцыяльных метафар рэльефна вылучаецца група філасофскага кірунку, метафарычныя пераасэнсаанні ў якой звязаны з сімвалізацыяй жыццёвага шляху чалавека, яго долі, лёсу, адлюстраваннем жыццёвых выпрабаванняў, нягод, складаных і цяжкіх сітуацый, з якімі даводзіцца сустракацца чалавеку, з канстатацыяй апошняга шляху чалавека, яго смерці, пагібелі. У залежнасці ад актуалізацыі таго ці іншага сэнсавага адцення, жыццёвы шлях чалавека можа атаясамлівацца з шырокай дарогай або вузкай сцежкай *(дарога, сцежка, сцяжына, шлях, каляя, каляіна, бальшак, гасцінец, бездарожжа, выбоіна, калдобіна),* з разнавіднасцямі транспартных сродкаў *(воз, човен, лодка, карабель, паром, цягнік, поезд, лакаматыў, экспрэс)*, воднай плынню *(рака, возера, раўчук, вадаспад, паводка, хваля),* з дрэвам ці яго часткамі *(дрэва, ствол, камель, валун),* з рознымі порамі года і часам сутак (*восень, зіма, лета, вясна, золак, ранак, ранне, світанак, змярканне, вечар, ноч),* са стыхіяй, бурным праяўленнем прыродных з’яў (*бура, віхура, завея, замець, сцюжа, непагадзь, буралом, градабой, скразняк, гром, пярун, шторм),* з полем, раллёй, сувоем, свечкай, каганцом і інш.

**Гукавы тып.** Гукавыя метафары ўтвараюць даволі кампактную групу, сэнсавае развіццё ў якой ажыццяўляецца ў трох асноўных кірунках: а) антрапамарфічным — ад гукаў, што ўтвараюцца чалавекам *(птушыная гамонка, галасы лясоў і гаёў, енк завеі, раннія літанні салаўёў, перашэпты ніў*, *рогат бур, далёкія стогны грому*, *уздыхі лазовых хмызнякоў, уздыханне ветру, усхліпы суровых завей);* б) заанімічным — ад гукаў, што ўтвараюцца жывёламі і птушкамі (*шчабятанне дзяўчат, кулямётавы брэх, іржанне танкаў, роў самалёта);* в) музычным — ад гукаў, звязаных з выкананнем музычных твораў *(музыку родных лясоў, музыка світання, песня жаваранка, самотная песня вятроў, вясёлы спеў вады ў руччах).*

**Квантытатыўны тып**. Квантытатыўныя (лац. *quantitativus* «колькасны») метафары заснаваны на падабенстве фізічных параметраў прадметных сутнасцей, іх колькасці, памеры, велічыні, аб'ёме, глыбіні і інш. Полісеманты з дакладным колькасным зместам, як правіла, з'яўляюцца вытворнымі адзінкамі, у якіх колькасны кірунак вызначаецца значэннем зыходных лічэбнікаў: *двайняты* «блізняты»; «гаршкі-спарышы»; «двайняты-зоры»; «спарышы-таполі»; «блізка пасаджаныя два радкі бульбы». Неакрэсленымі па колькасным складзе з'яўляюцца метафары з канкрэтнымі, здавалася б, лічбавымі адпаведнікамі *тысяча, мільён, мільярд.* Усе яны характарызуюцца гіпербалізацыяй, вялікай ступенню перабольшвання: *тысяча (птушак, кветак), мільён (зорак, пырскаў, герояў), мільярд (сняжынак, сэрцаў).* Лічбавы дыяпазон, напрыклад, у Я. Янішчыц акрэсліваецца межамі ад ста да ста тысяч: *Ты душны, свет. І **сто** разоў — дзівосны! І неспазнаны — **тысячу** разоў! У **сто першым**, у **стотысячным** радзе Я пазнаю цябе па вачах; Я памірала **Тысячу** разоў, Даўжніцаю была зіме і маю; На схіле самай светлае пары, **Сто тысяч** мук за ноч перагартаўшы За той, адзіны промень на зары.* Трывалыя асацыяцыі зыходнага ЛСВ з вытворным замацаваліся за полісемантамі *куча, купа, груд, гара, воз, лес: куча (народу, дзяцей, грошай), купа (людзей, калгаснікаў, хат), груд (моладзі, кніжак), гара (чыгункоў, падушак), воз (грыбоў, дзяцей), лес (шапак, рук, антэн).* У якасці крыніцы для метафар з актуалізаванымі семамі «многа, вялікая колькасць чаго-, каго-небудзь», «што-небудзь неабсяжнае, неабдымнае» даволі часта выступаюць кампаненты тэматычных груп, што характарызуюць сілу і магутнасць прыродных з'яў, іх стыхійнасць і неабмежаваныя магчымасці. Эпіцэнтрам у гэтай падгрупе з'яўляюцца назоўнікі *мора, акіян, паводка, плынь, рака: Мы толькі цяпер убачылі, што на вуліцы **мора людзей*** (М. Машара); *У тыя далёкія часы буйна хвалявалася па ўсёй нашай зямлі бязмежнае зялёнае **мора лясоў*** (В. Вольскі); *І будзе, як гэтае мора, шумець **акіян збажыны*** (М. Смагаровіч); *Неаглядная **людская плынь** губляецца дзесь за небакраем* (А. Ліс): *Жывая **людская паводка** На плошчу няспынна ідзе* (М. Смагаровіч). ***Людскія рэкі** ўсё плывуць, плывуць* (Х. Чэрня).

**Анімістычны тып.** Анімістычныя (грэч. *anima* «душа», *animatio* «адушаўлёнасць») метафары скіраваны на чалавека і адлюстроўваюць шырокія і разнастайныя сувязі аб'ектыўнай рэчаіснасці з быццём чалавека. Зыходнай базай для ўтварэння такіх метафар служаць назвы жывёл і птушак, прадметаў быту, посуду, транспартных сродкаў, сельскагаспадарчых прылад працы, збудаванняў, адзення, абутку, ежы, дрэў, раслін і інш. Выбар іх залежыць ад шматлікіх прычын і перш за ўсё ад таго аспекту, з пункту гледжання якога характарызуецца чалавек, — яго вонкавага выгляду, псіхічнага складу, разумовых здольнасцей, паводзін, матэрыяльнага і сямейнага становішча, прафесіі, нацыянальнасці, узросту і мн. інш.: *Абодва вы кавалёвыя мяхі, непаваротлівыя* (Я. Купала); *Твайго Я Амос, пераканаўшыся, што бос яго — цяльпук, Прыбраў уладу скора Ён да ўласных рук* (Э. Валасевіч); *Ты дужы, малады, прыгожы. Не тое што я — камель па рахнявы* (В. Давыдзенка); *Каржакаваты, моцны — сапраўдны баравік — Сярод зялёных хлопцаў ты нечакана ўзнік* (М. Гудкова); *Трэба ж было таму дурню надумацца лавіць павука акурат у гэты час. Даўбня, а не даследчык!* (П. Галавач); *Дубіна, ты п'еш яшчэ з ім [Яшкам]. Грошы прапіваеш* (В. Хомчанка); *Ё пра што з ім гаварыць, з такім траплом?* (А. Ставер).

**Антрапамарфічны тып.** Антрапамарфічныя (грэч. *anthropos* «чалавек», *morphe* «форма») метафары развіліся па мадэлі «чалавек → птушкі, жывёлы, дрэвы, расліны, нябесныя целы, прыродныя з'явы і інш.». Надзяленне чалавечымі рысамі і якасцямі прадметаў жывой і нежывой прыроды (персаніфікацыя) мае доўгую гісторыю і сваімі каранямі ўзыходзіць да старажытных рэлігійных уяўленняў, традыцый тагачасных людзей, іх веры ў магічную сілу слова, яго здольнасць непасрэдным чынам уплываць на чалавека. Сёння гэты тып метафар шырока выкарыстоўваецца ў розных жанрах вуснай народнай творчасці, байках, а таксама паэтычных творах: *І нельга маўчаць **спевакам** — Шчыглам, берасцян-*

*кам, вясёлым драздам* (Э. Агняцвет); *Ледзь сціхлі **певуны** лясныя, як падалі свае галасы **спевакі** ад ракі* (К. Кірэенка); ***Барабаншчыкі** чырвананогія — Буслы Клёкат пасылалі ўслед* (С. Фамін); ***Нахабнікі**-вераб'і хутка заўважылі адсутнасць гаспадароў і занялі яго з крыкам і бойкай* (А. Пальчэўскі); *Грак варонам стаў **парламенцёрам** — Ў дзюбе носіць белы ласкуток* (В. Гарановіч). Антрапамарфічнай метафарызацыі лёгка падвяргаюцца кампаненты тэматычнай групы «радня» *(бацька, сын, брат, сястра, блізняты, радня),* якія на аснове мнагамернай і шырокай асацыяцыі «што-небудзь блізкае, роднае, арганічна звязанае» аб'ядноўваюць чалавека і акаляючае яго асяроддзе: дрэвы, расліны, грыбы, рэкі, крыніцы, хвалі, вятры, побач размешчаныя пагоркі, жывёлы, птушкі і інш.: *Табе даброта ў небе зорка: Твой **бацька**-месяц пры табе* (А. Бялевіч); *Ну і восень — густыя ліўні, Жменя горкіх на голлі слёз, — І прасватана **бацькам**-жніўнем За сялом чарада бяроз* (М. Губернатараў); *Дуж ты, дуб стары, **Сын** вякоў сівых!* (Я. Колас); *Пад снегавымі ўзімку каўпакамі І ўлетку ў абрамленні збажыны Стаяць і лічаць свой узрост вякамі Пагоркі, два **браты**-прыгажуны* (Т. Ляшонак); *Над ракою дзве вярбіны — Дзве журботныя **сястры*** (Я. Янішчыц); *Растуць на палянцы ў лесе **сястрыцы** [суніцы], падобныя вельмі **блізняты*** (П. Чабор).

### Другасныя назоўнікавыя намінацыі: метанімічныя і сінекдахічныя пераасэнсаванні

Як ужо адзначалася, у актах другасных намінацый устанаўліваюцца асацыяцыі па падабенстве і сумежнасці. Пэўныя падабенствы і асацыяцыі кладуцца ў аснову метафары, а сумежнасць у прасторы і часе прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці становіцца асновай метаніміі. Метафара і метанімія адрозніваюцца таксама па функцыях, колькасным складзе (метафарычных пераносаў значна больш, іх семантычныя структуры больш складаныя), ступені рэгулярнасці і прадуктыўнасці (метанімічныя пераасэнсаванні з'яўляюцца найбольш рэгулярнымі і тыповымі для лексічнага складу мовы).

У сучасных даследаваннях метанімія вызначаецца як другасная намінацыя, механізм маўлення, заснаваны на пераносе назвы з аднаго класа аб'ектаў на другі, які асацыіруецца з папярэднім па сумежнасці, прыналежнасці. Дзеянне механізма метаніміі прыводзіць да з'яўлення новага ЛСВ ці кантэкстава абумоўленага змянення значэння слова. Часцей за ўсё метанімія назіраецца паміж аднароднымі і неаднароднымі катэгорыямі (напрыклад, прадметамі і іх прыметамі, дзеяннямі і г. д.). Сярод вялікай і разнастайнай колькасці метанімічных пераносаў выдзяляюцца пяць асноўных тыпаў:

**Прасторавая** метанімія аб'ядноўвае ЛСВ, якія адлюстроўваюць аб'ектыўную рэчаіснасць з пункту гледжання яе зместу, унутранага адзінства, размяшчэння ў прасторы. Яна выяўляецца ў наступных разнавіднасцях «ёмістасць (пасудзіна) → колькасць рэчыва, якое змяшчаецца ў ёй» (*фарфоравая талерка — талерка супу, з'есці цэлую талерку);* «памяшканне → тое, што ў ім утрымліваецца» *(вялікая аўдыторыя — аўдыторыя ўважліва слухае),* «месца, населены пункт → яго жыхары» *(увесь горад выйшаў святкаваць Дзень незалежнасці),* «матэрыял → выраб з яго» *(серабро — сталовае серабро)* і інш.

Пры **тэмпаральнай** полісеміі асацыятыўныя сувязі па сумежнасці адлюстроўваюць суіснаванне прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці ў часе (адначасова ці ў якой-небудзь паслядоўнасці). У межах тэмпаральнага тыпу выдзяляецца некалькі разнавіднасцей, якія аб'ядноўваюць розныя выпадкі такіх адносін: а) «пэўны час сутак → напрамак свету → мясцовасць (краіна), размешчаная ў гэтым напрамку» (*поўнач, поўдзень, захад, усход);* б) «час, перыяд → людзі, якія жывуць на працягу гэтага перыяду» *(эпоха, будучыня, рэнесанс)*; в) «перыяд → пэўная з'ява» *(раніца, дзень, ноч, вечар*); г) «час → узрост чалавека ў гэты перыяд» *(маленства, малалецтва, дзяцінства, юнацтва).*

**Каўзальная** (прычынна-выніковая) метанімія адлюстроўвае спосаб існавання і развіццё прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці, характар іх змен. Яны атрымліваюць моўнае выражэнне ў выглядзе пэўных метанімічных мадэляў: а) «дзеянне → вынік дзеяння» (*разгром* «дзеянне паводле дзеяслова *разграміць* — сляды, вынік гэтага дзеяння», *разбурэнне* «дзеянне паводле дзеяслова *разбураць* — вынік гэтага дзеяння»); б) «дзеянне → аб'ект дзеяння» (*будаўніцтва* «ўзвядзенне будынка ці іншага збудавання — будаўнічы аб'ект»); в) «дзеянне → суб'ект дзеяння» (*ахова* «дзеянне паводле дзеяслова *ахоўваць* — група людзей ці чалавек, прызначаныя ахоўваць каго- ці што-небудзь», *пагоня* «праследаванне таго, хто ўцякае — адзін чалавек або група людзей, якія праследуюць каго-небудзь»); г) «дзеянне → месца дзеяння» (*пераход* «дзеянне паводле дзеяслова *пераходзіць* — месца, прыстасаванае для пераходу вуліцы, дарогі і інш.», *выхад* «дзеянне паводле дзеяслова *выходзіць* — месца, праз якое выходзяць») інш.

Сярод адносна невялікай колькасці формул **атрыбутыўнай** метаніміі, якім не характэрна экспансія ў іншыя падсістэмы асацыятыўных сувязей, можна выдзеліць наступныя: а) «уласцівасць, стан → прычына гэтага стану» (*радасць* «пачуццё вялікай асалоды, задавальнення — падзея, абставіны, якія прыносяць асалоду, шчасце», *жудасць* «трывожнае пачуццё, страх, прадчуванне небяспекі — тое, што выклікае страх (трагічная з'ява, жахлівае здарэнне)»; б) «пэўная ўласцівасць → учынак, які характарызуецца гэтай уласцівасцю» (*нахабнасць* «бесцырымоннасць, бессаромная назойлівасць — нахабны ўчынак», *дурасць* «разумовая абмежаванасць — неабдуманы, бязглузды ўчынак»); в) «уласцівасць, стан → месца» (*круцізна* «уласцівасць крутога — крутое месца, абрыў», *вышыня* «адлегласць ад асновы да вяршыні — узвышша, пагорак») і інш.

Метанімічныя пераўтварэнні на аснове ўласных імёнаў — **апелятывы** — складаюць даволі значную групу і характарызуюцца сваёй спецыфічнасцю, індывідуальнасцю. Яны праяўляюцца ў самых розных варыяцыях і ўяўляюць сабой разнавіднасці больш абагульненай схемы «імя аўтара, вынаходніка, стваральніка → яго твор, вынаходства, адкрыццё, творчы метад, канцэпцыя». Так, апелятывамі (як правіла, запазычанымі) з'яўляюцца назвы адзення, абмундзіравання *(фрэнч, галіфэ, макінтош),* тканін *(батыст, габелен*), зброі *(наган, кольт, максім, браўнінг),* адзінак вымярэння і вымяральных прыбораў *(ампер, вольт, герц, джоўль),* раслін і кветак (*нарцыс, камелія*, *гартэнзія*), а таксама музычных інструментаў, мінералаў, хімічных элементаў, зорак і нябесных свяціл, мастацкіх і музычных твораў, дактрын, вучэнняў і інш.

**Сінекдахічныя** пераасэнсаванні, як і многія семасіялагічныя працэсы, абумоўлены асіметрычнасцю моўнага знаку: адсутнасцю наймення для пэўнай рэаліі ці яе партытыва. Адным са шляхоў пераадолення гэтай асіметрычнасці з'яўляецца не ўтварэнне новай адзінкі, а сумяшчэнне ў адным слове цэласнага і партытыўнага ЛСВ. Пры сінекдасе прадугледжваюцца суадносіны *pars pro toto,* цэлага і яго партытыва (часткі). Суадносныя ЛСВ пры гэтым не зводзяцца адзін да другога, а з'яўляюцца рознымі як у якасным, так і колькасным планах. У залежнасці ад прыналежнасці ЛСВ да той ці іншай тэматычнай групы выдзяляецца некалькі сіненкдахічных мадэляў: а) «частка цела чалавека, яго орган → чалавек»: *галава* «галава — разумны, здольны чалавек; старэйшы ў сям'і; кіраўнік», *барада* «барада ў чалавека — чалавек з барадой»; б) «дрэва (расліна) → яго (яе) плады» (*груша, сліва, вішня, агрэст, рабіна маліна)*; в) «расліны, збожжавыя → іх насенне, зерне» (*ячмень, пшаніца, авёс, жыта, грэчка, фасоль);* г) «звер → яго футра» (*ліс, ліса, бабёр, пясец, нутрыя, андатра)* і інш.

## Другасныя прыметнікавыя намінацыі

Другасныя намінацыі сярод прыметнікаў характарызуюцца агульнай тэматычнай скіраванасцю да катэгорыі квалітатыўнасці, якая выяўляецца ў лексіка-семантычных варыянтах з наступнымі абагуленымі інварыянтнымі семамі:

а) «параметрычнасць»: У працэс метафарызацыі ўключаюцца ЛСВ прыметнікаў *вялікі, малы, высокі, нізкі, вузкі, шырокі, доўгі, кароткі, тоўсты, тонкі, глыбокі* і інш. Другасныя ЛСВ такіх прыметнікаў указваюць на высокую (нізкую) ступень, значнасць (нязначнасць) праяўлення сілы, інтэнсіўнасці, глыбіні (*вялікі ўплыў, высокае майстэрства, шырокая праграма даследаванняў, малыя клопаты, малая справа, нізкая цана).* У радзе выпадкаў яны выражаюць унутраны свет чалавека, яго псіхалагічны стан, разумовыя здольнасці: *Напоўнены сэрцы пачуццем* ***высокім****; нас гордасць шугае патокам глыбокім* (Я. Колас); *Вы вельмі ўважлівы, з тонкай душой чалавек* (М. Ракітны); *Я толькі сёння распазнаў* ***глыбокі*** *сэнс звычайных ісцін* (П. Глебка). У многіх прыметніках актуалізуецца часавая прымета, якая ўказвае на пэўны перыяд часу, яго працягласць, узрост чалавека: *Былі самыя* ***кароткія*** *і прыгожыя летнія ночы* (І. Шамякін); *Сход быў* ***доўгі****, але спакойны* (К. Чорны); *Гэта быў даўні час,* ***глыбокая*** *старажытнасць* (У. Клімовіч); *Марта з двума* ***малымі*** *дзецьмі жыла на выгане ў старой хатцы* (З. Бядуля). У сэнсавых структурах прыметнікаў *высокі, нізкі, тонкі, тоўсты* выяўляюцца гукавыя ўласцівасці: *З кузні ляцеў звон сухі,* ***высокі*** (І. Пташнікаў); ***Нізкі*** *голас Васілісы гучыць мяккім пералівам* (А. Васілевіч); *Раптам пачуў нейкі* ***тонкі*** *гук, як бы недзе звінеў камар* (Э. Самуйлёнак);

б) «колер»: У семантычным полі колераабазначэнняў актыўна дзейнічаюць дзве разнавіднасці семантычнай мадэлі: прамая і адваротная. Па прамой мадэлі ад першасных ЛСВ са значэннем колеру ўтвараюцца другасныя ЛСВ рэцыпіентнай сферы: *І ўсё ж цікавей было слухаць, як білі* ***чырвоныя*** *коннікі полчышчы белых* (П. Панчанка); *Прыехаў... новы начальнік. Зусім* ***зялёны****, зірнеш на яго —гадоў васемнаццаць, больш не дасі!* (Я. Каршукоў); *Нікому ніколі тут гэта* ***шэрая*** *асоба не кідалася ў вочы* (К. Чорны). Па другой (адваротнай) мадэлі каларатывы з'яўляюцца другаснымі намінацыямі, утворанымі на базе першасных ЛСВ сферы-донара. У працэс метафарызацыі ў гэтым выпадку ўключаюцца кампаненты самых розных тэматычных груп: ***Залатога*** *бору грэбень пахне шышкамі, смалой* (У. Караткевіч); *У* ***сярэбраным*** *інеі дрэвы стаяць* (Л. Геніюш); *Косы* ***медзяныя****, косы — як змеі, Іх параўнаць ані з чым я не ўмею!* (А. Вольскі); ***Мармуровыя*** *званочкі ландыша цягнуцца да сонца* (В. Хомчанка); *І песні, і людзі, і* ***агнявыя*** *пад сонцам грывы коней — усё ляцела бурай-віхурай уперад ды ўперад* (М. Лынькоў);

в) «свет»: Прыметнікі, першасныя ЛСВ якіх суадносяцца са святлом (*светлы, цёмны, яркі, ясны, змрочны)*, у сваёй другаснай функцыі выражаюць інтэлектуальную, маральную і пачуццёва-эмацыяльную сферы дзейнасці чалавека; *Яшка —* ***цёмная*** *асоба* (М. Машара); *І юбіляр — такі* ***светлы****, які не бываў даўно* (К. Кірэенка); *У галаве круцяцца думкі, неспакойныя,* ***змрочныя*** (А. Асіпенка); ***Яркія*** *і незабыўныя ўражанні дзяцінства* (П. Броўка); *Усе ўважліва слухаюць простыя і* ***ясныя*** *словы* (А. Якімовіч). Кола люмінальных ЛСВ пашыраецца за кошт другасных намінацый прыметнікаў *барвовы, бурштынавы, малінавы, туманлівы, алавяны,* якія лічацца прыналежнасцю індывідуальна-аўтарскага стылю пісьменнікаў: *Сонца заліло бярозкі* ***барвовым****, раскошным святлом* (Я. Брыль); ***Бурштынавым*** *святлом бруіцца звонкая Сафія* (Р. Няхай); *Праскочыць праз акно прамень... На міг* ***малінавым*** *святлом ён заіскрыцца* (П. Броўка); *Далёка і нясмела ўзыходзіў месяц... Слаў мяккае* ***туманлівае*** *святло* (А. Жук); *Знадворку праз невялічкія акенцы глядзелася смуглае* ***алавянае*** *святло* (Ц. Гартны);

г) «гук»: Другасныя намінацыі, заснаваныя на базе акустычных ЛСВ, захоўваюць цесную сувязь з крыніцай матывацыі: *Другі баран — ні «бэ», ні «мя», а любіць* ***гучнае*** *імя* (К. Крапіва); *Аднак увесь гэты нейлон, перлон цяпер на ёй быў* ***крыклівы*** (І. Грамовіч); *Па следу* ***шумнага****, напружанага дня, нарэшце, завітала цішыня* (У. Корбан); *Яго ведалі як чалавека* ***ціхага*** *і сумленнага* (А. Якімовіч); *Ад мокрага снегу было непрытульна на вуліцы, сумнай і* ***безгалосай*** (М. Лынькоў). Адваротная семантычная мадэль уцягвае ў сферу гукавых намінацый ЛСВ параметрычных, тэмпаральных, тактыльных і нשых прыметнікаў (***сярэбраныя*** *гукі,* ***металічны*** *голас,* ***жалезны*** *звон кайданаў,* ***аксамітны*** *басок,* ***густыя*** *ноткі ў*

*голасе,* ***працяглае*** *рэха,* ***дробны*** *стукат колаў,* ***мяккія*** *гукі,* ***чысты*** *пявучы голас,* ***цяжкія*** *словы);*

д) «тэмпература»: Ад'ектывы, якія выражаюць тэмпературны стан, шырока выкарыстоўваюцца для характарыстыкі чалавека, яго пачуццяў і эмоцый. Прыметнікі са значэннем высокай тэмпературы (*гарачы)*, як правіла, выражаюць страснасць, палкасць, напружанасць, а са значэннем нізкай тэмпературы (*халодны, ледзяны*) — стрыманасць, душэўны холад, раўнадушнасць: *Пачалася праца ўпартая,* ***гарачая*** (Я. Колас); *Памятаю тыя несмелыя, дрыготкія,* ***гарачыя*** *і прагныя пацалункі* (Б. Сачанка); *Тады ў грудзях сваіх пачуеш ты* ***гарачую*** *нахлынуўшую сілу* (М. Танк); *Развітанне было сухім,* ***халодным*** (У. Шахавец); ***Халодны*** *смутак сцяў, што, можа, расстаецца з Імполем наазаўсёды* (В. Адамчык); *У сэрца ўваходзіла* ***халодная*** *нямая трывога* (М. Лынькоў); *Даўгалыгі, змераўшы яго* ***ледзяным*** *позіркам, нешта незразумелае прагергетаў* (В. Быкаў). Пры дапамозе тэмпературных прымет могуць выражацца колеравыя і светлавыя адценні: *Застылі дарогі ў тумане,* ***халодныя*** *зоры гарaць* (А. Бачыла); *Канчался лета, зелянкова-блакітнае неба сеяла над горадам бязлітасна-празрыстае,* ***халаднаватае*** *святло* (М. Стральцоў); *Сланечнік штодня за сонцам водзіць следам сваёй агністай,* ***жаркай*** *галавой* (А. Куляшоў);

е) «кансістэнцыя»: Другасныя ЛСВ арыентаваны на выражэнне гукаў, колеравых адценняў, тэмпаральных паказчыкаў і інш.: ***Негусты*** *голас яго, што нярэдка пераходзіў у фальцэт, быў надзіва моцны* (І. Мележ); *Чуліся* ***мяккія*** *ўсплёскі вады* (І. Дуброўскі); *З цёмных расчыненых дзвярэй… чуўся ўсхваляваны* ***ломкі*** *басок і прыглушаны дзявочы смех* (У. Мехаў); *Грозны позірк* ***мутных*** *вачэй* (Я. Брыль); ***Густой*** *чырванню успыхнуў твар афіцэра (*М. Лынькоў); ***Цягучы*** *дзень схіліўся к вечару (*А. Кулакоўскі); *Ночка* ***цягучая****, змрок і спалох — дружбакі неразлучныя* (А. Александровіч) і інш.

**Ад'ектыўная метанімія** істотна адрозніваецца ад субстантыўнай па прычыне адрозненняў у семантыцы гэтых часцін мовы. Метанімія назоўнікаў, як правіла, засноўваецца на прасторава-часавых і прычынна-выніковых залежнасцях. Спецыфіка прыметнікавай метаніміі заключаецца ў тым што, з аднаго боку, уласцівасці прыметнікаў, абстрагаваныя ад свайго носьбіта, уяўляюцца ў чыстым выглядзе як самастойная семантычная дадзенасць, а, з другога боку, залежнасць якасцей і ўласцівасцей ад субстанцыі робіць семантыку прыметніка менш самастойнай, залежнай ад назоўніка, які ў пэўнай ступені прадвызначае функцыянаванне прыметніка.

У аснове метаніміі прыметнікаў — адносіны паміж пэўнымі прыметамі, якія выяўляюца не столькі ў характары суаднесенасці першаснага і другаснага ЛСВ, сколькі ў спалучальнасці прыметнікаў з пэўнымі групамі назоўнікаў. Па гэтай прычыне ад'ектыўная метанімія мае характар абавязковай сувязі з назоўнікам. Метанімічныя ЛСВ прыметнікаў рэалізуюцца ў пэўных кантэкставых умовах, калі выяўляецца сумяшчальнасць прымет, іх магчымасць характарызаваць іншы аб'ект, які знаходзіцца з першым у пэўных метанімічных адносінах. Пры метаніміі парушаецца семантычная аднароднасць выказвання (ці яго пэўнай часткі). Чым большая розніца паміж актуалізаваным у пэўным кантэксце ЛСВ і моўным ЛСВ, тым больш яскравай і выразнай з'яўляецца метанімія.

Сінтагматычны патэнцыял прыметнікаў (іх здольнасць спалучацца з імёнамі розных таксанамічных катэгорый) з'яўляецца важнай перадумовай развіцця метаніміі. Прыметнікі з шырокім сінтагматычным патэнцыялам, як правіла, утвараюць шматлікія метанімічныя парадыгмы. Да ліку такіх прыметнікаў неабходна аднесці словы са значэннем агульнай ацэнкі: *добры (чалавек, майстар, выкладчык; настрой, слых; апетыт; справа, прымета, навіна, адзнака, кніжка), дрэнны (чалавек, гаспадар, памочнік; учынак; характар, прывычка; дарога, папера; вымаўленне), цудоўны (чалавек, паэт; голас; водар; надвор'е, ноч), выдатны (чалавек; розум; вучоба, ацэнка), мудры (чалавек, настаўнік; парада, навука, правіла).* Прыметнікі з абмежаванай спалучальнасцю характарызуюцца вузкай

семантычнай парадыгмай: *цікаўны (чалавек, позірк), нядаўні (выпадак, падзея, знаёмства), хвойны (лес, дрэва), снежны (гурба, белізна).*

Другасныя метанімічныя намінацыі прыметнікаў часцей за ўсё рэалізуюцца ў межах наступных мадэляў: а) «часавая прымета — мэтавая прымета» *(летні дождж — летняе паліто; вячэрняе неба — вячэрняя прычоска; вучоны чалавек — вучоны савет);* б) «які знаходзіцца ў пэўным стане — які з'яўляецца прычынай гэтага стану *(сумны чалавек, сумныя думкі — сумная работа (лекцыя); нервовая тканка — нервовая хвароба);* в) «прымета (якой-небудзь сутнасці) — месца, дзе рэалізуецца гэта прымета» *галодны чалавек — галодны край; цёплы клімат — цёплыя краіны; вільготная зямля — вільготны клімат, вільготная мясціна);* г) «прымета (якой-небудзь сутнасці) — час, калі рэалізуецца гэта прымета» (*галодны чалавек — галодны год; цёплая вада — цёплыя дні і ночы; туманная смуга — туманная раніца, туманныя вечары);* д) «пэўны стан — каўзатар (прычына) стану » *(радасны чалавек — радасная падзея; бадзёры чалавек — бадзёрая музыка);* е) «стан — вынік стану» *(галодны чалавек — галодная смерць)* і інш.

У літаратурнай мове даволі распаўсюджанымі з'яўляюцца другасныя намінацыі, якія развіліся па прамой і адваротнай мадэлях «пэўная якасць ↔ чалавек, які характарызуецца такой якасцю»: *моцны (лёд, арэх, сон) — моцны вучань; ласкавы (позірк, вецер) — ласкавае дзіця; разумны чалавек — разумная (парада, думка); мудры палкаводзец — мудрая палітыка; сярдзітая суседка — сярдзітая (зіма, гарчыца); чэсны чалавек — чэсны ўчынак.*

Адзначаныя тыпы ад'ектыўнай метаніміі выяўляюць непаслядоўнасць пры іх выдзяленні і слоўнікавай падачы: у адных выпадках метанімічны ЛСВ вылучаецца ў якасці асобнага значэння, у другіх — у якасці адцення значэння, у трэціх — не дыферэнцуецца ў межах адзінага ЛСВ.

## Другасныя займеннікавыя намінацыі

Займеннікі дзякуючы іх універсальнасці і поліфункцыянальнасці выконваюць важную ролю ў структуры тэксту. Па прычыне дэйктычнасці і ў пэўнай ступені семантычнай апустошанасці яны імкнуцца да пастаяннага кантэкстава-семантычнага экспліцыравання. Семантычная і фармальная арганізацыя мінімальных тэкставых фрагментаў, якія ўключаюць асабовыя займеннікі, укладваецца ў межы двухкампанентных мадэляў і канструкцый.

Першы кампанент (левая частка) такіх мадэляў прадстаўлены асабовымі займеннікамі. Яны ў пэўных кантэкставых сітуацыях як бы «апрадмечваюцца» і выкарыстоўваюцца ў якасці інфармацыйна-вобразных кодаў. Як сведчаць шматлікія матэрыялы, у розных аўтараў назіраецца самае markdownрознае разгадванне і інтэрпрэтацыя такіх кодаў, і па гэтай прычыне метафарычныя «тлумачэнні» займеннікаў носяць разнастайны і даволі стракаты характар.

Другі кампанент (правая частка) мадэляў — гэта прэдыкатыўны цэнтр, выражаны, як правіла, назоўнікам-метафарай (і залежнымі ад яго словамі) з характарызуючым значэннем. Правая частка — гэта вобразнае раскрыццё зместу асабовых займеннікаў, ядзерны кампанент сэнсавай структуры выказвання. У лінгвістычнай літаратуры такія прэдыкатыўныя цэнтры называюцца супазітыўнымі метафарамі (лац. *suppositio* «падстаноўка, замена») ці аўтаметафарамі. У іх, безумоўна, закладзены практычна неабмежаваныя рэсурсы семантычных атаясамліванняў, параўнанняў, пераўвасабленняў, якія характарызуюцца суб'ектыўным пачаткам, нечаканасцю, непрадказальнасцю, а ў радзе выпадкаў — пераўвелічэннем, гіпербалічнасцю, свайго рода фантастычнасцю.

Напаўненне прэдыкатыўнай часткі можа быць самым розным. Часцей за ўсё гэта метафарычная самаідэнтыфікацыя, аўтарскае «я», свайго роду *alter ego*, эпізадычнае пераўтварэнне аўтара. Такія фрагменты тэксту — гэта разважанні аўтараў аб жыцці і смерці, аб ролі чалавека ў гісторыі, аб уласным прызначэнні,

аб адносінах паміж людзьмі ў грамадстве. Аўтарэфлексія, аналіз уласнага псіхічнага стану, адказы на пытанні *хто я ёсць?, хто мой субяседнік?* і разважанні *«я і магчымыя сусветы», «я і рэальнасць», «я ёсць я», «мая згода ці канфлікт з грамадствам»* — найбольш частыя запаўняльнікі дыскурсаў розных жанраў: ***Я* — *трывога і прадчуванне*** (В. Русілка). ***Я*** *толькі* ***сведка, мімалётны госць*** *на гэтым свеце, вечным і вялікім* (Н. Гальпяровіч).). *І сам я такі, быццам вецер у полі.* ***Я* — *вецер***. *А ты не баішся, таполю?* (В. Рагаўцоў). *Гэта* ***я*** *— лёгкага воблачка* ***водбліск*** *на шэрай сцяне* (Н. Гальпяровіч). ***Мы* — *дзеці*** *ўсе аднаго* ***дрэва*** (А. Пісьмянкоў). ***Мы* — *лёсу*** *нашага* ***ахвяры****, Дзе не старэюць з часам мары* (А. Багамолава). ***Мы*** *— на дарозе жыцця* ***хадакі*** (Г. Чарказян).

Аўтаметафары ў сваёй большасці праліваюць пэўнае святло на творчую «лабараторыю » аўтара, дзе лірычны герой хоча зблізіцца з іншымі рэаліямі, растварыцца ў іх, выказаць свае адносіны да іншых людзей. У фокусе пэўных ацэнак і меркаванняў часцей за ўсё аказваецца жанчына, каханая дзяўчына: *Ты ў жыцці, нібы тайна. Кветка-папараць у снах; Ты знічка схованкі-сустрэчы, Ільняных косаў вадаспад* (В. Гарановіч). *Ты — ўзрушлівая гаспадыня яго няўлоўнага настрою* (Р. Барадулін). *Ты — абранніца мая адзіная* (У. Мазго). *Ты пасланка дарыць незямную красу* (В. Гарановіч). *Ты — асалода, мой зацішак... Усе пачуцці — цераз край!* (Д. Пятровіч). Максім Танк параўноўвае жанчыну з веснім звонам, промнем святла, рэхам, жывым серабром: *Ты заўсёды няўлоўнай была: То веснім звонам Паміж радасцю і смуткам, То промнем святла Паміж быццём і небыццём, То рэхам Паміж мінулым і будучым, То жывым серабром, Што працякае Праз пальцы рук, Калі цябе абдымаю*. (М. Танк). Мікола Шабовіч у розных кантэкставых сітуацыях падкрэслівае такія рысы каханай, як загадкавасць чысціня, атаясамлівае яе з праменьчыкам сонечнага лета, з завірухай, глытком вады і інш.: *Ты — загадка бадай неадгадная; Ты ўвасабленне чысціні, праменьчык сонечнага лета; Ты — высокага неба абранніца; А ты — снягоўна-завіруха, Ты — ачышчэнне ад маны, Чаму ж тады ў паглядзе скруха, Нібы ад нейкае віны?; Ты для мяне — шчаслівых мар палёт, Глыток вады ў засушную спякоту* (М. Шабовіч).

Каханнне як неад’емная частка чалавечага жыцця выяўляецца ў шматлікіх формах і іпастасях. Займеннік *ты* выступае ў якасці своеасаблівай скрэпы, праз якую розныя аўтары спрабуюць асэнсаваць шырокую і бязмежную палітру значэнняў, адценняў і сугуччаў гэтага вялікага і вечнага пачуцця. Пры займенніках могуць ужывацца самыя розныя прэдыкатывы рэферэнтнай і нерэферэнтнай суаднесенасці: *Каханне,* ***ты*** *— прывабная быліна, дзе з двух герояў нехта вечны раб* (Р. Баравікова). *О, каханне чыстае,* ***ты*** *— мой кожны ўздых!* (Д. Пятровіч). *Любоў мая,* ***ты*** *скрыпка, і цымбалы, І шаргункі — над грывамі гадоў* (Я. Янішчыц).

Паэтычны дыскурс дазваляе перадаць высокія пачуцці закаханых людзей, сэрцы якіх злітаваны: *Ты — гэта я. Я — гэта ты. Выйшлі абое сюды з любаты, З неразгаданай нікім мілаты* (С. Законнікаў). *Помняць золак малады Два шчаслівыя лісты — Я і Ты...* (У. Мазго). *Мы — дзве яблыка роўныя долькі* (М. Шабовіч). Гэта адзінства і ў той жа час нябачнае адрозненне часам перадаецца праз сінанімічныя спалучэнні: *Я твой* ***сум****, а ты мой* ***боль*** (Л. Пранчак). *Я твой* ***нявольнік****, Твой* ***прыгонны****, Я вольную ў цябе прашу* (Р. Барадулін). *Будзь мне* ***княгіняй*** *да скону. Я — твой* ***князь****!* (М. Шабовіч). Высокі напал пачуццяў, іх кантраснасць часам перадаецца праз антанімічныя спалучэнні і контрметафары: *Ці ж з гэтым, браце, саўладаеш? Ратунку ад яго няма... Як прывід, па зямлі блукаеш, Я —* ***вязень****, ты — мая* ***турма*** (Э. Валасевіч). *Яна была адзінаю* ***ўладаркаю*** *яго сэрца, і ён — яе жаданым* ***нявольнікам*** (Р. Мурашка).

У якасці супазітыўных метафар могуць выступаць назвы дрэў і кветак, зоамарфізмы, абстрактныя назоўнікі, уласныя імёны, словы з рэлігійна-культавым значэннем і інш.: *Я тонкая галінка дрэва* (Н. Гальпяровіч). *Вы — цудадзейныя багіні, Выратавальніцы Зямлі. Вы — бессмяротныя вяргіні, Што ў ліхалецце рас-*

*цвілі* (Л. Дайнека). *Мы — кавалі, куём мы шчасце Для ясных будучых часін* (Я. Купала). *У змаганні і на працы Вы — нястомныя байцы* (Я. Журба). *Мы — першыя ў свеце Разведчыкі будучыні* (М. Танк). *Чуеш? Ты — мая Джульета* (М. Мятліцкі). *Ды я ледзь пазнаў цябе, мядзведзь ты гэтакі* (П. Кавалёў).

Асабовыя займеннікі могуць служыць сродкам актуалізацыі і канцэнтрацыі ўвагі на змесце, які раскрываецца. Даволі часта яны ўказваюць на чалавека, які характарызуецца з пеяратыўнай канатацыяй. У такіх анімістычных метафарах асоба параўноўваецца з жывёламі, раслінамі, прадметамі быту і інш.: *Палохаў муж! Спытай у таты, Ды, зрэшты, бачыш наяву:* ***Ён*** *быў і ёсць* ***казёл*** *рагаты, А я да старасці жыву* (М. Чырык). *«Маўчы* ***ты****, нікчэмны* ***трус****, здраднік! — крыкнуў Павел. — Ты род наш зганьбіў!»* (І. Шамякін). *Ну хто ты?* ***Чарвяк ты,*** *як бачыш* (К. Камейша). *«Ах* ***ты****,* ***выпаўзень****, — як бы і не злосна загаварыў Асцюк, — красці вучышся?»* (А. Марціновіч). *Чаго* ***ён****, гэты* ***чартапалох****, да цябе заўсёды чапляецца?* (М. Машара). *Ах* ***ты, труба*** *выхлапная!» — не стрываў Іван і зноў памкнуўся да Бандарчука* (А. Капусцін). *«Як жа гэта* ***я****, стары* ***выварацень****, не мог змікіціць?» — гадаў Каўрыжка.* (М. Пянкрат). *«****Матавіла ты****, — плюнуў Асыка і адышоў далей, сеў каля Матвейцава. — Толькі і ўмее мянціць языком.»* (В. Хомчанка).

Дэйктычнасць займеннікаў спрыяе стварэнню не адзіных і гамагенных субстанцый, а статыка-дынамічных, гетэрагенных структур, у якіх ажыццяўляецца разгортванне тэкставых фрагментаў самай рознай працягласці, семантычнай накіраванасці і напоўненасці. Аднаму і таму ж носьбіту могуць прыпісвацца розныя якасці і ўласцівасці. Самі ж метафары ў такіх выпадках носяць разгорнуты характар, спалучаюцца адна з другой і ўтвараюць адкрытыя ланцужкі, якія забяспечваюць сэнсавае развіццё тэксту і накапленне пэўнай інфармацыі: ***Я*** *толькі* ***сведка****,* ***мімалётны госць*** *на гэтым свеце, вечным і вялікім* (Н. Гальпяровіч). *Паэт у жыцці не нахлебнік,* ***Ён сейбіт. Змагар І прарок*** (С. Законнікаў). *Лёсу было неабходна, каб я стаў летапісцам — вашым. І няма высакародней працы,* ***Бо я — часцінка ваша, ваш прыток. Я — сын ваш*** (А. Статкевіч-Чабаганаў). *А* ***ён****... проста* ***манюка, хітрэц, фарысей, ашуканец, прыкіда, фальшываманетчык****, бо выдае сябе не за тое, што ён ёсць* (Я. Колас).

З мэтай выдзялення найбольш важных думак, падкрэслівання іх важнасці і значнасці ў тэкстах могуць ужывацца анафарычныя канструкцыі. Так, П. Макаль тройчы паўтарае выраз *«мы — ноты»*, вылучаючы яго ў сэнсавым і структурным плане: *Мы — ноты, Мы — ноты, Мы — ноты У чалавечым канцэрце...* У вершы Н. Гальпяровіча тройчы паўтараецца аўтаметафара *я — вучань*, якая канкрэтызуецца і тлумачыцца пасля кожнага паўтору: *Я — вучань. Птушкі пішуць мне У тонкі сшытак даўнія імёны. Я — вучань. Мне настаўнік загадаў Вучыць на памяць рэкі, хмары, дрэвы. Я — вучань. Я імкнуся разгадаць пергаменты нябёсаў, кнігі жыццяў, Валошкі сівізну у спелым жыце І вусны, на якіх вякоў пячаць.*

Аўтаметафары часам нараджаюцца ад непасрэднага адчування, суперажывання, псіхічнага стану, які ахоплівае чалавека ў пэўнае імгненне і фіксуецца ў свядомасці. На змену аднаму адчуванню і настрою прыходзяць іншыя, і ў новай часавай і прасторавай сітуацыі нараджаюцца новыя параўнанні і асацыяцыі. Часам такія параўнанні — гэта працяглы роздум ці разважанне, якое складаецца з ланцужкоў супярэчлівых і, здавалася б, несумяшчальных сімвалаў і вобразаў, што пранізваюць увесь твор. Прыгадаем верш Анатоля Сыса «Радзіма», які поўнасцю пабудаваны на аўтаметафарах:

*Я — зямля, на якой не растуць дрэвы.*
*Я — дрэва, на якое не садзяцца птахі.*
*Я — птах, якога не сочаць нават паляўнічыя.*
*Я — паляўнічы, у якога вечна галодныя сабакі.*
*Я —сабака, якога не баяцца злодзеі.*
*Я — злодзей, якога не гоняць ад вогнішча.*

*Я — вогнішча, якое не сцеражэцца леяў.*
*Я — лея, якой не шкада вандроўнікаў.*
*Я — вандроўнік, якому ўсё адно, куды вядзе дарога.*
*Я — дарога, якая не сніць ройсты.*
*Я — ройста, на якой валацуга бязмысны.*
*Я — валацуга, які страціў радзіму.*
*Я — радзіма…*
*Я — радзіма? Паляўнічы, сабака, бадзяга, злодзей…*

Да ліку аўтаметафарычных адносіцца і верш народнага паэта Азербайджана Расула Рзы «Я — зямля» (пераклад на беларускую мову Міколы Мятліцкага, «Полымя», 2011, № 1), у якім лірычны герой атаясамлівае сябе з самымі рознымі канстантамі рэчаіснасці: з зямлёй, вясной, ветрам, высокай хмарай, гарачым сэрцам, святлом, ручаём, гранітам: *«Я — пачатак быцця, я ў дарозе заўжды, я ў дыханні, у мары, і ў вачах, і ў руцэ. Я — зямля, і зашчодра багацці людзям адкрываю. Я — гарачае сэрца, не б'юся, калі паміраю»,* —завяршае сваю споведзь лірычны герой верша.

Такім чынам, другасныя намінацыі перш за ўсё звязаны з прыродай і сутнасцю значэння, яго статусам, з высвятленнем таго, як суадносяцца паміж сабой паняційныя формы мыслення, якім чынам ствараюцца назвы і як яны замацоўваюцца за рознымі фрагментамі аб'ектыўнай рэальнасці. Механізм другаснай намінацыі адносіцца да ліку пастаянна дзеючых працэсаў рэагавання на з'яўленне новых рэалій, іх моўнае абазначэнне, а ў выніку — актыўнае развіццё лексічнай сістэмы, папаўненне слоўнікавага складу мовы, пашырэнне вербальных сродкаў рэпрэзентцыі рэчаіснасці.

Другасныя ЛСВ у сваёй большасці звязаны эпідыгматычнымі (радзей — апасродкаванымі і паралельнымі) адносінамі з інтэнсіяналам (дэнататыўна-сігніфікатыўнай часткай першасных ЛСВ) ці (радзей) імплікацыяналам (канататыўнай часткай лексічнага значэння, якая выражаецца ў характары эмацыянальнасці, экспрэсіўнасці і ацэначнасці). Пры ўтварэнні другасных намінацый устанаўліваюцца асацыяцыі па падабенстве або сумежнасці паміж пэўнымі ўласцівасцямі пазамоўнага рада, якія рэпрэзентуюцца ў структуры новага ЛСВ. Асноўнымі прадстаўнікамі другасных намінацый з'яўляюцца метафара і метанімія, якія маюць спецыфіку свайго выяўлення ў сістэме розных часцін мовы.

Асобае месца сярод другасных намінацый займаюць займеннікавыя метафары, якія выконваюць функцыі пашырэння сэнсавага аб'ёму выказвання, падкрэслівання і выдзялення найбольш важных элементаў маўленчага кантынуума, проціпастаўлення і сінанімічнага атаясамлівання розных паняццяў, акцэнтуацыі ўвагі як на пастаянных, так і часовых, эпізадычных прыметах. Узаемадзеянне дэйксыса з тэкстам вызначаецца характарам правай часткі мадэлі, якая раскрывае змест займенніка шляхам эксплікацыі сегментаў большай ці меншай працягласці, пэўнага структурнага і семантычнага напаўнення.

# Т

Анатоль МЯСНІКОЎ

# ВЕРНІК І ПРАПАВЕДНІК «СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ»

## Лёс і трагедыя Міхася Чарота

### I

Гэта быў непаўторны — душой, тварам і сэрцам — чалавек. Адкрыты позірк, кучаравая шавялюра, прыемная ўсмешка… Без перабольшання — прыгажун! А яшчэ ён быў разумны і памяркоўны. З ім, паводле сцвярджэнняў сучаснікаў, было цікава пагаварыць, абмяняцца думкамі, патаемнымі планамі-задумамі. Ён быў неардынарны, гэты Міхась Чарот: паэт, грамадскі дзеяч, патрыёт.

Цёплыя, шчымліва-пранікнёныя словы пра яго я чуў ад Міхася Лынькова і Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі і Пятра Глебкі, Станіслава Шушкевіча і Яна Скрыгана, Васіля Віткі і Алеся Звонака, іншых літаратараў старэйшага пакалення — у прыватных гутарках, на літаратурных вечарынах. Міхасём Чаротам яны захапляліся, дзякавалі яму за навуку, падтрымку на літаратурнай ніве, спагаду.

І нязменна спачувалі ягонаму трагічнаму лёсу…

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты не дай!

Верш «Звон», апублікаваны ў першым нумары аднайменнай газеты за 25 жніўня 1919 года, і сёння гучыць надзённа, востра. І тады, шмат гадоў назад, твор таксама быў актуальны. Гэта быў адзін з першых апублікаваных Чаротам вершаў. І не толькі адзін з першых, але і наогул адзін з лепшых. Літаральна ж праз два гады — у 1921-м — Міхась надрукуе паэму «Босыя на вогнішчы», і пра яго, у прамым сэнсе слова, пойдзе пагалоска ў літаратурных і грамадска-палітычных колах. Тады  паэму прынялі і зразумелі ўсе і кожны, ёй зачытваліся, захапляліся. «Настроі і пачуцці шырокіх працоўных мас, — пісаў ужо ў 1960-я гады крытык Навум Перкін, — знайшлі выяўленне ў высокім рэвалюцыйным пафасе…»

От ужо гэты пафас! Ды яшчэ — рэвалюцыйны…

…На ўсходзе зардзелася неба:
Нібы золата, падаюць косы…
На зямлі … агнявыя палосы, —
Дзень новы, новыя ночы…

Новы дзень і нават новая ноч, помста і адплата, свабода і — чырвонага колеру: сцягі, вяснянкі, арміі, вешчуны, і, вядома ж, кроў — бачыліся, мроіліся, уяўляліся тады ўсім, усюды і ва ўсім.

А можа, і насамрэч усё тады было менавіта так?!

Пафас, адзначаны вышэй, у ацэнках творчасці Чарота пераходзіў з вуснаў у вусны. Нават у «сухой», акадэмічнай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» (1974, т. 11, с. 202) не знайшлося іншых слоў, акрамя: «Уся творчасць Чарота падначалена адной задачы — перадаць гераічны пафас рэвалюцыйнага часу, адлюстраваць жыццё ў яго бурным развіцці…»

З дзевятым і рашучым валам
Камуны свет к нам прыйдзе жданы…

Гарэзы, фантазёры кшталту яго, Чарота, марылі і ўжо ўяўлялі час, калі па ўсім свеце пранясецца рэвалюцыйная бура. На бок рэвалюцыйна настроенага народа свядома пераходзілі многія з лепшых прадстаўнікоў маладой інтэлігенцыі. І ў тым пафасе ва ўсім найперш адчувалася барацьба: у змаганні за ўладу, у грамадскім і палітычным жыцці, у культурнай і асветніцкай дзейнасці. Нейтральнымі заставаліся адзінкі. Да чаго ў рэшце рэшт прывяла тая барацьба — мы ведаем…

## II

Светапогляд Міхася Чарота фарміраваўся ў адназначнай абстаноўцы: ён прызнаў і выбраў рэвалюцыю. А ў творчасці вызначыў перад сабой літаральна адну тэму — апяванне яе, рэвалюцыі, новага жыцця. І не выпадкова Цішка Гартны тады ж напісаў аб ім: «Рэвалюцыя сваім агнём апякла пачуцці М. Чарота і ўклала ў яго песні напал і бадзёрую надзею, парыў паўстання…»

І ў беларускай, і ў новай савецкай літаратуры ён уздымаў, апрацоўваў сапраўдную «цаліну». Няпростай была яна, тая «цаліна»: і па вастрыні сацыяльных канфліктаў, і па супярэчнасцях сітуацый, і па адносінах да ўсяго гэтага наогул… Няпроста было ўсё гэта ўбачыць, яшчэ больш складана — вызначыцца самому, а тым больш — асэнсаваць, адважыцца на публічную ацэнку.

Міхась Чарот рызыкнуў на ўсё гэта.

…Ён быў таленавітым ад Бога. Закончыўшы на пачатку віхурнага 1917-га Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, ён стрымгалоў, адчайна ўрываецца ў жыццё. Царская армія, падзеі лютага і кастрычніка таго ж 1917-га, грамадзянская вайна і польская інтэрвенцыя — іншых, больш жорсткіх, «універсітэтаў» і не трэба было. Міхась Кудзелька (Чаротам ён стане пазней) устанаўлівае сувязь з падпольнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі на Бацькаўшчыне, працуе ў паўстанцкім камітэце, займаецца стварэннем партызанскіх атрадаў. У 1920 годзе ўступае ў партыю бальшавікоў, неўзабаве пачынае супрацоўнічаць з рэдакцыяй газеты «Савецкая Беларусь»…

Але найперш ён быў паэтам.

Першыя творы — вершы «Звон», «Песня беларуса», «Стаіць маўкліва сонны гай», «Схавалася сонца», «Незнаёмы», «Адплата», «Гром», «Сцяг ты чырвоны трымай», «Беларусы», «Моладзь», «Песня свабоды», «Песня лірніка»… Самі назвы іх гавораць, аб чым яны. Малады чалавек і творца, як напіша потым крытык Міхась Ярош, «зачараваны рамантыкай барацьбы і прыгажосцю подзвігу, паэт усведамляе суровую рэвалюцыйную праўду, страсна кліча простага чалавека стаць на абарону заваёў Кастрычніка…»

У першых творах ён — і гэта, вядома ж, натуральна і зусім зразумела — не абыходзіцца без уплыву тых, хто ўжо меў імя, каго ведалі чытачы. Даследчыкі літаратуры адразу ж адзначылі «сляды вучобы» Міхася Чарота ў Янкі Купалы. А ў каго ж яшчэ мог і павінен быў ён вучыцца?! Праўда, неўзабаве малады паэт ідзе нават далей за будучага класіка беларускай літаратуры: у перамогу камунізму на ўсёй планеце ён, Чарот, паверыў адным з першых на нашай Бацькаўшчыне.

Ці не таму яму, верніку і прапаведніку № 1 «светлай будучыні», і пачалі неўзабаве давяраць высокія і адказныя пасады, у тым ліку — галоўнага рэдактара той жа газеты «Савецкая Беларусь»… Было гэта ў 1925-м, а двума гадамі раней Чарот стварыў і ўзначаліў першую ў Беларусі літаратурную арганізацыю «Маладняк».

«Я іду ў заўтра, а заўтра — гэта Вялікая Будучыня», — напоўніцу заявіў паэт у першым сваім зборніку вершаў «Завіруха» яшчэ ў 1922 годзе:

…А цяпер не плач дарэмна,
Беларус, мой браце,
Хоць і кпяць з цябе нікчэмна
У тваёй жа хаце.
Хутка прыйдзе час-гадзіна, —

Вораг кіне кпіці:
Яму будзе дамавіна,
А мы будзем жыці.
*(Верш «Песня беларуса»).*

Ці:

Хай загарыцца ўвесь свет багаты,
Дымам закрыецца неба…
Будуць ахвяраю людзі і хаты, —
Новае ўсё для нас трэба.
*(«Песня свабоды»).*

А вось яшчэ:

Дымам і пажарам знішчаны палацы,
Кроўю новай раці змыты злыдняў след,
На чырвоных плямах хату вольнай працы
Мы будуем дружна… Гэй, дзівіся, свет!
*(«Дымам і пажарам»).*

Нібы і сапраўды вершы «высокага грамадзянскага пафасу»… На справе ж — «распранутая» рыторыка, ура-патрыятызм, погляд на рэчаіснасць праз ружовыя акуляры… Якая гэта акрыленасць, якая — узвышанасць, які — рамантызм?! Псеўдапачуцці, дыдактыка, як кажуць у Расіі, «напыщенная» патэтыка…

Дазволю сабе яшчэ раз працытаваць аднаго з крытыкаў Міхася Чарота тых жа 1960-х гадоў: «Калі паэт піша аб рэвалюцыі, дык гэта — сіла, якая ўсё змятае на сваім шляху; калі ён гаворыць пра барацьбітоў за «правое дело», дык яны ўяўляюцца яму магутнымі волатамі; калі ён усляўляе новы, савецкі лад, дык паказвае яго ў яркіх фарбах…»

Рэвалюцыя і насамрэч усё «змяла», у тым ліку і тое, што «змятаць» зусім было не трэба…

За якое «правое дело» змагаліся «магутныя волаты», мы таксама зараз добра ведаем…

Ну, а самая «яркая фарба» новага ладу, якая таксама ўсім нам добра знаёмая, была чырвонай: фарба крыві — крыві часта невінаватай!..

## III

Ягоныя вершы — у тым ліку і працытаваныя вышэй — доўгі час лічыліся (а зрэдку лічацца і зараз!) лірычнымі, рамантычнымі, рэалістычнымі; эмацыянальна афарбаванымі, з яркімі эпітэтамі і г. д., і да т. п. Мне ж думаецца, хапае ў іх нейкага падспуднага здзеку над простым чалавекам, імкнення да гімназацыі крывавых падзей 1920-х — 1930-х гадоў.

Са мною думкамі
Пачалі ўсе дзяліцца…
Яны ўпэўнены —
Іх стан непераможны;
«Калгас павінен быць
Калгасам бальшавіцкім;
Калгаснік кожны —
Павінен быць заможным».
*(«Лірычны эскіз»).*

Вяршыняй жа адзначанага вышэй імкнення да гімназацыі крывавых падзей 1920—1930-х гадоў у чаротаўскай паэзіі з’яўляецца, несумненна, верш «Суровы прыгавор падпісваю першым» (1930 год).

Ён быў апублікаваны адначасова ў двух вельмі паважаных у той час літаратурна-мастацкіх выданнях — у № 11—12 часопіса «Полымя» і № 12 часопіса «Маладняк» за 1930 год. Прысвячаўся твор толькі што сфабрыкаванай тады

органамі ДПУ справе «Саюза вызвалення Беларусі», па якой, як было ўстаноўлена праз шмат дзесяцігоддзяў, у той час без суда і следства былі расстраляны звыш ста дзеячаў культуры, літаратуры і мастацтва нашай Бацькаўшчыны.

«Нацдэмаў» тады асуджалі, праклінaлі, ад іх адракаліся родныя, блізкія, сябры і знаёмыя. Падпісаць «суровы прыгавор» самым першым і выклікаўся шырока вядомы ў тыя гады паэт Міхась Чарот.

Чаго хацелі вы? Якое мелі права
Крывёю гандляваць працоўных Беларусі?
Прыйшла на вас суровая расправа,
Перад судом віну прызнаць прымусім, —

на ўсю моц заяўляў паэт-трыбун.

Ці свядомы, ці шчыры і наогул ці праведны быў — па тагачасных паняццях — паэт-трыбун, які высокім стылем, а дакладней — гучнымі ярлыкамі абвінавачваў сяброў, знаёмых і зусім незнаёмых, такіх жа, як і ён сам, таленавітых і здатных людзей, — у «здрадзе», «гандлярстве дзікім загубленым сумленнем», у тым, што яны, нібыта «ваўкамі лютымі жылі ў авечай скуры», што іх «захапляла подласць даўно задуманага здрадніцкага плана» і наогул яны «доўгі час атручвалі паветра і неслі змрок туды, дзе светла, ясна…»?

Пытанні, пытанні… Іх, вядома ж, ставіць прасцей і лягчэй, чым знаходзіць на іх адказы.

Нам патрэбна суровая праўда. І толькі яна!

Патрэбна сёння, каб не паўтарыць учарашняга…

Добрыя намеры не могуць і не павінны прыводзіць да трагедыі. Калі нават гэтыя намеры і ў імя «светлай будучыні», «усеагульнага шчасця і дабрабыту»…

## IV

І яшчэ пра адзін твор Чарота — паэму «Босыя на вогнішчы». Паводле сцвярджэнняў нашых папярэднікаў, яна ў свой час карысталася вельмі вялікай папулярнасцю. Нібыта ўражвала паэма «шчырасцю пачуццяў, высокім грамадзянскім пафасам, «всёпобеждающим» аптымізмам» (Міхась Ярош); а «Усход, куды людзі пазіраюць з надзеяй, Чырвань Сонца Волі, зорны небасхіл — паэтычныя сімвалы, якія ўвасабляюць у творы запаветную мару рэвалюцыйнага народа» (Навум Перкін).

Але ж ці так гэта?

Мяркуйце самі:

— Пажар на Усходзе!
Таварышы, ур-р-ра!
— Што вы, шалёныя, годзе!
Што вам не шкода дабра?
Усё, што збіралі вякамі,
Сёння марнее ў агні…
— Маўчы! Мы цябе кулакамі.
Чуеш?! Ні-ні!
Цэрквы, палацы, харомы —
Памяць мінулага — з дымам!
Што ні запалім мы — зломім!
Знізу наверх ўсё падымем!

І зноў гэта — рэвалюцыйны пафас?

Зноў — палымяная страсць?

Праўдзівае адлюстраванне барацьбы працоўных з унутранымі і знешнімі ворагамі?

Мне, сённяшняму, цяжка ўсё ж уявіць, у чым канкрэтна «сіла паэмы»… Фанатычная, а мо нават і фантастычная паэтызацыя «заваёў» Кастрычніка — не больш усё гэта і не менш!

Аднак, паўтаруся: Чарот быў пачынальнікам, першапраходцам многіх спраў. У яго вучыліся дзясяткі творцаў, нават такія, як Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Пятро Глебка… Чаму? За ўсіх іх адказаў аднойчы Пятрусь Броўка: «Пасапраўднаму дынамічнай, багатай рэвалюцыйным пафасам паэзіі». О, ужо гэты незаменны, нязменны, «бессмяротны» пафас! І чаму ён «прырос» толькі да былой савецкай паэтычнай творчасці?! Чаму не было і няма яго ў іншых літаратурах, мастацтвах, культурах у цэлым?..

Але гэта тэма для асобнай гаворкі.

Не, ён (паўтаруся чарговы раз!) не быў артадоксам, ізгоем. Ён быў чалавекам часу. Таго часу, які таксама, як і іншыя часы і эпохі, трэба было асэнсоўваць, «пераварываць», нарэшце — апяваць і славіць…

Апошняе Чарот і рабіў: па-свойму, для сваіх сучаснікаў. Рабіў, хутчэй за ўсё, непаўторна і адмыслова. Яго хвалілі, ставілі ў прыклад, раілі трымаць на яго раўненне, прасоўвалі па службовай лесвіцы… Аднак прыйшоў час (о, часы, о, норавы!), і ён аказаўся проста непатрэбным. Не ўратавалі, не далі адтэрміноўкі творы кшталту «Суровы прыгавор падпісваю першым», паэмы «Босыя на вогнішчы», «Чырванакрылы вяшчун», «Ленін»… У 1937-м Чарот быў арыштаваны і расстраляны.

## V

Такі падрабязны, а можа каму падасці і прыдзірлівы, разгляд накірункаў творчасці і грамадска-палітычнай дзейнасці Чарота я зрабіў выключна з адной мэтай: паспрабаваць прадэманстраваць наглядны ўрок сучаснікам. Такі ўрок, пісаў у «Звязду» прафесар Ц. Ліякумовіч, «трэба выкарыстоўваць дзеля таго, каб не паўтарыліся абставіны, якія прымушаюць чалавека забывацца аб сваім прызначэнні, аб тым лепшым, чым адаравала яго прырода. Кожнаму чалавеку ў любы момант наканавана праходзіць выпрабаванне на чэснасць і подласць. Вера ў перамогу гістарычнай праўды дапамагае зрабіць маральны выбар на карысць дабра. Толькі трэба глыбока ўнікаць у трагедыю эпохі, у трагедыі асабістых лёсаў», — падкрэсліваў на заканчэнне ў сваім лісце вучоны-філолаг.

І ўсё ж:

Годзе пець песні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо слёз!..
Ужо прамінулі няўзгоды пакутныя, —
Плачам не злечым свой лёс…

Гэта таксама ён, Чарот — паэт-трыбун, чалавек часу, ахвяра рэжыму…

…Падчас ужо знаходжання ў засценку сталінскай турмы, зламаны і скалечаны маральна і псіхічна, ён напісаў яшчэ адзін твор — самы апошні ў жыцці. Ды не звычайны верш, а самую сапраўдную споведзь — перад самім сабой, перад Бацькаўшчынай і сябрамі, перад усім нашым народам. Верш Чарота «Прысяга» амаль праз 30 гадоў пасля гібелі паэта ў зборніку «Дзень паэзіі-65» апублікаваў іншы вязень сталінізму, паэт Мікола Хведаровіч.

Вось такім быў ён, Міхась Чарот.

Быў і ёсць.

Такім і павінен застацца ў Гісторыі.

# Т

Міхась ВАЛОВІЧ

# ГІСТОРЫЯ Ў ТЫТУЛАХ

**Сергей РАССАДИН. Князья, графы и бароны в Беларуси (конец XVIII — начало XX в.).**

*История титулов в биографически-личностном аспекте. Мн.: Издательство Белорусского Экзархата, 2010.*

Новая даследчыцкая праца вядомага беларускага археолага, гісторыка, крыніцазнаўцы, геральдыста Сяргея Рассадзіна, які, дарэчы, з 1998 года ўзначальвае Дзяржаўную геральдычную службу, выдаўцамі пазначана як навуковая. На гэтым моманце ўвага акцэнтуецца і ў анатацыі да яе: «Книга, название которой сознательно уходит от привлекающей к себе образности, прямо заявляет о теме исследования. Эта тема, совершенно невостребованная в истории советского периода и, казалось бы, ушедшая в небытие, обнаружила в наше время живой и неподдельный интерес, хотя для читателей она остается terra incognita».

Аднак менавіта апошняя акалічнасць акурат і прыцягне ўвагу не толькі навукоўцаў, а і ўсіх, хто хоча лепей ведаць даўніну, у тым ліку і праз гісторыю тытулаў. Тым больш, што па меры знаёмства з кнігай, пераконваешся, наколькі аўтар яе, выкарыстоўваючы багаты дакументальны і гісторыказнаўчы матэрыял, прытрымліваючыся навуковай дакладнасці, расказвае пра ўсё выразнай мовай, таму ўспрыняцце напісанага не выклікае складанасці. Немалаважна таксама, што ў апавядальную тканіну ўводзяцца элементы пазнавальнасці, а ўсё гэта, разам узятае, спрыяе таму, што праца С. Рассадзіна, навуковая па сваёй сутнасці, у добрым сэнсе становіцца і навукова-пазнавальнай, прымальнай нават для тых, хто дагэтуль на згаданую праблематыку не звяртаў увагі.

Даючы тлумачэнне паняцця тытул (ад лацінскага titulus): «это почетное наследственное или пожалованное звание (например, князя, маркиза, графа, виконта, барона и др.», С. Рассадзін зазначе, што ў многіх краінах прадугледжваецца спадчыннае атрыманне высокага і ганаровага звання грамадзяніна. Прынамсі, Законам Рэспублікі Беларусь прадугледжана, «что гражданство нашей страны приобретается независимо от места рождения, если его имеет хотя бы один из родителей».

З першых жа старонак С. Рассадзін не абыходзіць і палемічных момантаў, калі гаворку вядзе пра тое, што знаходзяцца жадаючыя самі сабе прысвойваць розныя тытулы. Прынамсі, ён перакананы, што вядомы Анджэй Цеханавецкі, аўтар цікавай кнігі «Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме», не мае права на княжацкі тытул, а тым больш на тытул графа. Яшчэ ў большай ступені гэта тычыцца «графа» Прушынскага, які, як вядома, у час першых прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь у 1994 годзе прэтэндаваў нават на пасаду Кіраўніка дзяржавы.

Пры жаданні, даводзіць аўтар кнігі, можна знайсці і іншых самазванцаў, якія прысвойваюць сабе розныя тытулы. Нельга не пагадзіцца з даследчыкам і ў іншым: «Вероятно, охотники использовать магию своих звучных аристократических титулов появятся у нас еще не раз и в будущем. Таким образом, уже из-за самой необходимо-

сти знать, кто есть кто не на словах, а на самом деле, мы должны обратить внимание также и на историю титулов в Беларуси».

Тым больш, што паразважаць ёсць над чым. Ёсць што асэнсаваць. Дый паранейшаму застаецца нямала «белых плямаў», хоць носьбітаў сапраўдных, а не ўяўных тытулаў на тэрыторыі, якая ўваходзіць цяпер у склад нашай краіны, было шмат. Калі ж мець на ўвазе князёў, то першы з вядомых носьбітаў гэтага тытулу — знакаміты Рагвалод, які згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 годам. Дарэчы, С. Рассадзін у адным з раздзелаў кнігі тлумачыць і паходжанне тытула «князь». Гэтае найменне вытворнае ад гоцкага «kuni», што ў перакладзе азначае «старшына клана».

Маючы на ўвазе Рагвалода, як першага князя, існаванне якога пацверджана ў пісьмовых крыніцах, ёсць усе падставы гаварыць пра тысячагадовую гісторыю тытулаў на Беларусі. Аднак, як сведчыць С. Рассадзін, у першай палове гэтага вялізарнага перыяду існаваў усяго адзін тытул — менавіта княжацкі. Праўда, у пачатку XV стагоддзя з'явілася найменне «пан». Гэты тытул у некаторым сэнсе адпавядаў баронскаму. У наступным стагоддзі, апроч мясцовых князёў, з'явіліся і князі Свяшчэннай Рымскай ці іначай — Аўстрыйскай імперыі. У гэты час сёй-той на Беларусі атрымаў і першыя графскія тытулы.

Гісторыя тытулаў — гэта, умоўна кажучы, і гісторыя краіны. Тыя змены, якія адбываліся на палітычнай арэне, тое, што было звязана з дзяржаўным упарадкаваннем, так ці інакш адбівалася і на іх. У прыватнасці, моцны ўплыў аказала ўтварэнне Рэчы Паспалітай — аб'яднанай дзяржавы, у якую ўвайшлі Карона і Вялікае Княства Літоўскае. Пасля Люблінскай уніі 1569 года шляхта пачала рабіць намаганні аб увядзенні агульнага тытула як для сябе, так і для князёў і графаў дый іншых магнатаў. Гэтыя яе намаганні не аказаліся марнымі. З'явіўся тытул panie bracie. Ды, як зазначае С. Рассадзін, падобная роўнасць існавала больш на словах, чым у сапраўднасці: «в XVIII в. князья и графы, а порой и бароны начали безусловно господствовать над рядовой шляхтой».

Адразу ўзнікае пытанне, а чаму С. Рассадзін, абжываючы, вобразна кажучы, тытульны мацярык, даследуючы яго, абмежаваўся толькі перыядам канца XVII — пачатку ст. Першае, што прыходзіць у галаву і чаго, дарэчы не адмаўляе і сам аўтар кнігі, — тое, што проста немагчыма ахапіць неахопнае. Ва ўсякім разе, калі не выходзіць за ўзяты аб'ём кнігі, а ён і так немалы — звыш дваццаці ўлікова-выдавецкіх аркушаў. Аднак не толькі падобны аспект навуковец прымаў пад увагу, беручыся за асэнсаванне багатага фактычнага матэрыялу — таму і багатага, што ў сваіх развагах і высновах узяў за аснову перш за ўсё дакументы. Пераважна спасылаецца на архіўныя матэрыялы, якія дагэтуль былі неапублікаваны, а некаторыя з іх і ўвогуле даследчыкам невядомыя. Не абыходзіць С. Рассадзін і розныя выданні, якія ў той ці іншай ступені закранаюць згаданую праблему. Істотна і іншае, а калі глядзець шырока, у сукупнасці ўсёй праблемы, то акурат у перыяд, на які скіравана асноўная ўвага аўтара кнігі, «применявшаяся на белорусских землях система титулов достигла своего наибольшего расцвета разнообразия в результате взаимопроникновения местной и российской, а также иной по происхождению аристократии».

Важны этап гісторыі тытулаў умоўна «можно начинать с 22 сентября 1772 г. — даты ратификации австрийско-прусско-русской конвенции об уже состоявшемся на этот момент первом разделе Речи Посполитой». З тытульнага «мацерыка» зніклі асобныя яе лідары, як Сапегі і Чартарыйскія, але разам з тым усталяваліся тыя, хто валодаў рознымі тытуламі ў Расіі. Сярод іх аказаліся і былыя выхадцы з Вялікага Княства Літоўскага, пра якіх таксама расказвае С. Рассадзін. Пры гэтым, як і на працягу ўсёй кнігі, імкнецца быць як мага больш аб'ектыўным, кіруецца не эмоцыямі, а толькі фактамі. Факты

ж, як вядома, рэч упартая. Таму не абыдзены ўвагай, для прыкладу, Сувораў, да якога на Беларусі стаўленне неадназначнае, больш за тое ў непрыманні яго часам даходзіць да крайнасцей. Але ж, хочаш таго ці не хочаш, а Сувораў увайшоў у нашу нацыянальную гісторыю. Гэта ж тычыцца, у прыватнасці, і графа Зорыча, якога яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў назад таксама ўспрымалі неадназначна. Цяпер жа перамагла справядлівасць. Сведчанне таму і з'яўленне помніка Зорычу ў Шклове. Знамянальна, што ён устаноўлены тады, калі Шклоў быў цэнтрам правядзення чарговага Дня беларускага пісьменства. Сёння мы ўшаноўваем Зорыча так, як даўно ўшаноўваем графа Тызенгаўза. Абодва яны — частка нашай нацыянальнай гісторыі. І падобных прыкладаў, калі розныя «эксплуатары» — тыя ж князі, графы, бароны працавалі на карысць росквіту ці сваёй Бацькаўшчыны, ці зямлі, з якой звязалі свой лёс, можна прыводзіць шмат. У дадзеным выпадку на карысць Беларусі.

Кніга С. Рассадзіна — гэта кніга, якая пры ўсёй сваёй строгай навуковасці, нясе ў сабе такі бадзёры зарад пазнавальнасці, што асобныя месцы ў ёй хочацца перачытваць. Асабліва, калі расказваецца штосьці новае пра ўжо знаёмыя імёны ці прыводзяцца такія звесткі, якія, магчыма, табе і вядомы, але некалі, па сутнасці, праслізнулі ў памяці, бо былі зацемнены іншымі, на той час больш важнымі. Цяпер жа ў кантэксце, у сувязі з іншымі фактамі, падзеямі, лёсамі яны набываюць свой сапраўдны сэнс. Нават не больш глыбокі, а глыбінны.

Не ў апошнюю чаргу таму, што ўсё гэта напісана з захапленнем, пра ўсё расказваецца з любоўю. Да нацыянальнай гісторыі. Да лепшых прадстаўнікоў, якія, працуючы ў розныя часы, жылі на тэрыторыі Беларусі. І дзеля Беларусі жылі. Зразумела, уклад у яе будучыню не ва ўсіх аднолькавы. Дый да зробленага імі, зноў жа, нельга ставіцца адназначна. Але ўсё гэта асобы. Роля ж асобы, як вядома, у жыцці грамадства значыць вельмі шмат.

Пастаянна ловіш сябе на думцы, наколькі ўсё напісана з веданнем справы. С. Рассадзін паўстае надзіва эрудзіраваным чалавекам. І не толькі тады, калі спасылаецца на дзясяткі публікацый па тэме, што разглядаецца ім. Добра ён ведае і літаратуру, у прыватнасці, паэзію. Таму ў кнізе можна напаткаць цытаты з твораў Аляксандра Пушкіна, Адама Міцкевіча... Безумоўна, тыя, што тычацца тытулаваных асоб, пра якіх расказвае даследчык. Калі можна так сказаць, паэтычная падсветка вельмі да месца. Як і сілуэт адной з гераінь — княжны Стэфаніі Радзівіл, выкананы рукой Аляксандра Сяргеевіча, а поруч з ім накіды верша, прысвечанага ёй.

Адметна і тое, што кніга багата ілюстравана. Сустракаюцца і чорнабелыя здымкі, але асноўную нагрузку нясуць каляровыя, размешчаныя на трыццаці дзвюх старонках. Паколькі на кожнай з іх не адна ілюстрацыя, а ў асобных выпадках колькасць іх дасягае нават шасці, то атрымліваецца як бы альбом у кнізе. Надзіва змястоўны, ён дазваляе пазнаёміцца з асобнымі гербамі тытулаваных асоб, населеных пунктаў, а таксама выявамі знакамітых людзей, якія згадваюцца аўтарам.

На карысць таго, што новая даследчыцкая праца С. Рассадзіна — менавіта для шырокага чытача, сведчыць наяўнасць у канцы яе спіса населеных пунктаў, якія маюць дачыненне да тытулаваных асоб, прытым указваецца сучасная назва і называюцца цяперашнія адміністрацыйна-тэрытарыяльныя межы. Пазнаёміўшыся з кнігай, можна даведацца, каго з людзей уплывовых і саноўных можна залічыць у свае землякі.

А ўвогуле «Князья, графы и бароны в Беларуси» — яшчэ адна трывалая цаглінка ў падмурак таго будынка, што называецца Радзімазнаўства.

Вольга ЛЕШЧАНКА

# ПРОСТА ГЕРОІ

**Вечны агонь Перамогі.** Нарысы. *Укладальнік Мікола Мінзер. — Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2011.*

Упэўнена, у кожнага журналіста, нават самага маладога, ёсць свой самы дарагі матэрыял пра вайну: у некага газетны артыкул, у кагосьці відэасюжэт, а можа, і кніга. У мяне радыёперадача, прысвечаная жыццю Клаўдзіі Васільеўны Гарбачовай. Яе бацькі былі ўдзельнікамі партызанскага руху, трынаццацігадовая Клава ва ўсім ім дапамагала, потым трапіла ў нямецкі палон, але змагла збегчы. Спачатку Клаўдзія Васільеўна адмовіла мне ў сустрэчы: вельмі балюча ўспамінаць мінулае. Але падумаўшы, згадзілася: усё ж унукі і праўнукі павінны ведаць пра лёс сваёй краіны і сваіх дзядуль і бабуль не толькі з кніжак. Добра памятаю нашу гутарку. У ёй было ўсё: цяжкія ўспаміны, слёзы, радасць перамогі, шчасце ад сустрэчы з роднымі, надзея на будучыню. Але самае галоўнае — любоў да жыцця. Клаўдзія Васільеўна, якая, дарэчы, набыла за час вайны нямала хвароб, задала мне пытанне: чаму вы маладыя не радуецеся жыццю? Усё ж добра, ёсць ежа, някепскія ўмовы для жыцця, а, галоўнае, ёсць мір. Яе пытанне засталося без адказу. А сапраўды — чаму?

Таму што не ведаем цану гэтаму спакою і шчасцю. Пра тое, што некалі было інакш нагадваюць некаторыя даты. Адна з іх адзначаецца сёлета: 70-годдзе з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. З яе нагоды ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» выйшла кніга «Вечны агонь Перамогі». Выданне складаецца з публікацый пра Герояў Савецкага Саюза — ураджэнцаў Беларусі. Творы друкавалі ў часопісах «Полымя» і «Нёман». «Нарысы выклікалі зацікаўленасць у чытачоў… Таму ў Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» было прынята рашэнне аб выданні асобнай кнігі «Вечны агонь Перамогі», у якой вядомыя нашы пісьменнікі, сустрэўшыся (магчыма, з кім і ў апошні ўжо раз) са славутымі ветэранамі, выклалі на паперы іхнія думкі, успаміны, спадзяванні», — піша ў прадмове старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Праўдзівыя гісторыі жыцця плюс талент выдатных пісьменнікаў далі цудоўны вынік. Усе нарысы ў кнізе атрымаліся цікавыя, жывыя, праўдзівыя, прасякнутыя любоўю да жыцця.

У кожным творы прысутнічае вобраз апавядальніка, ветэрана вайны. Дзесьці аповед вядзецца ад першай асобы, недзе твор пабудаваны ў форме гутаркі. Як, напрыклад, у нарысе Алеся Марціновіча «Зорнае неба».

Пісьменнік расказвае пра Героя Савецкага Саюза лётчыка Мікалая Якаўлевіча Зайцава. Аповед пачынаецца з дзяцінства героя. У ім было ўсё: любячыя бацькі, брат, радасці, захапленні, першыя няўдачы, і, канечне ж, была мара. Мара стаць лётчыкам. Непадалёку ад гарадскога пасёлка, дзе жыў Коля, знаходзіўся ваенны палігон. Хлопчыку неабходна было толькі вылезці на страху, каб паназіраць за тым, што адбываецца на палігоне. «Праходзіла не так шмат часу, як самалёты пачыналі імітаваць набліжэнне да зямных цэляў… Назіраючы не адну хвіліну за «баямі», Коля перажываў пачуццё, блізкае таму, якое атрымліваў

пры праглядзе любімых фільмаў». За гэтыя пастаянныя вылазкі на страху бацька пачаў называць Мікалая «галубятнікам». Хлопец не крыўдзіўся, а чакаў таго часу, калі з «галубятніка» зможа пераўтварыцца ў сапраўднага лётчыка. Дзякуючы выпадковай сустрэчы з прадстаўніком ваенкамата, хлопчык трапіў у аэраклуб у Мінску. Потым пачалася вайна, і Мікалай разам са сваімі сябрамі па вучобе пачаў прасіцца на фронт. Тады хлопцу было ўсяго сямнаццаць. Затым была дарога ў Акцюбінск, горад у Казахстане. Тут знаходзілася школа, дзе рыхтавалі лётчыкаў для грамадзянкай авіяцыі. Вучоба. Фронт. Спачатку запасны авіяцыйны полк, што знаходзіўся пад Масквой. Потым 996-ы штурмавы авіяполк, які стаяў у Падмаскоўі. Баявых заданняў было нямала. Кожнае з іх Мікалай Зайцаў выконваў самааддана, рызыкуючы сваім жыццём. Не аднойчы парушаў бяспечную вышыню, каб наблізіцца як мага бліжэй да ворага і разграміць яго. У нарысе пра Мікалая Зайцава ёсць усё: расказ пра дзяцінства, вучобу, сяброў, пасляваеннае жыццё. І канечне ж пра прысваенне звання Героя Савецкага Саюза.

«Часам у мяне пытаюцца, — гаворыць Зайцаў, — за які подзвіг мне прысвоена званне Героя Савецкага Саюза… Мабыць, многія думаюць, што Залатая Зорка абавязкова даецца за нейкі адзін, асабліва яркі подзвіг. Часам гэта і так. У некага за гэтай высокай узнагародай стаіць нейкі адзін бой, у кагосьці — удзел у баявой аперацыі, у якой ён вызначыўся болей за іншых. Я ж атрымаў званне Героя Савецкага Саюза за вынікі ўсіх сваіх баёў. Між іншым, праз шмат гадоў пасля вайны я напаткаў такое выказванне рускага філосафа Мікалая Бярдзяева: «Гераізм ёсць бясстрашша перад ісцінай і смерцю».

Героі кнігі «Вечны агонь Перамогі» не толькі лётчыкі, ёсць сярод іх артылерыст, пехацінец, мінёр, разведчык.

Артылерыст Анатоль Фёдаравіч Дзюбко, герой нарыса Віктара Гардзея, падчас вайны камандаваў батарэяй ЛАП. ЛАП — грознае падраздзяленне лёгкай палявой артылерыі, якая амаль не ведае тылу. «Лёгкая артылерыя заўсёды з пяхотай, без яе падтрымкі пяхота не можа ваяваць. ЛАП заўсёды на перадавой. Лоб у лоб з ворагам, навідавоку для варожых прыцэлаў».

Пра пехацінца Івана Ільіча Кустава ў нарысе «Вайны Айчыннай пехацінец» расказвае Мікола Мятліцкі. Па словах яго героя, задача перад пехацінцам стаіць нялёгкая. «У артылерыстаў цяжар гармат, але ў атаку не ходзяць. Падняцца ў атаку — вылезці з траншэі і ўстаць у поўны рост — гэта няпроста, калі табе вядома, што рушыш на агонь кулямёта, вінтоўкі або мінамёта».

Іван Сцяпанавіч Міранкоў — герой твора Пятра Сабіны «Вясной увенчаны» быў разведчыкам. Гэта патрабавала спрыту, кемлівасці і загартоўкі на вынослівасць, валодання майстэрствам маскіроўкі.

Розныя «спецыялізацыі», розныя лёсы… Аднак ёсць і тое, што яднае іх. Усе яны — мужныя, самаахвярныя людзі, героі. Увогуле, кніга прадстаўляе нам, чытачам, жыхарам XXI стагоддзя, часу звышмоцных кінагерояў, вобраз сапраўднага рэальнага героя на ўсе часы. Не заўсёды моцнага фізічна, але звышмоцнага духоўна. І гэтая духоўная моц і прыгажосць больш дзейсная, чым фізічная сіла.

Менавіта такой сілай, на думку В. Гардзея валодае Дзюбко. «Ён зусім не падобны на герояў папулярных ваенных раманаў, якім усё даецца проста і лёгка, зноў жа, яго подзвіг не стасуецца з авантурнымі ўчынкамі супергерояў модных цяпер кінабаевікоў. На фронце Анатоль Фёдаравіч Дзюбко з дня ў дзень, амаль без перадышкі рабіў сваю цяжкую салдацкую справу — граміў, гнаў у дзікае логава недабітага фашысцкага звера, які, чуючы хуткую пагібель, агрызаўся люта і адчайна».

Цікавая форма пабудовы нарыса. Аповед перарываецца вытрымкамі з газетнай старонкі, узнагароднага ліста, аўтабіяграфіі Дзюбко, з яго камсамольскай характарыстыкі. Праз усе гэтыя дакументы лепш раскрываецца асоба героя. Чалавека самаадданага, патрыятычнага, смелага і шчырага. Дарэчы, Анатоль Фёдаравіч — «чалавек-леген-

да». Ён стаў Героем Савецкага Саюза ў 21 год.

Дзякуючы нарысу В. Гардзея, мы даведваемся не толькі пра лёс і подзвігі героя-артылерыста, але і пра больш мінулае. Напрыклад, у перадваенны час многія дакументы, тыя ж характарыстыкі на вучняў, пісаліся ад рукі. І ім верылі. Ніхто нічога не ўдакладняў і не перапраўляў. Людзі верылі ў шчырасць і непадкупнасць. І гэтая вера была лепшым гарантам, чым іншая сённяшняя пячатка.

У кнізе сабраны нарысы на дзвюх мовах: рускай і беларускай. І гэтае адзінства дзвюх нашых роднасных моў, дзвюх дзяржаўных моў пад адной вокладкай нагадвае пра нашу нацыянальную рысу — талерантнасць. Пра той савецкі час, калі кожная з краін мела сваё нацыянальнае, але над гэтым стаяла пэўная звышідэя, што аб’яднала розныя народы і нацыі ў Саюз.

Дарэчы, на рускай мове напісаны твор Навума Гальпяровіча «Минер из Полоцка», прысвечаны Сцяпану Афанасьевічу Пашкевічу. Калі аўтары вышэйназваных нарысаў асабіста пазнаёміліся са сваімі героямі непасрэдна перад напісаннем твораў, то Навум Гальпяровіч ведаў свайго героя здаўна. Пісьменнік і яго герой — палачане. Іх лёсы перакрыжаваў любімы, знаёмы з дзяцінства горад. Яны разам працавалі на заводе шкловалакна. Калі Н. Гальпяровіч стаў журналістам, іх сустрэчы пераняслiся ў рэдакцыю газеты «Сцяг камунізму». Малады журналіст не раз браў інтэрв’ю ў Героя Савецкага Саюза.

Сцяпан Афанасьевіч сапраўдны герой, акрамя звання Героя Савецкага Саюза, ён узнагароджаны медалём «За боевые заслуги». Гэта было яго першым заданнем: на Днястры Сцяпан мініраваў і ўзарваў мост. У баях за Сталінград Пашкевіч быў узнагароджаны медалём «За отвагу». Аднак у нарысе «Минер из Полоцка» ён паказаны не толькі як герой вайны, але і як сапраўдны герой мірнага часу. Ганаровы грамадзянін горада, выдатны працаўнік, проста шчыры і ветлівы чалавек. Гатовы заўсёды прыйсці на дапамогу.

На жаль, час раз’ядноўвае людзей. Сёння Навум Гальпяровіч жыве і працуе ў Мінску, Сцяпан Афанасьвіч Пашкевіч застаўся ў Полацку. Са сваім героем перад напісаннем нарыса пісьменнік гутарыў па тэлефоне.

Н. Гальпяровіч прызнаецца, што гэтыя рэдкія размовы з ветэранам, даюць яму шмат пазітыўных эмоцый, прымушаюць па-новаму зірнуць на жыццё.

«После нашего телефонного разговора со Степаном Афанасьевичем прошло совсем мало времени. И вроде бы нет острой необходимости звонить еще, да и близкими настолько мы никогда не были, но время от времени тянет почему-то набрать его полоцкий номер телефона и услышать знакомый голос, голос целой эпохи, трудной и героической, и поэтому такой дорогой».

Вось і мне часам хочацца набраць знаёмы нумар, каб зноў пагутарыць з Клаўдзіяй Васільеўнай. Пачуць аслабленыя хваробамі голас, якім прамаўляе яна мудрыя, надзвычай праўдзівыя і — вось парадокс — аптымістычныя словы.

Напрыканцы свайго нарыса В. Гардзей узгадвае адну сустрэчу з Героямі Савецкага Саюза. На ёй яны разам з курсантамі ваеннага факультэта БДУ і сталічнымі школьнікамі на комплексе «Лінія Сталіна» ў Садзе Герояў пасадзілі яблынькі і грушы, пры гэтым заўважылі, што поўныя рашучасці дачакацца першых пладоў. Няхай жа яно так і будзе. Хочацца верыць, што хаця б некаторыя з герояў кнігі «Вечны агонь Перамогі» дачакаліся сёлетняй круглай даты. І ўзгадваючы пачатак вайны, яны ўзгадваюць і сваю бліскучую перамогу. Тое, пра што дакладна сказаў у вершы «Перамога» М. Мятліцкі:

Свет з руін-пажарышчаў уздымецца,
Выблісне прамень жывой вясны.
І тваім ахвярна-светлым іменем
Назавуць апошні дзень вайны.

Мікола БЕРЛЕЖ

# ПРАЦЯГ ВІЦЕБСКАЙ КРАЯЗНАЎЧАЙ БІЯБІБЛІЯГРАФІІ

**Мікалай ПІВАВАР. Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX — пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік.** — *Мн.: Кнігазбор, 2010.*

У 2006 годзе пабачыў свет даведнік «Даследчыкі Полацка-Віцебскай даўніны XVI ст. — 1944 г.». Кандыдат гістарычных навук Мікалай Півавар з Віцебска сабраў інфармацыю пра жыццё і дзейнасць 360 асоб, якія займаліся вывучэннем Віцебшчыны ў XVI — першай палове XX стагоддзя. Калі гаварыць пра агульныя падыходы, то аўтарская праца М. Півавара нагадвае біябібліяграфічны даведнік «Беларускія пісьменнікі» ў 6-ці тамах, над якім у свой час працаваў вялікі калектыў на чале з доктарам філалагічных навук А. Мальдзісам у складзе Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. А рыхтаваўся шматтомнік да друку ў «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі». Апошняя акалічнасць таксама з ліку істотных, бо працы падобнага кшталту патрабуюць надзвычай уважлівага, грунтоўнага рэдагавання.

Але ж знаходзяцца і адважныя першапраходцы, якія гатовы засвойваць, здаецца, бязмежны па абсягах матэрыял у адзіночку. Такі характар, відавочна, мае М. Півавар. Следам за згаданым даведнікам ён падрыхтаваў і выдаў працяг — «Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX — пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік». У адрозненне ад работы з персаналіямі і бібліяграфіяй, звязанай з пісьменнікамі, укладальнік ці аўтар краязнаўчага даведніка знаходзіцца ў болей складанай сітуацыі. Біяграфіі літаратараў падаюцца ў даведніках, у прадмовах ці пасляслоўях аўтарскіх кніг, а таксама, як правіла, у часопісных публікацыях. Пра паэтаў, празаікаў, драматургаў часцей пішуць у друку. Акрамя таго, выбудоўваючы бібліяграфію, М. Півавар звярнуўся і да раённага друку. У «Беларускіх пісьменніках» укладальнікі, аўтары артыкулаў у рэдкіх выпадках прыводзілі спасылкі на раённыя ці шматтыражныя газеты.

Вось што сказана ў прадмове: «Былі вывучаны асобныя фонды Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці, ведамасных архіваў розных дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый. Карпатліва аналізавалася літаратура, асабліва мясцовыя перыядычныя выданні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Віцебскай абласной бібліятэцы і раённых кнігасховішчах рэгіёна, праведзены сотні інтэрв'ю, анкетаванняў. У выніку праведзенай працы былі сабраны матэрыялы пра краязнаўцаў-аматараў, музейных работнікаў, архівістаў, бібліятэкараў, журналістаў, настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ, навукоўцаў і супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў, арганізацый, якія даследуюць гісторыю і культуру Віцебскай вобласці ў сучасных адміністрацыйных межах. Асноўнымі крытэрыямі ў адборы персаналій у даведнік з'яўляліся: публікацыйная дзейнасць (выданне кніг, публікацыя артыкулаў у навуковым і перыядычным друку, інтэрнэт-выданнях), грамадска-асветніцкая праца (удзел у мерапрыемствах, навуковых праграмах, канферэнцыях, семінарах, у мас-медыя: выступленні па радыё, тэлебачанні, інтэрв'ю ў газетах

і часопісах); удзел у стварэнні музеяў і экспазіцый, дабрачынная дзейнасць (па добраўпарадкаванні помнікаў і памятных мясцін, мецэнацтва).

Разам з жыццяпісамі мясцовых краязнаўцаў, як правіла, аматараў, асветлены рэгіянальны аспект у даследаваннях сталічных і рэгіянальных навукоўцаў. Змешчаныя біяграмы даследчыкаў уключаюць у сябе інфармацыю пра месца нараджэння, звесткі пра адукацыю, працоўную дзейнасць, удзел у грамадскім жыцці, краязнаўчыя зацікаўленні даследчыкаў, іх галоўныя дасягненні. У дужках курсівам прыводзяцца псеўданімы краязнацаў, пры магчымасці ў жанчын падаюцца дзявочыя прозвішчы. Прыводзіцца бібліяграфія краязнаўцаў па катэгорыях: кнігі, артыкулы ў навуковым, рэспубліканскім і мясцовым перыядычным друку, гісторыка-дакументальных хроніках гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць». У межах раздзелаў назвы твораў і артыкулаў змяшчаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Назвы большасці перыядычных выданняў скарочаны. Іх тлумачэнні пададзены ў спісе скарачэнняў. Нягледзячы на пошукі, многія нумары саматужных перыядычных выданняў не выяўлены ў Беларусі. Артыкулы ў зборніках навуковых канферэнцый, пачынаючы з 1991 г. прааналізаваны слаба, з прычыны іх маладаступнасці (малы наклад друку, ігнараванне абавязковай рассылкі ў бібліятэкі краіны). У асобныя раздзелы прыводзіцца літаратура, прысвечаная даследчыку. У якасці ілюстрацый падаюцца фотаздымкі даследчыкаў, іх прац (больш за 400 здымкаў).

Геаграфічныя межы ў працы — Віцебская вобласць у яе сучасных адміністрацыйных межах. Сабраны звесткі таксама пра асоб, якія пражываюць у іншых рэгіёнах Беларусі і Еўропы, аднак вывучаюць Віцебшчыну. Храналагічныя рамкі — другая палова XX — пач. XXI стагоддзя (па 2009 г. уключна). У пэўных выпадках уключаюцца найбольш важныя выданні пазнейшага часу.

У кнізе змешчаны артыкулы пра 570 персаналій…»

Работа ў мастацкай літаратуры самым цесным чынам звязана з даследаваннем гісторыі роднага краю. І ў многіх выпадках краязнаўчы матэрыял становіцца асновай мастацкіх твораў. Прыкладаў у пацвярджэнне гэтай высновы даволі шмат. Хто ж з пісьменнікаў залічаны М. Піваварам у «Краязнаўцы Віцебшчыны…»? Алесь Аркуш, Уладзімір Арлоў, Марыя Баравік, Эдвард Вайвадзіш, Анатоль Канапелька, Уладзімір Караткевіч, Эдуард Карніловіч, Алесь Касцень, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Міхно, Аркадзь Нафрановіч, Фёдар Палачанін, Сяргей Панізнік, Янка Пачопка, Ігар Пракаповіч, Алег Салтук, Давід Сімановіч, Юрый Татарынаў. Іх біяграфіі аўтар выклаў у звязку з іх стасункамі з Віцебшчынай, вывучэннем віцебскай гісторыі. Як прыклад такой абранасці, такога вылучэння — артыкул пра У. Караткевіча. Як вядома, класік айчыннай літаратуры нарадзіўся ў Оршы. М. Півавар звяртае ўвагу на наступныя акалічнасці: «З’яўляўся вядучым праграмы «Спадчына», якая ішла на Беларускім тэлебачанні і асвятляла мінулае краіны: яе гісторыю, кнігі, адзенне, помнікі даўніны. Асобная перадача была прысвечана Полацку і Полаччыне. У рэспубліканскім перыядычным друку ўзнімаў праблемы аховы помнікаў даўніны, нацыянальнай спадчыны. Дбаў аб стварэнні ў БССР музея народнай архітэктуры і быту. У складзе экспедыцыі сектара «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ІМЭФ АН БССР даследаваў Бешанковіцкі, Чашніцкі, Лепельскі раёны Віцебскай вобл. (22—31. 17, 1971), Бярэзінскі запаведнік (8. 1971), Сенненскі раён (1975). Аўтар артыкула ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры» пра в. Старая Беліца Сенненскага раёна. Удзельнік з’езда БДТАПГІК». У бібліяграфіі — згаданы артыкул пра вёску Старая Беліца. А яшчэ — пра адну публікацыю пра У. Караткевіча ў «Віцебскім рабочым» і летапіс жыцця і творчасці пісьменніка з «Аршанскай газеты». Пэўна, усё ж такі ў дадзеным выпадку лаканічнасць дарэмная. Па-першае, можна было б узгадаць факты ўшанавання памяці У. Караткевіча — на Віцебшчыне, у Оршы. Па-другое, варта назваць краязнаўцаў і публікацыі, якія маюць дачыненне да

караткевічазнаўства. Яшчэ адзін важны момант. У. Караткевіч — аўтар шэрагу паэтычных твораў, прысвечаных Віцебшчыне, Оршы. А нарысы, артыкулы пра Ф. Скарыну, п'еса «Званы Віцебска», старонкі пра Віцебшчыну ў нарысе «Зямля пад белымі крыламі…»

Шкада, што не знайшлося ў даведніку месца празаіку, а цяпер ужо і архівісту Сяргею Рублеўскаму, які доўгі час рэдагаваў газету «Народнае слова». Калі гаварыць пра пісьменнікаў з іншых рэгіёнаў Беларусі, але тых, хто даследаваў віцебскую тэму, то, відавочна, варта было ўвесці ў даведнік члена Саюза пісьменнікаў Беларусі кандыдата гістарычных навук Анатоля Мяснікова, доктара філалагічных навук Генадзя Кісялёва, вядомага культуролага Адама Мальдзіса, драматурга, публіцыста Алеся Петрашкевіча, празаіка і журналіста Германа Кірылава, паэта, публіцыста Навума Гальпяровіча. Як мне падаецца, не лішнім звярнуць увагу на гісторыка-публіцыстычныя, гісторыка-краязнаўчыя публікацыі журналістаў рэспубліканскіх выданняў — Сяргея Галесніка («Беларусь сегодня»), Аляксандра Пукшанскага («Звязда») і інш.

Зважаючы на тое, што даведнік «Краязнаўцы Віцебшчыны» зроблены адным аўтарам, можна спакойна паставіцца да шэрагу недапрацовак. А калі і звяртаеш на іх увагу, то толькі з разлікам, што ў наступным яны будуць выпраўлены, артыкулы вывераны з большай дакладнасцю. Вось, напрыклад, асобная персаналія — пра бібліятэкара Вольгу Рыбакову. Працуе ў в. Курына Віцебскага раёна, стварыла ў бібліятэцы залу этнаграфіі. І ўся інфармацыя. Няма нават года і месца нараджэння. Прыблізна тое ж і ў выпадку з бібліятэкарам Верай Макеенак, настаўніцай з Ушацкага раёна Анастасіяй Мамяка, краязнаўцам Іванам Адамавічам Мандрыкам. Ёсць два радкі пра Алену Масла як пра «аўтара артыкулаў у навуковым і перыядычным друку, прысвечаных гісторыі, культуры і прыродзе Міёршчыны. Жыве ў Мінску». І таксама — ні часу і месца нараджэння, ні біяграфіі. А між тым яна — вядомы дзіцячы пісьменнік, аўтар многіх кніг. Калі сёння не ўлічыць усе гэтыя звесткі, то колькі ж іх «згубіцца» у будучым. А даведнікі, энцыклапедыі — з тых выданняў, якія разлічаны на дзесяцігоддзі, стагоддзі.

І ўсё ж гэтыя і магчымыя іншыя заўвагі — нішто ў параўнанні з маштабамі зробленага М. Піваварам. З даведніка «Краязнаўцы Віцебшчыны» многія яркія асобы ў гісторыі рэгіёна, Беларусі паўстаюць дастаткова рэльефна, уражліва. Дзякуючы М. Піваварам шмат хто з краязнаўцаў упершыню адзначаны ва ўсіх праявах ім зробленага. Многія артыкулы, прысвечаныя персаналіям, — своеасаблівыя грунтоўныя, навукова вывераныя нарысы жыцця і дзейнасці краязнаўцаў. Як у выпадку з Васілём Бандарэвічам (даследчык гісторыі Сянно, аўтар курса «Сяннознаўства» і кнігі «Экскурсія да вытокаў г. Сянно»), Вітольдам Ермалёнкам (асноўны фонд створанага ім краязнаўчага музея ў СШ № 1 г. Міёры складае 15 тысяч адзінак!), Анатолем Крачкоўскім (аўтарам многіх кніг пра Бешанковічы і Бешанковіцкі край) і інш.

Несумненна, кніга М. Півавара з'яўляецца своеасаблівым узорам па стварэнні даведніка падобнага характару ў маштабах усяе Беларусі. Напрыканцы кнігі М. Півавар змясціў выдатнае пасляслоўе з лаканічнай назвай — «Радзімазнаўства». Вось што, у прыватнасці, зазначае аўтар, адказваючы на пытанне, якія рысы найболей уласцівы сапраўднаму краязнаўцу: «… — комплексны характар ведаў (вялікі дыяпазон тэм даследаванняў, шырокае кола ведаў пра край, іх энцыклапедычнасць, універсальнасць); — рэгулярнасць і пастаяннасць даследаванняў — значныя вынікі працы (выданне кніг, артыкулаў у перыядычным друку, адкрыццё музеяў і падрыхтоўка выстаў, значная грамадская, педагагічная праца, спонсарская дзейнасць, удзел у добраўпарадкаванні помнікаў і памятных мясцін) — любоў да краю. Края*знаўца* заўжды края*люб*».

Што ж, будзем спадзявацца на хуткую сустрэчу з новымі даведнікамі, прысвечанымі краязнаўцам рэгіёнаў усяе Беларусі.

Ідзе падпіска
на II паўгоддзе 2011 года:

індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)

на 1 месяц — 6710 руб.
на 3 месяцы — 20 130 руб.

індывідуальная (індэкс — 74985)

на 1 месяц — 10 350 руб.
на 3 месяцы — 31 050 руб.

ведамасная (індэкс — 749852)

на 1 месяц — 17 032 руб.
на 3 месяцы — 51 096 руб.

ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)

на 1 месяц — 13 812 руб.
на 3 месяцы — 41 436 руб.

e-mail: polymya@bk.ru

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар М. М. Гілевіч
Камп'ютарная вёрстка С. І. Стараверавай

Падпісана ў друк 07.09.11 г. Фармат 70  108$^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,85. Тыраж 2852 экз. Заказ 2423.
Кошт нумара ў розніцу 11 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.